С (Эст) 2
М 54

Пераклаў на беларускую
ВАЛЯНЦІН РАБКЕВІЧ

Пераклад зроблены з выдання:
Метсар Л. Мечты не умирают.— Таллин:
«Ээсти раамат», 1982.

М $\frac{4702700200-002}{М 302(05)-83}$ 153—82

## 31 снежня 195...

Сёння дзень падвядзення вынікаў. І ў нас тут, у бальніцы, у гэтым белым доме, дзе я знаходжуся болей за тры месяцы, таксама. Часу даволі, каб прывыкнуць. І я прывык.

Усе гэтыя агляды, выслухоўванні, прасвечванні, аналізы майго цела ўядаюцца, заражаюць. Усё часцей адольваюць думкі, у якіх вельмі мала агульнага з маёй інжынернай прафесіяй і якія дагэтуль і ў галаву не прыходзілі.

У мяне папраўдзе было даволі часу, каб прыгледзецца да самога сябе, каб сабрацца з думкамі. Гэта, напэўна, і дало магчымасць убачыць усё зусім у іншым святле... Наўрад ці даверыў бы я паперы свае думкі, калі б не быў перакананы, што нічыё чужое вока да іх не дакранецца.

Гэта павінна ўратаваць мяне ад памылкі, вельмі ўласцівай чалавечай натуры: іменна ў штодзённым жыцці мы хлусім сабе куды болей, чым другім. Гэта павінна памагчы мне пранікнуць у сутнасць, убачыць усё гэтак, як яно было.

Магчыма, кожнаму з нас варта сяды-тады выбірацца з жыццёвага віру на бераг і прыглядацца да яго вачыма пабочнага чалавека? Зусім як на шахматным турніры, калі, як кончыцца кантрольны час, партыю перапыняюць, адзін з партнёраў запісвае ход і праціўнікі расходзяцца па адным аналізаваць пазіцыю. Са мною цяпер адбываецца нешта падобнае. Партыя перапынена. Жыццё запісала свой ход. Праз некалькі месяцаў я павінен буду прадоўжыць гульню, у якой нельга ўзяць назад ніводнага ходу. Дык жа выкарыстаем перапынак найболей разумна.

## I

Дарога прывяла ў нізіну, у забалочаны лес, і зусім утапілася ў гразі. Скрозь яшчэ ляжаў снег. Але паветра было насычана вясною. Здавалася, яе можна адчуць усім целам. Усё навокал дыхала радаснай надзеяй. Нават жаўтавата-шэраму балотнаму пейзажу дадавала вясна нейкае асаблівае ззянне. Вось тут ён і пачынаўся, гэты балотны абшар Рыйтна-Аоверэ...

Пад гумовымі ботамі чаўкала гразь, пырскала на макінтош. Але я амаль не заўважаў гэтага, як не адчуваў і цяжару мяшка, ад якога ўгіналіся плечы. Я ўжо не помніў, як трэсся ў начным цягніку, як пяшком ішоў сем кіламетраў, і з прагнаю цікаўнасцю ўзіраўся ў раскінуты наперадзе краявід. Тады вось і ўбачыў сярод паплавоў ручай, звілісты ручай Рыйтна!

Траха не бягом падняўся на мосцік. Шмат разоў у марах стаяў я на гэтым мосціку. Калі рыхтаваўся да экзаменаў, калі рабіў чарцяжы, калі мучыўся з дыпломнаю работаю... Перакананы, што падсвядома я нацэльваўся на барацьбу іменна з гэтым балотам. І ніхто не змог бы папракнуць мяне за той святочны, узнёслы настрой, што, як мне здавалася, ахопіць мяне тут.

Я ведаю гэтае балота, па крайняй меры павінен ведаць. На тым баку яго, непадалёку ад Аоверэ, яшчэ, магчыма, стаіць хата майго дзяцінства. Адсюль яна, ведама, не відаць, але...

Аднак ніякага асаблівага душэўнага пад'ёму я не адчуў. І балота здавалася тут такім жа чужым, як і тыя, дзе я праходзіў летнюю практыку, як быў студэнтам, і дзе пазней працаваў інжынерам. Трывожнае чаканне сустрэчы прагналі стома і расчараванне. Так што зноў я адчуў, як ціsне на плечы рукзак, як гудуць ногі і як б'ецца сэрца.

Усё тут чужое. Задужа многа часу прайшло, задужа тоўсты пласт новых уражанняў, думак, ведаў лёг на ўспаміны дзяцінства... Але што з гэтага! Можа, сам я стаў чужы? Дадзена заданне, балоту аб'яўлена вайна. І я, інжынер «Меліяпраекта» Андрэс Ояры, павінен кіраваць гэтаю бітваю.

Я шчытна нацягнуў шапку на галаву і пашыбаваў да цэнтра калгаса «Койт», да якога яшчэ заставалася два кіламетры.

Мне пашанцавала — старшыню застаў у канторы.

— Ну, чаму ж начлегу не знайсці...— сустрэў ён.—

Пакой для заезджых не заняты. А калі брыгада прыедзе, дамо вам большы пакой тут побач з канцылярыяй. Адтуль дзверы на кухню, зможаце яду гатаваць і ўсё астатняе...

Рахункавод правяла мяне па рыплівай лесвіцы ў пакой для заезджых. Тут не толькі сцены, але і канапа, стол, крэслы, нават печка дыхалі холадам. Ды ўсё ж трываць можна было. Па крайняй меры праз нейкі час, патрачаны на знішчэнне бутэрбродаў, мяне размарыла.

Але пра тое, каб папраўдзе паспаць, не магло быць і гаворкі. У дваццаць шэсць гадоў ты яшчэ малады. Цела падуладнае волі. Малады? А хіба цяпер, у свае дваццаць восем, я стары? Як біялагічны індывід, зразумела,— не. Але сутнасць маладосці і старасці, гэтых спрадвечных паняццяў, не так у гадах, як у колькасці перажыванняў, інтэнсіўнасці пражытага часу. Толькі навучыўшыся забывацца, зможаш у пяцьдзесят быць маладым, а ў дваццаць восем...

Воля, дапытлівасць і прага славы паднялі мяне на ногі. Толькі спускаючыся па лесвіцы, я ўспомніў пра камандзіровачнае пасведчанне. Ну, старшыня, безумоўна, ужо пайшоў і забраў з сабою пячаць. Я аддаў пасведчанне рахункаводу і заспяшаўся на рэкагнасцыроўку балотнага абшару.

Крапіў дождж. Вецер налятаў рэзкімі злоснымі парывамі, і тады кроплі дажджу барабанілі па макінтошы, секлі мне ў твар. У такую, як сёння, слоту было б разумней пачаць з ручая Аоверэ, але я ведаў, што ўздоўж рэчышча Рыйтна я хутчэй выйду да рэчкі Мудаку, да калектара водаў, які ляжыць у аснове ўсёй маёй будучай работы. І я пайшоў проці ветру.

Калі я зноў стаяў на мосце цераз Рыйтна і разглядаў, захінуўшы крысом плашча, карту балотнага абшару, дык ад чакапага ўзнёслага настрою і моцнага душэўнага ўздыму не асталося і следу. Было толькі ўсведамленне, што гэта мая першая вялікая самастойная справа і што я абавязаны выканаць яе добра. Работа наперадзе мяне не пужала. Употайкі я ўвесь час марыў пра такі вялікі аб'ект разведкі, якому трэба было аддаць усяго сябе. У гэтым, напэўна, і тоіцца незвычайнае прыцягненне цяжкіх заданняў, што яны дазваляюць пазнаць самога сябе. І калі я, вывучаючы карту, уявіў, што ў маіх руках асушэнне тысяч гектараў, калі адчуў цяжар адказнасці, што легла на мяне, адказнасці, якая прымушае выкладвацца ў барацьбе да канца

і нараджае п'янлівае жаданне перамагчы,— вось тады мяне ахапіў сапраўды неадольны, узнёслы настрой. Гэта было імгненне, калі адчуваеш сябе ўсемагутным, калі прагнеш найцяжэйшых заданняў, таму што ў гэты момант яны табе па сіле. Магчыма, нават геніяльнасць не што іншае, як толькі ўменне расцягнуць такія імгненні на гадзіны і ў гэтыя гадзіны здзяйсняць справы, якія ашаламляюць свет.

Імгненне ў мяне так і асталося імгненнем. Усё зноў стала на сваё месца, зрабілася канкрэтным, адчувальным. Я збег з мастка і пайшоў берагам Рыйтна.

Ручай рабіў тут вялікую пятлю. Вады ў рэчышчы было амаль да самых берагоў. У паводку напэўна затапляе ўвесь луг. Аднак берагі даволі трывалыя і спад вады добры. Зрэзаць гэты выгін, пусціць ручай напрасткі...

Далей, у пералеску, грунт пачаў павышацца, сталі відны бурыя тарфяныя берагі. Думкі прыходзілі і зноў прападалі. Гэтую палосу хмызняку расчысціць... Тут паставіць рэперны слуп... Тарфяны бераг тут ручай неўзабаве падмые...

Увогуле няблага. Бераг даволі высокі і адносна сухі. Але чым бліжэй да ракі, тым павальнейшае цячэнне, тым ніжэйшыя берагі. А ў рэчку Мудаку ручай уцягваўся шырокаю мутнаю стужкаю.

Вось у гэтым уся загвоздка. Рэчка Мудаку! А ці можна ўвогуле назваць яе рэчкаю? Спачатку трэба яшчэ выявіць — у які бок яна цячэ. Берагі завалены сушняком, у рэчцы карчы, ламачча...

Выдатны настрой, што астаўся пасля рэкагнасцыроўкі ручая Рыйтна, імгненна выветрыўся. Я доўга стаяў і не зводзіў вачэй з рэчкі. Ногі танулі ў моху, ледзяная вада паднялася да костачак. Холад штурхаў наперад. З цяжкаю ад думак галавою пайшоў я супраць цячэння да ручая Аоверэ.

Толькі ад Аоверэ пачыналася сапраўднае балота. Рэчышча ручая дужа зарасло, дно было мулаватае. Мясцінамі, здавалася, вада ўвогуле не краталася. Даводзілася ўжо да костачак пялёхацца ў жыжы, пераскокваць з купіны на купіну. Сям-там забалочаны грунт па берагах ручая так небяспечна і моцна пачынаў хадзіць хадуном, што я лічыў за лепшае абходзіць гэтыя мясціны бокам.

Невялікія выпростванні болей не цікавілі мяне. Тут не варта было важдацца з расчысткаю, разумней пус-

ціць увесь ручай па новым рэчышчы. Абставіны цяпер былі мне ясныя, і мае думкі не гэтак сутаргава чапляліся за работу, што чакала наперадзе.

Толькі цяпер я пачаў разумець, які ўтрапёны летуценнік быў мой бацька. Пасадзіць сад побач з гэтым самым Аоверэ, на краі балота, дзе грунтовыя воды так блізка! Выношваць мару пра воднае таварыства, нават ажыццявіць яе! Праўда, на тым усё і кончылася. Гаспадароў асушэнне балотаў цікавіла мала, іх землі былі на вышэйшых мясцінах. А сем'ям бабылёў яно было не пад сілу...

Так зразумела і проста! Гэта ж кірмашовая карусель, адно з самых вялікіх расчараванняў майго дзяцінства. Дзіўна, што іменна ўспамін пра яе так ярка адбіўся ў маёй памяці. Варта заплюшчыць вочы, і ты зноў пяцігадовы Анду, які моцна трымаецца за бацькаву руку і не можа нагледзецца на размаляваныя сані, на карычневых і жоўтых драўляных конікаў, на белых з чырвонымі дзюбамі лебедзяў, што ўсё кружацца і кружацца, зліваючыся ў адно суцэльнае вісклівае маляўнічае кола. Праўда, калі я ўжо сядзеў у санях, сутаргава ўчапіўшыся ў поручні, дык яны здаліся не такімі ўжо і прыгожымі. Зверху сані былі абшарпаныя, як наша шафа ў тым месцы, дзе я некалі драпаў яе цвіком... Але вось сані здрыгануліся, карусель закружылася, і мой спалоханы выкрык затух на ветры, што дзьмуў проста ў рот, забіваючы дыханне. Сэрца стукала, па целе прабягаў дзіўны халадок, як вястун нечага, што вось-вось павінна было адбыцца. Але нічога не здарылася. Язда на каруселі стала мне падабацца, я перастаў трымацца, знайшоў вачыма бацьку, і ў гэты самы момант карусель спынілася. Я не вылазіў з санак, я чакаў, што цуд-машына зноў закружыцца, пакуль бацька не падышоў і не зняў мяне на зямлю, нягледзячы на ўсе мае пратэсты.

— Яна зараз зноў будзе кружыцца,— цвярдзіў я бацьку. Але бацька нічога не сказаў, толькі вочы яго ўсміхаліся. І тут я раптам убачыў, што ў шчыліну між стракатых палотнішчаў, якія адгароджвалі цэнтр каруселі, глядзіць на нас потны твар і смяецца. Гэта ж падзёншчык Яан, які ў малацьбу хадзіў з хутара на хутар. Ён кіўнуў нам, і сэрца маё застукала моцна, мацней, чым нават на пачатку катання, а яшчэ мацней забілася яно тады, калі мы ступілі за заслону таямнічых палотнішчаў. Якое ж дзіва чакае нас там, калі знадвор-

ку ўсё гэтак хораша! І якое ж было расчараванне, калі ўбачыў прымітыўнае прыстасаванне, што рухала карусель...

Ці не быў і тадышні план асушэння балота такою самаю каруселлю?.. Да нас прыходзілі людзі. Яны сядзелі ў заднім пакоі і гаманілі з бацькам. Пра што яны гаварылі, я не разумеў, але бачыў, што бацьку слухалі ўважліва, і ім ганарыўся. Паволі я падсоўваўся бліжэй і бліжэй да бацькі, пакуль не апынаўся каля яго крэсла... А той каморнік са сваімі чырвона-белымі планкамі і бліпчастым біноклем... А каляровы план на шаматлівай паперы, які хавалі на шафе і чапаць які і брату і мне строга-настрага забаранілі...

Усё гэта было каруселлю, мёртваю каруселлю. Яна так і не закружылася, бо ёй не хапала прымітыўнага прыстасавання — грошай.

У той вечар у нядзелю бацька быў не ў гуморы. Ён быў адзеты ў новае, як заўсёды, калі хадзіў раіцца пра асушэнне балота. Аднак у той вечар адзежа не маладзіла яго, як звычайна, а рабіла нейкім строгім і чужым. Я ціснуўся да сцяны і сіліўся разабрацца, пра што гавораць мама і тата, але разумеў толькі, што нешта нядобра.

Раптам бацька нібыта забыўся пра гэтую гаворку. Ён зірнуў на мяне і зноў стаў такі, якога я не баяўся. Ён выставіў рукі.

— Мы гэтага так не пакінем,— сказаў ён мне.— Мы возьмем рыдлёўкі, выкапаем канаву і пастараемся зрабіць усё, каб зацвіў наш сад. Пакажам, што дае асушэнне балотаў. Паглядзім, ці махнуць яны тады рукою. Адны грошы нічога не вырашаюць. Працаю таксама можна нечага дамагчыся.

Прыкладна такі быў сэнс таго, што сказаў бацька. Я з запалам з усім згадзіўся.

— Пакінь ты гэта,— папрасіла мама бацьку.— Хлопчык проста загарэўся, уночы спаць не будзе.

Вось тады і пайшоў бацька адзін з рыдлёўкаю на балота.

Вялікі і дужы, стаяў ён у канаве ў іржавай балотнай вадзе, а вечарамі адзежа яго пахла багуном.

— Загубіць цябе балота,— заклапочана сказала мама. А бацька прамаўчаў, ён высока, пад столь, падкідаў мяне і смяяўся:

— Гэта ў нас бушуе неўтаймоўная аярыская кроў. Мы гатовыя спальваць сябе датла.

Калі ён паставіў мяне на падлогу, я пачаў патрабаваць:

— Яшчэ, тата! Яшчэ!

Але тут умяшалася мама, і ўсё было адкладзена на другі раз.

— Не бойся, Ганна! — сказаў тады бацька і сеў вячэраць.

Мне так хацелася быць падобным на яго! Па крайняй меры за сталом я садзіўся есці побач з бацькам — гэта была мая прывілея. Позняю восенню канава дайшла ад двара да ручая Аоверэ, і па ёй пацякла мутная балотная вада... Вясною ў нашым садзе ўпершыню так буйна цвілі яблыні, што сад быў як у малацэ і паветра напаўнялі духмянасць і гудзенне пчол. А бацька тады ўжо харкаў крывёю...

— Гэтыя яблыні яго і забралі! — сказала мама, калі ўсё было кончана.— Добра, што ён хоць убачыў іх першае цвіценне.

Як нейкае дзіва, запалі яе словы ў маю дзіцячую памяць, хоць сэнс іх зразумеў я намнога пазней...

Мясцовасць зноў стала павышацца. Адразу за мостам цераз Аоверэ, вышэй па цячэнні, распасціраўся глеісты кавалак, густа парослы чаротам. Далей дарогу мне перарэзалі канавы. Япы скрозь паабвальваліся, і па іх ледзь сачылася ржавая вада. Усе ў свой час капалі тыя канавы, звязваючы з імі свае мары і надзеі. Праўда, ручай тады быў не такі забалочаны, як цяпер, ды ўсё ж ці не ўся тая праца была марная. Пачынаць трэба было з рэчкі!

Аднак мясцовасць пайшла нібыта болей знаёмая. Гэтыя карлікавыя бярозкі там, наперадзе, за два мінулыя дзесяткі гадоў сталі як быццам яшчэ меншыя. І той стары хлеў... Цьмяна, як праз рабацінiстую ваду, уставалі перад вачыма абразкі дзяцінства. Недзе тут аднойчы позняю восенню быў я з мамаю ў ягадах. Хадзілі, збіралі цёмна-чырвоныя журавіны, пакуль я не бухнуў у канаву... Недзе тут заблудзіўся я па балоце, блукаў, хадзіў кругаля, храбрыўся, пакуль свінцовы адчай не ўзяў верху над маім маленькім мужчынскім сэрцам, і ўсё кончылася ровам і ганебным крыкам-просьбаю дапамогі... Недзе тут пад касу майму брату Юры трапіла гадзюка... Недзе тут... Некалі тут...

Я здзівіўся, што адсюль не відаць Саасерва. Да хутара ж не вельмі далёка. Нібыта нешта цямнее там, вышэй... Руіны, пажарышча!

Я разумеў, што гэта не павінна мець да мяне дачынення: пасля смерці бацькі мама прадала Саасерва, і мы перабраліся ў горад. Гэта было даўным-даўно... Яшчэ да вайны... Ды ўсё ж я прыспешыў хаду.

Яблынь ужо не было. А гэтая апоўзлая канаўка — няўжо і праўда тая самая, што выкапаў бацька? Якою глыбокаю, вялікаю яна тады здавалася! Але ж тады і ўвесь свет быў шырэйшы, большы і болей загадкавы... Святліца і тая была такая вялікая, што ў ёй мы маглі гуляць у хованкі... А на балоце — заблудзіцца?!. А па самай справе такое малое роднае пажарышча, на якім цяпер растуць вольхі таўшчынёю з руку. І нават злавеснае балота, якім мяне пужалі і якое аднойчы так узбударажыла маё ўяўленне, цяпер не што іншае, як неўрадлівая глеба, што ўтварылася на месцы вадаёма.

Я глядзеў навокал на гэты, які не мае таямнічасці, свет, і было адчуванне, быццам я абядніў сябе нечым. Узяць хоць бы ручай Аоверэ, які ў мае дзіцячыя гады пачынаўся недзе ў невядомасці, на краі свету, куды ніколі не дайсці. А цяпер карта ясна паказвала, што яшчэ два кіламетры — і ты ўпрэшся ў багну, з якой і выцякае ручай. Там пяройдзеш шырокі краж, мінеш магазін і выйдзеш да вытоку Рыйтна. Адтуль па цячэнні ўжо недалёка і да моста цераз ручай...

«Прыцягальнасць невядомасці»,— прамільгнула думка. Сапраўды, гэтая прыцягальнасць назаўсёды страчана, але мары асталіся. І ў асноўным зусім не змяніліся, толькі шырыні ў іх прыбавілася. У дзяцінстве мне хацелася стаяць у канаве, як бацька, і кідаць на бераг вялізарныя кавалкі торфу. Між іншым я і цяпер раблю тое самае, бо ў думках пракладваю каналы — іх ператвараюць у рэальнасць машыны — і асушаю балота. Бацька ўбачыў толькі цвіценне яблынь, я ўбачу сагнутыя пад цяжарам пладоў галіны...

Змяркалася, калі я выйшаў да моста цераз Рыйтна. З балота падымаўся бялёсы туман. Стомленаю хадою падаўся я да цэнтральнай сядзібы калгаса, крышку цешачыся, што адужаў за сёння самае малое трыццаць кіламетраў.

* * *

Прыкрываючы гаручую запалку далонню, я падняўся па лесвіцы. У печцы было прапалена, але ад сцен усё яшчэ цягнула прахалодаю. На стале стаяла лямпа.

Я апусціўся на крэсла, запаліў другую запалку. Счакаўшы крыху, ужо змог падкруціць кнот. Вывудзіў з рукзака бутэрброд, але ўкусіў разоў два. Ложак прыцягваў болей. Аднак і да яго дайсці цяпер ленаваўся. Так я і астаўся сядзець каля стала над картаю Рыйтна-Аоверэ. У цёмным акне адбівалася лямпа, кволенькі агеньчык на кончыку цыгарэты, мой твар...

Раптам я страпянуўся і насцярожыўся: на лесвіцы пачуліся цяжкія крокі. У дзверы пастукалі.

— Заходзьце!

У пакой увайшоў старшыня з чайнікам, які дыхаў параю.

— Добры вечар! Зайшоў паглядзець, як вы тут. Пакой яны вам хоць нагрэлі?

Я прамармытаў нешта да ладу і кіўнуў на крэсла. Але старшыня перш-наперш памацаў гарачы, як агонь, бок печкі, ацаніў паглядам і толькі потым сеў.

Я аберуч трымаў кубак. Ад яго ішло цяпло, нос казытаў пах ліпавага цвету. Я прагна адхлёбваў чай. Стомленасць прайшла, галава стала ясная.

— Раніцаю, бач, не было калі папытацца: вы за ўсё балота возьмецеся ці толькі за частку? — счакаўшы крыху, прыступіў да справы старшыня.

— За ўсё, колькі ёсць.— І я пасунуў да яго карту. Ні слова не кажучы, ён узяўся вывучаць нанесеныя на яе рознакаляровыя лініі. Лямпа кідала на сцяну яго вялікі цень, святло востра абрысавала профіль.

Гэта быў мужчына гадоў пяцідзесяці, сярэдняга росту. На шыракаскулым твары вылучаліся сівыя кусцістыя бровы. Адчувалася, як за яго парытым маршчынамі лобам непаваротліва, але затое паслядоўна варочаюцца думкі.

— Дык, значыць, усё балота? — перапытаўся старшыня, не адрываючыся ад карты.

— Усё балота,— пацвердзіў я.

Размова перакінулася на працу, што чакала наперадзе. Старшыня, відаць, ставіўся да яе скептычна, хоць не сказаў ніводнага аргумента на падмацаванне свае думкі. І гэта прымушала мяне гаварыць яшчэ болей упэўнена і пераканальна. Але развеяць яго сумненні ўсё ж не ўдалося. Ужо адыходзячы, ён сказаў:

— Ну што ж, дзейнічайце. Чаму ж карысці не быць, калі ўсё гэтак пойдзе.

Ён узяўся быў за клямку. І спыніўся.

— Бач, траха было не забыўся. Ваша камандзіро-

вачнае пасведчанне,— ён выняў яго з упутранай кішэні і падаў мне.— Раніцаю, калі вы назваліся, я адразу неяк не разабраўся. Потым гляджу: Андрэс Ояры, Пеэтараў сын... Ты часам не саасерваўскага Пеэтара сын?

«Выходзіць, нас яшчэ помняць тут,— мяне ахапіла радасць,— помняць, хоць мы ні разу пасля пераезду ў горад не былі ў Аоверэ». Ад усведамлення гэтага, ад нечаканага пераходу на «ты» стала неяк гэтак добра на душы, што я не мог не ўсміхнуцца.

— Во, цяпер пазнаю,— сказаў старшыня і схапіў маю руку.— Якраз такая самая ўсмешка была ў саасерваўскага Пеэтара... Залаты быў чалавек!

Я мала помню свайго бацьку. Спрабаваў, праўда, аднавіць яго аблічча па мацерыных расказах. Але маме цяжка было гаварыць на гэтую тэму. І нягледзячы на ўсе намаганні, бацька астаўся ў маім уяўленні далёкаю, у вялікай ступені нават таямнічаю асобаю.

Зразумела, мы зноў вярнуліся да стала. І хоць старшыня таксама гаварыў пра бацьку па сентэнцыі de mortuis nil nisi bene [1], усё ж на душы ў мяне было надзвычай цёпла. Змрочны, халодны пакой здаўся ўтульным, гамонка пацякла ў сямейным даверлівым тоне. І калі старшыня папытаўся, як мы жылі, паехаўшы з Саасерва, я яму, нібыта добраму знаёмаму, расказаў пра ўсё.

...Напачатку жылі мы ў цёткі ў прыгарадзе, пакуль не атрымалі на той самай вуліцы асобную кватэру. Мама пайшла працаваць у сад кансервавага завода Ваармана, брат Юры паступіў вучнем на механічны. Але вайна ўсё зламала, спаліла кватэру, забрала брата. Трэба было пачынаць спачатку... У той час я ўжо вучыўся ў сярэдняй школе. Потым універсітэт. Быў на трэцім курсе, калі мама зусім злегла. Яна памерла гэтак жа ціха і непрыкметна, як і жыла...

— Але, такое, відаць, жыццё чалавечае...— задумліва заўважыў старшыня.— Б'ешся, стараешся, планы строіш — пакуль не спахопішся, што ўжо стары, а жыццё ўцякло, як пясок скрозь пальцы... Тут яно таксама не лепей было б — у вайну вунь Саасерва згарэў, хоць, аднак, я не разумею, чаму Ганна ў горад падалася.

Мне гэта заўсёды было зразумела: работа лягчэйшая, дзяцей вывучыць — прычын хапала. Але пасля той начной размовы мая цвёрдая ўпэўненасць дала першую

---

[1] Пра мёртвых нічога, апрача добрага *(лац.)*.

трэшчыну. І я з жахам зразумеў, што і мацеры свае я толкам не ведаў. Дый калі мне было ўведаць яе? Мой свет складаўся з вучобы, прагі ведаў, імкнення наперад. Сапраўдны мацерын вобраз мне давялося таксама аднаўляць па памяці ўжо тады, калі мамы не стала. Усплывалі ў памяці разрозненыя дэталі, да іх далучаліся ўсё новыя і новыя, пакуль усё не ўбачылася ў іншым святле. Наўрад ці былі ў мае мамы асаблівыя ілюзіі накошт горада — яна была вельмі мудрая. Але жыць і далей у Аоверэ, штодня бачыць балота, якое забрала бацькава здароўе... Таму яна ніколі сюды не прыязджала, таму не падабалася ёй, што я вывучаю гідрамеліярацыю...

Перакананы, што ў гэтым таіліся сапраўдныя прычыны. У тую ноч я яшчэ не ведаў гэтага. Аднак гаворка неўзабаве пацякла далей, і на старшынёва пытанне, калі я кончыў універсітэт, я адказаў крыху ганарліва:

— Тры гады таму. Паспеў ужо папрацаваць інжынерам Арумяэскай МТС і нават ажаніцца.

— Дык, значыць, ты жанаты? А я думаў...— Старшыня ацэначным паглядам акінуў мой пінжак, на якім не хапала аднаго гузіка.

— Жонка яшчэ вучыцца ў мастацкім інстытуце... А паездка ў гэты край трапілася нечакана,— прамармытаў я нібыта дзеля апраўдання. І гэта была прамашка, якое мне не варта было дапускаць.

— Ну але, зразумела...— паспяшаўся згадзіцца старшыня, ды нешта ўсё ж парушылася. Размова расклеілася.

Старшыня пайшоў. А я сядзеў, паглыбіўшыся ў роздум.

Гэты старшынёў пагляд... Якая яму справа да майго пінжака! Гузік я мог і сёння на балоце згубіць! Урэшце, што важней: мастацкі інстытут ці нейкі гузік!

У галаве роіліся адказы, якія болей падыходзілі на старшынёва пытанне. А тое, што я сказаў, было памылкаю. Думкі сутаргава кружыліся вакол гузіка. Я стараўся ашукаць самога сябе, пераконваючы сябе, што ўся справа ў адным толькі гузіку, і болей нічога не хацеў бачыць. А думкі былі ўжо на хісткай глебе падазрэнняў і сумненняў, на якой яны штурхаліся ўсе апошнія месяцы.

Было гэта гадоў два назад, у такі самы час. Не, крыху раней, у лютым. Якраз тады я перайшоў з МТС у «Меліяпраект» і зноў перабраўся ў колішні свой сту-

дэнцкі пакой. Ніколі так не цягнула ў кіно, тэатры, на балі, як у тыя першыя тыдні гарадскога жыцця. Месяцы аднастайнай працы ў Арумяэ парушылі раўнавагу, і я кінуўся ў другую крайнасць. Мне проста такі хацелася бачыць вясёлых людзей, слухаць музыку, танцаваць, гаварыць... Не помню дакладна, як я апынуўся на балі ў мастацкім інстытуце, на провадах зімы. Хутчэй за ўсё Юры Кардэн раздабыў білеты. Ва ўсякім разе я быў там. Стаяў у дэкараванай пад каток танцавальнай зале, са сцен якой глядзелі саначнікі, лыжнікі і гратэскавы дзед з заблытаным у барадзе маслаком. Паміж намаляваных елачак іграў эстрадны аркестр.

Я пратанцаваў ужо не адзін танец, калі заўважыў яе. Праўдзівей кажучы, заўважыў пару найцікаўных вачэй, але гэтага, як выявілася, было даволі, каб заінтрыгаваць мяне. Я запрасіў яе на вальс. Яна згадзілася. Яна добра танцавала. Але я не мог адкараскацца ад адчування, што танцуе толькі яе цела, а душой яна недзе далёка-далёка адсюль. Як я мог мірыцца з гэтым? Я быў вясёлы і хацеў, каб і другія былі ў такім настроі. У мяне з'явілася заўзятая думка: страсу я з яе гэтую абыякавасць, у якую яна нібыта апусцілася ўся, без астачы. Але давалася мне гэта з найвялікшымі намаганнямі, так што я асмеліўся на апошняе: стаміць дзяўчыну хуткім факстротам. Тады ўжо абавязкова спусціцца з невядомых вышыняў, дзе лунаюць яе думкі. Аднак і тут мяне чакала няўдача. Залічыў яе да катэгорыі безнадзейных выпадкаў і выйшаў у буфет пакурыць.

— Ага, вунь дзе ты,— нечакана прывітаў мяне Кардэн.— Высока цаляеш... Жадаю ўдачы!

Я не зразумеў, куды ён хіліць.

— Гэта ж Элен Рыйвес, дачка прафесара Рыйвеса,— наспех растлумачыў Кардэн.— Шыкоўная дзяўчына... Але, чорт вазьмі, і землеўпарадчыкі не лыкам шытыя!

Гэтая навіна ані не суцешыла мяне. Наадварот! Настрой упаў. Чаго добрага, і астатнія вырашаць, а Элен, безумоўна, першая, што... высока цаляю!

Пачуліся гукі вальса. Я не пайшоў у залу. Закурыў яшчэ адну цыгарэту, задумаўся пра нешта сваё. І раптам Элен сама падышла, запрасіла мяне на танец.

Я здзівіўся. А найболей здзівіў мяне выгляд Элен. Яна была ўзбуджаная, карыя вочы бліскалі, твар адухоўлены. Вальс захапіў яе ўсю, гэта было, як мне здавалася, нешта незвычайнае. Ды яно і на самай справе было незвычайнае, да трагічнасці незвычайнае, як я ця-

пер ведаю. Гэты танец быў спароджаны адчаем, гэта быў выклік Ээрыку Раасалу, які таксама стаяў тут, падпіраючы вушак. Але я не зразумеў нічога... А калі б і зразумеў? Навошта мудраваць! Я прыйшоў дадому ў паліце наросхрыст, з адчуваннем невыказнага шчасця ў сэрцы.

Я ніколі асабліва высока не ставіў кахання — і яно адпомсціла. Калі б мне хто-небудзь сказаў, якія бяссільныя розум і воля перад пачуццямі, я б высмеяў яго. Але цяпер і ў мяне к чорту вылецелі з галавы ўсе формулы і праблемы і на іх месца прыйшлі думкі: як бы зноў з ёю сустрэцца? Як бы зноў загаварыць?

Але як толькі такія думкі пачнуць цябе дапякаць, дык адразу знаходзіцца выйсце... Гэтыя доўгія пагулянкі, гэтыя нядзельныя паходы на лыжах, тэатры, кіно, гаворкі... Колькі часу яны забіралі і колькі ў тую зіму я паспеў! Радасць, сіла, каханне выяўляліся ў справах, у неадольным імкненні зрабіць нешта вялікае. Я мог ночы навылёт праседжваць над чарцяжамі і праектамі, галава была забіта ідэямі. Мне хацелася, каб у маім распараджэнні было дзесяць, дваццаць чалавек, увесь калектыў «Меліяпраекта», які б ажыццяўляў гэтыя ідэі. Мяне перапаўняла такая радасць творчасці, што ніякае заданне не здавалася непасільным, што само слова «немагчыма» гучала знявагаю.

І ўсё ж у адносінах Элен да мяне чулася нейкая стрыманасць. Праўда, іншы раз яна шчыра аддавалася маім марам здзейсніць што-небудзь вялікае. Аддавалася гэтак, што я адчуваў, як два сэрцы пачынаюць стукаць у такт, натхняўся, даходзіў да шаленства і нават не заўважаў, што гаворка пагражае патануць у прафесійнай тэрміналогіі.

Але тут жа яна рабілася пабочнаю назіральніцаю, і я адчуваў на сабе яе дапытлівы пагляд.

Але, гэта было маё першае сапраўднае каханне, і толькі таму яно магло кідаць мяне гэтак высока на вяршыні надзей і гэтак глыбока скідаць у бездані адчаю. Раней дык на процілеглы пол я не знаходзіў часу. Мімалётныя захапленні студэнцкіх гадоў прайшлі міма, не пакінуўшы следу.

Такая няпэўнасць прадаўжалася месяцаў два і ўжо рабілася невыноснаю. Не толькі мне, але, на маё здзіўленне, і Элен. Ніякага плана ў мяне не было, я не ведаў, па што адважыцца. Адчуваў толькі адно — усё па-

бліжаецца да нейкай крытычнай мяжы. І я чакаў, але адначасна і баяўся гэтай мінуты. Пайсці ў лабавую атаку і стаць пасмешышчам, вярнуцца назад ні з чым — ад адной гэтай думкі мяне кідала ў дрыжыкі. Але яна ж прымушала шукаць такія магчымасці штурму, пры якіх аставаўся б годны шлях адступлення на выпадак няўдачы. А хто шукае, той знаходзіць...

У той час я працаваў над адным праектам. І на спатканні як бы мімаходзь папытаўся ў Элен, як яна паставіцца, калі я прысвячу гэтую работу свайму першаму сапраўднаму каханню — Элен Рыйвес.

Мы якраз праходжваліся ў змроку вясновага вечара пад векавымі дрэвамі старога парку. Я знарок выбраў такі момант, каб яна не магла бачыць майго твару.

Элен спынілася. Я чуў, як б'ецца ў мяне сэрца. Потым яна ціха сказала:

— Я ні на адной рабоце болей не магла б паставіць такога прысвячэння.

Гэта быў удар. Я пераконваў сябе, што ў мяне няма права на мінулае Элен, што яе шчыры адказ варты павагі, але ўсё роўна адчуваў крыўду з дамешкам расчаравання, мяне грызла рэўнасць. Пакуль я праводзіў Элен да дзвярэй яе дома, пакуль ішоў дадому начнымі вясновымі ціхімі вуліцамі, ува мне бушавала сумятня думак і пачуццяў. Гэты настрой не пакінуў мяне і на другі дзень, я то сціскаў кулакі, то скрыгітаў зубамі, то раптам рабіўся па-ідыёцку жаласлівым і сентыментальным.

На трэці дзень Элен сама знайшла мяне па тэлефоне. Дамовіліся сустрэцца ў восем. Усю другую палавіну дня я думаў, што не пайду, і ўсё ж з'явіўся на месца за чвэрць гадзіны да прызначанага часу. І калі яна прыйшла, забыліся падрыхтаваныя словы. Убачыў па твары Элен, што яна вырашыла, вырашыла на маю карысць. Мінулы дзень здаўся дурным сном. Усе падазрэнні зрабіліся смешнымі. Хіба ж магла яна ведаць наперад, што нашы дарогі калі-небудзь перакрыжуюцца? Жанюся ж я не з яе мінулым, а з ёю самою! У той вечар яна ўпершыню ўвайшла ў маю каморку...

У тым студэнцкім пакоі трэба было нам і астацца. Што з таго, што ён быў маленькі і ўбогі. Успаміны пра тую незвычайную вясну надавалі ўсяму тут невыказную чароўнасць. Кожная рэч нібыта шаптала: «Помніш?..»

Але прафесарава дачка — і раптам з усіх выгод, у якіх жыла, у студэнцкі пакойчык, у гэты вігвам! І гэта, калі ў іх доме так прасторна.

Мне ўрэзалася ў памяць, як Элен упершыню прыняла мяне да сябе дадому. Яшчэ ў пярэдняй мой нос пачуў прыемны пах масцікі і кніг. Усё тут было прыгожае, зграбнае, але нейкае нібыта арыстакратычнае і халоднае. Іменна гэты холад, які панаваў ва ўсім доме, я адчуў вельмі выразна. І яго не скрадвалі ні пышнасць абсталявання, ні гасцінны прыём; не, холад прагнаць нельга было нічым.

Я не бяруся тлумачыць, бо любая спроба зрабіць гэта здавалася б дзівацтвам, але нейкім чынам у рэчах, у прадметах адлюстроўваецца характар іх уладальніка. Гэта тым болей дзіўна, што большасць іх — рэчы фабрычныя, масавы тавар. І тым не меней той самы прадмет, які трапляе ў рознае асяроддзе, па-рознаму на цябе дзейнічае.

Маці Элен — жанчына гадоў пяцідзесяці, з велічнаю і зграбнаю паставаю. Пагляд яе быў засяроджаны і дапытлівы, гэта надавала твару крыху суровы выраз. Было відаць, што яна прывыкла адказваць за гаспадарку.

— Калі прафесар Рыйвес быў яшчэ жывы,— разоў два пачынала яна гаворку за кафейным сталом. Гэты выраз запомніўся мне тым, што яна называла свайго мужа прафесарам Рыйвесам. Элен дома таксама была іншая, нейкая далёкая і замкнёная...

— Я, напэўна, не спадабаўся тваёй маме, Лэпатрыйну [1]? — папытаўся я, калі мы асталіся адны.

— Ах, ды ну цябе! — адмахнулася Элен.— Яна заўсёды была такая. А то як бы тата працаваў? Мама ўвесь час, жывучы з бацькам, употайкі вяла вайну з наведнікамі, а прывычка — другая натура.

— Усё гэта правільна, але... я не госць!

— Ну зразумела. Яна ведае гэта, усё яна ведае. Мама заўсёды гаварыла, што не будзе перашкаджаць майму выбару... Але і яе трэба зразумець. У нашым доме заўсёды гаварылася толькі пра гісторыю, мастацтва, літаратуру. І раптам уязджаеш ты са сваімі экскаватарамі, канавакапальнікамі, трактарамі... Што ты ведаеш пра братоў Гракхаў?

— Тое, што твой бацька напісаў пра іх манаграфію.

---

[1] Lepatriinu *(эст.)* — божая кароўка.

— Увесь ты тут, упарты землеўпарадчык,— і Элен ускудлаціла мае валасы.

Як усё проста было тады вырашыць!.. І раптам тут у калгасным пакоі для заезджых мне прыйшло ў галаву, што, магчыма, старшыня і не заўважыў нічога, што ўсё гэта толькі мае выдумкі.

## II

Цяпер ужо мне не здаецца неверагодным дзівам, што памерлыя ўплываюць на наша штодзённае жыццё. Урэшце, іх жа ў сотні разоў болей, чым жывых! Як падумаеш пра ўсе пакаленні, чые косці ляжаць у зямлі, дык... Але як бы там ні было, а яны прадаўжаюць жыць і прымушаюць жывых лічыцца з імі, прымушаюць працаю сваёю, дасягненнямі, якія на кожным кроку стаяць перад намі як прыклад і дакор. Час сцёр з партрэтаў нябожчыкаў чалавечыя слабасці, акружыў справу іхняга жыцця бліскучым арэолам, які выклікае ў нас ледзь не заміранне, поўнае глыбокай пашаны. І таму працівіцца ім, можна сказаць, безнадзейна. Яны нябачныя, няўлоўныя, але ўсё роўна сціскаюць цябе жалезным абручом.

Гэта я зразумеў у доме Рыйвесаў.

Перакананы, што з бацькам Элен мы паладзілі б. Мяркуючы па расказах, ён быў крыху адарваны ад жыцця спецыяліст свае справы ў літаральным сэнсе гэтага слова — ён усё глыбей і глыбей пазнаваў усё вузейшы і вузейшы перыяд гісторыі, пакуль у нейкім пункце не дамогся міжнароднага прызнання. Фатаграфіі паказваюць яго крыху няўклюдным і нязграбным чалавекам з прадаўгаватым тварам, выраз якога гаворыць пра сузіральнасць і пра паглыбленне ў думкі. Цяжка ўявіць яго без царства кніг, такім чалавекам справы ў гушчыні кіпучага жыцця. Зрэшты, ён ніколі і не быў такі. Нават у сваім доме ўлада яго абмяжоўвалася кабінетам. Затое тут ён адзін уладарыў.

Такі ён быў пры жыцці з усімі сваімі вартасцямі і недахопамі. А пасля смерці ён стаў дыктатарам у доме. Усе і ўсё мералася па ім. «Калі прафесар Рыйвес быў яшчэ жывы...» Дзіўнае ззянне, якое, як здалося мне спачатку, ішло ад гэтай фразы, з часам знікла. І цяпер з вуснаў мадам Рыйвес яна гучала дакорам.

Зразумела, побач з прафесарам я быў і ёсць нуль. Але што ён у мае гады зрабіў? А каб жыў ён у такім

музеі рэліквій, у які мадам Рыйвес ператварыла дом пасля яго смерці!.. Першы год я неяк не заўважаў усяго гэтага.

Першы год шлюбу — гэта гаворыць само за сябе. Колькі новых рысаў мы сюд-туд адкрывалі адно ў аднаго. Яшчэ няма руціны, свежасць пачуццяў памагае пераадольваць сутычкі... Той год я хоць раз на тыдні, але прыязджаў у горад. Помню асеннія прасёлкі, калі ўсім целам даводзілася налягаць на педалі веласіпеда, калі зяблі рукі, трымаючы руль. Паблісквалі жамчужыны кропель на залаціста-жоўтых галінках, навіслых над платамі. І я ехаў за дзесяткі кіламетраў, каб пабачыцца з Элен, каб пабыць з ёю адзін-адзінюткі дзень.

— Давай сёння ўсю ноч не спаць. Раніцаю ж ты зноў паедзеш...

— Я павінен, Лэпатрыйну.

— Няўжо без цябе там, на балоце, не абыдуцца? Табе ж нічога не зробяць, калі і ў аўторак вернешся?..

— Зрабіць не зробяць, але...

— Скажаш, захварэў. Праўда. Так і скажаш.— Ад гэтае думкі Элен захапілася.

— Я не ўмею хлусіць. Дый хто паверыць, што ў горадзе захварэў, калі на балоце здаровы як бык.

— Ну дык там таксама дзён два паскардзіся на недамаганне... Не, не, я будзільніка не завяду на раніцу і будзіць цябе таксама не буду. Не разбуджу, і ўсё, мэма ты балотная.

Мне і цяпер яшчэ чуюцца гэтыя дыялогі па нядзельных вечарах, якія паўтараліся дзесяткамі варыянтаў. Яна, здаралася, і падушкаю па мне папускала, і адварочвалася тварам да сцяны, але раніца ўсё роўна заставала нас у абдымках адно ў аднаго, звон будзільніка прымушаў яе раскатурхваць мяне і вымаўляць са шкадаваннем: «Добра, едзь. А то яшчэ пападзе... Толькі пастарайся цяпер прыехаць ужо ў пятніцу».

Я, зразумела, абяцаў, але вельмі рэдка мне ўдавалася стрымліваць слова. Аднак і на балоце думкі пра Элен саграваі мяне. Ведама, недзе цябе чакаюць, сумуюць па табе... Можа, пачатак маіх пазнейшых дасягненняў якраз і тоіцца ў тых пачуццях?..

Было гэта ў адзін з вечароў позняе восені, у адзін з тых нячастых вечароў, калі мне ўдавалася выканаць абяцанне. Увесь тыдзень карпеў над камеральнымі работамі, праседжваў над імі вечары навылёт пры святле дзвюх лямпаў і выкраіў цэлы дзень.

Дабраўся дадому стомлены, штаны запырсканы граззю. Дзверы адчыніла Элен.

— Так добра, што ты прыехаў! — усклікнула яна, убачыўшы мяне, але адразу сумелася і прадаўжала шэптам: — Не злуйся... але мама запрасіла Раасалу... Праўда, не ведаю, дзеля чаго. Яны ў сталоўцы, каву п'юць... Памыйся ў ванне, пераадзенься і вызваляй мяне з гэтага праклятага становішча.

Што ж, яно магло быць, нават напэўна было праклятае! Ээрык Раасалу — гэта мінулае Элен, якое лічыў я пахаваным раз і назаўсёды. Няўжо яму суджана ўваскрэснуць?

Я ўбачыў яго адразу, як толькі ўвайшоў у пакой. Прыкладна мой равеснік, але крышку вышэйшы і худзейшы за мяне. Правільныя рысы твару, спакойныя цёмныя вочы — усё аднолькава добра гарманіравала і з яго акуратна прычасанымі валасамі, і з усім аблiччам.

Але найболей мяне ўразіла тое, як вольна сядзеў ён у крэсле. Крыху разваліўшыся, нага на нагу, цыгарэта ў тонкіх пальцах. Адразу відаць, што ён прывык да такога змалку.

— Пазнаёмцеся, калі ласка: аспірант-літаратуразнавец Ээрык Раасалу — і мой муж...

Не выпаў з-пад увагі мае і ўважлівы позірк мадам Рыйвес, і тое, як задрыжаў ад хвалявання голас Элен.

Раасалу падняўся, і я адчуў у сваёй мазолістай далоні яго танкакосную руку. Потым зноў сядзелі вакол стала, на якім дыміліся кубачкі з каваю. І зноў гаварылі пра мастацтва, пра літаратуру, пра музыку.

Я не вельмі ўдаваўся ў іх размовы, проста глядзеў і слухаў. У звычайных абставінах напэўна я меў бы ад гэтага задавальненне: зусім другое асяроддзе, усяго нейкія дзве-тры гадзіны назад я ішоў па балоце! Але разуменне, што ў Элен і Раасалу ёсць агульныя ўспаміны, раздражняла мяне.

Я крадком пазіраў у люстэрка. Пазіраў і параўноўваў. У люстэрку адбіваўся твар з цвёрдым падбародкам, з цёмнаю пасмаю валасоў, якая ўпарта спадала на лоб. Рысы яго болей жорсткія, рот пажадлівейшы. У параўнанні з тварам Раасалу мой нагадваў партрэт, намаляваны лёгкімі смелымі мазкамі.

Я стараўся здавацца спакойным, і гэты мой спакой перадаваўся Элен. А на душы ў яе было нядобра.

Адзін Раасалу, здаецца, нічога не заўважаў. Ён задумліва разблытваў нейкі мудрагелісты клубок літара-

турных праблем, забаўляўся з фактамі, цытатамі, з рознымі поглядамі і з такім веданнем справы сутыкаў іх між сабою, што ў выніку атрымліваўся або круглы нуль, або вялікі пытальнік. Яго халодны аналітычны розум выклікаў у мяне павагу.

— Навошта ты яго паэвала? Дый запрасіла яшчэ надалей заходзіць!..— накінулася Элен на мацеру, калі Раасалу пайшоў.

— Я ведаю Эрыка з таго часу, калі ён яшчэ ў пясочніцы гуляў. Няма чаго ламаць гэтыя адносіны. Бацька яго — прызнаны мастак, загадвае кафедрай. Праз два гады Эрык абароніць кандыдацкую. А там хто ведае, як высока ён можа падняцца.

— Але я не хачу! Не хачу, каб ён прыходзіў!

— У жыцці часта даводзіцца рабіць тое, чаго не хочацца. Жыццё вымагае шырыні поглядаў і душэўнай шчодрасці...

Астаўшыся адны ў сваім пакоі, мы не ведалі, пра што гаварыць, дзе ўзяць патрэбныя словы. Пасля візіту Раасалу асталася нейкая скаванасць. Раптам Элен абняла мяне проста-такі з шалёным запалам, моцна абхапіла за шыю.

— Што нам нейкі візіт! Мы заўсёды ж будзем разам, мядзведзік?

Гэты парыў быў такі нечаканы, што я не даў рады, што адказаць, апрача звычайных суцяшэнняў. Але і яны дыхалі шчасцем, якое перанаўняла мяне. Мінулае асталося мінулым!

Я зноў і зноў шукаў пацверджанняў гэтаму, не могучы стрымаць шчасця і пераможнай радасці. І таму ў размове сюд-туд варочаўся да Раасалу. Кінуў некалькі іранічных заўваг пра тое, як ён сядзіць і ходзіць. І тут мяне напаткала новая нечаканасць.

— Які ўжо ёсць,— сказала Элен,— але табе не зашкодзіла б павучыцца ў яго, як трымацца.

У гэтым, як ні горка, была праўда. Дзе мне было набірацца добрых манер, каб яны назаўсёды асталіся ў крыві?.. Але тады сказаць такое... Гэта была наша першая сварка. Потым, безумоўна, памірыліся, і ў нядзелю досвета я паехаў з добрым настроем. Элен, у халаце, у туфлях на босую нагу, правяла мяне да варотцаў і стаяла там датуль, пакуль я не знік за вуглом.

«Усё ў парадку, усё цудоўна»,— стукала ў галаве. Аднак між намі так і асталося стаяць нешта, я б сказаў, затоенае, ад чаго нельга адмахнуцца... Нешта та-

кое, калі адно аднаму не гавораць усёй праўды, а выбіраюць толькі тое, што будзе даспадобы другому.

Тае раніцы вецер быў у спіну. Дарога падсохла. Веласіпед ішоў лёгка. Вось тады, па дарозе назад, і выспела ў мяне думка: трэба ашаламіць іх усіх выкананнем якога-небудзь вялікага і важнага задання, якое пераважыла б кандыдацкую Раасалу. Я ведаў, што атрымаць такое заданне амаль немагчыма. Урэшце я ж малады інжынер. Але потым успомнілася, што дысертацыя Раасалу таксама будзе гатовая не раней, чым праз два гады. Два гады — кавалак немалы, за гэты час могуць быць усякія перамены. Галоўнае — быць пільным і не траціць надзеі.

Палявы сезон кончыўся ў лістападзе. Наперадзе была зіма, пара, калі мы працуем у інстытуце і жывём у горадзе. Звычайна гэтая пара года сімвалізуе нешта суровае і маркотнае. А ў мяне тая зіма была, магчыма, самым шчаслівым пражытым часам.

Першая сварка навучыла нас болей шанаваць адно аднаго. Мы часта бывалі ў тэатрах, на канцэртах, на мастацкіх выстаўках. Я з усяе сілы намагаўся асвойтацца са светам літаратуры і мастацтва, якому ў доме Рыйвесаў надавалася вельмі вялікае значэнне. Сёе-тое, ведама, асядала ў мяне, але падзяляць захапленні Элен удавалася не часта. Колькі ні стараўся я спасцігнуць кампазіцыйную аснову карцін, іх каларыт, насычанасць фарбаў і гэтак далей, што складала сутнасць таго, чаму вучылася Элен, мастацкія выстаўкі найчасцей пакідалі мяне безуважным.

У мяне ж была свая работа, свае праблемы. З наведання вясновай выстаўкі і пачаўся ў нас разлад.

Мне ўжо тады было зразумела, што гэтым летам я не атрымаю ніводнага колькі-небудзь важнага аб'екта разведкі. Ды яшчэ я павінен спешна кончыць праект асушэння Валгейыгаўскага абшару. А тут на табе — ідзі на выстаўку! Вырашыў не ісці, але ўсё роўна пайшоў, варта было толькі Элен паявіцца каля майго стала ў сваім новым светла-шэрым дэмісезонным паліце.

На выстаўцы я быў вельмі рассеяны. За зіму я пераканаўся, што крытыка з мяне не выйдзе, а значыць удавацца ў пытанні мастацтва мне ўсё роўна, што насіць рэшатам ваду. Хоць вочы мае блукалі па карцінах, думкамі я імкнуўся дадому.

— Ды ты і не глядзіш,— з дакорам сказала Элен.

Я мякка запярэчыў. І вось тут мы і сустрэліся з Ра-

асалу. Ён так нечакана з'явіўся з-за скульптурнай групы шахцёраў, якія спяшаюцца на змену, што Элен нават спалохалася.

— О, пардон! — кіўнуў, просячы прабачэння, Раасалу.— Сапраўды ўсе сцежкі сыходзяцца.

Апошнія два тыдні ён не заходзіў да нас, я нават пачаў забывацца, што ён ёсць на свеце.

І ў гэтым не было ніякага дзіва. Пры першай нашай сустрэчы тым асеннім вечарам я бачыў у ім толькі саперніка. За зіму ў мяне быў час разгледзець Раасалу з другога боку, узважыць плюсы і мінусы яго характару — і ад колішніх страхаў амаль нічога не асталося. Помню, як мяне на першым часе выводзіла з сябе няздольнасць Раасалу хоць бы чым захапляцца. Мне бачылася насмешка ў хуткасці, з якою яго аналітычны розум знаходзіў слабыя месцы ў рэчах, што мяне зачароўвалі, і ў тым сарказме, з якім ён ушчэнт разбіваў усе мае захапленні. Мне было прыкра ад яго нейкага халоднага і пасіўнага сузірання жыцця. Прайшоў час, пакуль я зразумеў, што я вышэйшы за яго сваёю здольнасцю захапляцца, а гэтая рыса якраз і радніла мяне з Элен, і я пачаў цярплівей, нават можна сказаць дружалюбней ставіцца да Раасалу. Аднойчы злавіў я сябе на шалёнай думцы: што, калі плюхнуць яму ў твар кубак кавы або заляпіць аплявуху? Што ён зробіць? Якой таўшчыні паліва цывілізацыі, што яго ўкрывае, і што за гліна пад ёю схавана?..

— Як вам выстаўка? — папытаўся Раасалу.

— Пакуль нічога не магу сказаць. Мы толькі што прыйшлі,— адказала Элен і дадала: — А табе?..

— Паводле зместу і тэматыкі ўсё вельмі новае, вельмі сучаснае, але...— Раасалу пацісну плячыма,— але новы змест прадугледжвае і новую форму. Патрэбна такое адзінства формы і зместу, каб глядач адразу адчуў: «Сапраўды, гэта наша сучаснасць», каб ён зразумеў падтэкст мастацкага твора, які зачараваў бы яго і прымусіў бы задумацца. Рэалізм нашага часу можа быць просты вонкава, але ўнутрана ён павінен быць складаны. Узяць, напрыклад, вунь тую карціну...

Неяк атрымалася, што Раасалу стаў нашым гідам. Нельга сказаць, што ўсё гэта мяне цешыла. І ўжо зусім мне не падабалася, з якою ўвагаю слухала яго Элен.

К чорту вылецеў з галавы валгейыгаўскі праект. Я ўзяўся ўважліва сачыць за ходам думкі Раасалу і нехаця мусіў прызнаць, што ён думае па-новаму, арыгі-

нальна, аднак не дужа пераканаўча, нягледзячы на бясстрасны тон.

Помніцца, мяне ўразіла яго разважанне пра мастацтва будучыні. Ён казаў, што рэалізм, які ў жывапісе мінулых стагоддзяў часцяком проста выконваў функцыі фатаграфіі — так многа мастакі таго часу пісалі партрэтаў! — гэты самы рэалізм вымушаны будзе адступіць перад каляроваю фатаграфіяй. Нібыта хутка напэўна з'явіцца фотажывапіс: мастак-фатограф паставіць сярод адпаведных дэкарацый пажаданую сцэнку з касцюміраванымі персанажамі — і будзе сабе пстрыкаць!.. Усё роўна, кажа, мастацтва будучыні не вытрымае канкурэнцыі з каляроваю фатаграфіяй і будзе спрабаваць нейкімі іншымі сродкамі закрануць у чалавечай душы тое, да чаго з фотажывапісам і тэхнікаю не падступішся.

Я глядзеў на Раасалу, і раптам да мяне дайшло, што ён не проста паліваная глазураю цывілізацыі гліна, а самы сапраўдны фарфор. Усхваляваны твар Элен, якая прагна слухала яго, падбіваў на небяспечную паралель з балем на масленіцу. Я адчуў, што павінен нешта зрабіць, вырвацца з-пад чараў гэтага спеву сірэны. Спрабаваў у душы захапляцца работамі, якія не падабаліся Раасалу, пагардліва паглядваць на тое, што ён хваліў. Мною валодала спакуса бачыць у карцінах адваротнае таму, што гаварыў Раасалу.

Стоячы перад карцінаю, на якой мужчына, што сядзеў на лаўцы ў парку, з вельмі сур'ёзным выглядам нешта чытаў, я пераконваў сябе, што ён напэўна знайшоў у раздзеле гумару невялічкае апавяданне пра сябе. У партрэце жанчыны ўбачыў нетыповае — мастак намаляваў яе маўклівую, з сціснутымі губамі.

А калі Раасалу пачаў хваліць карціну з намаляванымі шахматыстамі, я разрагатаўся.

Магчыма, што карціна і сапраўды была вельмі добрая. Адзін з гульцоў трымаў у руцэ люльку, і дым, клубячыся, ахутваў дзве нахіленыя над дошкаю фігуры. Я не сумняваўся, што трапна быў схоплены выраз іх твараў і атмасфера разумовага напружання, пра што гаварыў Раасалу. Але я бачыў толькі пазіцыю на шахматнай дошцы і пацяшаўся.

— Што ты знайшоў тут смешнае? — здзіўлена папыталася Элен.— Ты толькі паглядзі, як напружана яны думаюць!

— Думаюць? Што думаюць?.. Трэба быць апошнім

дурнем, каб у такой пазіцыі яшчэ нешта думаць. Чорным даўно мат, і партыя кончана!

— І гэта ўсё, што ты бачыш? — заўважыла Элен.— Такая дробязь...

— Якраз гэтая дробязь у гэтым выпадку — аснова ўсёй кампазіцыі. Без яе гэтая рэч была б немагчымая. А калі аснова парушана, дык чым жа тут захапляцца?

— Твая праўда, Ээрык, сучасны чалавек — з'ява складаная, а таму яму і патрэбна складанае мастацтва,— неяк дробненька засмяялася Элен.

— Складанае ці не,— прабурчаў я,— але ў шахматах гэтулькі я разумею, каб з упэўненасцю сказаць — у гэтай пазіцыі ўжо няма чаго абдумваць!

Вочы Элен быццам бы загарэліся злосцю, але адразу ж зноў заіскрыліся смехам. Яна ўзяла мяне за руку і павяла ад карціны.

— Хадзем. Тут не шахматны клуб, а мастацкая выстаўка.

Недзе ў глыбіні душы мне было няёмка за свой нядаўні рогат. Але Элен і Раасалу трымаліся гэтак, быццам нічога і не было. Ён і далей разважаў, а яна слухала яго траха не з большым самазабыццём, чым раней.

З выстаўкі мы выйшлі ўтраіх. Вуліца сустрэла нас каварным вясновым ветрыкам, які на сонцы бывае вельмі ласкавы, а ў цяні кідае ў дрыжыкі. На скрыжаванні ён узвіхрыў у нас пад нагамі пыл. Цені ад дамоў напалам пераразалі маставую, уздоўж тратуара стаялі бярозы, на якіх праклюнуліся, нібыта мышыныя вушкі, лісточкі.

— Да пабачэння, Ээрык,— усміхнулася Элен.— Было вельмі цікава і павучальна.

Раасалу далікатна прыпадняў светла-карычневы капялюш і павярнуў налева. Яго светлае летняе паліто знікла з вачэй.

Элен была са мною ласкавая, прыветна ўсміхалася сустрэчным знаёмым. Адчуванне няёмкасці, што засела ў душы, пачало рассейвацца. Усё забыта, усё добра. І, напэўна, таму я быў ашаломлены тым, што адбылося потым.

Увайшоўшы ў наш пакой, Элен села на канапу, і з губ у яе сарваўся цяжкі ўздых.

— Ты ўтамілася, Лэпатрыйну?

— Утамілася,— адказала яна рэзка і ўскочыла.— Утамілася ад тваё нетактоўнасці, ад твайго варварства. Мне сорамна было за цябе перад Раасалу!

Яе вялікія карыя вочы раптам напоўніліся слязамі.

— Элен, дарагая,— збянтэжана прамармытаў я.

— Не надыходзь! Не... Самае страшнае на свеце — чырванець за другога!

Плач перайшоў у рыданне. Элен асыпала мяне папрокамі.

Паспрабаваў быў яе супакоіць, але гэта падліло толькі масла ў агонь. Праўда, у душы я згаджаўся, што трымаўся і выказваўся не зусім гэтак, як трэба было б, але з такога глупства рабіць трагедыю... Не, не, я зусім не адчуваў сябе надта вінаватым. Я зірнуў на стол, дзе ляжаў праект. Раззлаваўшыся, пачаў абараняцца.

— Урэшце, што я такое зрабіў? — злосна папытаўся я ў Элен.— Хіба ў мастацтве ісціна не патрэбна? Калі ў нас часам у праекце вада ўгору цячэ, дык кажуць: «Хлусня!» А паводле Раасалу выходзіць, што гэта мастацтва.

— Ах, ды пакінь ты гэта глупства! Ты ніколі не разумеў і не зразумееш мастацтва. Дый пра прыстойнасць варта было б хоць крыху падумаць.

Пікіроўка, што наступіла пасля, не прымірыла нас. Толькі час, гэты ўсемагутны лекар, толькі жыццё з яго штодзённымі нягодамі і радасцямі зацягнулі трэшчыну, што ўтварылася нечакана, налётам забыцця.

Гэты вечар востра ўрэзаўся ў маю памяць, бо ён быў першы і ледзь не сімвалічны для ўсяго наступнага года, другога года шлюбу. Другі год, мабыць, самы небяспечны ў кожным шлюбе. Пачынае знікаць навіна, хвалі будзённасці яшчэ не паспелі абгладзіць вострых вуглоў характараў, стычкі выцягваюць наверх усё-ўсялякае, што назбіралася ў душы. І гэта прычыняе боль, прымушае быць недаверліва асцярожнымі.

Дык таму, напэўна, і помніцца мне гэтак ярка даўкая асалода ўсіх прымірэнняў!

Тым летам я ўжо не рваўся ў горад з тым нецярпеннем, як год назад. Кожную суботу перада мною паўставала тое самае пытанне: ехаць ці не? Ці не прыйдзе ўслед за напружаным працоўным тыднем што-небудзь такое, што вымотвае мацней за цэлы месяц працы на балотах? Ад страху перад невядомасцю з'яўлялася няўпэўненасць, душу раздзірала дваістае адчуванне. А калі нарэшце выпраўляўся-такі ў дарогу, гэта было падобна на скачок у невядомае.

Элен таксама, напэўна, адчувала нешта падобнае, адчувала, што шлюб наш страчвае раўнавагу. Яна спраба-

вала яе адпавіць. Але, напэўна, спрабавала. Толькі гэтым можна растлумачыць адчайныя парывы пяшчотнасці, якія перамешваліся з вострымі сутычкамі. Між дзвюх гэтых крайнасцяў матляўся маятнік пачуццяў і думак, амплітуда якога неяк няўлоўна і страшна павялічвалася.

Аднак самае жахлівае пры гэтым — дух нашай эпохі, які адмятаў усё слабое і сентыментальнае. Як падумаю пра пакуты рэўнасці, пра мітусню паміж надзеяй і глухою безвыходнасцю, як успомню, што вонкава ўсё аставалася як і раней,— кідае ў дрыжыкі. У мінулым стагоддзі палкаводцы не саромеліся плакаць на вачах у салдатаў, калі на полі бою гінулі іх найлепшыя паплечнікі. У наш час пакутуюць за зачыненымі дзвярыма, у цішыні пакояў, а да людзей паварочваюцца толькі маскаю, якая ціхамірна ўсміхаецца.

Мне здавалася, што супраць мяне нават мадам Рыйвес. І гэтага, безумоўна, не магла не разумець Элен. Неяк зімою, калі астаўся ззаду палявы сезон, а я працаваў у горадзе над праектамі, яна пацікавілася:

— Ці дадуць табе летам які-небудзь вялікі самастойны аб'ект?

Нічога асаблівага ў гэтым пытанні не было. Але яно было зададзена такім дзіўным тонам, што мне стаў зразумелы яго падтэкст. Гэта ж тая самая, толькі замаскаваная заўвага, якую аднойчы за абедам кінула мадам Рыйвес, расказваючы пра гаворку са знаёмымі. Прафесараў заяц!.. Такім чынам, у асяроддзі яе знаёмых я быў вядомы пад гэтым імем! І, натуральна, імя гэта звязвалася ў іх уяўленні з мізэрным чалавечкам, найвышэйшым дасягненнем у жыцці якога была жаніцьба з дачкою прафесара Рыйвеса.

За сталом я не адразу сцяміў, што да чаго, а потым, ужо ў нашым пакоі, тая зняважа пякла мяне распаленым жалезам. Уночы варочаўся без сну і кляўся сам сабе, што будучым пакаленням прафесар Рыйвес будзе знаёмы не інакш, як заяц Андрэса Ояры.

І вось цяпер, калі Элен задала сваё пытанне, я раптам злавіў сябе на тым, што вельмі спакойна хлушу:

— Ды ўжо вырашана. Аб'екта яшчэ не ўдакладнілі, але і вясна не так скора.

— Ведаеш што? Мне тут прыйшло ў галаву... Як ты думаеш, што, калі я вазьму тэмаю дыпломнай работы што-небудзь з жыцця меліяратараў? Прыехала б летам да цябе і...

— Прыехала б?! — усклікнуў я, ахоплены раптоўным парывам радасці. Дык, значыць, яна мяне ўсё-такі любіць! Значыць, тая асенняя палоса сварак была толькі часоваю з'яваю! Зімою мы куды лепей ладзілі, і, шчыра кажучы, я пабойваўся пачатку палявога сезону. Зноў ехаць, зноў пакідаць тут Элен. А цяпер яна паедзе са мною і... Ад усведамлення таго, што ўсё сказанае мною — хлусня, што ўсё немінуча праваліцца, перасела ў горле.

Ад Элен гэта не ўтаілася. Яна папыталася:

— Ты не хочаш, каб я прыязджала? Зноў пакінеш мяне адну?

— Ну што ты, Лэпатрыйну... Падумаў толькі, як адрозніваецца асяроддзе. Гэты вось пакой і...

Я паспешліва адвярнуўся, каб угамаваць сябе. Прабегся вачыма па тоўстым дыване, па акварэлях на сцяне, аклеенай абоямі цёплага жоўтага колеру, па кніжных паліцах. На адзежнай шафе, на пісьмовым стале, на біле ложка ляжалі блікі ад лямпы. І гэты з прэтэнзіяй на раскошу пакой прыгнятаў мяне, ён быў як матэрыялізаваны дакор. Тут патрэбна прывычка.

— Не думай, не спужаюся!.. Але калі ты не хочаш...

— Ты абавязкова павінна прыехаць, Элен! Цудоўная думка!.. Разведчыкі на здымцы... Або лепей — пракладваюць трасу... Або... Ну, матывы дык знойдуцца. Прырода на фон таксама. І тыпажы добрыя.

Пад прыкрыццём гэтай балбатні думкі мае працавалі ліхаманкава. Я павінен, я п а в і н е н атрымаць аб'ект! І ўжо на другі дзень я пачаў намацваць грунт.

Галоўны інжынер Роберт Сілаотс, мужчына гадоў пад пяцьдзесят, час ад часу паварочваў галаву з мяккімі кучаравымі валасамі і прыкладаў далонь да вуха, каб лепей чуць мяне. Аднак твар яго, як і да гэтага, быў безуважны.

Дый на наступнае лета ў мяне не было надзеі атрымаць вялікі аб'ект. Іх было толькі тры на ўвесь інстытут, якраз гэтулькі, колькі было старых інжынераў. Магчыма, планы яшчэ зменяцца, але...

Прайшло некалькі месяцаў, і я быў на мяжы адчаю. Абмяркоўваць з Элен накіды кампазіцый і пры гэтым ведаць, што надыдзе час і яны лопнуць, як мыльная бурбалка. Ад безнадзейнасці, якая грызла мяне, я дакаціўся да таго, што неяк у полудзень раптам спахапіўся, што стукаю ў дзверы галоўнага інжынера. І сам не ведаю, пра што я збіраўся з ім гаварыць — каб толь-

кі даў ён вялікі аб'ект! На шчасце, Сілаотса не было ў кабінеце.

І якраз тады, калі ўсё ўжо здавалася страчаным, міністэрства вырашыла пачаць будаўніцтва Війрапалускай электрастанцыі на год раней, чым планавалася, і інжынеру Мурду даручылі кіраваць там палявою разведкаю. На рыйтна-аовераўскім балотным абшары з'явілася вакансія.

Мяне з інжынерам Лепам выклікалі ў кабінет да дырэктара. Дзеля чаго, мы зразумелі, калі ўбачылі там Сілаотса і разасланую на стале карту Рыйтна-Аоверэ. Наш дырэктар, Каарма, пажылы поўны мужчына, прыжмурыўся, правёў праваю рукою па лысіне і паказаў на канапу.

— Вы, напэўна, чулі, што таварыш Мурд пераходзіць на війрапалускі аб'ект?.. Адным словам, на абшар Рыйтна-Аоверэ трэба паслаць чалавека. Мы тут абмеркавалі з галоўным інжынерам і спыніліся на вашых кандыдатурах. Але канчатковага рашэння, не перагаварыўшы з вамі, мы не прымалі. Як у вас, таварыш Леп, з сесіяй?

«Бач, перш у яго папыталіся»,— прамігнула ў мяне зайздросная думка... А што тут дзівіцца? Леп у інстытуце бясспрэчна быў адным з самых лепшых, сумленных і старанных даследчыкаў, правераных на справе. Адзіны недахоп — у яго не было вышэйшай спецыяльнай адукацыі — выпраўляўся з году ў год. Кіраўніцтва, зразумела, болей верыла ў чалавека, якога ведала, чым у мой дыплом інжынера.

Я ўпіўся вачыма ў Лепавы губы. Што адкажа ім гэты нязграбны трыццацігадовы чалавек?

— Спраўлюся і тут, і там,— сказаў ён, крыху падумаўшы.

Мае надзеі гінулі ад гэтых слоў, як ад удараў молата.

— А як сесія? — папытаўся я.

— Сёе-тое здадзена наперад і... спраўлюся.

Паспрабаваў пахіснуць яго ўпэўненасць. Але ён быў цвёрды, і тут ужо нічога нельга было зрабіць. Трэба было змагацца неяк інакш, і змагацца што б там ні было.

— Я ні ў якім разе не хачу сказаць, што таварыш Леп не справіцца з заданнем. Тым болей не хачу сцвярджаць, што я неяк болей падыходзіў бы Рыйтна-Аоверэ. Але ў мяне ўзніклі сякія-такія меркаванні ў су-

вязі з дрэнажным асушэннем і... Ды проста хацелася б хоць раз паспрабаваць сваю сілу ў сур'ёзнай, цяжкай справе.

Мой запал пераканаў іх болей за ўсякія словы.

У той вечар я нібыта на крылах ляцеў дадому. Тое, што яшчэ нядаўна здавалася безнадзейным, нязбытным, раптам набыло рэальнасць. Работамі на балотным абшары Рыйтна-Аоверэ буду кіраваць я.

* * *

Я не прымхлівы, але тут, калі мне так нечакана-негадана дасталося Рыйтна-Аоверэ, і сапраўды магло здацца, што гэта сам лёс мне падміргнуў, каб падбадзёрыць. Дык вось, магчымасць паказаць сябе з'явілася, і ўсё цяпер будзе залежаць толькі ад мяне. Раасалу абараняе сваю кандыдацкую ўвосень будучага года. Да таго часу павінна быць гатова і Рыйтна-Аоверэ...

Помпіцца, я з найвялікшым хваляваннем узяўся складаць план разведвальных работ. Узважваў усе «за» і «супраць». Аднойчы вечарам, па дарозе з «Праекта» дадому, мяне ахапіла раптам такая ліхаманкавая ўзрушанасць, што я ледзь не прыпусціў бягом. Упрыцемку разгулялася фантазія, мне бачыліся яблыні ў белым цвеце, я ўдыхаў іх водар, чуў гудзенне пчол — і ўсё гэта будзе на месцы колішняга балота!

У такія хвіліны шчасця ўдавалася выкінуць з галавы ўсё, апрача Рыйтна-Аоверэ. У такія хвіліны я быццам наяве бачыў той цудоўны велічны план, што выспяваў у маім мозгу.

Вось калі б мне ўдалося ўвасобіць свае мары ў канкрэтны план без усякіх прамежкавых ступеняў — сапраўды, гэта было б ужо сёе-тое!

Але варта было толькі сесці за чарцёжную дошку, як усё зноў станавілася будзённым. Што там нейкае Рыйтна-Аоверэ. Звычайны балотны абшар, з трох бакоў акружаны дрыгвою. Асноўныя прынцыпы правядзення разведвальных работ на падобных аб'ектах даўным-даўно распрацаваны. Наўрад ці я змагу да іх штонебудзь дабавіць.

Прапоркаўся з планам да апошняй хвіліны. Але якраз таму, што ўклаў у яго ўсю душу, у закончаным выглядзе здаўся ён мне нейкім мізэрным. Да другіх праектаў ставіўся я са спакоем пабочнага назіральніка. Затое як я хваляваўся, падаўшы Сілаотсу праект раз-

ведкі ў Рыйтна-Аоверэ! Але галоўны, натуральна, не здагадваўся, якім гэты план бачыўся мне ў марах, і таму, аддаючы праект, сказаў: «Добра будзе!» Гэта гучала з яго вуснаў як адабрэнне.

Усё-такі нешта ад тых дурманлівых шчаслівых хвілін яшчэ аставалася ў маёй душы ў першыя тыдні пасля прыезду ў Рыйтна-Аоверэ. Я зразумеў гэта ў тую майскую ноч, калі заседзеўся дапазна, думаючы сумную думу...

Тая начная вытворчая нарада з самім сабою адбывалася ў пакоі для заезджых пры калгаснай канторы, у тым самым пакоі, дзе ў першы вечар мы гутарылі са старшынём. Цяпер гэты пакой, гаспадаром якога я стаў, сапраўды ператварыўся ў «галоўны штаб», як ахрысцілі яго мае таварышы па працы. Планы, светакопіі, інструменты, адным словам, мозг брыгады быў тут. А сэрца?..

Я надыміў у пакоі. Адчыніў акно, і халаднаваты начны ветрык дзьмухнуў у твар, упёрся ў грудзі, тузануў рубашку на мне. Запахла бэзам. Воддалек іграў гармонік.

Хто-хто, а Калью Вардзья недзе там. Вытанцоўвае пасля працоўнага тыдня, пускае бутэльку па крузе — бавіць вечар нядзельны, як спрадвеку вядзецца. Дый чаму б яму не весяліцца? Тычкі па берагах Мудаку, Рыйтна, Аоверэ і ўсіх магістральных канаваў пастаўлены. На Рыйтна ўжо ўзяліся за пікетаж. На тры тыдні ў тутэйшых непралазных зарасніках гэтага даволі, калі толькі...

Я зайздрошчу Вардзья, зайздрошчу, што ён цяпер там, на танцах, што яны яму прыносяць радасць. Я таксама мог пайсці, але мне не ўдалося б адкараскацца ад цяжкіх думак і я так бы і астаўся інжынерам, прыгнечаны цяжарам адказнасці за Рыйтна-Аоверэ. А Вардзья?.. Уга-а, у дваццаць два гады яшчэ не гняце адчуванне, што час бяжыць і назад ніколі не варочаецца.

Мае вочы ўжо прывыклі да цемені вясновай ночы. Раптам заўважыў, што гляджу якраз у той бок, куды глядзець не хацелася, і думаю пра тое, пра што жадаў бы не ўспамінаць.

Прычыніў акно і зажмурыўся, спрабуючы адагнаць тую нядаўнюю непрыемную карціну. Але іменна цяпер перада мною асабліва выразна акрэсліваецца смуглявы твар Вардзья, яго шышкаваты нос, пажадлівы рот і круглявы падбародак, які надаваў хлопцу суровы вы-

гляд. Мне бачыцца Стары, пяцідзесяцігадовы лысы рабочы, як ён стаяў тады каля рэпернага слупа, абапёршыся на сякеру, і другі рабочы, Тоомас Ківімаа, які ціхамірна сядзеў на кучы галля. Мне бачыцца ўся брыгада, уся тая агідная сцэна ў выгіне ручая Рыйтна.

Нічога б не здарылася — цяпер я перакананы ў гэтым,— калі б я не прачытаў напярэдадні вечарам у газеце адказу аднаго з нашых масцітых літаратуразнаўцаў на публікацыю Раасалу. Я і сам не магу растлумачыць, як прозяваў гэтую дыскусію пра суадносіны формы і зместу літаратурнага твора. Ва ўсякім выпадку было зразумела, што выклікаў яе адзін з артыкулаў Раасалу. Я кінуўся ў чырвоны куток гартаць старыя газеты.

Знайшоўшы-такі гэты кінуты Ээрыкам Раасалу яблык разладу, я ўгрызся ў яго з надуманым перакананнем. Не дабраўшыся да канца, не мог схаваць адчування ўдзячнасці. Мне былі вельмі блізкія разважанні Раасалу пра тое, што век тэхнікі і асноўныя прынцыпы нашага грамадства нават штодзённаму жыццю і працы падалі велічную манументальнасць. А адсюль з жалезнаю логікаю выпікала, што гэтая манументальнасць павінна адлюстравацца ў літаратуры, што яе можна дасягнуць толькі ў тым выпадку, калі новаму зместу будзе адпавядаць новая форма, што для здабывання такой гармоніі патрэбны смелыя пошукі новых шляхоў. «Ад прымітыўнага пачатку з дапамогаю мастацтва да складанага і далей да найвышэйшага прызначэння — да манументальнай прастаты»,— прачытаў я.

Я ведаў, што артыкул — часцінка кандыдацкай працы Раасалу. Але калі ўжо і яна выклікала дыскусію ў рэспубліканскім маштабе, што ж тады будзе наступнае восені, калі Раасалу дапіша сваю дысертацыю?.. Трэба думаць, Элен таксама сочыць за ходам дыскусіі...

На другі дзень я не шкадаваў ні сябе, ні другіх. Да полудня дабраліся ўздоўж магістральнай канавы да ручая Рыйтна, і там, дзе мы прайшлі, асталася вузкая — два метры ўшырыню — і простая, нібы страла, прасека. Ніякага асаблівага хвалявання ці нервовасці я ў сабе не заўважаў. Але недзе затоена яно павінна было тлець у душы. Гэтаксама, як тлела яно між радкоў у дзённіку Роберта Скота з таго самага часу, як гэты ўпарты даследчык Антарктыкі даведаўся, што і Амундсен збіраецца заваяваць Паўднёвы полюс.

— Што ж, пара і за работу,— сказаў Стары, як кончылі абедаць.— Ідзі, Тоомас, да наступнага выгіну.

«Да наступнага і зноў да наступнага, пакуль не дойдзем да моста, і пацягнецца за намі зігзаг трасы, як змей марскі»,— падумаў я. У душы я і раней не згаджаўся з такою пракладкаю трасы. А цяпер ажно млосна зрабілася. Да гэтага часу я траха не пагарджаў сабою за незразумелыя сумненні і хістанні, а цяпер нарэшце выспела рашэнне: павяду прасеку проста пад мост!

— Кінь жартаваць,— сказаў Вардзья.— Такое прасекі галоўны інжынер век не прапусціць. Тут жа цячэнне шалёнае. Зрэжам прасекаю выгіны, пракапаем экскаватарам новае рэчышча, а гэта вылеціць у капеечку. Сілаотс як піць даць загадае трымацца даўнейшага рэчышча і нанава высякаць просеку. А гэтая работа кату пад хвост, і мы ні капейкі за яе не атрымаем!

У многім яго была праўда, але я ва ўсіх аргументах бачыў толькі спробу ператварыць мой план у нейкі тупы і шаблонны праект. Відаць, недзе ў глыбіні падсвядомасці Вардзья ўстаў у мяне побач з Раасалу як яго саюзнік.

Як бы там ні было, а я ўзлаваўся і напаследак літаральна загадаў высякаць простую, як страла, просеку да моста. Працавалі з пакутлівым маўчаннем.

Мяне якраз і гняло маўчанне, гэтае выяўленне нязгоды, але спроба вечарам загладзіць усё кончылася нічым. Сапраўднай прычыны я, ведама, не адкрыў (хіба ж можна!). Сказаў, што хай сабе мой план і дарагаваты, але калі яго здзейсніць, дык тутэйшы балотны абшар многа дзесяткаў гадоў не падасць голасу. Калі ж задаволіцца толькі невялікім выпростваннем, бясконца тантацца на пратаптаных сцежках, дык ужо праз некалькі гадоў давядзецца пачынаць усё спачатку.

Мне ніхто не запярэчыў, але я і без гэтага адчуваў, што словы мае іх не перакопваюць.

Вось дзе блукалі тае начы мае думкі, і я ніяк не мог іх спарадкаваць.

«Каб набраць самому брыгаду,— пранеслася ў галаве,— а то дасталася на маю шыю Мурдава, як і Рыйтна-Аоверэ...»

Аднак новую брыгаду не было адкуль узяць — я ведаў гэта і таму асадзіў сваю фантазію, якая панеслася галопам. Я пачаў перабіраць у памяці членаў брыгады і выявіў, што чорт не такі страшны, як я яго маляваў.

Стары вось — не навічок у нашай справе. Праўда, яго найперш цікавяць грошы. Але калі ў цябе дзве дачкі-школьніцы і сын на агранома вучыцца, уга-а, тут і апошнія мары адступяць перад прозаю жыцця. Усё таўсцейшы на марах пласт іржы, і хіба толькі ў п'янай галаве часам бліснуць яны, як стальная палоска на лемяшы, калі па ім правесці нажом.

Я ведаю, у крылатых сваіх марах ты бачыўся сабе зусім не тым, кім давялося стаць. Жыццё забаўлялася з табою, як вецер з кляновым семечкам. Занёс ён семечка, праўда, на ўрадлівую глебу, дзе яно пусціла карэньчыкі, але не абараніў парастак ад вялікіх дрэваў, якія крадуць паветра і святло.

Не выйшла з цябе каморніка, бо навучанне вымагала грошай болей, чым даваў маленькі бацькаў хутар. Ты ўсё ж паспрабаваў здзейсніць сваю мару, але калі памёр бацька, у цябе не хапіла духу прадаць той куток, і кончыць вучобу не ўдалося. А калі ты ўрэшце збыў хутарэц і перабраўся ў горад, было ўжо позна. Перабраў многа прафесій, пакуль не асеў у «Праекце». Вясною прыходзіш, увосень пакідаеш. Так і састарэў на гэтай рабоце...

Я магу, безумоўна, зразумець гэта, але думка, што я сам бы мог стаць для будучых пакаленняў усяго толькі глебаю, на якой некалі ўзыдуць пышныя хрызантэмы іх творчасці, была мне чужая. Я сам хачу паставіць піраміду, такую, каб аж дух займала, гледзячы на яе, і брыгада павінна мне памагчы.

Вардзья дык напэўна паможа. Бо як бы ні было, а пра яго як пра работніка нічога кепскага не скажаш. Ён яшчэ не страціў юнацкага запалу, не навучыўся шанаваць часу. «Паспеецца!» — звычайна адказвае ён, калі гаворыш, што трэба было б кончыць сярэднюю школу і вучыцца далей. Усё гэта пройдзе. Абавязкова. Вардзья я хоць разумею, а вось таго, трэцяга...

Непрыкметна мае думкі перакінуліся на апошняга члена брыгады, на ТоомасаКівімаа, які толькі вясною з'явіўся ў нас у «Меліяпраекце». Некалькі гадоў назад ён працаваў у адной з гарадскіх бальніц урачом і нядаўна выйшаў са зняволення — вось і ўсё ў агульных рысах, што мы пра яго ведалі. За што трапіў у турму, ён нікому не расказваў. Пытацца пра такое не будзеш, а назвапы ў анкеце артыкул, па якім ён адбываў пакаранне,— толькі канечная станцыя, куды збягаюцца дзесяткі і сотні дарог.

Я паспрабаваў уявіць гэтага стройнага трыццаці-шасцігадовага мужчыну ў белым халаце. Уга-а, ён вельмі пасаваў бы да яго смуглявага твару і чорных валасоў! Ва ўсякім разе болей, чым паношаны рабочы касцюм...

Але адкуль у ім гэтая да ўсяго апатыя, якая мяне моцна злавала?.. Ён не меў нават чыста чалавечай цікавасці да нашай работы. Зробіць, што скажуць,— і не знайся. З усімі ён, праўда, на «ты», але ў гэтым урэшце няма нічога незвычайнага, бо на рабоце звыкаешся так, што «вы» можа прагучаць знявагаю. А ён проста пасіўны сузіральнік. Нават вечарамі, калі пачынаюцца гаворкі пра ўсё на свеце, ён толькі слухае і маўчыць.

Успамінаецца, як тыдзень назад, вечарам, мы сядзелі пасля вячэры за сталом і гаварылі пра меліярацыю. Можа, я і напраўдзе перагнуў, сцвярджаючы, быццам на свеце існуюць толькі дзве прафесіі будучыні — меліярацыя і атамная фізіка. Але ж гэта ніякая не выдумка! У адной толькі нашай рэспубліцы сотні меліяратараў хопіць работы на чатырыста гадоў, калі яны хоць па разе пабываюць са сваім інструментам на кожным балоце. Дый то толькі ў тым выпадку, калі прыпыніць работы на колішніх асушальных сістэмах.

Я да таго захапіўся, што не адразу заўважыў усмешку на твары ўКівімаа. Я шалею ад яе яшчэ і цяпер. Чаго ён увогуле сюды прываloкся! Калі бачыш побач чалавека, які, нібыта губка, усмоктвае ў сябе ўсё, што робіцца навокал, але ні кроплі не дае з сябе выціснуць, у душу міжволі закрадаецца страх упераменжку з нянавісцю... Часам ён так злосна зіркне, што нямееш у напружаным чаканні — што будзе?! І заўсёды гэта здараецца без відавочных прычын. Нібыта паліць яго з сярэдзіны змрочны агонь. У мяне было ўражанне, што ён апанаваны нейкімі невядомымі і нетутэйшымі праблемамі; хто ведае, ці звязаны яны з яго мінулым, ці з будучыняю, адно толькі пэўна, што сённяшняе ў яго другараднае...

Гэтак тады я думаў праКівімаа, не асмельваючыся самому сабе прызнацца ў галоўным — у тым, што мне неадчэпна здавалася, быццамКівімаа ставіцца да нас з пагардаю. Хоць у рабоце ён быў старанны, ніколі не пярэчыў, як Стары ці Вардзья, але... гэта адчувалася.

Успаміналася, чаго я толькі не нарасказваў Элен пра нашую тут работу! А цяпер, калі яна прыедзе...

Вакол запаленай лямпы запырхаў адзінокі начны

матылёк. Я не зводзіў вачэй з яго... Адляціш вельмі далёка — не відаць, падляціш вельмі блізка — крылцы апячэш... Але лятаць трэба, бо гэтак ты створаны... Мне стала цікаўна: як выйдзе са становішча начны летунок? Матылёк апісаў яшчэ некалькі кругоў і знік. Я пачакаў, падняўся, пашукаў яго — але цёмна... Ён проста знік...

Чамусьці я зноў падумаў праКівімаа. Успомнілася, як ён пару разоў так дакладна канчаў маю думку, што мне рабілася нядобра: няўжо ён папраўдзе бачыць мяне навылёт? Няўжо разумее, у чым сапраўдная прычына сутычкі ў выгіне Рыйтна? Я раптам адчуў страх перад гэтым чалавекам.

Але тут жа пасмяяўся з сябе. Не можа такога быць, кабКівімаа... Безумоўна, не можа! Але я гэтага так не пакіну. Зруйную цытадэль, у якой ён схаваўся. Выбаўлю на свет божы — і тады паглядзім. Заўтра ж і вазьмуся.

Але раніцаю прыехаў Ланг, начальнік рыйтна-аавераўскай разведвальнай партыі, спрадвечны меліяратар і афіцэр, які прайшоў Вялікую Айчынную вайну. Ён прыехаў на матацыкле, а боты і фрэнч і цяпер рабілі яго падобным на вайскоўца. І ўражанне гэта памацняла рослая, плячыстая Лангава постаць, якая, нягледзячы на яго пяцьдзесят гадоў, была стрункая і самавітая.

Цяпер ён, безумоўна, скажа, што забыўся аванс у горадзе або што ўвогуле не атрымаў яго ў бухгалтэрыі. Доўга будзе лаяцца заадно з рабочымі, а потым знойдзе — выпадкова, зразумела,— у нагруднай кішэні ў фрэнчы пачак купюр, пра якія нібыта нічога не ведаў. Потым пойдзем з ім на аб'ект і агледзім, што зрабілі. А вечарам на стале з'явіцца чысты бланк нарада, маленькія касцяныя лічыльнікі і тоўсты сшытак адзіных нормаў і расцэнак. І тады ўжо ўсё, што зрабілі мы за месяц, будзе падводзіцца пад агульную аснову — грошы. Толькі пасля гэтага начальнік партыі выпіша заробленае кожным на чысты ліст паперы і задаволена крахтане: «Та-ак!»

Усё гэта было мне вядома. І ўсё ж я хваляваўся, калі вечарам брыгада абступіла стол. Вось цяпер стане дакладна вядома, хто колькі зарабіў...

— Колькі кіламетраў просекі прасеклі?.. Колькі межавых знакаў?.. Якой даўжыні праклалі трасу на Рыйтна?..

Гэтыя роспыты-адказы прадаўжаліся даволі доўга, перш чым Ланг узяў чысты ліст і вымавіў сваё «Та-ак!».

У Старога выцягнуўся твар.

— Даражэйшыя работы яшчэ наперадзе,— сказаў Ланг, заўважыўшы, што Стары расчараваны.

— Яно безумоўна, але...

Тае ночы мне не спалася. Што ж я зрабіў не гэтак, што выпусціў? Ці мне не хапае ведаў, практыкі? Гэтыя дакорлівыя позіркі Старога і Вардзья!.. Цяпер сур'ёзна возьмемся за справу, усё прадумаем, паскорым тэмп, будзем даваць прыклад... Не помню ўжо, чаго я там толькі не прыдумляў, варочаючыся з боку на бок. Толькі пад раніцу забыўся трывожным сном.

Аднак назаўтра спусціўся дождж, і давялося ўвесь дзень сядзець у пакоі. А вечарам пазванілі з горада: у «Праекце» збіраюць нараду, на якой будуць і прадстаўнікі міністэрства.

Я пакінуў за сябе Вардзья. Даручыў правесці нікетаж канаваў, што ўпадаюць у рэчку Мудаку.

Паўтарагадзінная ранішняя праходка падбадзёрыла мяне. Выкаціўся з-за лесу сонечны дыск, цягнула сырасцю, пахла вільготнаю зямлёю, шчабяталі птушкі, і сярод усяго гэтага ты адзін. У такую пару прырода дыхае моцаю волата, які прачынаецца. У гэтай, што натхняе чалавека, волатаўскай сіле сапраўды ж няма нічога ад грознай таямнічасці прыроды на зыходзе дня.

Ледзь толькі ўмасціўся я ў куточку каля акна ў вагоне, як адразу агукнулася бяссонная сённяшняя ноч. Навалілася неадольная стома. Пад аднастайны перастук колаў зліпаліся вочы...

Прачнуўся я ад рэзкага штуршка. Цягнік стаяў. Адчыніліся дзверы.

— Ого! Здароў, Андрэс! Ці не ў горад на нараду?

Гэта быў Юла Кардэн, кіраўнік работ на курэпалускім балотным абшары. Ён прынёс з сабою добры настрой і бязмежны аптымізм.

Прыемна было слухаць гэтага загарэлага, аж чорнага, меліяратара, які сваёю малайцаватасцю нагадваў жульвернаўскіх герояў. У яго рашучасці і жвавасці была своеасаблівая прывабнасць, якою тлумачацца многія поспехі Кардэнавай інжынернай кар'еры. Калі летась улетку мы разам працавалі на Алайыгі, я не раз дзівіўся з яго нечаканых хібаў у ведах. Але ён літаральна на ляту схопліваў усё, падладжваўся неяк і ўжо назаўтра выдаваў чужыя думкі за свае. Ды яшчэ гэтак спрытна,

што і не зазлуешся. Ніколі нічога яму не даводзілася перарабляць, ніколі ні з кім у яго не было разыходжанняў. І тым не менш яго нельга было назваць падхалімам. Проста ён умеў з усімі трымацца тае залатое сярэдзіны, якая выклікае давер і дае магчымасць з бляскам праводзіць у жыццё прынцып: працаваць як можна меней, атрымліваць як можна болей.

Але паездка запомнілася мне не Кардэнавымі расказамі пра надыход экзаменацыйнай сесіі ў завочнікаў, пра візіт начальніка партыі, пра работу, гульню ў брыдж і не помню ўжо яшчэ пра што. Ён умеў усё падаць гэтак, што нават самыя сур'ёзныя рэчы здаваліся аперэтачнымі. А гэта ўрэшце стамляла, як і любы феерверк.

Аднак я адразу ажывіўся, калі ўдалося перавесці гаворку на другую тэму як бы незнарок кінутым пытаннем: колькі яны зарабілі за мінулы месяц?

— Так сабе, дробязь,— махнуў рукою Кардэн, але ўсё ж назваў лічбы, якія ў сярэднім на сто рублёў перавышалі заробак у маёй брыгадзе. І, як выходзіла з яго слоў, яны там у Курэпалу не надта і шчыравалі.

Я прыкінуў мае і яго плюсы і мінусы. У мяне вышэйшая адукацыя, ён завочна вучыцца на другім курсе. Я прарабіў на спецыяльнасці тры гады, ён — два. Я ўжо два гады інжынер, а ён толькі з вясны выконвае абавязкі інжынера. І, як паказала наша супольная праца на Алайыгі, хутчэй яму было чаму павучыцца ў мяне, чым мне ў яго. Па ўсім матэматычная сума на маім полюсе павінна была б быць большая. Але жыццё ўціснула ў гэтае ўраўненне нейкі такі магутны ікс, што на практыцы атрымаўся адваротны вынік.

Вывеў мяне з задуменнасці Кардэн, сунуўшы пад нос пачак цыгарэт.

— Выспішся на нарадзе! — кінуў ён і пацікавіўся: — А сам жа колькі загроб?

Я пацініснуў плячыма і пералічыў лічбы, якія мучылі мяне ўсю ноч.

— Ты, нябось, са скуры вылузваешся,— сказаў ён.— Колькі разоў ты вымяраеш трасу?

— Два, ведама. Інструкцыя...

— Вымярай адзін раз — і добра будзе!

— Але...

— Глупства. Хто будзе дакопвацца? — махнуў ён рукою.— І пры нівеліраванні хопіць аднаго вымярэння. Вечарам астатняе проста дапішаш у палявы журнал.

Справы на пару гадзін — а тыдзень гарбець... Пакажы мне свой план работ.

Кардэн паглыбіўся ў нетры каляровых ліній на аглядней карце і паківаў галавою.

— І які цябе чорт пагнаў гэтыя канавы праз хмызы пракладваць?.. Не, я не спрачаюся, што гэта найлепшае рашэнне. Але пасунь ты іх на дзесятак-другі метраў правей ці лявей, дзе зараснікі не такія густыя... Хоць бы, скажам, уздоўж прагалін. І было б чым вытлумачыць. Рэльефам мясцовасці, узроўнем грунтовых водаў або... Ды навошта я табе ўсё гэта гавару? Ты ж не горш за мяне ўсё ведаеш. Упішаш, зразумела, высечку хмызняку па ўсёй даўжыні канавы. Дык ці зразумела?

— Сякі-такі выйгрыш у гэтым, безумоўна, быў бы,— не мог не прызнаць я.

— Тут нешта выйграеш, там нешта, а ў выніку... Справа зроблена — што табе яшчэ трэба? — коратка падрахаваў Кардэн.

Цягнік прыехаў у зону прыгарадных станцый. У вагон увайшлі людзі. Мы змоўклі.

У мяне ўсё ніяк не выходзіла з галавы гэтая размова з Кардэнам. Думаў я пра яе ў цягніку, думаў і пасля. Урэшце няма нічога новага ў тым, што гэтак робіцца. Часткова гэтак зрабілі мы і летась на Каарнаярве. Але там быў надта маленькі аб'ект дый пазапланавы. Нічога дзіўнага, што мы трапілі ў цэйтнот і тады... Аднак браць за правіла халтурныя адносіны да работы, выводзіць цэлую філасофскую сістэму — гэта не месцілася ў мяне ў галаве. «Справа зроблена», як сказаў Кардэн, гэта праўда. Але ў тым і загвоздка, што мне хацелася нечага большага. Я і сам сабе не мог толкам растлумачыць, у чым сутнасць гэтага н е ч а г а . Ва ўсякім выпадку не ў такім вось шаблонным, кустарным падыходзе да справы. І ўсё ж спраўляцца ён спраўляецца, і нават лепей...

Цягнік ужо ішоў па прадмесці. Шкляныя дахі цяпліц блішчалі на сонцы.

Я глядзеў у акно, намагаючыся разгледзець між зялёных кронаў светлы, накрыты бляхаю дах. Ён павінен быць недзе там, злева, але дрэвы засланяюць яго.

Палез у кішэню па цыгарэту, і пад пальцы трапіўся ключ ад кватэры. Дом, Элен. Усё, усё, што сімвалізаваў мне гэты кавалачак металу, гэты знак дамашняй утульнасці і даверу.

Цягнік спыніўся. Памахаў на развітанне Кардэну і заспяшаўся дадому. Яшчэ месяц назад горад не зда-

ваўся такім святочным, як цяпер, у зялёным летнім уборы.

Балота, Кардэн з яго размовамі, здарожанасць — усё адышло недзе далёка-далёка. Думкі і пачуцці затапіла ўзбуджанае чаканне блізкай сустрэчы. Я бяздумна кінуўся цераз вуліцу, ажно таксіст выпусціў мне ўслед абойму праклёнаў.

Ды як падумаў, што апошнім часам нашы адносіны з Элен не вельмі добрыя, дык і хаду прыцішыў. Вось і белы мураваны дом з карычневымі дубовымі дзвярыма. Тут не толькі Элен. Тут жа і мадам Рыйвес...

Мяне апанаваў страх перад невядомасцю. Што чакае мяне там? У нерашучасці я прыпыніўся на вуглу вуліц... Але тут жа зноў заспяшаўся, сціснуўшы ў кулаку ключ.

Дзверы адчыніліся без рыпу. Я ўдыхнуў пах кніг і масцікі.

На пальчыках перайшоў сталоўку, адчыніў белыя дзверы. На мяне павеяла дрымотным цяплом з ледзь улоўным дамешкам духоў.

Элен прыпадняла вейкі і сонная, яшчэ не верачы сваім вачам, радасна ўсміхнулася.

— Ты, цыган! — ласкава сказала яна.— Здымай рукзак!

На мяне найшло п'янлівае адчуванне палёгкі. Усё добра, добра, добра! Я садраў рукзак, прысеў на краечак пасцелі. Потым на пальчыках падкраўся да дзвярэй і двойчы крутнуў ключ...

## III

У зале было шумна, і шум гэты час ад часу заглушалі выбухі смеху. Ад прагартаваных сонцам людзей ішлі пахі ветру, лесу, зямлі, якімі ў полі насыціліся іх адзежа, целы і нават душы. І гэта збліжала, гэта давала магчымасць хутка знаходзіць агульную мову. Я паціскаў рукі — вітаўся з таварышамі.

Ледзь толькі Кардэн паспеў шапнуць мне, што будзе сам намеснік міністра Мяндмаа і што, відаць, гаворка пойдзе пра нешта важнае, як адчыніліся дзверы і ў залу ўвайшоў Мяндмаа з дырэктарам і галоўным інжынерам.

Зала адразу прыціхла.

Я сядзеў наперадзе і разглядаў, вывучаючы, Мянд-

маа. Дзіўны кантраст ужо пасярэбраных скроняў і маладжавага твару. Некалі стройная постаць прыгнута гадамі, у шэрых вачах праглядвалася стомленасць. Дык вось ён які, гэты прызнаны вучоны, аўтар многіх прац, з дапамогай якіх у студэнцкія гады я пранікаў у таямніцы меліярацыі.

Ён пачаў свой даклад неяк няўпэўнена, нібыта музыка, які наладжваў інструмент. Напружанне, што ўзнікла спачатку, спала, і я даў волю думкам.

У зале пасяджэнняў раптам з'явіўся яркі промень. На падлозе каля маіх ног лёг сонечны зайчык. Ён трапятаўся, па-змоўніцку падміргваў, і я міжволі ўсміхнуўся яму. Можа, ён той самы, што раніцаю разам з другімі пранік да нас у пакой скрозь яблыневую крону? Можа, гэта ён скакаў па сцяне, па дыване, па крышталёвай вазе і нават па шчоках Элен, так што Лэпатрыйну мусіла нацягнуць сінюю шаўковую коўдру да самых вачэй? Напэўна, гэта быў ён. Я бесцырымонна наступіў на сонечнага зайчыка. Ён імгненна адскочыў і апераў носік майго чаравіка светлым лыжным раменьчыкам.

Ага, нарада... Наўрад ці паспела Элен расказаць мне ўсе гарадскія навіны. Увесь час успаміналася, што я яшчэ так і не расказаў ёй пра свае справы-клопаты. Нават забыўся сказаць, што ў Рыйтна можна дабрацца і аўтобусам...

Элен вельмі цікавіла маё балота. Усё выпытвала, какетліва вызірала з-пад коўдры, таму што бессаромны зайчык... Элен прыедзе ў Рыйтна-Аоверэ з-за дыпломнай работы. Натуральна, ёй хацелася ведаць, што гэта за мясціна. Цяпер бы я ведаў, што сказаць, а тады...

Чаго я ўвогуле прыйшоў на гэтую нараду? Ды яшчэ задоўга да пачатку. Сам я, можа, і не спяшаўся б, але гэта ўсё Элен з яе ўгаворамі, што хай сабе так і будзе, схадзі, ты ж дзеля гэтага ў горад і прыехаў.

Не, дзеля гэтага мяне толькі в ы к л і к а л і ў горад, але прыехаў я зусім з-за другога. Як няправільна ўсё ж людзі разумеюць адзін аднаго!.. Але... але недзе я чытаў, што слова дадзена чалавеку, каб выказваць думкі...

Сонечны зайчык пабляк і знік. Голас Мяндмаа вярнуў мяне зноў у залу пасяджэнняў.

Голас паспеў змяніцца; ён гучаў, можа, і цішэй, чым дагэтуль, але цяпер у ім была прыцягальная сіла. Змяніўся і сам Мяндмаа, нібыта памаладзеў. У вачах з'явіўся бляск, на твары — адухоўленасць.

І я цяпер выразна адчуў, што гэтак гаварыць здольны толькі той, хто сам папахадзіў па балотах, каго апаноўваў адчай, калі ўпартасць якога-небудзь уладальніка заліўнога лугу перакрэслівала найлепшыя меліярацыйныя праекты. Прыватная ўласнасць!.. Цяпер я верыў у тую анекдатычную гісторыю, што расказвалі пра Мяндмаа. У свой час, каб зламаць супраціўленне аднаго святошы, гаспадара заліўнога лугу, ён выдаў з сябе здань, захутаўшыся ў белую прасціну. І дамогся таго, што праект яго быў ажыццёўлены.

Я з захапленнем слухаў прамову Мяндмаа. Тое, што ён гаварыў пра пошукі новых шляхоў, пра смелыя вырашэнні, было мне вельмі і вельмі блізкае.

Калі ён закончыў, мяне ахапіла прага дзейнасці. Значыць, правільна я зрабіў, што настаяў на сваім, выпростваючы ручай Рыйтна! Значыць, не дарэмныя ўсе бяссонныя ночы. Як увогуле магло тое, што сказаў Кардэн, хоць на імгненне пахіснуць тады мяне?

— А ці павялічыць міністэрства сёлета субсідыі «Меліяпраекту»?

Гэтым пытаннем Сілаотс распачаў спрэчкі і як бы даў ім кірунак. На пярэдні план выступілі розныя фінансавыя праблемы. Я ўвесь проста-такі клекатаў.

Вечна ж выходзіць, што любую больш-менш смелую ідэю галоўны інжынер нацягвае на капыл грашовага пытання. Ды як яшчэ заразіў усіх гэтым! Ці варта было Мяндмаа чытаць свой даклад, калі цяпер абмяркоўваліся расцэнкі і падобнае іншае!..

Я падхапіўся і паспрабаваў зноў скіраваць спрэчкі ў каляіну асушэння балотаў і павышэння ўрадлівасці глебаў. Таму што хоць я і гатовы быў дзвюма рукамі падпісацца пад многімі вывадамі Мяндмаа, я не мог згадзіцца якраз з адною з галоўных яго думак: зрабіць асушэнне балотаў найперш сродкам паляпшэння палёў, што ўжо ёсць. Хіба ж не паўплывае на даўнейшыя палі асушэнне прылеглых балотаў і стварэнне на іх месцы аблогі? У гэты момант я бачыў толькі балотны абшар Рыйтна-Аоверэ і свой грандыёзны праект, які апынуўся пад пагрозаю.

У вачах Мяндмаа зноў загарэўся той дзіўны агеньчык, што асвятляў яго твар у час дакладу. Намеснік міністра ўважліва, зацікаўлена паглядзеў на мяне і толькі потым растлумачыў: ні ў якім разе нельга недаацэньваць асушэння балотаў, але асушаць трэба так, каб найперш была карысць цяперашнім ворным землям.

У мяне на языку круціліся пытанні, але ў нейкім асвятленні я раптам убачыў сябе на вясновай мастацкай выстаўцы і прамаўчаў. Напэўна, я зноў дапусціў нетактоўнасць: улез, не папрасіўшы слова, у спрэчкі, запярэчыў намесніку міністра... У дадатак Кардэн шапнуў мне, што, гаворачы, я сюд-туд адкідаў назад валасы, якія спадалі на лоб. Апошняя заўвага прыбіла мяне канчаткова. Ведаю, што ёсць у мяне дурная звычка: калі гарачуся, рука сама цягнецца да непакорнай пасмы...

Паспрабаваў адразу пасля нарады ўцячы, але Ланг пераняў мяне. Трэба было скарэкціраваць аб'ём земляных работ у алайыгскім праекце, які я складаў, бо...

— Гэта ж на добрыя два дні работы,— запярэчыў я, не даслухаўшы начальніка партыі.

Каб толькі ўцячы, каб найхутчэй уцячы!

— Але ніхто скарэй за цябе не зробіць,— адказаў Ланг.— Ды нічога з тваім Рыйтна-Аоверэ не здарыцца, Вардзья тэхнік спрактыкаваны.

— Добра. Зраблю,— згадзіўся я і хацеў пайсці, бо да нас падыходзіў Мяндмаа. Яшчэ не хапала, каб я стаяў, як пень, і замінаў гэтым дваім тут пагаварыць! Але Мяндмаа падаў мне руку, якую не адразу я ад разгубленасці пацісnуў, і пачаў распытваць пра маю працу, пра планы, пра цяжкасці.

Кінуцца растлумачваць дробныя нелады, і каму, намесніку міністра? З выгіну ручая Рыйтна ці з якога-небудзь тэадалітнага ходу толькі пасмяецца.

Адказаў даволі нязграбна. Але ён уважліва слухаў мяне, і я асмялеў, распаліўся... Раптам на вочы мне трапілася насмешліва вясёлая Кардэнава фізіяномія, і я заўважыў, што зноў ваюю з віхром. Чорт ведае што!

Зірнуў на Мяндмаа, спадзеючыся прачытаць усмешку ў яго вачах. Але нічога падобнага на яе не было ў яго паглядзе. Вочы яго проста свяціліся думкаю, жывою думкаю.

— Вялікае дзякуй, таварыш Ояры,— патрос ён мне руку.— Напэўна, яшчэ сустрэнемся з вамі. Ваш намер, нягледзячы на яго смеласць, даволі-такі абгрунтаваны і правільны. І лішні раз пацвярджае, што да балота таксама патрэбен індывідуальны падыход.

Толькі па дарозе дахаты я добра зразумеў, што Мяндмаа адобрыў маё рашэнне і падтрымаў імкненне шукаць новыя шляхі. І ў мяне крылы выраслі.

Падзеленая радасць — сапраўдная радасць. І за ста-

лом я трымаўся як бяздумны гуляка, вышыты абрус сляпіў белізною, цяжкія сярэбраныя лыжкі здаваліся як ніколі бліскучымі. І ўвесь абед быў пышным святам, якое выдатна спалучалася з маёю нястрымнаю радасцю.

— Але заўтра ты зноў паедзеш? — папыталася мадам Рыйвес.

— Не, цераз пару дзён толькі.

Маці шматзначна паглядзела на дачку. Я сцяміў, што без мяне яны пра нешта гаварылі і гэтае нешта мае дачыненне таксама да мяне. Дык вось чаму Элен была такая рассеяная...

Мадам Рыйвес узяла нітку размовы ў свае рукі, і тут пачало высвятляцца, які я няўважлівы і абыякавы да Элен. Другія едуць на дачу, а Элен сядзі ў горадзе або цешся, калі часам надарыцца выехаць на прыроду, таму што замужняй жанчыне не гадзіцца адной выпраўляцца ў падарожжа па Каўказе ці, скажам, у Крым. А Элен усё адна...

— Гэты недахоп папраўляецца з кожным днём,— бесклапотна заўважыў я.— Як толькі пачнуцца канікулы, Элен прыедзе да мяне ў Рыйтна-Аоверэ і...

Па твары Элен я зразумеў, што зрабіў прамашку. Бровы мадам Рыйвес здзіўлена ўскінуліся ўгору, і яна запытальна глядзела то на мяне, то на Элен.

— Што гэта значыць?

— Я не хацела дарэмна цябе трывожыць, але калі ўжо Андрэс прагаварыўся... Праўда, паеду туды збіраць матэрыял на дыпломную работу,— сказала Элен.

— У гэты закутак?.. Які гэта матэрыял можна там сабраць? Мастацтва — гэта краса, гэта нешта прыгожае, што павінна зачароўваць... Там ты і не паясі як чалавек, прастудзішся... Не, не, нічога не выйдзе!.. А ты які, Андрэс, сам інжынер, але ты толькі зірні на свае рукі! Хіба гэта інтэлігентавы рукі? У мазалях, пальцы ў сіняках, пазногці пазаломваныя... Дзеля чаго ты ўвогуле ва універсітэце вучыўся? Чалавека адукаванага павінны карміць яго веды. Прафесар Рыйвес працаваў толькі ў сваім кабінеце ці ў бібліятэках. Нават абедзве свае замежныя паездкі зрабіў выключна дзеля самаўдасканалення ў славутых цэнтрах. Рым, Парыж, Пампея. А ехаць з горада ў балота?..

Гэта ўжо чапала маю работу. Мне раптам убачыўся мой бацька, як ён стаяў у рудой балотнай вадзе, і я спахмурнеў. Паспрабаваў абараніць набытую прафесію. Але чым далей, тым болей відаць было, што ў вачах

мадам Рыйвес інжынеры, меліяратары і іншыя «работнікі чорнай працы» былі людзьмі як бы другога гатунку. Каб сядзелі яны проста ў горадзе і складалі праекты, ну, тады б яшчэ, можа, і залічылі іх да інтэлігенцыі. А так...

Я выклаў свой апошні козыр — Мяндмаа.

— Дык гэта ж быў дзівак, якіх пашукаць. Газеты доўга кпілі з яго, калі ішоў той... працэс зданяў.

Я змоўк. Дый што скажаш, калі і цябе, з усяго відаць, дзіваком лічаць. Я панура слухаў, як мадам Рыйвес кінулася ў даўно вядомыя ўспаміны пра сваю кар'еру мастачкі, што не здзейснілася: «У мяне не было магчымасці вучыцца жывапісу, хоць і марыла. Спачатку працы прафесара Рыйвеса на званне магістра і доктара навук, потым клопаты з будаўніцтвам дома. Усё хацелася, каб ты, Элен, гэтых клопатаў не ведала. Цяпер ты мастачка, а... Я не разумею...»

Затое я выдатна разумеў, што ўдар быў накіраваны супраць паездкі ў Рыйтна-Аоверэ, і сам сабе дакончыў фразу: «...што прыгожае ці вартае ўвагі можна знайсці на балоце?»

— Разумею, калі б ты намалявала карціну, на якой палымнелі ўсе фарбы вячэрняга неба,— прадаўжала яна з незвычайнаю ў яе цеплынёю ў голасе.— Возера, у якім плывуць воблакі. Пранізаныя промнямі сонца прысады, карункавы цень лісця на жвіры...

— Ты ж гаворыш пра свае вучнёўскія «Ліпавыя прысады», за якія мастак Раасалу тады цябе пахваліў,— сказала Элен.

На імгненне мадам Рыйвес нібыта анямела, але потым зноў стала звычайная — спакойная, паважная.

Я ведаў, што бацька Ээрыка Раасалу, як быў студэнтам вышэйшага мастацкага вучылішча, даваў урокі ў гімназіі, дзе вучылася маці Элен. Я нават бачыў гэтую акварэль з намаляванымі ліпавымі прысадамі. Але нічога асаблівага там не было, і мне заставалася загадкаю, чаму мадам Рыйвес так часта гаворыць пра яе. У той час я яшчэ не разумеў, што мне не пад сілу надзяліць гэтую штучку ўспамінамі, ад якіх нават самая звычайная шэрасць набывае паэтычнасць і хараство.

Увесь час капаўся ў памяці, шукаючы ў ёй «дзівакоў» з навукі і тэхнікі. Не мог забыцца, як мадам Рыйвес выказалася пра Мяндмаа. У галаве мільгалі імёны славутых людзей, якія часта цаною свайго жыцця сцёралі адну за адною белыя плямы з геаграфічных картаў.

У іх хіба была магчымасць раз-другі на месяц завітваць дахаты?

Імя Раасалу шарганула па маіх роздумах, як рашпіль, садраўшы накіп часу з непрыемных успамінаў. Сэрца сціснулася ад пакутлівай невядомасці.

Я быў гэтак запалонены сваімі думкамі, што, калі Элен папыталася, ці дадуць мне ўлетку хоць два тыдні адпачынку, я не адчуў падману. Пытанне, ведама, было задумана як стратэгічны ход, нібыта ўступка, каб зноў адцягнуць прыезд у Рыйтна-Аоверэ, у тыя невядомыя далі, якія я незнарок адхіліў перад ёю.

Мне дык здалося, што Элен таксама хоча адарваць мяне ад працы, якая мне так многа значыла, была мне ўсім. Я даволі рэзка адказаў, што сапраўдны меліяратар адпачывае зімою. І калі мадам Рыйвес зноў узялася шкадаваць бедалажку Элен, якая ўсё адна ды адна, мне прыйшла ў галаву выдатная думка.

— Якая ж гэта адзінота,— заўважыў я.— У наш час далёкасць адлегласці страціла значэнне. Другая справа — душэўная аддаленасць. Можна гадамі жыць побач пад адною страхою і ўсё роўна адчуваць, што вас раздзяляюць тысячы светавых гадоў.

Мадам Рыйвес коса зірнула на мяне, устала і пайшла ў свой пакой.

«Ага, пацэліў»,— крыху пазларадніча́ў я, але ўсё ж было няёмка. Урэшце хіба яна вінаватая, што мы па многае глядзім па-рознаму?

— Ты ж прыедзеш, Лэпатрыйну? — папытаўся я, калі мы з Элен зноў асталіся адны.

— Не! — сказала яна і рэзкім сярдзітым жэстам як бы падкрэсліла сказанае.— Навошта ты гэта зрабіў? Спярша выбалбатваеш сакрэт, а потым... Цяжка было сказаць, што пару нейкіх тыдняў адпачынку ты напэўна атрымаеш?.. Пайду, буду малявацц «Ліпавыя прысады»,— капрызна выпаліла яна.

У тую хвіліну Элен была такая падобная на сваю маці, быццам не яна, а мадам Рыйвес вымаўляла гэтыя словы. І раптам я зразумеў, што Элен жыве мацерыным жаданнем, хоча здзейсніць яе мары. Яна як кветка, што расце ў гаршку пад шклом. Святла, паветра, пажытку — усяго даволі. Але калі яна не пасуне ўбок шкло, дык будзе крывая...

— Элен, любая! Не можам мы жыць марамі сваіх бацькоў. У часы іх маладосці і погляды, і ідэалы, і сродкі, і магчымасці — усё ж было інакшае. У нашага па-

каленняя свае мары, мы павінны абараняць іх, каб нашчадкі не асудзілі нас.

— Высокія словы... Дык жа асушыць Рыйтна-Аоверэ была мара бацькі твайго!

— Ёсць і твая праўда, але... мара яго апярэджвала час. Гэта як мара Леанарда да Вінчы пра самалёт або...— Я так і не знайшоў другога параўнання і вярнуўся да блізкай мне тэмы: — І бацька перш-наперш думаў усё ж пра сваё Саасерва, а я — пра ўсё балота. Справа гэта і цяпер патрэбная. А каму патрэбна карціна з ліпавымі прысадамі, калі яе зрабіць так, як... Ну, як казалася. Гэтая мара збылася і памерла разам са сваім часам.

— Мастацтва і паэзія неўміручыя.

— А я і не спрачаюся. Але бачыць іх нейкімі прыхарошанымі, як нейкія азёры ці прысады?.. Маці — чалавек свайго часу, яе, безумоўна, трэба зразумець, але...

— Добра, што ты хоць пару дзён зможаш пабыць тут,— сказала Элен.

Я не зразумеў, чаму яе думкі раптам пераскочылі на другое. Але ў яе словах мне пачулася цікавасць да мае працы, і я загаварыў пра свае планы, пра мары, якія хочацца ажыццявіць на балоце Рыйтна-Аоверэ...

Элен слухала. Яе вялікія карыя вочы нібыта яшчэ пабольшалі.

— Так добра, калі ты тут,— вымавіла яна задумліва.— А калі цябе няма, дык іншы раз такія думкі апаноўваюць, што проста не ведаеш, што і рабіць.

Папытацца пра гэтыя думкі я не адважыўся. Я здагадваўся, што наўрад ці абрадуюць яны мяне. Дужа моцна сядзіць у нас інтуітыўны страх перад болем, мы заўсёды гатовыя адкласці да заўтра тое, што пагражае парушыць закасцянелы рытм нашага жыцця.

— Дурненькая, чаго бедаваць? Перабудзецца! Ты ж прыедзеш да мяне ў Рыйтна-Аоверэ?

— Пайду маляваць свае «Ліпавыя прысады»,— прашаптала яна з усмешкаю.

Я прыгарнуў яе да сябе. Адчуў праз адзенне цяпло яе цела і прачытаў у карых вачах, што яна прыедзе.

* * *

Я вярнуўся ў Рыйтна-Аоверэ. Знайшоў сваю брыгаду на адной з канаваў, што ўпадаюць у рэчку Мудаку, і быў здзіўлены: я не чакаў, што за некалькі дзён мае адлучкі яны паспеюць так многа зрабіць.

Рабочыя перапынілі работу, распыталіся пра гарадскія навіны. Было відаць, што мяне чакалі, і на душы стала па-хатняму ўтульна. Коратка расказаў пра нараду.

— Рушым далей! — крыкнуў Вардзья.

Работа закіпела.

Я не верыў сваім вачам. Потым заспяшаўся да апошняга пікетнага калка.

— Гэй, пачакайце! — гукнуў я рабочых, якія ішлі да рэчкі.

Яны спыніліся, азірнуліся.

— Як вы дадумаліся разбіваць пікетаж па цячэнні? — маё пытанне не было адрасавана каму-небудзь аднаму, але ўтаропіўся я на Вардзья, ажно той некалькі крокаў ступіў наперад. Ён не паспеў яшчэ нічога адказаць, як Стары выключна натуральна сказаў:

— Калі кожны раз пачынаць ад рэчкі, дык чорт ведае колькі разоў давядзецца хадзіць улегцы. А так што ні ступіў — усё бліжэй да месца. Адну канаву вядзеш уніз, да рэчкі, другую — уверх.

Я адразу сцяміў, у чым сакрэт дзіўных поспехаў брыгады за апошнія дні.

— Не хадзіць улегцы,— безумоўна, правільна,— прымусіў сябе вымавіць спакойна,— але кожны пікетаж пачынаюць ад вусця рыштка супраць цячэння. Давядзецца ўсё перарабляць.

— Гэта ж чорт ведае што, нейкая школьная мудрасць,— зазлаваўся Стары.— Рэчку, ручай, магістральную канаву — іх пікетуюць супраць цячэння. Такія там рыштокі — жылкі канаў. Памятаеш, Вардзья, у Суурсоа мы рабілі гэтаксама. Сам Сілаотс прымаў работу і хоць бы паўслова сказаў. А так што заробім, калі па паўдня будзем па балоце шлындаць?..

Усплыў у памяці выгін ручая Рыйтпа, усплыла размова з Кардэнам у цягніку па дарозе ў горад. Урэшце мне таксама хочацца, каб мая брыгада была найлепшая, каб рабочыя зараблялі болей за другіх. Толькі так я змагу здзейсніць задуманае, тое, за што Мяндмаа з падзеяй ціснуў мне руку. А сам Мяндмаа? Якія толькі хітрыкі ён не ўжываў, каб ператварыць у жыццё свой праект! Ці не папракнуць потым мяне, калі я заплюшчу цяпер адно вока? Дый канавы гэтыя ў маім праекце маюць не такое ўжо вялікае значэнне. Трэба ўмець у імя галоўнага глядзець скрозь пальцы на дробязі.

— І ў Суурсоа абышлося? — хутчэй для супакаення сябе папытаўся я ў Вардзья. Атрымаўшы адказ, што ніякіх нараканняў не было, я скарыўся.

— Добра, канчаем,— сказаў ціха і разам з усімі пакіраваўся да рэчкі.

Нешта ў душы маёй пратэставала. Але падумаў пра Кардэна, пра заробкі і заглушыў гэты пратэст. «Справа зроблена»,— прыгадаліся Кардэнавы словы. Ува мне прачнулася непадатлівасць, быццам перад нейкімі невядомымі ворагамі. Я не хачу, каб у маёй брыгадзе зараблялі меней за ўсіх! Яшчэ чаго добрага рабочыя пачнуць уцякаць у другія брыгады...

Раптам прыйшла мне думка: ашаламлю вось брыгаду ростам матэрыяльных прыбыткаў! Папраўдзе, дык гэта хабар, і з часам ён выявіцца. Калі цяпер налегчы на даражэйшыя работы, дык потым... Але брыгада хоць месяц паходзіць у перадавіках установы, і заробкі ў ёй будуць вышэйшыя, чым у другіх, можа, гэта і натхніць?.. Думка спакуслівая і...

Два тыдні засаб я толькі тое і рабіў, што пракладваў трасы. Гэта былі грашавітыя работы, і вечарамі прыемна было падлічваць пройдзеныя кіламетры, пастаўленыя вехі і пікеты, якія азначалі грошы — храбусткія сторублёўкі. На пачатку трэцяга тыдня я ўжо мог паведаміць брыгадзе, што мы зарабілі болей, чым за ўвесь мінулы месяц. Радасныя фізіяноміі Вардзья і Старога гаварылі самі за сябе, аКівімаа, як заўсёды, быў абыякавы.

Але з яго абыякавасцю мы звыкліся. Вардзья лічыў, што яна нібыта нават пасуеКівімаа. Таму я вельмі здзівіўся, калі ў канцы месяца ён раптам ўзрушыўся.

Гэта здарылася звычайным летнім днём, калі было ў меру і сонца, і воблакаў, і ветру, і заціша, адным з тых дзён-пацерачак, якія з-за свае звычайнасці якраз і нанізваюцца, не запамінаючыся, на каралі будняў.

У той дзень мы давялі пікетаж да Саасерва і зрабілі тут перапынак на полудзень. РаптамКівімаа пачаў узірацца ў наваколле, змахнуў хлебныя крошкі з губ, устаў і, ні слова не кажучы, пакіраваўся да невысокага пагорка метраў за дзвесце ад нас. Час ад часу ён прыпыняўся, кідаў дапытлівы пагляд на стужку шашы, якая вілася па схіле пагорка, азіраўся на Саасерва і зноў наспешліва ішоў наперад.

— Якая муха яго ўкусіла? — выгукнуў Стары.

— Хто яго ведае,— ляніва адмахнуўся Вардзья і ніцма лёг у траву. Стары зрабіў гэтаксама.

Я як сядзеў, так і астаўся сядзець на падмурку хаты і глядзеў, якКівімаа дайшоў да пагорка, уважліва паглядзеў пад ногі, нахіліўся і падняў нешта.

Я не выцерпеў. Падняўся і пайшоў да пагорка.

Там, здаецца, была ці то канава, ці то нейкая яма. Толькі падышоўшы зусім блізка, я распазнаў у гэтай калдобіне рэшткі зараслага травою кулямётнага гнязда. Не дзіва, што Саасерва ў вайну згарэла...

— Што ты знайшоў? — гукнуў яКівімаа і толькі тут заўважыў, што ён усхваляваны нечым, што ён увесь ахоплены невытлумачальным неспакоем, ад якога не стаіцца на месцы, якое прымусіла скокнуць у акоп і калупнуць носікам гумовага бота сценку.

— Паглядзі! — выставіў ён руку. На далоні чарнела гільза ад патрона.

Я разгледзеў яе хутчэй з ветлівасці, чым з цікавасці, і аддаўКівімаа. Мяне болей цікавіў сам узгорак. Калі пачнём здымку рэльефу, дык наўрад ці знойдзецца лепшая мясціна пад мензулу. Навокал роўнядзь, відаць дарога, што вядзе да магазіна...

З-за воблакаў вызірнула сонца, усё навокал заіскрылася, рэзка выступілі цені.Ківімаа зняў шапку; стаяў ён гэтак, што асветлена была палова твару. Тоомас рассеяна, невідучым позіркам глядзеў на гільзу ў сябе на далоні. Я пачуў, як холад страху пралез у душу, быццам перад блізкаю небяспекаю.

— Пра што думаеш, Тоомас? — ледзь выціснуў я, каб нечым развеяць Тоомасаву маркоту. І мы пайшлі адсюль.

— Думаеш... думаеш...— паўтарыў ён механічна і раптам паглядзеў на мяне.— А што, калі куля, якая сядзела ў гэтай гільзе, прадзіравіла мне бок?

Я міжволі здрыгануўся.

— Недзе тут гэта здарылася,— вымавіў ён, гледзячы ў бок дарогі.— Толькі цяпер не памятаю мясціны, не памятаю... Ну і дурны ж я быў! У Курляндыі расстралялі ўсе касеты, калі паведамілі, што Германія капітулявала. Думаў, канец вайны — гэта і канец барацьбы.

Я яшчэ на нейкае імгненне ўбачыў яго твар, вочы, у якіх адбілася хваляванне, як рабізна на спакойнай роўнядзі стаўка.

«Тут ён ваяваў. Тут ён быў ранены. Каля самага парога мае бацькавай хаты...» — стукала ў галаве. Я ба-

чыў, што яго вочы не такія, як заўсёды, і ў душы маёй калыхнулася цьмяная здагадка: можа, і свет у гэтых вачах зусім не такі, як у маіх.

Моўчкі я прыпусціў заКівімаа, які, здавалася, уцякаў ад нечага таямнічага і жахлівага.

Усю другую палову дня я мазгаваў, што ўсё гэта значыла. Але вечарам, вярнуўшыся на цэнтральную калгасную сядзібу, убачыў пісьмо ад Элен. Яно было кароткае, відаць, пісалася наспех. Адным духам прачытаў яго.

На табе! Яна не прыедзе... Хоць адкрыта пра гэта не гаворыць, але ж гэтым пісьмом яна проста падрыхтоўвае мяне. А ў другім...

Я быў расчараваны. Упершыню адчуў, што тырчу тут не так дзеля н е ч а г а, як дзеля н е к а г а.

Ківімаа забыўся мне. Пісьмо Элен было нібыта акно, праз якое ў мае думкі ўварваліся нявырашаныя праблемы таго свету, у якім жылі Элен, Раасалу і мадам Рыйвес.

Калі начальнік партыі прыехаў закрываць нарад на работу, мяне ўжо цікавіў не так заробак, як магчымасць з'ездзіць у горад. «Памяняць кашулю»,— як у нас казалі. Гэты раз паехалі ўсёю брыгадаю.

Я ішоў змрочнымі вуліцамі. У горадзе таксама ў разгары было лета. Сплёўшыся высока ўгары, голле каштаноў па абодва бакі вуліцы ўтварала як быццам шацёр. У гэтай зялёнай калоннай зале было ўдушліва цёпла. Калі я дайшоў да вугла, з вулачкі раптам павеяла такою прахалодаю, ажно ў дрыжыкі кінула. Гэты парыў ветру быў як вястун восені, якая паведамляла, што ўсю гэтую бучную красу ўжо крануў тлен.

У нашым пакоі свяцілася акно. Каля самых дзвярэй у мяне прарвалася хваляванне і трывога няведання, ажно двойчы не мог я пацэліць ключом у замок...

Элен войкнула і ўскочыла з канапы, калі я, з рукзаком за плячыма, стаяў у дзвярах.

— Ты!.. Як ты мяне напужаў! — вымавіла яна, зноў апускаючыся на канапу.

— А ты мяне! — выгукнуў я.

Шчака ў Элен была абадраная, левая рука забінтаваная.

— Што здарылася?

— Глупства. Проста ўпала,— супакоіла яна, гледзячы міма мяне. Карыя вочы яе ў гэтую хвіліну здаваліся насцярожанымі.

Над намі навісла нейкая адчужанасць. Балбочучы пра ўсё на свеце, я вельмі добра разумеў, што ўсё гэта пустое. І Элен адказвала мне тым самым, пакуль нарэшце мы абое не змоўклі.

Я адчуваў сябе плыўцом, які трапіў у вір і змагаецца за жыццё, сілячыся адплысці як мага далей ад сярэдзіны ямы, але дарэмна толькі траціць сілу замест таго, каб смела паставіць усё на карту — нырнуць у самы вір і выплысці з дапамогаю якога-небудзь падводнага цячэння.

— Чаму ты не прыехала? — парушыў я нарэшце пакутлівае маўчанне.

Элен не адказала. Паволі ўзяла яна некалькі блакнотных лістоў. Накіды парку адпачынку. Фантан, сажалка, павільёны. Скрозь постаці людзей — як ілюстрацыі. Зразумела, па форме ўсё сучаснае, новае, аж да крывава-чырвоных транспарантаў. Але паводле зместу — не што іншае, як тыя самыя наіўныя «Ліпавыя прысады», якія фанабэрацца сваім харастовом.

— Што казаць,— безнадзейна махнуў я рукою.

— Не гавары так! — Элен раптам устала, узяла мяне за рукі.— Я ж хацела прыехаць, але...

І зноў я апярэдзіў яе адказ сваім паспешным пытаннем:

— Мама?

Элен кіўнула. Я ўзяў яе галаву ў рукі.

— Не перажывай, любая. Сёння сяк-так, а заўтра з блінамі,— супакоіў я, хоць і разумеў, што гавару зусім не тое, што трэба.

— Ненавіджу словы,— прашаптала Элен. Гэта было сказана ціха, але з такою шчырасцю, што пагардлівасць тону брала за душу. У яе шэпце нічога не было ад штучнага навакольнага свету, які, хочам мы таго ці не, уплывае на нашы характары, адбіваецца на жэстах і нават на манеры гаварыць. У гэтым шэпце нібыта зліліся ўсе шэпты, што вымаўлялі чалавечыя вусны з даўніх часоў, і ўсё ж ён быў адзін, у ім я пазнаў Элен той нашай бяздумнай вясны.

Яна ўпарта адпіхнула мае рукі, якія лашчылі яе, і я, забыўшыся пра ўсё, з сілаю схапіў яе за локці. Але цяпер яна ўжо не вырывалася, яна сама з шалёным адчаем абняла мяне. Яе вочы загарэліся агнём, у якім перамяшаліся страх, сорам, бязлітаснасць і перамога. Гэтыя вочы і ў цемені стаялі перада мною...

Разам з раніцаю ў пакой прыйшла і вячэрняя адчу-

жанасць. Здавалася, думкі Элен заняты нечым незразумелым мне і небяспечным.

Не, раніца не дала бліноў. Я адчуваў, што наўрад ці змагу піць каву за адным сталом з мадам Рыйвес. Ліпавыя прысады!.. Не, не! Схлусіў, што спяшаюся ў «Меліяпраект», і, не паеўшы, уцёк з хаты.

Бязмэтна блукаў па вуліцах, каб не дужа рана заявіцца ва ўстанову. Зайшоў у кавярню, але пах булачак здаўся прытарным, і я выйшаў...

У «Меліяпраект» усё ж прыйшоў я вельмі рана. Прыпыніўся ў калідоры перад табліцаю сацспаборніцтва брыгад. Мая была першая, Лепава — другая. І разрыў вялікі як у аб'ёме выкананых работ, так і ў заробку.

— Прывітанне, Ояры! Што, новыя паказчыкі вывесілі?

Гэта быў Леп.

— Уга, добра папрацавалі,— заўважыў ён, вывучыўшы табліцу.— Сапраўды, Рыйтна-Аоверэ вялікі аб'ект, ёсць дзе разгарнуцца!

— Як пашанцуе,— сказаў я, абы ўвогуле што-небудзь сказаць, каб на фоне гэтакай сціпласці мая перамога здавалася яшчэ ярчэйшаю.

— Можа, і праўда,— згадзіўся Леп і гмыкнуў ад нечаканай думкі: — Як кажуць, каму не шанцуе ў каханні, таму шанцуе ў карты.

Я ўпіўся вачыма ў вуглаваты Лепаў твар. Гэта што, намёк ці знявага?.. Але выраз яго нічога мне не сказаў.

І ўсё ж заўвага закінула ў маю душу апаску. Седзячы потым на вытворчай нарадзе, дзе героем дня была мая брыгада, я спадылба паглядаў на супрацоўнікаў, спрабуючы разгадаць іх думкі. Успомніліся вочы Элен, учарашняя ноч... Мне ўжо здавалася, што свет, які мяне акружаў, хлуслівы, што ён радаваўся ад таго, што я блукаю ў поцемках невядомасці і падазрэнняў.

Мая фантазія давала пажыву ўсім сумненням, а ў іх і была прычына, чаму я, атрымаўшы зарплату, згадзіўся «абмыць» яе. Выбраць на гэта куток было няцяжка — безумоўна, «Еўропа», самы шыкоўны рэстаран у горадзе.

— Пойдзем, хоць нарэшце зноў па-людску пасядзім,— абгрунтаваў прынятае рашэнне Стары. І ў гэтым была рацыя.

Урэшце мы адно толькі і ведалі — штодзень гарбелі. Цягнулі стальную стужку, заганялі калкі, мясілі гразь,

рамантавалі гумовыя боты, сушылі анучы, жавалі хлеб і кансервы... «Я быццам рамізніцкі конь,— растлумачыў аднойчы Стары,— варта мне костачкі размяць, дык памчуся, што толькі трымайся...» Чамусьці ў памяці ўсплыла іменна гэтая фраза Старога, і іменна тут, у кутку, які надзвычай адрозніваецца ад нашай рэзідэнцыі ў Рыйтна-Аоверэ. Праўда, раскладушкі, тумбачкі, дзве лаўкі — сякое-такое абсталяванне, але і яно не магло выгнаць з памяшкання духу запусцення. І, як ні дзіўна, я адчуў такое самае запусценне тут, хоць «Еўропа» не так сабе называецца рэстаранам-люкс.

На стале паявіліся першыя бутэлькі. Аркестр завабліваў пары на танцпляцоўку. Рэзкасць ценяў скрадвалася святлом матавых лямпаў.

Усё было гэтаксама, як і тае зімы, калі мы трапілі сюды з вясёлаю кампаніяй мастакоў. Я пад сталом сціснуў руку Элен і ўбачыў, як у яе вачах адбілася мая бязмежная радасць. І калі вёў яе танцаваць, мне здавалася, што ўсе ў зале праводзяць нас добразычлівымі паглядамі і шэпчуць: «Паглядзіце, паглядзіце на гэтых маладажонаў!» І агні, хітравата пераміргваючыся, шапталіся пра тое самае, і скрыпка спяшалася расказаць пра гэта піяніна і кантрабасу. А цяпер?.. Каму не шапцуе ў каханні...

Я піў, каб адагнаць тугу, якая ўпаўзала ў сэрца. Але алкаголь толькі ўзмацняў яе.

Вардзья танцаваў ужо не першы танец. Стары ляпаў мне па плячы і ўсё чоўп — наша брыгада ды наша брыгада, яна яшчэ пакажа, як трэба нівеліраваць балота. Нарэшце ён падняўся і, лавіруючы між танцорамі, стаў прабірацца да буфета.

Мы асталіся зКівімаа ўдвух. Было відаць, што і яму ад пітва не стала весялей. Настала тое няёмкае маўчанне, калі адчуваеш, што з ветлівасці трэба было б нешта сказаць, але ўжо наперад саромеешся недарэчнасці таго, што будзе сказана, і маўчыш.

— Тоомас!

Да нашага століка ішоў мужчына ў шыкоўным вячэрнім гарнітуры, выставіўшы абедзве рукі для прывітання. Гэта былі тонкія, з моцнымі пальцамі, зграбныя рукі, якія выказвалі інтэлігентнасць і волю. Маладжавы твар яго выяўляў радасць і хваляванне.

— А, Эндэль,— з напускною абыякавасцю адазваўсяКівімаа і кіўнуў на свабоднае крэсла. Не ўстаючы, ён пацiснуў мужчыну руку.— Садзіся.

— Вы мне даруйце, што няпрошаны ўварваўся ў вашу кампанію, але...

— Доктар Вахер — інжынер Ояры,— перабіў ягоКівімаа. Мы парукаліся, і Вахер сеў.

Зноў настала маўчанне, але ў ім цяпер было нейкае невытлумачальнае напружанне.

— Калі ж ты зноў пачнеш лячыць? — парушыў маўчанне доктар.

— Другіх?.. Спачатку трэба вылечыць самога сябе,— іКівімаа наліў чарку.— Вось іменна, сябе...

Усё гэта было сказана такім дзіўным тонам, што немагчыма было зразумець, што гэта значыць.

— Вылечыць сябе,— гмыкнуў доктар Вахер.— Ты што ж, хворы?

— Можа, цяжэй, чым ты думаеш. А таму што я сам доктар ці, па крайняй меры, быў ім, дык я не маю нават тае маленькае ўцехі: папрасіць дапамогі ў цябе ці ў тваіх калег. Я сам паставіў сабе дыягназ і сам прыпісаў лячэнне.

— Які ж ты цяпер маеш занятак?

— Асушаю балота.

Вахер перасмыкнуўся, як ад успамінаў пра нешта непрыемнае. І я зразумеў, што гладкая гамонка хавае пад сабою чорную бездань, тайну якое ведаюць толькі яны двое.

— Я разумею, ты быў тады ў адчаі, Тоомас, але... Усё гэта цяпер мінулася. І чатыры страчаныя гады — не ўсё жыццё. Звязаць канцы разарванай ніткі дзіва што можна.

— Тэарэтычна, ведама... Як тэарэтык ты быў моцны ўжо ў студэнцкія гады. Ну, а што, калі канцы агрубелае ніткі зрабіліся ломкім дротам?

— Ты павінен забыць... Errare humanum est... [1]

— Забыць не заўсёды значыць... даравацы! — адрэзаўКівімаа.

Зноў наступіла маўчанне, але ў ім ужо не было колішняй пераднавальнічнай наэлектрызаванасці. Яно хутчэй нагадвала навальніцу, якая ўлягалася, калі яшчэ жыхаюць маланкі, грукоча гром, лупасіць дождж, але гарызонт удалечы праясніўся і на душы ў цябе наступае супакаенне.Ківімаа сказаў, відаць, болей, чым хацеў, бо выгляд у яго быў нейкі збянтэжаны, па Вахеравым твары прабегла ўсмешка.

---

[1] Чалавеку ўласціва памыляцца *(лац.)*.

— Добра, Тоомас! Час разважыць. Па крайняй меры я цяпер ведаю...

— Што ты ведаеш? — падняў галавуКівімаа.

— ...што ядро ў табе асталося колішняе, а болей пакуль і не трэба. Мы яшчэ сустрэнемся. Свет надта ж цесны. Бывайце!

Ківімаа сядзеў, падпёршы шчокі рукамі, потым паглядзеў на мяне.

— Чорт! Так добра Фучык такіх людзей ахарактарызаваў. Пакуль ты валтузішся ў вадзе, стараючыся не пусціць бурбалак, яны спакойна пазіраюць з берага. А калі выплывеш-такі, яны бягом бягуць віншаваць.

Па праўдзе кажучы, мне не здалося, што Вахер такі. Але ўрэшце, што я пра ўсё гэта ведаю?.. Тым часам аркестр аб'явіў перапынак. Паявіўся Вардзья, вярнуўся і Стары з адкаркаванаю пляшкаю каньяку.

— Ідзеш, як запрошаны,— вітаў ягоКівімаа. Ён паліў фужэр каньяку і асушыў яго.

Сустрэча з Вахерам развярэдзіла ў ім нешта ліхое. Ён стаў піць механічна, без аглядкі. Было шкада і неяк страшна бачыць, як чалавек свядома сябе знішчае. І ўсё ж я адчуваў, што спыняць яго не трэба. Старому і Вардзья сказаў вачыма, каб маўчалі.

— Пайдзі, выкліч таксі,— шапнуў я Вардзья.

Ківімаа не стаў працівіцца, калі я ўзяў яго пад руку і павёў за сабою.

— Вуліца Куру, чатырнаццаць.

Машына кранулася. Міма паплылі асветленыя вітрыны магазінаў, каляровыя агні рэклам. Раптам неонавы водбліск упаў наКівімааў твар. Апушчаныя павекі, вытыркнуты падбародак на нейкае імгненне набылі ліловае адценне... Я міжволі здрыгануўся.

— Пачакайце,— папрасіў я таксіста, калі машына прыпынілася на адной з вулачак прыгарада перад двухпавярховым светла-карычневым домам, які здаваўся надта ўжо непрыкаяным.

Я ўвёўКівімаа ў калідор. Памацаў у кішэнях запалак, каб па спісе жыхароў паглядзець, у якой кватэры ён жыве. Нечакана адны з дзвярэй адчыніліся і ў калідор упала яркая палоса святла. У дзвярах стаяла сівая жанчына.

— Даруйце, дзе тут жыве ТоомасКівімаа? — папытаўся я, адчуваючы няёмкасць, быццам гэта мяне самога, п'янага, як гразь, прывезлі дахаты.

— Тоомас! Як жа ён гэта...— Жанчына падхапіла

Ківімаа пад другую руку, і мы правялі яго цераз кухню, у якой пахла смажаным, цераз пакой з люстрам, шафаю і старамоднаю камодаю ў кабінет. Пісьмовы стол, ложак, канапа, кніжныя паліцы, крэслы, радыё — усё па якасці амаль выдатнае. Тут было хутчэй цесна, чым прасторна, усё чыста і прыбрана, але нягледзячы на гэта ад кабінета веяла лёгкім смуткам.

Мы знялі зКівімаа пінжак, паклалі Тоома на ложак. Ён спаў як забіты. Я падсунуў пад ложак яго туфлі, тым часам старая накрыла яго коўдраю, адгарнула з лоба валасы.

Па гэтым руху я зразумеў, што гэтая жанчына — Тоомасава маці.

Мне зрабілася яшчэ болей няёмка. Прамармытаў смехатворнае апраўданне, што нібыта ў Рыйтна-Аоверэ з Тоомасам ніколі нічога такога не здаралася.

— Я ведаю,— сказала яна спакойна і паглядзела на мяне стомленымі разумнымі вачыма.— Мусіць, здарылася нешта, калі ўжо ён гэтак напіўся... Ён быў у мяне заўсёды добрым сынам, хоць апошнім часам... Ну але, жыццё ўсіх нас перакройвае па-свойму. Дзякуй, што прывезлі дахаты.

Усё, убачанае тут, так прыгняло мяне, што дзе ўжо там было стрымаць слова, абяцанае Вардзья,— вярнуцца ў «Еўропу». Я сеў у таксі і назваў шафёру свой хатні адрас.

Мае думкі ўсё яшчэ кружыліся ваколКівімаа. У яго ёсць жытло, прафесія... Доктар Вахер клікаў яго назад. З іх размовы было відаць, штоКівімаа ў сваёй справе быў неблагім спецыялістам... І ўсё ж ён бадзяецца па балотах, дзе яго веды нікому не патрэбныя. Ён сказаў, праўда, што забыць не значыць даравацъ, а потым піў іменна дзеля таго, каб забыць... З кім ці з чым ён змагаецца?..

У мяне трохі адлегла ад душы. Хай сабе я і не ведаю, што гняцеКівімаа, але ён мне стаў неяк бліжэйшы з-за гэтай сваёй унутранай барацьбы. Абыякавасць, ад якой я шалеў, нават тая яго фанабэрыстая ўхмылка, калі я без толку малоў пра меліярацыю,— усё здалося дробязным і нікчэмным. У змроку таксі мне толькі бачыўся змардаваны твар, які мільгануў у мяне перад вачыма ў святле неонавай рэкламы.

Я засумаваў, успомніўшы, што ўКівімаа ёсць маці. Па крайняй меры хоць адзін чалавек, у якім можна быць упэўненым. Наўрад ці яна разумее ўсю сур'ёз-

насць таго, што мучыць яе сына. Але яна верыць у сынаву праванасць, а калі ў цябе нехта верыць... О-о, гэта ляжыць у вытоку многіх здзяйсненняў.

Я адчыніў дзверы ў кватэру і адразу апынуўся ў яркім электрычным святле. Элен стаяла, трымаючы руку на выключальніку.

Яна вытрашчылася на мяне, і ў вачах у яе застыла трывога і страх.

— Ну, пасядзелі крыху з хлопцамі ў «Еўропе». Нядобра ж было б адмовіцца, калі штодня працуеш побач... І потым як-ніяк найлепшая брыгада па выніках мінулага месяца.

— Ах, з-за гэтага...— з палёгкаю ўздыхнула яна.— Я баялася, можа, што-небудзь здарылася.

А я ўсё расказваў, як прайшоў дзень, нават тады, калі мы ўжо былі ў пакоі. Элен сядзела на канапе і рассеяна слухала.

— Пра што ты думаеш, Элен?

— У колькі адыходзіць найбліжэйшы цягнік на Рыйтна?

— Хочаш, каб я паехаў?

Элен ускінула галаву, ажно локаны махануліся, і засмяялася. І вось яна ўжо стаіць і кудлаціць мне валасы.

— Ну, а як жа! Безумоўна, хачу, каб ты неадкладна паехаў! — кажа яна такім тонам, што словы трацяць сваё значэнне, набываюць зусім другі сэнс.— Дык калі адыходзіць рыйтнаўскі экспрэс?

— Праз паўтары гадзіны,— разгубіўшыся, адказаў я.

Яна выцягвае з-пад ложка чамадан, пачынае складаць у яго бялізну, ручнікі, блузкі...

— Дык ты едзеш? — усё яшчэ не веру я.

— Не траць часу на пытанні! Памажы мне!

У гэтай нервовай спешцы быў некі адчай. Не адчувалася ні духу вясёлай прыгоды, ні бяздумнай радасці ад таго, што мацеру пакінуць з носам.

Нарэшце ўсё сабрана.

— Пайшлі!

— У нас яшчэ многа часу. Ты ўсё ж бы чырканула мацеры пару радкоў. Бо гэта змахвае на ўцёкі.

— Уцёкі?...— на твары ў Элен адбіўся пярэпалах, такі самы, як і тады, калі я вярнуўся дахаты.

Яна парывіста вырвала ліст з блакнота, пакідала некалькі слоў.

На пальчыках мы прайшлі цераз сталоўку, паклалі запіску на стол.

Дзверы за намі зашчоўкнуліся. Нягледзячы на змрок летняй ночы, у мяне было адчуванне, як у егіптолага, які зноў убачыў святло пасля цемені фараонавай магільні.

## IV

Паравоз даў гудок, колы закруціліся, рытмічна пастукваючы на стыках. Элен прытулілася тварам да шкла і, не адрываючыся, глядзела ў акно, пакуль не прапалі з вачэй апошнія агні горада. Моўчкі глядзеў я на гэтае нямое развітанне і, памятаю, адчуваў усхваляваную пяшчотнасць, у якой змяшалася ўсё — і радасць, і расчуленасць, і вера ў сябе.

І вось мы едзем! Але чаму твар твой выказвае затоеную трывогу? Чаму ты не радая?.. І раптам я зразумеў: у мяне ззаду астаўся проста горад, а ў Элен усё тое асяроддзе, якое яна ведае, у якім чэрпае сілу.

Я ўзяў тонкую руку Элен у сваю шурпатую далонь. І хай сабе нашыя вусны вымаўлялі самыя звычайныя словы пра паездку, рукі і вочы гаварылі лепей за ўсякія словы.

«Не бойся невядомых даляў, Лэпатрыйпу. Я ж з табою»,— моўчкі суцяшаў я.

І яна таксама моўчкі адказвала, што не баіцца, што давярае мне.

І гэты бязгучны дыялог быў проста цудоўны, бо ніякая мова не здольная перадаць яго няўлоўныя адценні. Часткова чароўнасць памацняла дрымотнае святло ў вагонах і душная летняя ноч за акном, якая чакала дажджу. І раніцаю, калі прыехалі на станцыю Рыйтна, я зразумеў, што ўжо немагчыма паўтарыць сказанага ўночы: «Гэта наша сапраўднае вясельнае падарожжа».

Нам пашанцавала. Старшыня калгаса прывёз на станцыю двух хлопцаў, якія ехалі на нейкія курсы. Рэчы мы спакавалі ў воз.

Спачатку мы думалі, праўда, пайсці пяшком, але старшыня адгаварыў. Нават седзячы на возе ў задку, я адчуваў сябе такім стомленым, што гарнула на сон. Элен разоў два спрабавала прымасціць галаву мне на плячо і падрамаць, але нічога не выйшла. Калдобістая

дарога і старшынёва гамонка, падсмачаная гумарам, адганялі дрымоту.

З добрым настроем, хоць крыху і сонныя, злезлі мы з воза каля моста цераз Рыйтна. Гэтак захацела Элен.

— Рэчы можна ў канторы пакінуць,— сказаў я.— Мы крыху пройдземся па балоце і таксама прыйдзем.

Старшыня кіўнуў і нацягнуў быў ужо лейцы, ды раптам спахапіўся:

— Усё хацеў сказаць, ды неяк з галавы вылятала... Некаторыя хутары тут гадоў недзе з дваццаць назад пракладвалі на сваіх землях трубы. Планы ў мяне зберагліся. Можа, спатрэбяцца... Цяпер хоць ведаеце...

Я ветліва падзякаваў, і ў думках не дапускаючы, што зазірну ў іх. Гадоў дваццаць назад пракладзены дрэнаж! Ды ён напэўна даўным-даўно разваліўся. А самі планы павінны цікавіць хутчэй гісторыка, чым меліяратара.

— Цікавы тып,— заўважыла Элен, гледзячы ўслед старшыні.

— Ды ўжо ж табе не давядзецца, з ног збіваючыся, шукаць тыпажоў і матываў. Гэта не сталічны парк адпачынку. Тут у цябе будзе тысяча магчымасцяў супраць тамашняй адной. Хадзем!

Над балотнымі травамі пабег лёгкі ветрык, і травастой калыхнуўся, паплыў хвалямі. На імгненне заслалася рабаціннем вада ў ручаі, ад гэтага збянтэжыліся даўганогія вадзяныя павукі. Ноздры казытаў пах торфу.

Мы пайшлі ўверх па ручаі. Кожны выгін, кожны пікет ці рэперны слуп мне нешта нагадвалі. Тут просеку працярэблівалі. Тут палуднавалі. А сюдою вярталіся дахаты пасля працоўнага дня... Балота ажно кішэла матывамі, цэлымі кампазіцыямі. Адною карцінаю тут не абыдзешся, тут трэба рабіць серыю пра жыццё меліяратараў.

Але Элен не бачыла тут і тае аднае магчымасці, якую ў горадзе даваў парк. І гэта прымушала мяне спяшацца і спяшацца наперад.

— Пайшлі да другога выгіну. Там выдатны від уздоўж просекі адкрываецца. Каб там намаляваць якую-небудзь сцэну нівеліравання. Чорна-чырвоная рэйка сярод зелені кустоў, жаўтаваты штатыў каля самага ручая...

— Мне здаецца, я ведаю, якую сцэну тут напішу.

— Ну?

— Меліяратары за шахматнаю дошкаю,— сказала яна, усміхнуўшыся.

Я толькі тут заўважыў, што Элен страшэнна стамілася, і мне стала сорамна. Абняў яе за плечы.

— Чаму ж ты адразу не сказала, Лэпатрыйну, што...

— Не хацелася псаваць табе прыемнасць. Дый сам ты ў сваёй апантанасці быў куды цікавейшы, чым усе твае матывы, разам узятыя.

У гэтай лагоднай калючасці было нешта ад той бяздумнай вясны, і вусны мае кранула ўсмешка.

— Пішы сабе шахматыстаў,— сказаў я.— Ва ўсякім разе такой пазіцыі, як на тым опусе, мы не дапусцім... Але напэўна ты нешта прыдумаеш, калі пабачыш нас у рабоце, калі пазнаёмішся са Старым, зКівімаа...

Усё гэта яна ўбачыла ўжо назаўтра раніцаю.

Мужчыны былі насупленыя і неразгаворлівыя. Пераходны перыяд заўсёды нялёгкі. Але ачмурэнне паступова пачало праходзіць, і ў полудзень языкі развязаліся.

— Цяпер, гэта самае, нібыта ўжо нічога,— заўважыў Стары.— А вось учора было адчуванне, што на свеце асталося ўсяго дзве рэчы, ад якіх з душы ў мяне не верне — кіслае малако і дубінка.

— Не кажы, гарэлка — паскудства,— падтакнуў Вардзья.— І як гэта п'яніцы яе глушаць.

— Увогуле, зноў табе «скажы што-небудзь добрае»,— заўважыўКівімаа, пакарыстаўшыся любімым выразам Вардзья.

З жартамі і каментарыямі на гэтую тэму і прайшоў полудзень. Адчувалася, што брыгада набывае форму. Усе раптам разгаварыліся, з'явілася маладзецкая зухаватасць. Мяне гэта дзівіла, пакуль не сцяміў — Элен! Ну, ведама. Адзіная жанчына сярод нас...

І сваю перавагу Элен умела выдатна выкарыстоўваць. Яна з такім выглядам дазволіла Вардзья несці сваё рысавальнае начынне, быццам зрабіла тэхніку бог ведае якую ласку. Зачаравала Старога гэтак, што той згадзіўся пазіраваць ёй у полудзень. І ён, як напалеонаўскі грэнадзёр, з чорна-чырвонаю рэйкаю ў руках паслухмяна стаяў на санцапёку. АдзінКівімаа замкнуўся ў нейкім сваім маленькім свеце, з якога нават Элен не змагла яго выбавіць. Усе спробы пранікнуць у цытадэльКівімаа разбіваліся аб непрыступную сцяну ветлівасці.

Гэтае невыказнае адчуванне бездапаможнасці кап-

лю за капляю цадзіла злосць у чару майго цярпення. Апошнімі тыднямі ў мяне сцерлася з памяці, што ў горадзе мне так шкада былоКівімаа...

Помню, як сонца набралася сілы. Раніцай яно ў спякотным марыве паявілася на небасхіле і вечарам, распаліўшыся да крывавай чырвані, кацілася за гарызонт. Тарфяныя берагі растрэскаліся, пад ботамі шаргацеў сухі мох. Нашы мокрыя ад поту рубашкі прываблівалі хмары камарэчы. Паветра на балоце было вільготнае, як у парылцы, а мы распараныя, як пасля веніка на палку.

Аднак у зменлівасці майго настрою вінаватая была не спякота і неКівімаа, але я баяўся сабе ў гэтым прызнацца. Мне Рыйтна-Аоверэ здавалася нейкаю краінаю цудаў, дзе ўсё, варта толькі Элен прыехаць, адразу зменіцца, быццам паводле ўзмаху чарадзейнае палачкі. Разам мы — сіла. Яна адлюструе на палатне маю працу, мае мары. Балота стане помнікам нашым супольным успамінам, нашай супольнай працы. Калі-небудзь мы будзем успамінаць гэты час як бяздумнае лета...

І вось яна тут, але нічога не змянілася. Вечарамі я разглядаю яе накіды. Усё тут было на месцы: і алешыны каля ручая, і тычкі, і людзі з інструментам... Я не мог сказаць, што тут не гэтак. Але я адчуваў, што гэта не Рыйтна-Аоверэ, а нейкае вонкава вельмі падобнае на яго балота.

«Гэта яшчэ нічога не значыць, гэта толькі пачатак»,— угаворваў я сам сябе ў першыя дні. Але дні складваліся ў тыдні, і ўсё болей за малюнкамі Элен бачыліся мне «ліпавыя прысады».

А Элен бачыла ж гэтае балота раніцаю, калі ўсё яно ў пацерках расы, і вечарам, калі воблакі, якія агнём гарацъ на захадзе сонца, адлюстроўваюцца не толькі ў кожным калдабане, але і ў кожнай капельцы вады. Яна бачыла, як выліваем мы ваду з гумовых ботаў, як нацягваем бліскучую на сонцы ленту, бачыла прыліплыя да нашых змакрэлых спінаў рубашкі і рагі поту на мурзатых ад тарфянога пылу фізіяноміях. Яна чула нашы жарты і сваркі — і не зважаючы на гэта яе эскізы толькі бледныя копіі таго, што скрозь навокал нас. Ні ў адным яе малюнку я не знайшоў таго новага, што непахісна і немінуча прыходзіла на змену сённяшняму Рыйтна-Аоверэ.

Я адмахваўся ад гэтых думак, але яны зноў і зноў дапякалі мяне. А калі пачынаеш страчваць веру ў

здольнасці такога блізкага табе чалавека, тады... Сапраўды, калі крышацца ілюзіі, трагічнае заўсёды ідзе побач са смешным. Гэта комплекс супярэчлівых адчуванняў, дзе з-за сумненняў у правільнасці сваіх суджэнняў усё паўстае ў трапятлівым святле расчаравання і шкадавання, але не-не дый блісне маланкаю надзея, што я памыляюся і ўсё гэта — толькі сон.

Хіба я вымагаю ў Элен немагчымага?.. Помню мой першы прыезд сюды ранняю вясною, калі стаяў на масціку цераз ручай, Саасерва... Усё тады было згладжана маімі дзіцячымі ўспамінамі, марамі пра тую працу, што чакала мяне наперадзе.

А... А што, калі я звяджу Элен у Саасерва? Што, калі раскажу ёй пра сваё дзяцінства?..

Я ўхапіўся за гэтую думку, як за выратавальны круг. І ўжо ў другую нядзелю мы былі ў Саасерве. Я паказаў ёй усе дарагія мне куточкі. Элен слухала, часам нават захаплялася, але гэта было захапленне турыста, які разглядаў новую славутую рэч.

— Ах, дык ты тут і жыў? — задумліва вымавіла яна.

Элен зрабіла некалькі накідаў Саасерва, але і ў іх не адчувалася таго цяпла, што саграває душу. А сам я востра адчуваў яго тут.

— Сядзь там, на ганку. Папазіруй мне крышку,— сардэчна папрасіла яна.

— Чаму ж я? Усё навокал куды цікавейшае.

— Хай сабе. Але мяне цікавіш толькі ты.

Я паціснуў плячыма.

— Воля твая.

Гэты малюнак берагу і цяпер. І калі б я ўвесь час па-дурному не дамагаўся, каб Элен вось гэтак, без астатку, ужылася ў мае ўспаміны, калі б зразумеў, што ўся чароўнасць твораў мастацтва якраз у тых думках і пачуццях мастака, якія ён у іх уклаў,— хто ведае, як бы ўсё склалася.

У памяці маёй уваскрасае той вырашальны момант у Саасерве. Выгляд хаты, дзе прайшло маё дзяцінства, і павінен быў выклікаць у Элен зусім і н ш ы я пачуцці, чым у мяне. А ў Элен яны непазбежна асацыіраваліся са мною.

«Ах, дык ты тут і жыў?.. Папазіруй мне крышку... Але мяне цікавіш толькі ты...»

Аднак у гэтых словах, у тоне, у паводзінах — літаральна ва ўсім чуліся пяшчота і здзіўленне.

«Вунь які ты, Андрэс! Вырас у такіх умовах і гэтак далёка пайшоў». Гэта Элеп сказала мне сваім малюнкам, усім — толькі не словамі. А я зрабіў як сляпы — прыняў распукнуты бутон пяшчоты за жаль і шкадаванне. Мая бесталковасць была як сівер вясною — і кветка згарнулася.

Я адчуў гэта ўжо па дарозе дахаты. Адчуў, што асталося недагаворанае н е ш т а такое, пра што ў мяне была магчымасць сказаць ёй у Саасерве, таму што — цяпер я пераканаы — гэта трэба было сказаць маўчаннем.

Усю другую палавіну дня Элен была рассеяная. Пра Саасерва мы не гаварылі. Раніцаю Элен, як звычайна, пайшла з намі.

Пагода зноў чакалася спякотная і парная. Нам трэба было спяшацца, каб закончыць нівеліраванне трасы ручая Рыйтна да таго, як затрымціць распаленае сонцам паветра і ў лінзах нівеліра паявяцца чорна-чырвоныя рэйкі з лічбамі, якія скачуць у пералівах спякотнага марыва.

Працавалі ледзь не бягом. У душы я шкадаваў, што ў мінулым месяцы націскалі на трасы. Цяпер бы якраз і паказаць Элен, адкуль бяруцца заробкі, пазначаныя чатырохзначнаю лічбаю, бо цяпер мы наўрад ці дасягнём такога. Праўда, калі б працаваць ад цямна да цямна...

Але сонца нібыта прачытала мае думкі, і яно да паўдня паклала канец нашай працы. Звычайна тады мы на чатыры-пяць гадзін ішлі на цэнтральную сядзібу. А на гэты раз да яе было так далёка, а да магазіна зноў жа гэтак блізка...

Магазін месціўся ў колішняй мызе, у тоўстых мураваных сценах якой панавала прыемная прахалода. Мы расселіся на лаўцы і на пустых скрынках з-пад піва.

— Будзем што-небудзь? — папытаўся Вардзья, азіраючы вокам зпатака пляшкі, якія бліскалі на паліцах у магазіне.

Я паматаў галавою. Наперадзе большая частка рабочага дня, яшчэ гэтыя заробкі...

— Не дык не,— і Вардзья ўзяў шэсць пляшак піва і дзве — ліманаду. З меншым цяк няёмка сядзець тут у прыемнай прахалодзе і есці свой хлеб.

Хлеб з'ездзены, пляшкі апарожнены. Прыемная млявасць расцяклася па целе. Нікому не хацелася ісці. І за

работу брацца, зразумела, не спяшаліся — чаго там пацець на ліпучай спякоце.

— А праўда, намалюйце з нас карціну,— раптам Вардзьзя прапанаваў Элен.— Полудзень у меліяратараў ці што-небудзь накшталт гэтага.

Выбухнуў смех, але Элен асталася спакойная.

— А што? Інтэр'ер сам па сабе цікавы. Вось толькі ці згодзіцеся вы пазіраваць?

Супраць гэтага ніхто нічога не меў, і цяпер ужо было зусім натуральна, што ўзялі яшчэ шэсць піва. Скаванасць, якая была ў нас на пачатку пазіравання, знікла, пацякла гамонка. Не ведаю, колькі мы сядзелі, як раптам я заўважыў, што ў магазіне рэзка пацямнела. Я зірнуў у акно, і ў гэтую ж секунду засвяціла яркая бліскавіца, а ўслед за ёю грымнуў раскацісты, траскучы гром.

Я выбег з магазіна на ганак... Залапатаўшы ў высокіх ліпах, упалі ў дарожны пыл першыя цяжкія каплі. Залапатала, паліло...

Але я і цяпер не ўспомніў ні пра паніклую збажыну, ні пра глебу, якая чахла ад смагі. Я быў ахоплены толькі адною думкаю: сёння адпрацавалі.

— Гэтаму дажджу цаны няма,— заўважыў Стары, стаўшы побач. Я ледзь стрымаўся, каб не ляпнуць пару салёных слоў, але вочы ў Старога праменіліся такою пяшчотаю, што мне ўспомніўся бацька, як ён глядзеў у апошнюю сваю вясну на белы яблыневы цвет.

Стары проста свяціўся ўвесь, і я злавіў сябе на думцы: ці не таму ён не адцураўся прафесіі меліяратара, што не мае сілы забыць зямлю, колішні свой хутарэц? Ці не таму ў ім гэтулькі цеплыні і сардэчнасці, што ён неразлучны са сваёю любаю матухнаю-зямлёю?..

Рогат Вардзьзя прагучаў неяк недарэчы.

— Зірні! — тыцнуў ён мне пад нос блакнотны ліст.

Тут сапраўды цяжка было астацца сур'ёзным. З паперы на нас глядзелі чатыры карыкатурныя постаці. У шырокіх, нібыта яміны, ботах, з зарослымі шчэццю тварамі, у аднаго сякера за поясам, у другога — рэйка, як стрэльба, на плячы... І ўверсе над усёю групаю гірлянда надпісу: «Тры мушкецёры нашых дзён...»

— Як жа гэта,— дзівіўся Стары.— Павінна ж было быць «Полудзень у меліяратараў...».

— ...ці што-небудзь накшталт гэтага,— хітравата дадала Элен.— Першая частка заказу мне не ўдалася, так што...

— Адным словам, справа не ў выканаўцу, а ў заказчыку,— растлумачыў Стары Вардзья.

— Ага, давай раскашэльвайся,— падтрымаў іКівімаа.

— Ну дык што будзем рабіць? — папытаўся ў мяне Вардзья.

— Перачакаем лівень, а тады пойдзем. Не дзень, а проста свята дажджу.

— Калі гэтак, дык... дык трэба было б і адсвяткаваць, Андрэс,— падышоў да мянеКівімаа.— Не кожны ж дзень дзве такія вялікія падзеі супадаюць. Было б нешта накшталт як у фламандскіх майстроў.

Я не зразумеў, што ён хацеў сказаць апошняю фразаю. Але па твары ў Элен прабег цень усмешкі. Ды ўрэшце мне няёмка адкідаць прапановуКівімаа. Тое, як мы стаялі тады ў Саасерве каля зараслага травою акопчыка, і потым той вечар у «Еўропе», зрабілі нас, не зважаючы ні на што, нібыта змоўшчыкамі. Цікава, што і Элен адразу ж згадзілася з гэтым банкетам. Мы перабраліся на зашклёную веранду на другім канцы дома. На стале паявіліся пляшкі з маляўнічымі этыкеткамі.

Помніцца, я ўсё хацеў распытацца ўКівімаа, як праходзіў той бой у Саасерве, але Элен бесперастанку абмяркоўвала з ім розныя праблемы літаратуры і мастацтва. У Тоомасавай душы ўскалыхнулася нешта даўняе, забытае. Ён грукнуў кулаком па стале і выгукнуў: «Fiducit!» Паглядзеў на мяне і прадэкламаваў:

Мы — з Фландрыі майстры ўсе,
  хаўрусам — і па чарцы,
ды толькі і ў мастацтве
  з нас кожны спец і дока.
Мы вып'ем і малюем —
  не трэба нам хавацца,
а нашыя шэдэўры
  людское цешаць вока.

Калі параўноўваць яго з тымКівімаа, які запомніўся мне па рэстаране «Еўропа», дык гэты — зусім другі чалавек. Адзін з тых, каго прырода надзяліла выключным дарам — таварыскасцю. У штодзённым жыцці гэта не вельмі кідаецца ў вочы. Але варта такому чалавеку трапіць у адпаведныя абставіны, да людзей, якія яго разумеюць, і гэтая здольнасць выявіцца на ўсю сілу. Тут над таварыствам нібыта камета пранясецца, якая іскрыцца радасцю, запалам, эрудыцыяй. Падумалася,

якім жа папэўна мілым і жаданым госцем у любой кампаніі быў ранейКівімаа.

І ўсё ж я мала што разумеў з яго перасыпанай атычнаю соллю гамонкі. Ён жа ніводнай гісторыі не дагаворваў да канца. Ён толькі даваў кірунак, а слухач сам павінен быў даводзіць думку да фінішу. І Элен, як відаць, гэта ўдавалася, таму што ёй было надта весела яго слухаць. Я ж выдыхнуўся і далучыўся да Старога і Вардзья.

— Слухай, дождж перастаў,— Элен тузанула мяне за руку і незаўважна кіўнула галавою на Вардзья.

Я бачыў, штоКівімаа нейк увесь згорбіўся і моўчкі разглядае лужыну парэчкавага віна на белым стале. Уся яго весялосць недзе прапала. Вочы гарэлі сумным агнём.

— Пойдзем,— прашаптала Элен.— Паглядзі на Вардзья!

Я не адразу сцяміў: Вардзья п'яны як гразь!

— Хопіць, хлопцы,— сказаў я.— Заўтра зноў працаваць.

— Ты б хоць сёння, Андрэс, пакінуў у спакоі гэтую пласцінку,— падняўся Вардзья.— Работа ж не воўк... На, вазьмі!

Тут ён хіснуўся, зачапіў мяне, ажно шклянка ўдрузг разбілася аб падлогу. Вардзья пастаяў, паволі падняў галаву і ўтаропіўся на мяне. Думкі ў яго ў галаве, цяжка варочаючыся, станавіліся на месца.

— Не хочаш — не пі, але такога я не люблю,— загаласаваўся ён.— Ну, хадзем цяпер на работу. Я не з цукру і на балоце болей іншачыў, чым хто другі. А я гэтак скажу: як сем будзе, я — рэйку на плячо і раблю што хачу.

Ён яўна напрошваўся на сварку.

— Хадзем жа,— не адставала Элен. Вочы яе глядзелі спужана. І мне раптам стала да агіды прыкрае ўсё наша застолле. Размовы здаліся пустою балбатнёю. На стале сярод агрызкаў кілбасы мокрыя сляды ад шклянак, на падлозе абгараныя запалкі, акуркі...

— Ну, дождж амаль перастаў. Я пайшоў. Хто са мною? — папытаўся я.

Стары іКівімаа нібыта завагаліся, але перш чым яны нешта надумаліся, умяшаўся Вардзья:

— Тут усе самі сабе гаспадары! Зразумела, не?

Я махнуў рукою, і мы з Элен выйшлі.

Змяркалася. Яшчэ церушыў дождж. На полі каля да-

рогі ліўнем прыбіла жыта. Выходзіць, Стары недарэмна апасаўся, калі, вызірнуўшы ў акно, сказаў, што... Але чаму Элен ідзе гэтак хутка, што за ёю і не паспець?

— Лэпатрыйну!

— Чаго гарлапаніш як ашалелы? — спынілася Элен.— Нап'ешся і не ведаеш, што творыш.

— Хіба ж я пачаў? Ты ж сама была за гэта... гэта святкаванне. Табе ж падабалася там.

— Мастак не заўсёды можа лічыцца са сваім падабаецца — не падабаецца... А пра тваіх таварышаў я даведалася за гэтыя некалькі гадзін болей, чым за ўвесь той час, што я тут.

Выгляд у мяне, напэўна, быў даволі здзіўлены, бо Элен іранічна засмяялася.

— І пра цябе сёе-тое,— дадала яна.

—Ківімаа расказаў, ці што? — пачакаўшы, папытаўся я.

— Ведама, не. Ён задужа інтэлігентны на тое, каб пляткарыць. Як-ніяк у мяне таксама ж ёсць вочы і вушы.

— Ну, дык што?

— Нічога асаблівага. Мяне толькі ўразіла, як ты апусціўся тут, на балоце. Вардзья расказвае, як у школе яго выклікаў дырэктар і сказаў: «Справа такая, што аднаму з нас давядзецца пайсці». А ты смяешся як ненармальны. Што тут смешнае? Хлапчук нашкодзіў, стаў каліфам на гадзіну, яго выганяюць са школы, і боўтайся цяпер па балоце. Чым тут хваліцца ці з чаго смяяцца? А я ж ад цябе колькі разоў чула, нібыта Вардзья — хлопец што трэба... Каб ты быў сапраўдным брыгадзірам, ты б не смяяўся з такіх «жартаў». І не хныкаў, што брыгада табе дасталася ад другога інжынера і што яна не такая, якой бы павінна быць.

— Дык значыць, я ва ўсім вінаваты.

— Не ва ўсім, але...

* * *

Прачнуўся я, помню, ад нясцерпнага холаду. Расплюшчыў вочы, і позірк мой упёрся ў плакат, які заклікаў знішчыць пустазелле. Цела наліта стомаю, у галаве лёгкі дурман...

Успомнілася ўчарашняе, вяртанне дахаты ў дажджлівым змроку і... Ну але, таму я і спаў адзін у чыр-

воным кутку на канапе, адзеты, у шапцы. Дзіва, што яшчэ боты сцягнуў.

Калацілі дрыжыкі, прымусілі ўскочыць на ногі. Крыху фіззарадкі, каб разагнаць кроў.

За акном хмурна, неба шэрае-шэрае.

«Сёння хоць не трэба баяцца, што сонца не дасць працаваць»,— падумаў я. Пасмейваючыся ў душы з самога сябе, я і выйшаў з чырвонага кутка. Грукнуў кулаком у дзверы, што вялі ў «кубрык», і, не чакаючы запрашэння, увайшоў.

Стары сядзеў на раскладушцы і поркаўся з анучамі. Астатнія пасцелі былі акуратна засланы. Відаць было, што на іх не спалі.

— А што гэта значыць?

— Не прыйшлі, як бачыш,— пацісну́ў плячыма Стары.

— Пайдзі, знайдзі іх!

Стары прабурчаў нешта пра дзіцячы сад, але пайшоў.

Я астаўся сядзець каля стала, і на душы зрабілася журботна.

У дзверы пастукалі. Элен прасунула галаву ў пакой.

— Чаго ты тут сядзіш? Ідзі есці.

— Не хачу.

— Ідзі, хоць крыху перакусі.

Калі снедалі, яна была такая пяшчотная і добрая са мною, быццам учарашняга вечара і разлучнае ночы не было і ў паміне. Але якраз гэтая ветлівасць уваскрашала ў памяці гразкую дарогу, ахінутае змрокам наваколле, папрокі. Я ніяк не мог забыцца, што давялося аднаму спаць на канапе, як... Некалькі злосных рэплік — і прыхільнасці Элен як не было. Ад яе павеяла халоднаю пагардаю. Мая закранутая самалюбнасць спаліла нечакана пастаўлены мост. Апошні?..

Але тады ў мяне не было часу думаць пра гэта. Я проста падскочыў, пачуўшы аўтамабільны сігнал. Светла-карычневая «Пабеда», якая пракладвала сабе дарогу сярод чарады авечак, здалася мне сімвалам лёсу. Толькі галоўнага інжынера цяпер тут і не хапала!

Але як бы там ні было, а вялікія непрыемнасці, што з хвіліны на хвіліну чакалі мяне, не змаглі прыглушыць у мяне, я б сказаў, шостага пачуцця, недаверлівая насцярожанасць якога так і не прайшла. Чаму твар у Элен устрывожана зардзеўся? Чаго яна баіцца? Чаму ў яе вялікіх карых вачах спалох і недаўменне?

Але пытанні асталіся без адказу і сцерліся з памяці, як сціраюцца сляды на прыбярэжным пяску, калі накочваецца шыпучая хваля і ты мусіш успомніць пра самога сябе.

— Галоўны інжынер! — усклікнуў я.

Элен раптам стала вельмі энергічная.

— Не раскісай! Нешта ж прыдумаем. Скажы, што рабочыя працярэбліваюць просеку ці яшчэ чым занятыя. Ты падводзіш вынікі на палявых журналах. Хадзем!

Мы выйшлі на ганак якраз у той момант, калі перад ім затармазіў аўтамабіль. Прыехалі двое: Сілаотс і Ланг.

— Робім невялікае турнэ і завярнулі па дарозе зірнуць на самую лепшую нашу брыгаду,— сказаў Сілаотс, калі кончыліся прывітанні-знаёмствы.— Шкада, што пагода сапсавалася.

Я быў як на гарачых вугалях. Затое Элен, зноў жа выкарыстаўшы прывілеі жанчыны, узялася выпытваць гарадскія навіны, проста ўцягвала галоўнага інжынера ў размову. Я зразумеў, што яна задумала, і крыху супакоіўся.

А калі сказаць, што брыгада на ручаі Рыйтна працярэблівае просекі пад мензульныя здымкі? Туды на машыне не пад'едзеш. А калі ўзнікне ў Сілаотса жаданне пайсці пяшком, Элен паспее дабегчы да магазіна. Калі ён здагадаецца, што ёсць на самай справе, дык з прынцыпу давядзецца мне самому распякаць сваіх хлопцаў... Каб толькі хто-небудзь з гэтых выпівакаў незнарок не ўваліўся.

Ад гэтае думкі пахаладзела на сэрцы. Чаго гэта Элен гэтак разбалбаталася? Сітуацыя ж зразумелая: адсюль і ад магазіна галоўнага інжынера трэба трымаць як найдалей! Трэба іх абодвух павесці на аб'ект.

Я ўключыўся ў размову, паказаў палявыя журналы, зачаў гаворку пра работу. Галоўны інжынер папытаўся пра тое-сёе, задумліва вызірнуў з машыны, і я зразумеў, што ён не гарыць вялікім жаданнем мясіць балотную гразь, якая чаўкала пад нагамі.

— Што ж будзем рабіць? — папытаўся Сілаотс у Ланга гэтак, быццам ён ужо прыняў рашэнне.— Думаю, грунтоўнае інспектаванне адкладзём да другога разу. Дый гэта не галоўная мэта нашай паездкі... Ну «кубрык» мы паглядзелі. Ва ўсіх ёсць раскладушкі. Ёсць дзе

згатаваць яду... Завернем па дарозе да магазіна, а заадно і работу вашу паглядзім.

Усё прапала! Я зірнуў на Элен.

— Шкада,— паківала яна галавою.— Калі б вы ехалі міма Мудаку, я напрасілася б да вас у спадарожніцы. Маё рысавальнае начынне, мабыць, не перагрузіла б машыну...

Рэчка Мудаку! Зусім у другім баку! О-о, Лэпатрыйну, любая!

Мяне ахапіў сапраўдны азарт гульца. Я гатовы быў на ўсё, каб толькі выйграць гульню, якая казыча нервы. Нават прапанаваў паехаць да магазіна. Элен адступілася, папрасіла не трывожыцца з-за яе, гэтым канчаткова перацягнула стрэлку вагі на карысць Мудаку.

Мы селі ў машыну. Я крадком пацісnуў Элен руку.

— Вось трасы канаваў,— паказаў я, калі мы пад'ехалі да рэчкі.

Галоўны інжынер аглядаў іх павярхоўна, як бы незнарок наступіў на пару тычак, спатыкнуўся аб пікет. Мяне гэта ўжо пачынала смяшыць. Хто ж не ведае Сілаотсавых хітрыкаў, калі ён правярае работу ў полі! Цяпер ён, праўда, нічога мне не сказаў, а каб тычка пад яго гумовым абцасам залезла глыбей або каб пахіліўся пікет...

Раптам Сілаотс прыпыніўся каля слупка на трасе аднае канавы.

— Як вы разбівалі пікетаж гэтай канавы? Проці цячэння, ці што?

— Ага. Тут мы па адной канаве ішлі ўніз, па другой — уверх. Рабочыя кажуць, што ў Суурсоа яны гэтаксама рабілі, і вы нічога не сказалі.

— Вось бачыце, таварыш Ланг, дурны прыклад заразлівы.— І Сілаотс зноў загаварыў да мяне: — Я, ведама, помню, што там гэтак рабілася. Там увогуле было суцэльнае латанне дзірак. Не хочацца і ўспамінаць. Але ж і кадры былі тады горшыя. Тым разам проста пашкадавалі іх і прынялі работу.

Ён яшчэ доўга гаварыў пра Суурсоа, але гэта нічога не мяняла — давядзецца нанава разбіваць пікетаж па канавах, што ўпадаюць у Мудаку.

Машына ўзяла курс на Курэпалу. Ну, безумоўна, што ім тут рабіць на аб'екце! Усяго раз і закінулі невад, і адразу такі ўлоў.

— Яны што-небудзь заўважылі? — падбегла Элен.

— Не. Усё ў парадку.

— А чаму ты такі хмурны?

— Думаю пра брыгаду. І чым болей думаю, тым болей шалею. Дзеля каго мы гэты цырк наладжвалі?

— Ды што ўжо цяпер. Распагодзіцца, здаецца. Я яшчэ пабуду тут. Да сустрэчы.

Я паплёўся назад па балотнай сцежцы, якая хлюпала пад нагамі. Дарога знаёмая, маркотная аднастайная мясціна — усё нібы для таго і створана, каб ты не вырваўся з кіпцяў сваіх думак, якія наляцелі, як восы, і кусаюць.

«Дурань, паслухаўся Вардзья і Старога!.. Я вас навучу працаваць! Я вам пакажу, хто брыгадзір!..»

Гэтыя думкі распяклі мяне. Я расхадзіўся, як цецярук, мармытаў пагрозы... Са злосцю абламаў навіслую над сцежкаю альховую галінку, якая даткнулася да галавы і сыпнула на мяне буйныя кроплі.

І ўсё ж, увайшоўшы ў «кубрык», я нічога не сказаў. Стары сядзеў на раскладушцы і асялком вастрыў сякеру, Вардзья вылічваў па нівелірных паказчыках вышыні — навошта перашкаджаць занятым людзям.

— ДзеКівімаа?

— Не ведаю...— адказаў Вардзья і паспяшаўся дадаць: — Паявіцца.

Наступіла злавеснае маўчанне.

— Пойдзем лепей, кончым нівеліраванне,— пачаў Стары.

Маглі б, ведама, і пайсці. Работа якраз на траіх. Але душа мая кіпела ад злосці і за ўчарашні дзень і за сённяшні.

— Няма чаго там няпоўнаю брыгадаю рабіць,— сказаў я.— А напаследак, у сем яшчэ хто-небудзь заявіць: раблю што хачу.

— Чаго ўжо цяпер успамінаць,— прымірэнча вымавіў Стары.— Шкада добры вечар траціць.

— А ты? — павярнуўся я да Вардзья.

— Мне ўсё роўна,— абыякава адказаў ён, паціскаючы плячыма.— У мяне не гарыць...

А таму што і я думаў гэтак, на балота мы не пайшлі.

Стаяла надзіва добрая пагода. Дождж асвяжыў усё. Сярод цёмнае зелені рэзка кідаліся ў вочы яркія плямкі кветак. І сонца грэла нейк адмыслова. Прырода навокал застракацела, зазіхацела ўсімі пералівамі сваіх ізумрудных фарбаў. Паветра было напоена духмянасцю.

Было і сапраўды грэх сядзець у пакоі і глядзець на ўсю гэтую красу праз адчыненае акно. Але як тут ісці

на работу, ну як увайсці ў «кубрык» і сказаць... А што, калі Стары зараз зноў прыйдзе з тою самаю сваёю прапановаю?

Але ён не прыйшоў. Я заняўся камеральнымі работамі і супакойваў сумленне думкаю, што калі хлопцы не хочуць зарабляць грошы, дык што я магу зрабіць.

Сонца схавалася за лесам, неба афарбавалася ў медна-чырвоны колер. Усё, здавалася, варажыла на пагоду, але раніца сустрэла мяне праліўным дажджом. Каб яшчэ трохі, дык я пачаў бы кідаць гулкія праклёны. Пазаўчора паўдня прапала праз дождж. Учарашні дзень таксама змарнаваўся. І сёння...

Я спусціўся ўніз. Стары і Вардзья былі ўжо на нагах.Ківімаа ляжаў на раскладушцы, адзеты, з апухлым тварам.

— Толькі пад раніцу прыйшоў,— сказаў Вардзья, кіўнуўшы наКівімаа, і заклапочана папытаўся: — Што ж рабіць будзем?

І ў гэтым пытанні было столькі гаркоты, што ў мяне стала цяжка на душы. Чамусьці падумаў пра сям'ю Старога. Якраз, можа, заробку гэтых дзён не хопіць на тую штучку, што абяцаў купіць сваёй малодшай дачцэ? Я пацісну плячыма, стараючыся не сустрэцца са Старым вачыма.

— Ды ўжо ж без справы, Стары, не астанёмся,— кпіў Вардзья.— Хоць бы, напрыклад, прадоўжым учарашняе да поту.

Гэта быў з'едлівы гумар вісельніка. Я адчуў, як жарам апякліся шчокі. Не пярэчу, ёсць і мая віна ў тым, што ўчарашні дзень змарнаваўся, але...

— Мы наватары, Стары,— не сціхаў Вардзья.— Сонца свеціць — тырчым у пакоі, а ў дождж як піць даць вылезем на двор. Галоўнае, каб уся брыгада сабралася.

— Ну, ты дык прыкусі язык! — мяне апанавала злосць.

Я падышоў да пасцеліКівімаа і моцна страсянуў соннага за плячо:

— Уставай!

Ківімаа прабурчаў нешта, адмахнуўся.

— Уставай!

Яны, напэўна, адчулі ўва мне нешта злавеснае, незнаёмае, таму што ў Старога і Вардзья быў цяпер страшна сур'ёзны, амаль перапалоханы выгляд. Адразу прапала і з'едлівасць Вардзья.

— Адвяжыся... Дай паспаць,— сонна прабурчаўКівімаа, але расплюшчыў вочы, сеў.

— Хопіць спаць! На работу пара! Разабраць рэйкі і сякеры! Праз паўгадзіны выходзім.

— Андрэс, чаго ты расхадзіўся? — сказаў з дакорам Стары.— На работу ў такую пагоду?.. Не будзь дзіцем!

— Хопіць, я быў дзіцем, калі вас паслухаўся, дазволіў разбіваць пікетаж мудакускіх канаваў супраць цячэння. А цяпер я буду мужчынам, які адказвае за тое, каб усё было зроблена як трэба.

— А што такое з канавамі? — затрывожыўся Вардзья.

— Што?.. Учора раніцаю тут быў Сілаотс і загадаў перарабіць! Нанава правесці пікетаж, нанава празнівеліраваць. Вось гэтым сёння і зоймемся!

Ніхто не сказаў ні слова. Я выйшаў з пакоя і ўзбег па лесвіцы.

— Куды ты? — папыталася Элен, калі я стаў нацягваць плашч.

— На балота... працаваць.

— Пачакай, я таксама пайду.

— Чаго табе ісці? Дождж ідзе...— мне не хацелася, каб Элен ішла з намі.

— Калі табе дождж нічога...— і яна стала хутка адзявацца.

Заходзячы ў «кубрык», дзе ўсё было гатова, я не адчуваў ніякага жадання ісці ў дождж на балота. Але масты былі спалены...

Як бы там ні было, але ў гэтай атмасферы, нібыта спакойнай, моцна пахла навальніцаю. Першы гром грукнуў тады, калі я загадаў збірацца ў дарогу.

— Ну ідзі, ідзі! — з парога прыкрыкнуў Вардзья наКівімаа, які ўсё яшчэ сядзеў на пасцелі. Тут жа ён крута павярнуўся і рыўком паставіўКівімаа на ногі.

— Прымі рукі! — з пагрозаю працадзіў той, і на нейкае імгненне позірк яго стаў колкі, як іголка.

Вардзья адступіў і ўзяўся прабірацьКівімаа, спаганяючы на ім усю злосць, што збіраўся спагнаць на мне.

— Пакінь, Вардзья! — стаў між імі Стары.— На,Ківімаа, шапку надзень.

На двары сварка спынілася. Крапіў дождж, шэрая плёнка агарнула лес на гарызонце. Пад нагамі хлю-

пала. А над усім гэтым горбілася маркотнае цёмна-шэрае неба, падобнае на жалезную маску.

Плашчы зрабіліся цяжкія, прыліпалі да ног. Сырасць прабірала да касцей. Мы былі наскрозь мокрыя, калі падышлі да рэчкі.

— Аддыхнем крыху,— прымірэнча сказаў я.

— Прыйдзе пара — у зямлі аддыхнеш,— абсек Вардзья і пачаў раскручваць стальную ленту.

Я даў волю нячыстаму духу, увабраць якога рабілася, здаецца, усё цяжэй. Я зразумеў гэта па рэзкасці рухаў, па выключнай лаканічнасці і суровасці гаворкі.

Брыгада працавала як азвярэлая. Трасу бралі штурмам, як ворага. Усіх ахапіла нейкае шаленства. Гэта запаланіла і мяне.

На адной канаве ўжо перанеслі палавіну пікетаў, аж раптам узнікла нечаканая замінка — кончыліся калкі.

— Чаго гэта Стары ў кустах як растаў! — выпаліў Вардзья.— Цэлую гадзіну калкі сячэ!

Я з трэскам разгарнуў кусты, ажно пырскі паляцелі ў твар.

— Мы з табою не на год наймаліся! — буркнуў я Старому, які нацэліўся на альховы ствол таўшчынёю з руку, збіраючыся перасекчы яго адным махам.

Стары нібыта здрыгануўся. Нага паслізнулася на мокрай траве. Сякера, апісаўшы ў паветры шырокую дугу, пакінула ў дрэве глыбокую засечку і вырвалася з рук. На твары ў Старога адбіўся жах. Сякера ўпала ў траву. Стары аберуч схапіўся за правую галёнку, ды гэтак, скурчаны, і астаўся стаяць.

Я кінуўся да яго.

— Што здарылася?

— Яшчэ не ведаю,— цяжка дыхаючы, сказаў ён.

У халяве яго гумовага бота зеўрала доўгая дзірка. Стары растуліў краі прорэзі і збялеў як палатно. Нешта чырвонае і ліпкае выступала праз тканіну...

Я абхапіў Старога і пасадзіў яго пад вялікаю вольхаю. На лобе ў яго заблішчалі пацеркі поту.

— Сюды!.. Бяда, бяда здарылася! — Я нават жахнуўся ад таго, якім чужым і хрыпатым зрабіўся раптам мой голас. І ў гэтую ж хвіліну я ўбачыў Элен. Яна стаяла побач, сур'ёзная і бледная. Я павярнуўся і стаў асцярожна сцягваць прасечаны бот. Мне было нядобра ад аднае думкі, што Элен свідруе вачыма мне спіну, што яе памяць убірае ўсё.

Калі зняў бот, стала відаць, што секануў ён па галёначнай костцы. З доўгай, з палец, раны цякла кроў, бялела костка.

Стары застагнаў, і гэта падагнала мяне.

— Дай з планшэта марлю! — выставіў я Элен руку. І толькі разарваўшы абгортку, успомніў: сярод нас ёсць жа доктар!

З палёгкаю павярнуўся, але словы заселі ў горле. Успомнілася сённяшняя раніца: я быў тады ўладаром, а цяпер што ж, станавіцца прыніжаным просьбітам?.. Я камячыў у руцэ пакецік марлі.

Я падняў вочы, зірнуў наКівімаа. Ён думаў пра нешта сваё. Шамаценне паперы вярнула яго да рэальнасці, да шэрага дажджу і прыземістых вольхаў, з лісця якіх, як слёзы, падалі кроплі дажджу.

Незаўважна самому сабе я падаў яму пакет марлі. Ні слова не кажучы,Ківімаа ўзяў яго і стаў на калені каля Старога. Спрытна пачаў бінтаваць нагу.

Мы пільна глядзелі збоку. У тую хвіліну мне лягчэй было б выцерпець лаянкуКівімаа, чым гэтае дзелавітае маўчанне.

— Схадзіце па каня з возам,— кінуўКівімаа цераз плячо.

— Што-небудзь сур'ёзнае?..— зноў пабялеў Стары і паспрабаваў устаць.

— Паволі,— прытрымаў ягоКівімаа.— Пару месяцаў экстраардынарнага адпачынку — і ўсё будзе ў парадку.

— А ты часам не ашукваеш?

Ківімаа ўсміхнуўся. І гэтая светлая ўсмешка падбадзёрвала.

— Бываюць і шчаслівыя няшчасці,— заўважыў ён, але такім дзіўным тонам, нібыта гэта і не тычылася Старога.

* * *

Звычайна захапленне выклікае чалавечая памяць, яе здольнасць усё фіксаваць у мозгу. Але яшчэ болей варта захапляцца здольнасцю забывацца, бо без гэтага чалавецтва даўно загінула б. Калі я вечарам таго дня, як здарылася бяда, раптам падумаў пра Старога, пра яго жонку і дзяцей, цяжар віны здаўся мне невыносна цяжкім. Але жыццё не стаяла на месцы, чакала работа, і новыя клопаты як быццам адгарадзілі гэтую гнятлівую карціну сцяною з матавага шкла.

— Наша баявая задача — Війрапалуская электрастанцыя. Работы там кончыць трэба да восені,— заявіў мне Ланг, калі я заікнуўся быў пра Старога.

Зразумелая рэч. Усю сілу цяпер сканцэнтруюць там. І радуйся, калі табе хоць дваіх пакінуць.

Такія былі вонкавыя прычыны, якія прымушалі спяшацца з работаю. Але гэта ніколі б не вылілася ў такую гарачку на працы, калі б сэрца мне не шчымела ад адчування пустаты.

З таго дня між мною і Элен стаў страх. Я вельмі добра адчуваў, што Элен баіцца мяне, і гэта змрочнаю спустошанасцю напаўняла ўвесь пакой. Тою самаю спустошанасцю, што прыгнятае мацней за любыя сваркі і звады. Вонкавая маска ветлівасці і далікатнасці станавілася тым болей дасканалая, чым болей адчужаўся і суравеў пад ёю твар. Я здагадваўся, што Элен употайкі лічыць дні, што асталіся да ад'езду ў горад, да расставання, якое памякчыцца ўсмешкаю. Раніцаю мы ветліва махалі адно аднаму, і Элен з рысавальным альбомам ішла ў адзін бок, а я з брыгадаю — у другі. Увесь свет маіх жаданняў і мараў звузіўся да палоскі мыска, у мяне асталася толькі мая праца тут, у Рыйтна-Аоверэ. І я стараўся выматаць сябе да канца, каб хоць часова забыцца на свае душэўныя пакуты.

Цікава, што Вардзья першы пачаў жаліцца на гэты шалёны тэмп, а я думаў, што ён трывалейшы.

— Ды хто мы такія? — не выцерпеў аднойчы ён, калі да захаду сонца аставалася яшчэ паўгадзіны, якія меў я намер выкарыстаць на здымку рэльефу з новага пункта.

— Табе што, грошы лішнія?

— Справа не ў грашах. Грошы?.. Навошта яны, калі прывалачэшся дахаты, як збіты раб з галеры? Яда, сон, работа. Яда, сон, работа... Аб'ект мы цяпер усё роўна не кончым. Не хопіць сілы.

— Каб дамагчыся максімальнага, трэба імкнуцца да немагчымага,— заўважыў раптамКівімаа.

Працавалі дацямна. Але па дарозе дахаты я добра адчуў, як збрыдзела Вардзья гэтая тузаніна. Пайшоў Стары — пайшла і сіла, якая рабіла з нас брыгаду. І замяніць яе не было чым. Аднак і тут пачала дзейнічаць невытлумачальная раўнавага, якая пануе ў жыцці. Няшчасце са Старым адштурхнула ад мяне Элен і Вардзья, затое зблізіла зКівімаа. Чаму — я не ведаю.

Элен павінна была ехаць у нядзелю раніцаю. У суботу вечарам яна спакоўвала рэчы. Я набіраўся духу пагаварыць з ёю якраз пра тое галоўнае, што стала паміж намі. Думаў пра гэта на працы, думаў начамі, лежачы побач з Элен на канапе: у думках я раскідаў гэтую брыгаду, параўноўваў яе з зямлёю — і тым не меней не ведаў, з чаго пачаць.

Ішоў час. Стрэлкі гадзінніка набліжаліся да поўначы. У адчаі я зразумеў, што калі цяпер не здзейсню задуманага, дык потым наўрад ці будзе на гэта надзея. Тады да мінулых начэй далучыцца яшчэ адна, Элен зноў адсунецца да сцяны, не змогшы заглушыць агіды, якая паявілася ў душы.

— Элен?.. Ты заўтра едзеш?

— Ты ж абяцаў правесці мяне на станцыю?

— Ага... абавязкова... Хацеў толькі папытацца, ці спраўдзіліся твае гэтым часам надзеі... у сэнсе матэрыялу на дыпломную работу?

Элен падазрона зірнула на мяне. Я адчуваў, што размова зноў адыходзіць недзе ўбок, на жыццёвыя задворкі, і я гавару не тое, што наважыўся сказаць.

— Сёе-тое, безумоўна, удалося зрабіць,— кінула яна, паціснуўшы плячыма.

— Я вельмі многа чакаў ад гэтага лета...

— Я таксама. Але цяпер лета кончылася.

— Не, лета яшчэ не кончылася,— я падышоў бліжэй да Элен. Яна адступілася да падаконніка.

— Што з табою, Андрэс?

— Нічога. Можа, я не заўсёды рабіў гэтак, як трэба. Але я быў добры з табою. І сёння апошні вечар...

Яна здрыганулася. Я ўзяў яе за плечы.

— Апошні вечар...— паўтарыла Элен. На твары ў яе раптам адбіўся спалох.

Вецер надзімаў лёгкую цюлевую фіранку на адчыненым акне. За гэтаю фіранкаю гусцеў змрок жнівеньскае ночы, з цемры даносілася стракатанне конікаў, цёплае, па адыходзе, дыханне лета.

— Лэпатрыйну! Помніш тую жнівеньскую ноч два гады назад, калі вярталіся з лодачнай прагулкі, мы трапілі пад дождж? Я накінуў табе на плечы пінжак. Лупіў дождж, а мы беглі дадому. Спярша пераскоквалі лужыны, што кіпелі ад дажджу. А потым, калі прамоклі ногі, ішлі напраскі, не выбіраючы дарогі, і смяяліся непагадзі ў твар. Смяяліся, таму што былі ўдваіх і адчувалі сваю сілу.

— Чаму ты пра гэта ўспомніў, Андрэс? Гэта ж ужо мінулае,— вымучана вымавіла Элен, але ўсё ж нешта сутаргавае ў ёй раптам аслабла.

— Мінулае — гэта частачка нас саміх, і, можа, самая светлая, самая шчаслівая частачка. Хто ведае?..

Яе вочы нечакана расшырыліся, і я ўбачыў у іх водбліск запаленае лямпы.

— Хто ведае?..— Элен перайшла на шэпт.— Бедны хлопчык, ты ўсё помніш!

Я падхапіў яе на рукі і задзьмуў святло. Запаленыя ўспамінамі сэрцы стукалі ў такт, як і тою бяздумнаю вясною. Я прытуліўся шчакою да яе шчакі. Твар Элен быў мокры ад слёз.

— Чаго ты плачаш?

— Не пытайся, не пытайся! Я не хачу ні пра што думаць.

Світанне рассеяла насланнё ночы. Элен зноў была жанчынаю, якая спяшаецца і думкі якой заняты ўжо горадам і тым, каб не спазніцца на цягнік.

Мы ішлі моўчкі. Ззаду асталося балота. Аоверэ — усё, што павінна было захапіць, утрымаць Элен. І ўсё ж яна пакідае, не азіраючыся, каб болей ніколі не вярнуцца сюды...

Раптам Элен прыпынілася.

— Чыгунка. Цяпер не варта спяшацца.

Наперадзе цьмяна паблісквала чыгуначная каляіна. Рэйкі ідуць побач, блізка адна каля аднае і ўсё ж ніколі не перасякаюцца. Толькі ўдалечыні яны зліваюцца ў адну чорную палосу...

— Андрэс!

Я зірнуў на Элен. У яе вачах была бездапаможнасць.

— Што, Лэпатрыйну?.. Ты ж хацела паехаць.

— Хацела, але цяпер ужо не хачу.— Голас яе раптам перайшоў у шэпт.— Ты такі дужы. Дзе ты бярэш гэтую сілу?

Мы стаялі ўдваіх на рыйтнаўскім жвіровым «пероне», дзе і была толькі адна лаўка ды ліхтарны слуп з назваю паўстанка. Навокал ціха шумеў лес, нібыта таксама баючыся патрывожыць хвіліну расставання, што набліжалася. Я раптам адчуў сябе такім маленькім у параўнанні з велічнасцю прыроды. Адчуў, што цяпер мы змаглі б гаварыць шчыра, без утойвання, але я не знаходзіў слоў, каб пачаць.

Данёсся свісток паравоза. Зямля загула ад стуку,

гул перайшоў у грукат і змоўк з прыкрым скрыгатам. Элен узялася за поручань. Я падаў ёй чамадан.

Тузануліся вагоны. Колы пакаціліся. Элен памахала мне рукой на развітанне.

Стоячы каля ліхтарнага слупа, я глядзеў услед цягніку. Нават калі прапаў з вачэй хваставы вагон, зліўшыся на гарызонце з сінім грабеньчыкам лесу, я не скрануўся з месца.

— Спазніліся на цягнік?

Побач са мною, лагодна пазіраючы з-пад насунутае на лоб пакамечанае шапкі, стаяў дзед.

— Але... гэтак выйшла,— буркнуў я.

Хто ж я яшчэ, калі не той бесталковы пасажыр, што спазніўся! Даў паехаць Элен, не сказаў таго, што, магчыма, многае змяніла б...

— Не бяры так блізка да сэрца. Ідзі насыпам да гасцінца. Там машыны ходзяць, і ранішні аўтобус яшчэ не прайшоў.

А чаму б крыху і не прайсціся? Змагу пабыць сам-насам са сваімі думкамі.

І я пайшоў. На сцежцы ляжалі ўжо сям-там жоўтыя лісты, вестуны восені...

А ўсё ж Элен не хацелася адсюль ехаць... Калі б паравоз не свіснуў... І з падножкі вагона яна памахала мне... Яшчэ сказала: «Ты такі дужы».

Але, каб не тая бяда са Старым... Цяпер ніхто не падганяе з гэтымі мудакускімі канавамі. Стаяць сабе, як іх тады пакінулі, і чакаюць.

А ўночы Элен усё-такі плакала... Не, лета яшчэ не прайшло! Усё ўладзіцца, уладзіцца нягледзячы на спазненне.

Ад надзеі я нават ажыў душою. Прыпыніўся, азірнуўся, але ліхтарнага слупа не было ўжо відаць.

Але... Але... адсюль жа зусім блізка да Курэпалу, дзе працуе Кардэнава брыгада. Я прыбавіў хады.

— Ого! Каго мы бачым! — усклікнуў Кардэн, калі я паявіўся на парозе.— Нарэшце ў чатыры рукі ў брыдж перакінемся. Падвучыў хлопцаў, але ўтрох усё роўна не тое.

За гульнёю высветлілася, што Кардэн нядаўна быў у горадзе, што Стары ўжо дома нагу далечвае і што гісторыю з пікетажам мудакускіх канаваў у «Праекце» выкарысталі як прыклад, каб папярэдзіць другіх. У Кардэнавым выкладзе гэтыя сур'ёзныя рэчы ператварыліся ў вясёлы анекдотны жарт. І нейкі невытлу-

мачальны «дух разняволення» лунаў, здавалася, над усёю яго брыгадаю.

Я пачаў гуляць даволі абыякава, але мне ішла добрая карта, і я захапіўся.

— Чорт ведае што! — кляў Кардэн.— Я аднойчы выйграў вялікі шлем без казырнага туза!.. Не верыш?.. Ну, з картамі праціўнікаў здарылася няўдача: на руках у аднаго было дванаццаць, а ў другога чатырнаццаць картаў, у тым ліку і казырны туз. Ну, а нам і не патрэбен быў козыр. Мы заходзілі па чарзе са стала і рукі не ў масць. Партнёры заўважылі памылку толькі тады, калі ў руках асталося ўсяго чатыры карты. Тут ужо гульні не анулюеш. Мы і выйгралі свае трынаццаць бітак, а казырны туз так і не ўступаў у гульню.

Але як бы там Кардэн ні выхваляўся, у той дзень шчасціла мне.

— Хоць і на самай справе пачынай верыць Лепу, што каму шанцуе ў карты, таму не шанцуе ў каханні,— весела заўважыў ён, калі я чарговым разам даказаў, што брыдж — гэта гульня розумаў.

Жартаўлівая Кардэнава заўвага падзейнічала на мяне, як халодны душ. Леп сказаў гэтак тады, калі мы стаялі перад табліцаю сацспаборніцтва, і хітравата гмыкаў пры гэтым.

— Што ж гэты Леп гаварыў? — не адрываючыся ад гульні, як бы між іншым і нібыта абыякава папытаўся я.

— Ах, ён?.. Давай бі, бі каралём... Ну, ведама, ён жа цвёрда разлічваў атрымаць рыйтна-аовераўскі абшар. Цяпер у яго нервы нацягнутыя, ну і меле, што Элен Ояры ходзіць з адным сімпатычным хлопцам. Іх нібыта бачылі ў парку адпачынку на летнім канцэрце і пару разоў, калі ехалі недзе на машыне.

Сапраўды, маё шчасце, што праз паўгадзіны ішоў цягнік з Курэпалу ў Рыйтна. І ўсё-такі, ужо на шашы, першаю маёю думкаю было: «Заўважылі яны што-небудзь ці не? Ці не выдаў я незнарок свайго душэўнага стану?»

Узяўся ў думках адкручваць назад стужку ўспамінаў. Перада мною, як у міражы, праплывалі знаёмыя сцэны, прыходзіла на памяць чутае; але гнятлівае адчуванне таго, што ты зваяваны, адціснула на другі план маё асабістае «я», усё ўбачылася як бы ў іншым святле.

...Учарашні вечар, учарашняя ноч. Я упэўнены, што гэта было навеяна ўспамінамі, злосцю на тое, што лета

не спраўдзіла нашых надзей. Але ці чакала Элен ад лета таго самага, пра што я сумаваў? Ці не быў увесь гэты запал проста спачуваннем і шкадаваннем з боку Элен? Магчыма, належала мне целам, а душою была з тым, другім?..

І страх, што стаў між намі ў той дажджлівы дзень, калі Стары рассек нагу. Я тады верыў, што гэта быў страх за мяне, а цяпер? Яна гэтак спужалася, калі на дарозе паявілася «Пабеда»! Ёй гэтак не цярпелася выправіць Сілаотса і Ланга, яны ж прыехалі з горада! Не, не, яна баялася не за мяне, яна баялася за сябе...

А як яна спяшалася тады, уночы, на вакзал, каб ехаць сюды! Нервовая спешка. Я бачыў сябе ў доме Рыйвесаў, у нашым пакоі сярод спакаваных чамаданаў.

«У нас яшчэ многа часу. Ты ўсё ж бы чырканула мацеры пару радкоў. Бо гэта змахвае на ўцёкі».

«На ўцёкі?» — спужана перапытала яна.

Зразумела, гэта былі ўцёкі, толькі ад чаго ці ад каго? А я тады палічыў гэта сваёю перамогаю?!.

Ідучы назад да Рыйтна-Аоверэ, я адчуваў сябе фехтавальшчыкам, які прыціснуты да краю бездані і які адбівае ўдары з апошняе сілы. Але да таго часу, пакуль ім не авалодала адчуванне безвыходнасці і адчаю, небяспека ў дзесяць разоў памнажае яго сілу. Не, я не здамся, я не буду хаваць свайго паражэння пад напускною велікадушнасцю.

Праз некалькі дзён у горадзе зноў штомесячная вытворчая нарада. На гэты раз паедзем усёю брыгадаю, на гэты раз я буду змагацца. На зацяжныя манеўры няма ўжо часу. Цяпер трэба падрыхтавацца на адзін знішчальны ўдар і нанесці яго спакойна і цвёрдаю рукою.

Але мая рашучасць пахіснулася яшчэ ў чацвер раніцаю, калі мы ўтрох садзіліся ў цягнік на паўстанку Рыйтна. Усе гэтыя тры дні я не знаходзіў сабе месца і ненавідзеў балота, якое адабрала ў мяне бацьку, Старога, можа, і Элен... Але седзячы ў трасучым вагоне, я зразумеў, што іменна балота давала мне сілу і стойкасць. На балоце я адчуваў сябе дужым, бясстрашным. А цяпер у сэрца закрадваўся страх перад горадам і сустрэчаю, што чакае мяне наперадзе.

Ці гэтак ужо вінаватая Элен? Мяне вунь самога цэлыя месяцы не бывае дома, я сапраўдны сухапутны марак, як аднойчы яна назвала мяне. І дзеля чаго? Якое недарэчнае пытанне! Такая ўжо ў мяне прафесія. Я не

хачу быць толькі зяцем прафесара Рыйвеса, не хачу быць даўжніком тых пакаленняў, якія жылі, змагаліся, пакутавалі і памерлі, каб быў я. Дзіва што, я гэта разумею. А Элен? Якая будзе ўзнагарода за месяцы, а калі ўсе скласці і зазірнуць у будучыню,— дык за ўсе гады яе адзіноты? Хата, кватэра, дастатак — усё гэта ў яе ёсць, і ўсё гэта патрэбна, як само паветра. Машына?.. Яе не купілі толькі таму, што мадам Рыйвес лічыць машыну трунproblem на калёсах. Магчыма, я калі-небудзь стану галоўным інжынерам ці выкладчыкам ВНУ. А яе бацька быў прафесарам!..

Але ж гэтыя абставіны былі і на першым годзе нашага шлюбнага жыцця. Яны тады проста не заміналі. Кожную суботу я прыязджаў у горад. Заўсёды нам было пра што пагаварыць, куды пайсці. І ў душы асядалі ўспаміны, якіх ніхто не зможа ў нас адабраць, ад якіх цёпла на сэрцы яшчэ і цяпер.

Як я мог праз гэтую рабочую гарачку пакінуць Элен адну! Папраўдзе, жыццё не церпіць пустаты. Напэўна, нікога няма, каго нельга было б замяніць ні ў жыцці, ні ў пачуццях. Але ад гэтага часу ўсё пойдзе іначай. Ад гэтага часу стану прыязджаць кожнае суботы, ад гэтага часу ўсе нядзелі будзем разам.

Мяне ахапіла нецярпенне. Лаяў у думках цягнік, які спыняўся ледзь не каля кожнага слупа.

— Здаецца, сёння цягнік спазняецца,— сказаў я.

Вардзья зірнуў на ручны гадзіннік і пакруціў галавою.

— Прыедзем нават зарана. А што, няблага! Паспеем да нарады заскочыць дахаты.

Людская плынь вынесла нас на перон, потым праз жалезныя вароты на прывакзальную плошчу.

— Прывітанне, хлопцы! Добра, што злавіў вас. Падумаў: напэўна, гэтым цягніком прыедзеце, якраз пацэліў.

Гэта быў Ланг. З напускною весялосцю ў голасе і дзіўным выразам няёмкасці на твары. Мне адразу стала зразумела: нешта здарылася.

— Ага, вось бачыш, Андрэс,— пачаў Ланг, калі звычайныя пытанні пра надвор'е, здароўе і паездку былі вычарпаны і чакальнае маўчанне надта зацягнулася.— Адным словам, Віјрапалу хоць лопні, а трэба кончыць. Кіраўніцтва, праўда, і так і гэтак меркавала, але нідзе не дзенешся: туды давядзецца яшчэ людзей перакінуць. Вось і вырашылі: забраць у цябе Вардзья.

— Дык Рыйтна-Аоверэ цяпер не будзе кончана,— збянтэжаны адказаў я.

— Што зробіш,— паціснуў плячыма Ланг.— Ну, ды нічога страшнага. Кажуць, тамашнія калгасы не збіраюцца на той год надта многа меліярацыйных работ выконваць.

— Я гэта чую ўпершыню.

— Ды ў мяне таксама не вельмі пэўныя звесткі, але краем вуха чуў, нібыта калгасы не хочуць дэталёвага асушэння. Але хадзем у «Праект», там усё высветліцца. Адразу не варта адчайвацца.

Усё і папраўдзе было не гэтак ужо кепска, як мне здавалася.

— Справа з рыйтна-аовераўскім балотным абшарам якраз і ўскладняецца тым,— заўважыў Сілаотс,— што ён знаходзіцца на землях трох калгасаў. Я меў кароткую размову толькі са старшынём «Тыўзутээ», і размова гэтая пакінула не зусім добрае ўражанне. Але ж калгасы «Койт» і «Лінда» могуць мець зусім іншую думку. Вы самі перагаварыце з кіраўнікамі калгасаў і высветліце ўсё.

Я, безумоўна, ведаў, што балота ляжыць на землях трох калгасаў, што яны — заказчыкі, а «Праект» — падрадчык, і ўсё ж я зусім выпусціў гэта з віду. Рыйтна-Аоверэ было мне як быццам тэарэтычным эксперыментам, які праводзіцца ў герметычна замкнёных умовах. Скептыцызм старшыні «Койта» ў той першы вечар быў зусім не без прычыны, толькі я яго тады не зразумеў.

Я выйшаў з кабінета галоўнага інжынера з благім настроем. На той год Раасалу кончыць кандыдацкую, а я...

Пайшоў у пакой адпачынку, каб неяк змарнаваць час. Але, ледзь толькі адчыніў дзверы, я з найвялікшым задавальненнем павярнуў бы назад: каля стала сядзеў не хто іншы, як Леп, і разгадваў красворды.

— Добры дзень, Андрэс!.. Ну, чаго ты ходзіш такі засмучаны? Праўда, хадзіла чутка, што цябе ў Рыйтна-Аоверэ напаткалі непрыемнасці, але ўрэшце ў каго іх не было... Згуляем лепей пару партый!

Усё гэта было сказана такім тонам, што я прыняў яго прапанову. Было ўжо зроблена некалькі ходоў, калі мяне пранізала думка: «Калі я сёння выйграю, усё будзе добра».

Ды як на злосць дзве першыя партыі я прайграў. А мы ж з Лепам на звычайным турніры ў нашай установе зімою па-сяброўску падзялілі трэцяе-чацвёртае месцы.

— Давай крышку дымку пусцім,— прапанаваў ён мне цыгарэту, уключыў радыё і зноў расставіў шахматы ў баявым парадку. Было відаць, што ў яго добры настрой.

Гэтую партыю я таксама пачаў з цвёрдым намерам выйграць, але думкі былі неяк скаваныя. Зноў Лепавы фігуры жалезным колам абступілі майго караля. Здавалася, магутны пафас хору пілігрымаў з «Тангейзера», што перадаваўся па радыё, натхняў іменна яго пешкі.

Канцэрт па заяўках кончыўся, пачаліся навіны. Раптам...

«Мацуюцца навуковыя сувязі з братнімі рэспублікамі,— паведамляў дыктараў голас.— Учора на тры месяцы ў камандзіроўку ў Ленінград выехалі аспіранты-літаратуразнаўцы Юле Сарап і Ээрык Раасалу...»

Дыктар гаварыў далей, а я ўжо бачыў слабое месца ў Лепавай пазіцыі. Гэта была такая простая камбінацыя ў тры хады!

— Добра, пара канчаць.— Леп пачаў збіраць шахматы ў скрынку, калі я выйграў у яго трэцюю засаб партыю.— Каму не шанцуе ў каханні...

— Чую ўжо гэта ад цябе другі раз. Што ты, папраўдзе, хочаш гэтым сказаць?

— Нічога асаблівага. Толькі...

— Што — толькі?..

— Ну, не злуйся, толькі тая летняя гісторыя з машынаю здаецца, мне па крайняй меры, крыху дзіўнаю. Дык вось, летам у пасёлку Вийрапалу мастак Цяхістэ, падпіты, збіў сваёю «Пабедаю» некалькі загараджальных слупкоў на шашы. Калі з аб'екта туды падышлі, міліцыянер ужо складаў пратакол па кампанію. А ў гэтую кампанію, апрача Цяхістэ, уваходзілі яшчэ Раасалу і Элен...

Мне ўспомнілася абадраная шчака ў Элен, яе забінтаваная рука. Але я заглушыў у сабе хваляванне.

— Ну, ведаеш, Яан,— сказаў я як найспакайней,— не злуйся, але мне па крайняй меры ты сам здаешся крыху дзіўным. З дробязі робіш такія вывады.

— Але іх яшчэ і ў мінулым месяцы бачылі ўдваіх у парку.

— У мінулым месяцы іх маглі бачыць толькі разам са мною ў Рыйтна-Аоверэ!

І, пакінуўшы ашаломленага Лепа, я выйшаў, грукнуўшы дзвярыма.

## V

Добра помню тую вераснёўскую раніцу, калі старшыня паведаміў, што заўтра ў райкоме збіраюць нараду. Мы з Ківімаа, як па камандзе, пераглянуліся і прачыталі адзін у аднаго ў вачах: «Заўтра ўсё вырашыцца».

Было пахмурна і тужліва. Шыбы ў вокнах укрыла філігрань дробных дажджынак.

Пра выхад на працу ў поле не было чаго і думаць. Я ўзяўся за папяровачныя профілі ручаёў. Аднак думкі пра нараду ніяк не давалі засяродзіцца. Але хто думае пра бляск гузікаў і глянц ботаў перад бітваю!

Але, Сілаотсу лёгка сказаць — перагаварыце з кіраўнікамі калгасаў і высветліце ўсё. А каб жа ён быў на маім месцы...

Заўтра нарада! Напэўна, яна адбудзецца ў тым самым памяшканні, дзе я тыдзень назад гаварыў са старшынём райвыканкома. Ён добра ведаў магчымасці і планы калгасаў раёна, і якраз тое, што гаварыў ён спакойна і аргументавана, і прымусіла мяне цяпер нервавацца.

— Пайду праветруся крыху,— сказаў я Ківімаа, які сядзеў над калькаю вышыняў, і нацягнуў плашч.

На двары прыпомнілася, што і першым разам, калі я вясною праводзіў рэкагнасцыроўку гэтага балота, было дажджліва. Але той дождж быў зусім другі. Той дождж быў парывісты і густы, і вецер быў тады прагудлівы і цікаўны, ён матляў крысее майго плашча, залазіў за каўнер. Тады надвор'е было як дзіця, якое хоць і кідаецца з радасцю да новае цацкі, але хутка яе пакідае.

А сёння яно нагадвала ўпартага працаўніка, які не траціць сілы дарэмна і непахісна ідзе да мэты. Лёгкі, але пранізлівы паўночны вецер, імжака, прыкрая імгла, якая ўрэшце наскрозь пранізвае адзетак, цела і нават халодзіць душу...

Заўтра нарада! Што я ім скажу? Чым змагу пераканаць старшыняў «Тыўзутээ» і «Лінды» ўзяцца на лета

за дэталёвае асушэнне ў маштабе ўсяго аб'екта? Ці змогуць канюшынішчы на берагах Рыйтна паўплываць на старшыню «Тыўзутэз»?

Добра, што хоць старшыня «Койта» згаджаецца. А давесці да ладу ручай Рыйтна параўнальна лёгка і дзёшава.

Вось і масток цераз ручай Аоверэ. Тым разам, калі ішлі з Элен у Саасерва, міналі гэтую мясціну.

Каб ведаць, пра што будзе дыпломная работа Элен? Калі мінулым разам у горадзе пра гэта зайшла гаворка, яна адказала вельмі няпэўна. Урэшце гэта не так і важна. Галоўнае, што дома было спакойна і добра. Няўжо толькі дзякуючы таму паведамленню па радыё? Але ж і я быў тактоўны, ні слова не сказаў пра пачутую ад Лена аўтагісторыю і іншае.

Шкада, што цяпер нельга паехаць у горад. З пераводам Вардзья ў Вййрапалу ў нас сапраўды пачалася гарачая пара. Але ж Элен зразумее. «Калі можаш прыехаць — прыязджай, але выбівацца з сілы дзеля гэтага не варта»,— сказала яна...

Заўтра нарада! Я ішоў сярод чэзлых бяроз і рэдкага вербалозу. Жоўтае лісце ўсцілала мох і бурыя плямы пажухлай травы. А вунь каля ручая крапіва! Дзіўна, што іменна крапіва — прыкмета добрай зямлі... А хіба я да гэтага часу не лічыўКівімаа толькі крапівою, а цяпер пачаў заўважаць, што... Глупства... Крапіва? Вось каб сказаць старшыні калгаса «Лінда», што на іх кавалку балота такі чарназём — хоць капусту садзі! Якраз каля рэпера чатырнаццаць, ставячы які, Стары секануў сякераю па камені...

Уга, сякера гэтая — чэсць і гонар Старога. Ён пытаўся пра яе, каліКівімаа хадзіў яго праведваць. Папраўдзе, і мне трэба было б схадзіць, ды я і збіраўся, але забралі ад нас Вардзья, і павіс над Рыйтна-Аоверэ вялікі пытальнік... Добра яшчэ, штоКівімаа выбраўся. Хоць ведаем, што нага ў Старога зажывае, і на душы лягчэй стала...

Заўтра нарада!

Але балота толькі навяло на ўспаміны, якія цяпер ні да чога.

Паклыпаў напрасткі да цэнтральнай калгаснай сядзібы. Адсюль яна здавалася гаем, у цёмнай зелені якога чырвонымі і белымі плямамі прасвечваліся стрэхі будынкаў.

Я выйшаў да калгаснага яблыневага саду, дзе і нам

не забаранялася ласавацца паданкамі. Пралез праз дзірку ў плоце, пайшоў зараслаю сцежкаю.

І раптам спыніўся: проста пасярод сцежкі асколачкам сонца ззяў залаты ранет. На жоўтых мокрых бачках яго ляжалі бісерынкі дажджынак. Я падняў яблык з зямлі.

Я прабегася вачыма па мокрай цьмяна-шэрай траве, з якой вызіралі то бледная антонаўка, то зеленавата-жоўтая груша, якая лопнула, стукнуўшыся аб зямлю. Сям-там на кустах чорных парэчак пунсавелі забытыя гронкі.

Задраў галаву і ўбачыў укрытыя тонкім матавым налётам слівы. Яны былі як мары, якія здалёку незвычайна прыгожыя. Але дакранешся да іх — і на цёмналіловай скурцы астануцца непрыгожыя сляды пальцаў...

І тут я зразумеў, пра што буду гаварыць на нарадзе.

Каб жа балотны абшар быў першым пытаннем на парадку дня, я, напэўна, і сказаў бы пра квітучыя яблыні, пра ўсыпанае яблыкамі голле. Але пасля дзелавога абмеркавання клопатаў уборачнай пільніцы я ўжо і не думаў пра гэта.

Дзіва. Ніхто не спрачаўся са мною, калі я гаварыў, што на месцы асушанага Рыйтна-Аоверэ магла б быць добрая сенажаць, а на вышэйшых мясцінах нават палі, і ўжо што зусім пэўна, асушэнне паўплывала б на сённяшнія ворныя землі, якія церпяць ад пераўвільготнення. Але як толькі гаворка дайшла да канкрэтнага, што робіцца супольна калгасамі, дэталёвага асушэння, старшыні «Тыўзутэз» і «Лінда» вырашылі, што ім яго не адужаць. Не дабудаваны новы кароўнік, фермы трэба канчаць, выганы не могуць чакаць... Можна было б на лета пракласці трубы на дзесятку-другім гектараў, а пра асушэнне ў такіх маштабах не можа быць і гаворкі!

— Найбольшы эфект дасць рэалізацыя ўсяго праекта цалкам,— сказаў я.— Калі ж ваш кавалак пакінуць неасушаны, дык гэта паўплывае на асушаную частку балота, што належыць калгасу «Койт». Узровень грунтовых водаў астанецца высокі, пачнуць захрасаць дрэнажныя трубы, вада будзе павальней збягаць у канаву і гэтак далей. І калі праз некалькі гадоў на вашай частцы балота праект будзе ажыццёўлены, дык асушальнай сістэме «Койта» ўжо, напэўна, спатрэбіцца рамонт.

— Адным словам, як варона на смаляной страсе,— заўважыў старшыня «Койта». Адною гэтаю насмешлівою рэплікаю ён выклікаў да сябе прыхільнасць у суседзяў, наладзіў той самы кантакт, якога я так і не дасягнуў, нягледзячы на ўсе старанні.— Ну, Юхан, сціснем зубы, здзіраць «шкуру», дык цалкам,— загаварыў ён да старшыні «Тыўзутээ».— Як тут сказаў таварыш Ояры, зможам добры кавалак самі асушыць. Магістральныя канавы дзяржава за свой кошт зробіць. Разумею, нялёгка будзе, затое балота давядзём да ладу. Калі ўжо адмучыцца — дык разам.

— Табе добра казаць: здзіраць, дык цалкам,— пачухаў патыліцу Юхан.— У мільянера сілы вунь колькі. А што б ты на маім месцы... Думаеш, я не разумею, якая гэта падмога — асушанае балота... Але што задужа, тое задужа!

— А няма такой магчымасці,— папытаўся старшыня калгаса «Лінда»,— каб дзяржава правяла і дэталёвае асушэнне за свой кошт, а калгас выплаціў гэта, ну, скажам, за дзесяць гадоў? Шкада ж, калі асушэнне часткамі будзе адмоўна адбівацца на ўсім праекце.

Гэта была ва ўсіх адносінах слушная прапанова, але — дэталёвае асушэнне ўсё ж абавязак саміх калгасаў. Рабіць Рыйтна-Аоверэ выключэннем, дамагацца дадатковых крэдытаў, пісаць заяўкі — не, тады на лета тут з работамі нічога не выйдзе. Апрача таго, мне могуць сказаць: як жа тады «Койт» спраўляецца з дэталёвым асушэннем... Адным словам, у думках я паставіў крыж на гэтай прапанове. Папраўдзе кажучы, дык я і не ведаў, да каго звяртацца з такім пытаннем. Апраўдваў сябе тым, што я інжынер, а не эканаміст.

Як падумаю цяпер, дык... Сапраўды, я пагардліва паставіўся да гэтай прапановы. У маім мозгу меліяратара, які звык думаць формуламі і інструкцыямі, не знайшлося месца самім жыццём падказанаму рашэнню. Ні на адным экзамене за студэнцкім часам не ставілася такіх «блытаных і абстрактных» задач, ні адзін экзаменатар не пытаўся, што б ты зрабіў, калі б аб'ект, што асушаеш, належаў некалькім калгасам... І хто ўрэшце прапанаваў гэта? Старшыня, які напэўна не мае ўяўлення ні пра метады Папова, ні пра формулу раўнамернага сцёку Шэзі, не кажучы пра іншае. Усё гэта разам узятае рабіла прапанову няпэўнаю і непрымальнаю. Я забыўся, што ўсё-такі калгасы заказчыкі, а я проста выканаўца. Што рабіць з найпрыга-

жэйным гарнітурам, калі ён на цябе не лезе? І ўсё ж я хацеў увапхнуць усё жыццё-быццё калгасаў у цесныя даспехі свайго праекта. Абышоўся як бюракрат і, не доўга думаючы, адкінуў прапанову старшыні «Лінды».

Але гэтым справа не кончылася. Цяпер мяне атакаваў старшыня «Тыўзутээ».

— Вы дзеля сябе спрашчаеце справу,— з дакорам сказаў ён.— Асушыць балота ўсё разам — вам як забаўка, а калгасу хоць разарвіся. Калі ажыццявіць палову цяперашняга праекта, гэта, ведама, не дасць, як вы сказалі, вялікага эфекту. А мне нешта не верыцца, што наша балота нельга па частках асушыць, каб і эфект быў і іншае. Калі б толькі праект зрабілі іначай. Трэба ж было перш з намі параіцца. А не гэтак, што за дзяржаўны кошт Мудаку, Рыйтна, Аоверэ і магістральныя канавы да ладу давесці, а далей няхай калгасы што хочуць, тое і робяць.

Я агрызнуўся, што я толькі інжынер і...

— А я і не пра вас,— прадоўжыў старшыня.— Адзін начальнік яшчэ летась прыязджаў, пра балота гаварыў. Хіба ж мы супраць асушэння! Але за адзін год выкласці такую суму? Што задужа, тое задужа!

На гэтым нарада і кончылася, і я, зганьбаваны, пайшоў, не чакаючы старшыні «Койта». Настрой быў паганы. Яго не падняло нават тое, што «Койт» вырашыў усё ж на лета даводзіць да ладу сваю частку балота.

На адзінай заасфальтаванай галоўнай вуліцы гарадка сям-там блішчалі лужыны, вецер і сонца ўжо падсушылі маставую. У такое надвор'е добра працавалася б на балоце.

Ды што ўжо цяпер! Койтаўская частка балота будзе ў нас і так гатовая, а з астатнімі спяшацца няма куды.

Я блукаў на вуліцах, пастаяў перад новым, яшчэ ў рыштаваннях, Домам культуры, зайшоў у два магазіны, прачытаў афішу кінатэатра... Ды гэтае бязмэтнае блытанне па горадзе было такое ж недарэчнае, як і круцеверць бярозавага жоўтага лісця, якое падганяе вецер па скрыжаванні. Купіў у кіёску газет і падаўся да Рыйтна-Аоверэ.

Мне пашэнціла. Ужо праз дзесяць мінут я сеў на спадарожны грузавік, які падкіне мяне да павароту. Адтуль да цэнтральнай сядзібы «Койта» ісці яшчэ паўтара кіламетра.

Машына была нагружана лістамі бляхі, скрынка-

мі з цвікамі, трубамі ў зернесушылкі... Трубы... Старшыня «Койта» гаварыў жа тым разам, калі мы з Элен ехалі са станцыі, што некаторыя хутаране гадоў дваццаць назад на сваіх лугах у Рыйтне праклалі трубы для асушэння. Можа, тыя дрэнажныя сістэмы і не безнадзейныя? Можа, толькі вусці іх захраслі ці трубы заплылі мулам? Як я мог забыцца пра гэта! І замест таго, каб узяць рыдлёўку і капануць у двух-трох месцах, я ўчора ўвесь дзень, як дурны, сноўдаўся па балоце. Калі б гэтыя асушальныя сістэмы можна было аднавіць, які б козыр быў у мяне сёння супраць старшыні «Тыўзутээ». Ручай жа Рыйтна большаю часткаю працякае ў межах яго калгаса.

Але... хто мне цяпер забараняе ўзяцца за рыдлёўку? Што я трачу? Ці што мне яшчэ траціць, калі мой праект так і так... Ва ўсякім разе — гэта шанц!

Мне не цярпелася хутчэй дабрацца да месца. Саскочыў з кузава каля развілкі і паспешліва пайшоў праз невялікі лясок, за якім відаць быў мост цераз Аоверэ.

Толькі цяпер я па-сапраўднаму зразумеў, што значыла мне асушэнне гэтага балота. Усе мае славалюбівыя мары адступілі некуды далёка-далёка, асталося толькі адчуванне адказнасці, якое абавязвае не здаваць сваіх пазіцый, пакуль не выкарыстана ўсё да апошняй магчымасці. Цяпер, калі выбыў са строю Стары, гэта было б дэзерцірствам. Не мог я з перапуду выпусціць баявы сцяг, што падняў мой бацька, салдат і ахвяра гэтай бязлітаснай вайны з балотам.

Сонца вызірнула з-за хмараў. Балота заіскрылася тысячамі кропель на травінках, на лісці, на моху. Балота як быццам дэманстравала сваю неадольную сілу.

Каб перамагчы яе... сапраўды, тут цяпер патрэбен шалёны бег наперагонкі з часам. Калі хочам правесці разведку ў аб'ёме ўсяго праекта, дык трэба забыцца пра выхадныя і нават пра тыя нямногія выгоды, якія мы часам можам сабе дазволіць. Я гатовы на гэта, аКівімаа?.. Ён, праўда, сказаў тады Вардзья: «Каб дамагчыся максімальнага, трэба імкнуцца да немагчымага». Але ці мала казана на свеце прыгожых слоў... Аднак пажывём — убачым! А цяпер хутчэй на цэнтральную сядзібу па мензулу і кіпрэгель і — на здымку рэльефу.

Але ў «кубрыку», апрачаКівімаа, мяне чакаў яшчэ і госць — Юла Кардэн, які сустрэў мяне пытаннем:

— Ну як?

— Як зробім, гэтак і будзе.— Мне не хацелася гаварыць Кардэну, чым кончылася нарада, бо пасля надзеі, што блíснула па дарозе, яна нагадвала мне хутчэй адкладзеную, чым закончаную партыю ў шахматы.

— Дык і добра,— сказаў Кардэн,— калі ўсё ад цябе самога залежыць. Я вось у бядзе. Паведаміў у горад, што да паслязаўтра кончу аб'ект, прымайце работу. Адтуль абяцалі прыслаць камісію. Якраз і Мяндмаа цяпер нібыта ў «Праекце», таксама хоча паглядзець палявыя работы. Хай едзе! Я і не такіх бачыў. А ўчора гэтая дурная гісторыя здарылася: Кюйвітс разам з тэадалітам зваліўся ў ручай Курэпалу. І цяпер лінзы як матавыя. Вылупліваешся нібыта ў туман нейкі. Разабралі тэадаліт...

— Гэта ж забаронена! — выгукнуў я.

— Хай сабе,— спакойна адказаў Кардэн,— але ж не магу я такі інструмент паказаць. Пачнуць работу правяраць, без яго ж не абыдзешся. Ну, значыць, разабралі, лінзы працерлі, а сабраць — хоць трэсні — не збіраецца.

Кардэн паставіў на стол светла-шэрую скрынку з тэадалітам, выняў інструмент. Збоку нібыта ўсё правільна, а зірнеш у акуляр...

— Ты пераблытаў лінзы,— канстатаваў я. Мне ані не хацелася поркацца з тэадалітам. Часу і так у абрэз!

Але калі ўжо Кардэн прыйшоў ды яшчэ прасіць падмогі... Зноў разабралі тэадаліт. На стол легла некалькі лінзаў ад падзорнай трубы. Паспрабуй збяры іх цяпер правільна! Інструмент гэты мы ва універсітэцето вывучалі, але...

Прамучыліся некалькі гадзін. На двары выцягваліся цені, сонца зрабілася крывавым шарам. Я разоў два гатовы быў махнуць на ўсё рукою, але ўсё ж намагаўся зрабіць. І калі ўжо зусім быў страціў надзею, нашы пакуты кончыліся поспехам: у падзорнай трубе выразна бачыліся ніточкі перакрыжавання.

Я глядзеў услед Кардэну, як лёгка ідзе ён па дарозе. Заўтра ён паставіць апошнюю кропку, паедзе ў горад, а мы...

На вячэрнім небе яшчэ палымнела зара, а зямлю ўжо ахутваў сіні змрок. Цені раслі, страчвалі выразнасць, зліваліся ў чорны дыван. У нечым акенцы ўжо гарэла святло...

— Дык пра што ж там на нарадзе гаварылася? — папытаўсяКівімаа. Ён незаўважна падышоў і стаў по-

бач, якраз як некалі ў Саасерве мой дарослы брат Юры, калі я разбіў кубак з залатым абадком і з заміраннем сэрца чакаў каля акна, калі прыйдзе з хлява маці.

Я ўздыхнуў і расказаўКівімаа ўсё. Ён задумаўся. У змрочным пакоі мацней, як звычайна, цікаў гадзіннік.

— Пойдзем па-банку! — засопшы, сказаў ён.— Па-банку, чорт вазьмі!

«Дык... дык ён згодзен! Згодзен!» Я не мог думаць ні пра што другое, а мой расхваляваны голас мне самому здаўся чужым, калі я вымавіў:

— Хадзем да старшыні па карты.

— Хочаце ў ачко перакінуцца, ці што? — заўважыў старшыня і хітра падміргнуў нам.

— Яно б і не блага,— у тон яму адказаў я, бо старшыня добра разумеў, пра якія карты ідзе гаворка.

Ён знайшоў іх у прыскрынку ў камодзе і расклаў на стале.

— Шкада, што сёння ў райкоме гэтак павярнулася,— сказаў ён, падкруціўшы кнот у лямпе.— Але мы на паўдарозе-то не спынімся. Калі з балотам управімся, дык правядзём сюды электрычнасць гадоў на два раней, чым... Дый з «Тыўзутэз» і «Ліндай» варта парагаварыць яшчэ... Гэта што ж за карта?.. Ага, на заказ аднаго меліярацыйнага таварыства роблена. Бачыш, памяць ужо дзіравая.

Найперш знайшоў я на карце Саасерва. Добра вычарчаны рэльеф мясцовасці і ўсё іншае. Мы яшчэ не рабілі здымкі гэтага кавалка. А цяпер і пакінем яго напаследак. Паспеем — зробім, не — перанясём гарызанталі пентографам на свой план. Я быў расхваляваны. Гэта даўнейшы план — ён быў як бацькаў поціск рукі, як эстафетная палачка, якую адно пакаленне перадае другому. І гэты добры сімвал як бы запэўніў мяне, што ўсё будзе добра.

— Тое меліярацыйнае таварыства большага і не дамаглося,— заўважыў старшыня і разгарнуў другую карту.— А вось гэта зусім другая справа. Лугі ў Рыйтне належалі некалькім буйным хутарам...

Мы ўтрох нахіліліся над картаю, на якую чырвонаю тушшу, каб вылучыць сярод іншых умоўных абазначэнняў і гарызанталяў, была пазначана ўся асушальная сістэма. Я, праўда, дрэнаж спраектаваў бы інакш, але калі з мінімальнымі затратамі ўдасца ад-

навіць яго, хай астаецца такі, як ёсць! Толькі ці ўдасца?..

Гэтая думка ўжо досвета падняла мяне на ногі. Світанне абяцала добрую пагоду.

Падаліся зКівімаа да ручая Рыйтна. На кустах, травінках, на платах іскрылася павуціна, і ад гэтага ўсё навокал здавалася мяккім, аксаміцістым. З прыдарожнай пачырванелае рабіны ўзляцела, лопаючы крыламі, чародка драздоў.

Ішлі траха не моўчкі, і ўсё ж я адчуваў — думаем мы пра адно.

Гэта павінна быць недзе тут. Проста перад намі цурчаў ручай Рыйтна, які ўспух ад даждждоў. Марнаваць сілу на пошукі вусцяў дрэнаў не было сэнсу.

Я сарыентаваў карту па компасе і вызначыў месца, дзе мы знаходзімся. Вось той хлеў, а вось выгін... Ёсць! Адышліся на некалькі дзесяткаў метраў ад ручая і пачалі капаць упоперак, як меркавалі, ходу дрэны.

Глеба набрыняла ад вільгаці, як губка. Ужо на глыбіні некалькіх дзесяткаў сантыметраў з роўнага рудога тарфянога зрэзу засачылася вада. На слядах ад рыдлёўкі, як выпат на лобе, выступалі кроплі. Яны сцякалі, зліваліся, пакідаючы баразёнкі ў мяккай мокрай глебе. З кожным рухам рыдлёўкі вада прыбывала. Яна ўжо ўкрыла дно ў яме, закружыла асыпаную тарфяную зямлю.

Нам давялося пашырыць канаву лесвічкаю, каб можна было капаць углыбіню. А гэтым далі дарогу і вадзе, якая наступала на нас цяпер з усіх бакоў.Ківімаа паглыбіў калодзеж, выкапаны ў канцы канавы, вычарпаў з яго ваду. І зноў замільгала рыдлёўка.

Ніякіх перадышак, ніякага перакуру. Проціставіць вадзе, якая ціха сачылася, мы маглі толькі хуткасць. Мы павінны выканаць сваю задачу да таго, як гэты ўпарты працаўнік набярэ сілу.

Ад ліхаманкавай паспешнасці і аднастайнай работы — рыдлёўка і вядро, вядро і рыдлёўка — мы страцілі адчуванне часу. Прайшла, можа, гадзіна, а можа, болей ці меней, калі мая рыдлёўка, брынкнуўшы, у нешта дзюбнула. Керамічная труба?

Нічога не відаць, пад нагамі хлюпае тарфяная каламута. Я зноў намацаў рыдлёўкаю незразумелы прадмет, правёў уздоўж яго. Ад прыкрага скрыгату мароз па скуры пайшоў, але ў маіх вушах ён прагучаў дзіўнаю музыкаю.

— Кінь рыдлёўку! Давай вядром! — сказаў яКівімаа і толькі тут заўважыў, што шыя ў яго блішчыць ад поту. Адчуў, як б'ецца маё сэрца. З ахвотаю сеў бы ці прыхінуўся б да чаго-небудзь. Ды нельга, нельга ў гэтай тарфянай яме, дзе сцены зрэзаны вадою і дзе на дне хлюпае гразная калатуша.

Я абцёр рукі аб траву, закасаў рукавы. Ледзь не да локця ўсунуў у тарфяную жыжу, перш чым пальцы сціснулі трубу. Давялося пацягнуць з усяе сілы, толькі тады балота, бурчучы, выпусціла сваю здабычу.

— Лі сюды! Смялей, потым пачысцімся!

Вада, якая здалася цяпер халаднейшаю, чым дасюль на дне канавы, з плюскатам хлынула на рукі, на трубу, з якой капала гразь,— і раптам труба чырванавата-карычнева бліснула на сонцы. Мы з усіх бакоў уважліва яе агледзелі: яна была цэлая і зусім прыдатная. І тутКівімаа як разрагочацца.

Я аслупянеў — гэтак было нечакана.

— Каб хто ўбачыў,— скрозь смех растлумачыў ён,— падумаў бы, што ашалелі. Стаяць два мурзатыя мужчыны ў яме траха не да каленяў у гразі і прыдуркавата вылупіліся на гліняную калодку, быццам гэта не труба, а кавалак золата.

— К чорту ўсе залатыя кавалкі! — важнічаю і я.— Гэтай трубе цаны няма. Гэтая труба нам — архімедаў рычаг, мы зрушым ім увесь праект. Разумееш, у в е с ь!

Мы вылезлі з ямы і пайшлі да ручая апаласнуцца. А ззаду ляжала канава, у якую не пераставала цячы вада, тарфяная, іржавая вада.

— Рычаг у нас ёсць,— заўважыўКівімаа,— цяпер не грэх было б падумаць пра пункт апоры. Заўтра ў Курэпалу прыедзе Мяндмаа...

Раніцаю я ішоў у Курэпалу. І не такім адарваным ад жыцця тэарэтыкам, як ішоў на нараду ў райком: маўляў, меліярацыя добрая штука, але... Такі смешны бывае чалавек!

І па дарозе я са справядлівасцю калькулятара ўзважваў усе аргументы і за і супраць, абараняў свой праект фактамі, лічбамі, фінансавымі разлікамі. І адчуваў, што, калі б я зрабіў гэта сама на той нарадзе, не давялося б цяпер тэпаць да Кардэна.

Быццам згаварыўшыся, прыходжу да Кардэна якраз у той момант, калі на двор уз'язджае ўстаноўская «Пабеда».

— І вы тут?

Гэтымі словамі сустрэлі мяне Мяндмаа і Сілаотс. Але калі ў тоне першага гучала толькі добразычлівае здзіўленне, дык у тоне другога чулася пытанне: што я, маўляў, тут згубіў?

Я расказаў ім пра нараду, пра даўнейшы прыдатны дрэнаж, пра прапанову старшыні «Ліндьі», расказаў пра ўсё,— і ўсё ясней пачынаў разумець, што ў «Праекце» абшар Рыйтна-Аоверэ ўжо залічаны да тых работ, заканчэнне якіх плануецца на другое лета. Галоўны інжынер глядзеў на мяне, як галоўнакамандуючы на камандзіра якой-небудзь невялікай часці, якая на пабочным участку фронту нечакана атрымала бліскучую перамогу.

— Але ж вас толькі двое,— заўважыў ён.

— Палявыя работы кончым,— адказаў я, добра зразумеўшы падаплёку гэтай заўвагі.— Кончым, калі толькі «Тыўзутээ» і «Лінда»...— Я зірнуў на Мяндмаа, у вачах якога зноў паявіўся той дзіўны бляск, які я ўпершыню заўважыў у яго ў горадзе.

— Вы хочаце, каб я перагаварыў са старшынямі калгасаў? — папытаўся Мяндмаа.

— Вельмі,— шчыра адклікнуўся я.— Толькі я баяўся здацца назойлівым.

Мяндмаа весела пераглянуўся з Сілаотсам.

— Я перагавару з імі, большага пакуль не абяцаю. Разведку ўсё ж правядзіце ў поўным аб'ёме. Каб нам не апынуцца ў смешным становішчы, калі яны дадуць згоду. Праўду я кажу?

Па дарозе назад у Рыйтна-Аоверэ ў мяне было такое адчуванне, быццам крылы выраслі. Калі праз паўтара месяца мы з Кардэнам сустрэліся ў горадзе, ён удзячна паляпаў мне па плячы:

— Я перад табою ў даўгу, далібог. Пасля размовы з табою ў старых стаў такі добры настрой, што нават Сілаотс не чапляўся, калі прымалі аб'ект. Мяндмаа, той дык увогуле на балоце пасвістваў, а потым у пакоі ўжо, седзячы над прыёмным актам, ні з таго ні з сяго задумаўся. У мяне проста пахаладзела ўсярэдзіне, няўжо, думаю, недзе маху далі. Ад Сілаотса гэта таксама не ўтаілася, ён нават папытаўся ў Мяндмаа, незадаволены ён, ці што, чым-небудзь. І адгадай, што той адказаў?.. Ну, гэта было надта дзіўна, неяк незразумела. «Не, не. Зусім наадварот,— запэўніў Мяндмаа.— Проста апошнім часам я задаваўся пытаннем наконт сучаснай мо-

ладзі — quo vadis?[1] Калі б у нас былі іх магчымасці... Многае, што нам даводзілася заваёўваць, у іх штодзённае і звычайнае. Але гэтая залішняя дзелавітасць маладых і найцвярозы разлік часам не на жарт хвалююць мяне. Таму так прыемна было сёння пераканацца ў адваротным». Бачыш, як высока ён мяне ацаніў. І ўсё ж якасць маёй работы прызнаў толькі «здавальняючай».

* * *

Мне не забыць верасень і кастрычнік, гэтыя два месяцы шалёнай работы,— на свеце няма страшнейшага паганятага, чым свой бізун. Мензульная здымка, складанне папярочных профіляў, зандаж трасаў — усё ў памяці звязана з макрэчаю і холадам. Гэта была невыносна дажджлівая восень, якой не помніў нават старшыня.

У паветры стаяла сырая пара, як у пральні. Палі расквасіліся, ногі правальваліся да костачак. А на лугах даводзілася цялёпкацца зусім па вадзе.

Стаіш за мензулаю і чуеш, як сырасць паступова дабіраецца да касцей, як нават праз пальчаткі апякае рукі холадам метал кіпрэгеля, як дубянеюць ногі. Пахукаеш на рукі, патрэш далонь аб далонь. Пашавеліш у ботах пальцамі, галля пад ногі наломіш, каб не проста ў вадзе стаяць,— але так і не можаш перамагчы дрыжыкаў.

У наступным пункце за мензулу становіццаКівімаа. Хапаеш чорна-чырвоную мерную рэйку і пачынаеш скакаць з купіны на купіну, якія тут высокія, як пні. Усё глядзіш, каб не спатыкнуцца. А не дык як бачыш вышэй калена правалішся ў калатушу і пачуеш, як вада стальным холадам залівае табе бот, сударгаю скурчвае мышцы. Ад таго, што напружана глядзіш пад ногі, раптам пачынае кружыцца галава, мітусіцца ў вачах.

Заганяеш доўгі бур у балотную глебу, вывуджваеш з яго лыжкі гліну, пясок, торф, спрабуеш, расцёршы ў пальцах, вызначыць іх від. Балансуеш на перакінутых цераз канавы-ручаі жэрдачках, на ствалах паваленых дрэваў, на праслах, вельмі слізкіх ад дажджу. Цягнеш стальную ленту па жухлай траве... Гразь, макрэча, холад — яны скрозь. Яны пранікаюць нават у думкі, бо

---

[1] Куды ідзеш? *(лац.)*

мне раптам усё балота пачынае здавацца жудаснаю бруднаю ямінаю, такою самаю, як тая, што мы выкапалі каля ручая Рыйтна, шукаючы даўнейшы дрэнаж.

Але самае дзіўнае: іменна ўсведамленне, што я ў любую хвіліну магу кінуць усё (Сілаотс проста гэтак і сказаў), іменна гэтае ўсведамленне трымае мяне тут мацней за ўсё. «Работы — непачаты край, але я вытрываю»,— гэтая думка чырвонаю ніткаю праходзіць праз тыя кароценькія пісьмы, што я тады пасылаў Элен. І ў душы маёй спела невыразная надзея, што работаю тут акупіцца ўсё, што я павінен быць нечым узнагароджаны за яе: надзея перарасла ў мяне ў цвёрдую ўпэўненасць.

На Кастрычніцкія святы мы паехалі ў горад. Бітком набітыя вагоны, транспаранты на станцыйных будынках, мітусня, узбуджаныя людзі на вуліцах, якія некуды спяшаюцца,— усё гэта стварала па-святочнаму ўзнёслы настрой.

Сёння ў нашай установе вечар. Мы пойдзем туды з Элен. Я напісаў ёй пра гэта. Міжволі ўсміхаюся, уявіўшы, што цяпер робіцца ў доме Рыйвесаў. Напэўна, выгладжваюць, туфлі глянцуюць, ладзяць прычоскі. У доме пахне свежаю бялізнаю і ўсякаю ядою. Але мадам усё яшчэ нечым незадаволеная, ёй усё яшчэ здаецца, што тут патрэбна шчотка, а там — нітка з іголкаю. На карце — гонар дома і імя!

Я гэтак рэзка зачыніў дзверы, што па ўсім доме пакацілася рэха. Але я не пачуў ніякіх святочных пахаў, і нават пярэдняя здавалася халаднейшаю, чым звычайна. У сталоўцы не было ні душы, і ў нашым пакоі таксама пуста. І ўсюды ўзорны парадак...

Што здарылася?.. Што гэта значыць?.. Адказ на мае трывожныя пытанні дала запіска Элен, якую знайшоў я на стале.

«Ахвотна пайшла б з табою на вечар, але гэтак выйшла, што нам з мамаю трэба з'ездзіць у Ленінград. Там апошнія дні экспануецца замежны мадэрн. Магчыма, што-небудзь натрапіцца для дыпломнай работы. Весяліся на славу! Элен».

«Раасалу ў Ленінградзе»,— была мая першая думка. Толькі пазней прыйшло ў галаву: а ці не падкопы гэта мадам Рыйвес, помста за тое, што летам я звёз Элен у Рыйтна-Аоверэ?

«Весяліся на славу!» А ці не значыла гэта, што, даўшы мне свабоду, яна тым самым і сабе давала свабоду?

Напэўна ведала, што едзе ў Ленінград забаўляцца. І тады, каб не мучыла сумленне, напісала мне таксама: маўляў...

Не выйдзе! Ленінград не на краі свету. Сёння ж вечарам сяду на цягнік і заўтра раніцаю буду ў горадзе на Няве.

Я наспех памыўся, надзеў новы гарнітур і выйшаў з дому.

Пранізлівы вецер біў у твар. Той самы вецер, што ў Рыйтна-Аоверэ калашмаціў палявыя журналы, спрабаваў зламаць мерную рэйку.

Я пайшоў цішэй. Прыеду ў Ленінград... ну а далей? Буду хадзіць па гасцініцах і пытацца: «Выбачайце, ці не ў вас прыпыніліся?..» Або пайду на тую праклятую выстаўку і буду пільнаваць каля дзвярэй, як пэрбер? Цьфу, яшчэ не хапала пасмешышча з сябе рабіць!

А што, калі Элен і напраўду паехала дзеля дыпломнай работы?.. Свой жа клопат. Хіба не адзін чорт, напіша яна Саасерва ці ручай Рыйтна? Дыплом у любым выпадку атрымала б. Каб дзе намаўчаць, дык не — прычапіўся: узвышанасць, манументальнасць. Мне гэтая дыпломная работа не патрэбна. Я ані не адчуваю зацікаўленасці ў тым, каб Элен стала мастачкаю, калі мне прыходзіцца плаціць за гэта такую дарагую цану... Але мне патрэбна Элен! І ўсё ж — замест таго, каб захапіць яе маёю работаю і інтарэсамі, я сваім пазёрствам адпіхнуў яе... недзе на ўзбочыну жыцця. Зімою буду рабіць праект асушэння Рыйтна-Аоверэ. Калі б Элен яго вычарціла... Якое адчуванне, калі ведаеш: кожны праведзены табою штрышок ператвораны на справе ў канкрэтную канаву ці ў дрэнаж, што змяняе ўсё — раслінны свет, глебу, прыроду!

Мне ўспомнілася раптам сцэна з фільма «Трансвааль у агні», калі ўспыхвае вайна і прэзідэнт бураў пытаецца ў свайго па-пацыфісцку настроенага сына:

— Што ты вывучаў ва універсітэце?

— Гісторыю.

— Гісторыю не вывучаюць, гісторыю робяць.

Няўжо я сапраўды спіхнуў Элен з месца творца гісторыі на пасіўную вучнёўскую пазіцыю?

Сцямнела. Мокры асфальт, асветлены вулічным ліхтаром, адліваў чорным эбанітам.

Мне не хацелася ісці ў наш «Меліяпраект», але вяртацца ў пусты дом Рыйвесаў не хапала сілы, і я ўсё ж пайшоў на вечар.

Там ужо панавала тая святочная атмасфера, калі пакрысе рассейваюцца скаванасць і афіцыйнасць, што ўзніклі спачатку, калі людзі пераходзяць ад століка да століка, групуюцца паводле інтарэсаў і сімпатый. Я сустрэўся твар у твар з Кардэнам, які зноў пачаў шчыра прызнавацца: маўляў, ён мусіць шыкоўна пачаставаць, бо ў Курэпалу я зарадзіў старых выдатным настроем.

— Мой малады таварыш, здатны гаварун,— назваў мяне Кардэн нейкай дзяўчыне, якая падышла запрасіць яго на танец.

Я прыпыніўся ў дзвярах у зале. Раскружаныя пары, сталы ўздоўж сцен, разгарачаныя твары, святочны шум — усё як і павінна быць, калі весяляцца.

— Андрэс! — гукнуўшы, кіўнуў мнеКівімаа.

Я пайшоў да яго і толькі тут заўважыў, што за столікам сядзяць яшчэ дырэктар і галоўны інжынер.

— Ах, дык гэта і ёсць рыйтна-аовераўскі Геркулес,— весела сказаў дырэктар і паціснуў мне руку.

Потым, калі разгаварыліся, убачыў, што яны самыя звычайныя людзі. Дырэктар, як выявілася, быў заядлым балельшчыкам футбола, а Сілаотс — апантаным кактусаводам.

— Цяпер зразумела,— сказаў дырэктар Сілаотсу,— чаму ты наракаеш, што хлопцы дапускаюць брак. Ім бы ператвараць балоты ў залацісты пясок пустыні, каб табе было дзе свае кактусы гадаваць. Дык адразу б якасць работ выдатная стала.

Сілаотс выкруціўся, сказаўшы, што калі і трава, як на футбольным полі, добрая будзе, ён згадзіўся б на «вельмі добра». І лёгкая, жартоўная гамонка пацякла далей.

— Як цябе за іх стол занесла? — папытаўся я ўКівімаа, калі ў час танца мы асталіся ўдвух...

— Мяне за іх стол? Зусім наадварот: іх за мой. Самі падышлі. Мы тут прагрымелі са сваім Рыйтпа-Аоверэ. Зірні на Дошку гонару!

Ага, з яе глядзелі мы абодва. Цяпер на гісторыі з пікетажам канаваў, што ўпадаюць у Мудаку, пастаўлена кропка.

Настрой у мяне палепшаў. Але калі я пад раніцу ішоў са святочнага вечара, мяне зноў апанавалі змрочныя думкі.

Рыйтна-Аоверэ прывяло мяне на Дошку гонару. Усе чакаюць, нябось, нават лічаць само па сабе зразумелым, што я правяду ўсе палявыя работы. А мяне гэта

болей не цікавіць. Дурань, што ўвогуле ўблытаўся. Калі б абмежаваўся адным койдаўскім кавалкам, праз тыдзень пасля Кардэна быў бы ў горадзе. Рабіў бы цяпер праект асушэння, Элен бы не паехала... Што з таго, што Рыйтна-Аоверэ было бацькаваю мараю. Ну, здзейсніў бы яе праз год. Мёртвы ёсць мёртвы. А мы жывыя, і мёртвыя не павінны распараджацца намі, не павінны навязваць нам сваіх мараў. Гэтае праклятае балота ўзяло ў мяне болей, чым яно ўвогуле таго вартае. Калей тут праз яго, заклінай, у ножках праз яго валяйся — к чорту, і думаць не хачу! Паеду, складу рэчы — і ў горад.

Было ўжо зусім відно, калі я прачнуўся. Стрэлкі гадзінніка смела падбіраліся да дванаццаці. Зварыў на плітцы каву, з'еў пару бутэрбродаў. Зрабіў усё па-будзённаму аўтаматычна і зноў апынуўся ва ўладзе гнятлівага адчування няўтульнасці, якою веяла ад дома. Гэта быў нібыта страх, проста смехатворны страх. У доме ж нікога не было, нішто мне не пагражала, і ўсё-такі адчуваў я сябе пагана. І раптам я сцяміў, што віною незразумелага адчування быў кабінет прафесара Рыйвеса.

Я на пальчыках перайшоў пакой і прачыніў дзверы ў кабінет. Усё тут было гэтаксама, як у той суджаны дзень, калі бацька Элен памёр за сваім пісьмовым сталом. Мадам Рыйвес кожны тыдзень выцірала тут пыл і песціла думку пра мемарыяльны музей.

У акно струменілася яркае сонечнае святло. Яно шырокаю палосаю падала на рог стала, на кніжныя паліцы, на мініяцюрныя гіпсавыя статуэткі. Тут усе яны: з ганарліваю ўсмешкаю Пампей, валявы і сур'ёзны Цэзар, пазёр залатавуст Цыцэрон і хмурнаваты Брут, стомлены, які ўсё разумее, Вергілій і крыху расчараваны Гарацый, фанатычны Сцыпіён Афрыканскі і да магілы адданы Ганібал... А вянцом усяму здвоены бюст мужных народных трыбунаў, братоў Гракхаў.

Цікава, што з усіх бурлівых эпох, якія перажыў Старажытны Рым, з усіх вялікіх дзеячаў яго, што пакінулі глыбокі след у свядомасці чалавецтва, увагу прафесара Рыйвеса прыкавала іменна трагічная барацьба Гракхаў. Ці не таму, што вялася гэтая барацьба за зямлю? Зямля — колькі ж за цябе змагалася!

Страх прайшоў, хоць я ведаў, што ўсе гэтыя вялікія дзеячы, усе гэтыя кнігі, якія расказваюць пра захапленні, бітвы, працу і чалавечы боль, былі сведкамі

барацьбы майго цесця з тою Вялікаю Невядомасцю, што прыйшла сюды нечаканым і нядобрым госцем. Увесь кабінет раптам здаўся мне выдатным музычным інструментам, якому не хапае музыканта і які чакае яго, каб загучаць зноў. Для мяне гэты інструмент мёртвы. Але, магчыма, карпеюць цяпер недзе ў бібліятэках маладыя і клянуць свае няўдаленькія «жалейкі». Дзякуючы стаpанням мадам Рыйвес гэты інструмент збярог сваё цэласнае і магутнае гучанне. Але ад яго, закансерваванага тут, гэтулькі ж карысці, як ад скарбу, закапанага ў зямлю. І я раптам адчуў, што той прафесар Рыйвес, якога я разгледзеў у яго ярка асветленым сонцам рабочым пакоі, не вораг мне. З глыбокай пашанай, нават з хваляваннем зачыніў я дзверы.

Увесь дзень я ляжаў на канапе і чытаў цесцеву манаграфію пра Гракхаў. Упершыню мне кінулася ў вочы, колькі мастацкіх прыёмаў выкарыстаў ён. Гэты вытанчаны стыль, нарастанне напружання сюжэта, эвалюцыя дзейных асоб. Праца яго чыталася, як раман, але не пераставала быць навуковым даследаваннем. Ці не ў спадчыну ад бацькі атрымала Элен сваю мастацкую натуру?..

Зразумела! Трэба неадкладна перабірацца ў горад. Дый навошта мучыцьКівімаа! Яму не меней, чым мне, надаела, але калі даў слова, дык... Заўтра ж пайду да яго! Як добра, што на вечары ён сам мяне запрасіў.

Як мне здаецца, я выбраў вельмі зручную вячэрнюю пару, каб схадзіць у госці, і тым не менш прыйшоў якраз у той момант, каліКівімаа з мацерага садзіліся за стол. Тоомасава маці не захацела і слухаць маіх пярэчанняў, сказаўшы, што каша на кашу не зашкодзіць, і я апынуўся за сталом з нядобрым прадчуваннем, што пачнуць перада мною выдыгаць.

Але мяне і не думалі нашпігоўваць, і калі мае страхі рассеяліся, мне адразу стала добра і ўтульна. Відаць было, што іКівімаа мае задавальненне ад застолля. Мы закурылі цыгарэты. Кольцы дыму падымаліся да карычневай драўлянай люстры. Гэта былі такія шчаслівыя хвіліны бесклапотнасці, што гэтак бы і сядзеў, маўчаў і ні пра што не думаў.

МаціКівімаа глядзела на нас, задаволена ўсміхаючыся, і я заўважыў, якія разумныя ў яе вочы, яны ўсё бачаць. Пад паглядам мадам Рыйвес заўсёды лавіў сябе на думцы: што я зноў такое адпаліў?.. А тут адчуваеш сябе свабодна...

— Як жа вечар кончыўся? — папытаўся я ўКівімаа, бо тэму размовы, як відаць, далі выбіраць мне.

— Не ведаю. Я таксама неўзабаве пайшоў. А ты быў бы там вельмі дарэчы. Дырэктар раптам надумаўся папытацца, як пасоўваецца ў тваё жонкі дыпломная работа і якую іменна тэму яна выбрала? Вунь куды чуткі дайшлі.

— Галоўны інжынер бачыў жа тады...— згадзіўся я і ліхаманкава пачаў шукаць прыдатны адказ.— Элен і сама яшчэ толкам не вырашыла... Абмазгоўвае некалькі варыянтаў... Накідаў і эскізаў многа, а што выйдзе...

— Але ўсё ж як час ляціць,— заўважыла маціКівімаа.— Ці даўно гэта было, калі Элен бегала па нашай вуліцы ў чырвонай шапачцы з пампонам... а цяпер ужо замужам і мастачка... Цяпер бы я яе і не пазнала, мусіць... Дом Юхансанаў вось тут, на вуглу. Там усе яны і жылі, пакуль новы не паставілі.

Ад Элен я таксама чуў пра гэта, але і прадбачыць не мог, што жылі яны іменна на гэтай вуліцы. Ды і якая мне была справа да яе дзядоў, якія даўно памерлі, і да іх дома, які прадалі, каб пабудаваць новы. Аднойчы, калі мы глядзелі сямейны альбом, Элен паказала пажаўцелую фатаграфію, з якой усміхаліся хлопец з маленькімі вусікамі і дзяўчына ў доўгай спадніцы паўклёшам. Гэта былі яе дзядуля і бабуля па мацярынай лініі. У той час дзед толькі пачынаў кар'еру паштавіка, і яны жылі ў маленькай кватэрцы, куды не было чаго і думаць узяць кватарантаў-школьнікаў. Калі праз гады яны нажылі свой дом, тады, безумоўна, іншая справа. Тут маглі ўжо і студэнтаў узяць на кватэру. Гэтак у дом Юхансанаў трапіў і Рыйвес. Бацька-селянін не мог яму шмат памагаць грашыма, таму ён падшукаў жытло дзяшовае...

— Маладая пані ўсё прыходзіла з Элен да нас клубніц,— цягнула нітку ўспамінаў маціКівімаа.— Не ведаю, што за бяда з іх агародам, але клубніцы там і цяпер ніяк не растуць. У нас тады быў Трэс, такі барбос, а дзяцей любіў. Як, бывала, Элен прыйдзе, дык Трэс адразу ўскочыць, пакладзе ёй лапы на плечы, дурэць яму хочацца. А дзіця яно і ёсць дзіця, а сабака ж вялікі, і на табе — бух — упала дзяўчатка. Ну, тады мы ўдвaix пайшлі даваць лазню Трэсу. А ён ад нас уцёк... Але, як падумаеш пра ўсё...

Маршчыністы яе твар прасвятлеў ад успамінаў і стаў надзвычай прыгожы — вось гэтак уражвае сваёю красою забытая ў змрочнай царкоўнай нішы скульптура, калі да яе раптам дакранецца сонечны промень. Мне нечакана ўспомніўся твар мае мамы, калі ў Саасерве ў святліцы яна расказвала пра тое, як дзядуля засадзіў у мяшок пастара. Гэта была да таго цікаўная гісторыя, што пытанням маім не было канца... І цяпер я гатовы быў бы слухаць яшчэ і яшчэ.

Пра Элен маціКівімаа болей нічога не помніла, не тое што пра паню Юхансан і паненку Марту, якая хадзіла ў гімназію і зімою насіла паліто з высокім футравым каўняром. З замужжам паненкі Марты была звязана некая сентыментальная драма. Да паненкі заляцаўся нейкі жывапісец Розенвальд, але пані Юхансан паклала гэтаму канец — выбрала маладога вучонага Рыйвеса. «Гэты мужчына зможа пракарміць жонку»,— матывавала яна сваё рашэнне ў малочнай краме. Казалі, не абышлося без слёз і галашэння. Сёй-той, хто меў рамантычную натуру, пагаворваў нават, што паненка Марта хацела збегчы з дому і ўпотайкі павянчацца. Але нічога такога не здарылася. А калі ўжо паненка Марта стала маладою паняю Рыйвес, ліхія языкі распусцілі чутку, што, калі б не энергічныя дзеянні пані Юхансан, Рыйвес напэўна астаўся б халасцяком... Гэтак ужо свет уладкаваны!

Нояк уявіць смешна, што нават з-за высокашаноўнай мадам Рыйвес чорту давялося сем пар лапцяў стаптаць, перш чым удалося паненку Марту і маладога вучонага ў сямейную пару сабраць.

— Забалбаталася я зусім,— успудзілася маціКівімаа,— а ў вас, бадай, свае важныя размовы?

І хоць мы з Toомасам запэўнівалі, што ўсе нашы размовы ўжо перагавораны ў Рыйтна-Аоверэ, яна запнулася і пайшла на кухню.

— Ты прынёс мне прыемны вечар,— з усмешкаю сказаўКівімаа.— Хадзем цяпер у мой пакой.

Там нічога не змянілася з таго, першага разу. Хіба што пустатою ўжо не павявала. Усё было люба і ўтульна. Нічога асаблівага мы не рабілі: гаварылі пра сёе, пра тое, слухалі радыё, я пагартаў некалькі кніг,— але мне было добра. Ніяк не паварочваўся язык пра канчатковы ад'езд з Рыйтна-Аоверэ. Ды куды спяшацца? Разок усё роўна давядзецца з'ездзіць туды. Там і абмяркуем.

— Выходзіць, прыехалі ў горад пагаварыць. На балоце часу няма,— пажартаваў я развітваючыся.— Вялікі дзякуй.

— За што? — дабрадушна папыталася маціКівімаа.— Яшчэ прыходзьце!.. І асцярожна ў парадцай, там прыступка. Не спатыкніцеся.

— Дык заходзь, Андрэс, калі час будзе,— сказаў і Тоомас.

Я ішоў па вуліцах, засунуўшы рукі ў паліто ў кішэні. У паветры ўжо чулася зіма. Мне раптам прыйшла ў галаву думка: можа, Элен вярнулася? Можа, сядзіць на канапе ў куточку, падкурчыўшы ногі?

Нікога, ведама, не было. Дом быў цёмны. Усё гэтак, як я, адыходзячы, пакінуў.

Я лёг на канапу, заклаў рукі за галаву і задумаўся пра тое, што расказала маціКівімаа. Мне цікава было тое, што дзяцінства Элен не надта і адрознівалася ад майго. І ў нас у Саасерве быў сабака, Поньту, які шалёна трыбушыў гадзюк. А пазней, у горадзе, мы жылі прыкладна ў такіх абставінах, як і на вуліцы Куру. Толькі зусім на другім канцы горада.

Маленькія гісторыі, пачутыя ўКівімаа, неяк яшчэ болей прыблізілі Элен да мяне, зрабілі яшчэ раднейшаю. Урэшце пераможцам выйшаў усё-такі я — вось гэтак у свой час перад Рыйвесам мусіў адступіць мастак Розенвальд. Як ні дзіўна, але абодва разы справа была з прадстаўнікамі прыгожых мастацтваў і абодва разы яны былі бітыя мужчынамі цвярозымі і практычнымі. Былі і будуць бітыя. Прафесар Рыйвес раптам здаўся мне ледзь не саюзнікам.

І тут мяне, як маланка, асвяціла здагадка, ад якой я ажно падскочыў. Розенвальд! Гэта ж не хто іншы, як бацька Эрыка Раасалу! Ведама, ён. Прозвішча эстанізавана, але гэта ён!

Мне ўспомнілася тая даўнейшая акварэль з ліпавымі прысадамі, гаворачы пра якую мадам Рыйвес збянтэжылася. Успомнілася, як аднойчы Элен сказала: «Мама заўсёды гаварыла, што не будзе перашкаджаць майму выбару...» Успомнілася стараннасць, з якою мадам Рыйвес берагла памяць пра свайго мужа.

Высакароднасць, велікадушнасць! А ці не выкліканы культ нябожчыка мужа пакутамі сумлення, што пры жыцці яму не хапала гэтай увагі? Хіба не каранілася прычына такога шырокага выбару ў тадышніх паводзінах пані Юхансан, падрахаваных фразаю: «Гэ-

ты мужчына зможа пракарміць жонку»? Ці не была гэтая старая акварэль своеасаблівым сімвалам ненаўнакроўна пражытага жыцця?

Я пачынаў разумець, што стаю каля вытокаў самай звычайнай у буржуазным грамадстве жыццёвай драмы. Але не мог са спакоем пабочнага назіральніка разабрацца ў ёй, бо гэтая даўняя драма закранала і маё асабістае жыццё.

Мадам, праўда, дазволіла Элен выбраць, памятаючы пра горкія дні тае пары, калі сама была яшчэ дзяўчынаю на выданні. Але, убачыўшы, што работа зводзіць мяне ад Элен на тыдні і месяцы... Хіба не магла яна спужацца, што і даччыно жыццё таксама... Не, не! Нас з Элен звязвае нешта другое, не цвярозы разлік, выказаны тою фразаю: «Гэты мужчына зможа пракарміць жонку...» А што, калі мадам Рыйвес сапраўдным жыццём, як і некалі, бачыцца тое, якім жыў мастак Раасалу? Што, калі яна дарэмна спрабавала запоўніць яго новым домам, пышным абсталяваннем, прывабным тытулам прафесаравай жонкі? А тут яшчэ побач сын таго чалавека, юнак, які пэўна ж мог бы быць яе родным сынам, калі б тады...

Цяпер яна з дачкою ў Ленінградзе. Зразумела, хто задумаў гэтую паездку іменна на Кастрычніцкія святы. Няўжо гэты тонкі, з далёкім прыцэлам манеўр кончыцца перамогаю мадам Рыйвес?..

Усё заблыталася. Трэба нешта рабіць. Але ў галаве ні аднае думкі. І толькі гнятлівае адчуванне пустаты не пакідала мяне.

Нарэшце я ўзяў сябе ў рукі. Сеў за стол і пачаў пісаць Элен. Заўтра зноў паеду туды, на праклятае балота, дык няхай хоць пісьмо за мяне гаворыць.

Гэта была нялёгкая задача. Я нават не ведаў, з чаго пачаць. Напісаў некалькі радкоў, закрэсліў, зноў напісаў і зноў закрэсліў. А потым як прарвала.

«Я не адважваюся пачаць з трафарэтнага звароту «любая», хоць люблю цябе болей, чым калі-небудзь.

Праўда, я баюся цябе страціць. І тым мацней, чым часцей задумваюся і ўспамінаю. Наша каханне згадваецца мне цвітучым лугам... на тым баку бездані. Яе расчыніла між намі мінулае, і ўсе апошнія месяцы я баяўся зазірнуць на яе дно. Баюся і цяпер, хоць ведаю (па крайняй меры думаю, што ведаю), чым выкліканы гэты страх. Я не магу болей чакаць цябе, не магу з табою пагаварыць — таму пішу.

Ты помніш, як мы глядзелі «Будаўніка Сольнеса»? Помніш Сольнесавы словы, што за ўсё ў жыцці даводзіцца расплачвацца і часта не толькі сваім шчасцем, але і шчасцем другіх. Я адчуў цяпер увесь цяжар ісціны, што ляжыць у гэтых словах.

Не злуйся, што думкі мае шурпатыя і блытаныя. Не магу засяродзіцца. Ведаю толькі, што мінулае навісла над намі і што мы павінны ці абараніцца, ці ўцячы ад яго. Мы яшчэ не настолькі атручаны ім, каб не маглі вырвацца з-пад яго ўлады.

Леў Талстой даў нявесце перад вяселлем прачытаць свой дзённік, каб паміж імі ўсё было зразумела. Я не вяду і ніколі не вёў дзённіка, але і мне хочацца, каб было паразуменне, каб наша жыццё не азмрочваў лёс нашых бацькоў. Ведаю, што гэтым прычыняю табе боль, але ж хоць усё ўрэшце будзе выказана. І можа быць, можа быць, гэта пакладзе канец цяперашняй няпэўнасці.

Я помню, як ты паклікала мяне на магілу свайго бацькі. Я быў бязмежна рады, бо ўжо не сумняваўся, што падабаюся табе. Дарагія магілы — своеасаблівыя святыні, куды дапускаюцца толькі выбраныя. І чуючы твой голас, у якім нават праз гэтулькі гадоў пасля смерці бацькі гучалі адначасна і журба, і цеплыня, я зразумеў тады, як моцна ты любіла свайго бацьку... Не, ён не вінаваты, і мне сорамна, што я праз сваю дурасць яго ненавідзеў.

Я не бачу цяпер другое магчымасці, як толькі ўцякаць ад мінулага. Пакінем гэты дом; я згодзен паехаць нават з гэтага горада, калі ты захочаш...

Можа, я ўсё бачу ў вельмі змрочным святле — не ведаю. Я стаміўся і павінен ехаць у Рыйтна-Аоверэ. Але напішы, напішы мне!..»

Склаў рэчы, паспрабаваў заснуць — але дарэмна. Званок будзільніка прымусіў устаць, адзецца, завязаць заплечны мяшок. У дзвярах у пакоі я яшчэ раз азірнуўся, каб знайсці вачыма пісьмо на стале ў Элен.

* * *

Я ехаў у Рыйтна-Аоверэ з цвёрдым намерам кончыць толькі тыя работы, што прыпадаюць на койдаўскі кавалак балота. Гэта зойме тры-чатыры дні. І тады — у горад. Надвор'е, напэўна, таксама было са мною заадно.

На другі дзень паваліў снег. Сняжынкі падалі на балотныя купіны, на голыя карлікавыя бярозкі, на ваду ў канавах. Быццам белыя матылькі, кружыліся яны ў паветры і, упаўшы, ператвараліся ў нішто. Ды вось, дакнуўшыся да зямлі, не растала адна, потым другая, трэцяя, чацвёртая... Балота зрабілася плямістае, белыя горбікі снегу чаргаваліся з шараватымі палосамі, праз якія яшчэ праглядвала трава. Усё балота ператварылася ў роўнае белае поле, парэзанае чорнымі канавамі.

Але калі снегапад кончыўся, белае палатно зрабілася стракатае, зноў выступалі жаўтавата-бурыя плямы жухлай травы. Балота як быццам супраціўлялася наступленню зімы, якая хацела надзець на яго белы саван.

«Зімою нельга будзе працаваць у полі,— падумаў я, змахваючы сняжынкі з аб'ектыва кіпрэгеля.— Яно і лепей».

Я ж так і не сказаў яшчэКівімаа пра свой намер згарнуць работы. Я быў ініцыятарам гэтай «гульні пабанку», пра што ведаюць Мяндмаа, галоўны інжынер, увесь «Меліяпраект». Аптымістам стаў нават старшыня «Койта», які штодня заходзіць да нас і дзеліць разам з намі нашы нягоды і радасці.Ківімаа таксама пячэцца за справу...

А мне гэтая работа — барыкада, якая стала паміж мною і горадам, якая не пускае мяне на самую важную пазіцыю майго жыццёвага фронту.

Я адчуваў, што маё месца цяпер не тут, і на душы было неспакойна. Я стараўся выкарыстаць кожную гадзіну, кожную мінуту, каб, нягледзячы на мокры снег і дождж, хутчэй кончыць работы. І да суботы нам асталося зрабіць здымку ўсяго на дзесятку гектараў на койдаўскім кавалку. На дзесятку гектараў — і тады ў горад!

Выйшлі на работу, ледзь пачало світаць. Іней на дрэвах, некалькі градусаў марозу. Але неўзабаве вецер пачаў сыпаць у твар снежныя крупы. На шчасце, снегапад быў не густы — можна было працаваць.

Можна-то можна, але мы зусім адубянелі. Гэтая прыкрая імжака незаўважна прабірае да касцей, усё нямее і дубянее, як ад воўчага холаду. Прыцемкам стомленыя пасунуліся да цэнтральнай сядзібы.

Там сустрэлі мы старшыню. Порстка ідучы з клумачкам і венікам пад пахаю, ён крыкнуў:

— У лазню, у лазню, хлопцы!

— Калі цябе клічуць да стала або ў лазню, дык трэба слухацца,— заўважыўКівімаа, і справа была вырашана.

Прыбралі інструменты, вынялі з рукзакоў чыстую бялізну і — пайшлі.

Гэта была добрая даўнейшая лазня з адкрытаю каменкаю і закуранымі з бярвення сценамі, якія ў святле ліхтарыка адлівалі чорным лакам. Ужо ў халодным прылазніку прыемна пахла дымком. З сярэдзіны даносіўся плёскат вады, а з-пад дзвярэй прабівалася пара насуперак усім завучаным яшчэ на школьнай парце законам прыроды.

— Спіну пашараваць? — папытаўся я ў старшыні, калі мы зайшлі.

— Паспеецца. Напачатку лезце на палок, учыніце сабе добрую самакрытыку. У мяне гэтая работа ўжо зроблена.

Раздзяваючыся ў прылазніку, я толькі крыху адчуваў прахалоду, а на палку яна перарасла ў такі холад, што пачалі калаціць дрыжыкі.

— Пары!

Старшыня шугануў поўны карэц вады на каменку, і, быццам адказваючы на гэтыя «халодныя адносіны», да столі з шыпеннем маханулася воблака пары, адскочыла адтуль і навалілася на нас. Адчуванне холаду зрабілася нясцерпнае, цела ўкрылася халодным выпатам. УКівімаа вырвалася моцнае слоўца. Я заўважыў, што ён калоціцца не меней за мяне.

— Паддай яшчэ!

— Не перабаршчыце,— павучальна сказаў старшыня, але ўсё ж зноў плюхнуў поўны карэц вады на распаленыя камяні.

Але і цяпер нам не стала цяплей. Толькі пот пацёк, халодны, ажно страх браў. «Як пры хваробе»,— пранеслася ў галаве.

— Пары!

Старшыня, ні слова не кажучы, плюхнуў на камяні і прысеў на падлозе.

Яшчэ не перастала шыпець, як цела пранізаў пякучы боль, быццам сцены праціналі мяне пікамі. Гарачыня змяла нас з палка, прыціснула да падлогі. Але і тут цяпер было не халадней.

— Ну як, паддаць яшчэ? — з'едліва папытаўся старшыня.

Перапуд у нас ужо крыху прайшоў. Пара паступова стала асядаць.

— Захочаш сябе даканаць, дык яшчэ можаш і здароўе загубіць, як сказаў карабейнік,— прамармытаўКівімаа і сеў на лаўку.

Калі праз гадзіну ў белых, расхрыстаных на грудзях кашулях мы сядзелі з ім у цёплым «кубрыку» і пілі з кубкаў чай, я завёў гаворку пра ад'езд.

— Як думаеш, Тоомас, можа, хопіць тут нам дубянець? Койдаўскі кавалак у нас гатовы, і я не маю ніякага права патрабаваць, каб ты губіў тут з-за мяне сваё здароўе. Гэтая сённяшняя гісторыя з лазняю... бр-р!..

— Каб толькі тае бяды,— адмахнуўсяКівімаа.— Але з чаго ты ўзяў, што я тут з-за цябе?

Я не ведаў, што сказаць. Ды раптам знік Тоомас, упарты таварыш па рабоце, з якім мы шалёна штурмавалі тут апошнія месяцы балота, і замест яго паявіўся той вясновы, загадкавыКівімаа, унутраны свет якога так і астаўся для мяне вялікаю таямніцаю за сямю замкамі.

— Ну, а што калі я тут з-за сябе? — казаў далейКівімаа, паволі памешваючы лыжкаю чай.— А калі гэтак, дык... дык ты, выходзіць, тут з-за мяне?.. Ведама, не, асушэнне балота мяне гэтулькі не цікавіць, каб праз яго дубянець. Калі ўжо асушаць балота, дык найперш у душах людзей. Але ж бывае, што гэтыя рэчы супадаюць...

Больш мы пра ад'езд не гаварылі. Я баяўся, штоКівімаа бачыць мяне наскрозь. А ўночы мне снілася, што я хворы, што ламлю інструменты, што ўпотайкі ўцякаю ў горад...

Назаўтра я атрымаў пісьмо ад Элен. Паволі распячатаў канверт. Але на лістку, які пахнуў знаёмымі духамі, было толькі з дзесятак радкоў, якія нічога не значылі. І ні слова пра тое, на што я чакаў адказу. Адна толькі халодная ветлівасць.

Аднак з пісьмом у руцэ стаяў я каля акна ў пакоі для заезджых. Стаяў і глядзеў, як восень марна супраціўляецца зіме — падталы за дзень снежны дыван раніцаю стаў яшчэ шырэйшы.

Парваў тое пісьмо на шматкі. І збег па лесвіцы ўніз.

— Бяры мензулу і мерную рэйку, Тоомас! Я тут таксама толькі з-за сябе.

* * *

Да сярэдзіны снежня мы гэтак далёка прасунуліся з палявымі работамі, што зімою ў «Праекце» ўжо можна было ўзяцца за ўсё балота. Асталося толькі зрабіць здымку на Аоверэ, але тут выручыць план, складзены ў свой час меліярацыйным таварыствам.

Мы ішлі па замёрзлым і заснежаным балоце ў кажухах, у рукавіцах, у вушанках, пазычаных у калгасе, каб скласці папярочныя профілі ручая, прабівалі ломам ямкі ў лёдзе, якім мароз, што стукнуў нечакана, скаваў ваду; працуючы з інструментам, стараліся стрымліваць дыханне, а не дык шкельцы ў падзорных трубах імгненна абледзянявалі; хукалі на зяблыя рукі і час ад часу раскладалі вогнішча, каб сагрэцца. Усё гэта пачынала нагадваць мне механічны лялечны тэатр, калі лялькі, забытыя ўсімі, рухаюцца, выступаюць перад чорным правалам пустое залы. Пакуль ёсць завод, пакуль ёсць інерцыя...

Я не пісаў Элен. І ўсё ж я гэтак чакаў ад яе пісьма! Уяўляў: вось яна чытае маё, якое знайшла на стале, яно не можа пакінуць яе абыякаваю, вось бярэ ручку і піша... Піша: «Прыязджай! Чакаю!» ці што-небудзь падобнае. Маўляў, тая, першая вестачка была толькі сігналам, што я вярнулася з Ленінграда. Нельга ж патрабаваць, каб на мае сур'ёзныя пытанні яна адразу дала адказ. І было вельмі шкада, што я тады парваў яе кароценькую запіску.

Але пісьма не было...

Наш прыезд у «Меліяпраект» выклікаў невялікую сенсацыю ў рытмічным жыцці ўстановы. Затое ў доме Рыйвесаў мяне сустрэлі з тою само па сабе зразумелаю роўнасцю, якая непазбежна паяўляецца, калі становішся госцем у сябе дома. Мадам Рыйвес была вельмі далікатная. А Элен толькі вымавіла: «Ах, гэта ты» — і адразу пайшла — у атэлье, як кінула яна ўжо з парога.

Некалькі дзён прайшло ў дзіўнай атмасферы, пра якую можна сказаць — ні рыба ні мяса. Жыццё ў доме Рыйвесаў проста цякло міма мяне. Тут звыкліся абыходзіцца без мяне, кожны меў свой маленькі свет, кожны жадаў, каб другія не сунулі ў яго свайго носа, і кожны, відаць, быў задаволены сваім маленькім светам.

Мне таксама не звязвалі рук. Але я адчуваў, што гэтак жыць не змагу. Калі гэта не перайначыцца, дык і зімовая праца над праектам будзе не чым іншым, як прадаўжэннем таго самага лялечнага спектакля, што пачаўся на балоце, і кончыцца ён непазбежным правалам. Адчуваў, як мяне гняце жахлівы холад, якім павявала тут ад усяго.

Элен амаль зусім не бывала дома. Мастацкі інстытут, лекцыі, атэлье, дыпломная работа...

— А цябе колькі праз тваю работу насіла,— адказала яна, калі я заікнуўся пра гэта.— Усе ўжо даўно вярнуліся ў горад, толькі цябе няма. Мне абрыдала роля Сальвейг. У мяне таксама работа.

І гамонцы канец.

У той позні вечар мы асталіся дома адны. Мадам Рыйвес пайшла ў тэатр. У сталоўцы зазваніў тэлефон. Потым яшчэ раз, ужо настойлівей. Элен была на кухні, дзверы былі зачыненыя. Я падышоў, узяў трубку.

— Элен Ояры?.. Калі ласка, пачакайце крышку! З вамі будзе гаварыць Ленінград.

І, секунду счакаўшы, у тэлефоне пачуўся голас Раасалу:

— Алё! Добрага здароўя, Элен!.. Лэпатрыйну, ты чуеш мяне?

Я хацеў быў кінуць трубку, але ў гэты момант у сталоўку ўвайшла Элен. Яна адразу зразумела, што адбываецца.

Перадаў ёй трубку. Астацца і слухаць было няёмка, а пайсці не дазваляла рэўнасць.

Гэта была доўгая размова, і спачатку яна датычылася перасылкі нейкіх кніг. Але потым Элен стала адказваць толькі «але» і «не», я зразумеў, што замінаю гаварыць, і падаўся на кухню.

Прайшло шмат часу, пакуль я вярнуўся. Трубка ляжала на апараце, а Элен нешта напявала. Мне гэта здалося проста знявагаю. Я прыязджаю дахаты — бягуць у атэлье, а тут ад нейкай тэлефоннай размовы расспявалася.

— Што ў цябе з гэтым Раасалу? — панура папытаўся я.

— А што ў мяне павінна з ім быць? Яму ўдалося дастаць мне некалькі кніг, якія будуць патрэбны для дыпломнае работы.

— І каб сказаць гэта, спатрэбілася дзесяць мінут?

— Дзіўна, што яны здаліся табе доўгімі. А меся-

цы, што цябе не было дома, безумоўна ж, толькі імгненне.

— Вечна ты папракаеш мяне маёю работаю, якая адрывае ад дому. Стараешся прыкінуцца пакорліваю беспакутніцаю, якая ў манастырскай адзіноце чакае бесклапотнага валацугу. А паездка ў Ленінград? А аварыя ў Війрапалу?

Элен здзівілася, шчокі ў яе загарэліся. А потым на твары паявіўся выраз пагарды.

— Ах, вунь ты які! Шпіёніш, што я раблю, дзе бываю?.. Не падыходзь да мяне! Не хачу!

— Я шпіёню? Ды мне прыйшлі і сказалі. Але я адкінуў гэта як паклёп.

— І цяпер чакаеш узнагароды, ці ж не праўда?.. Ага, ездзіла тады! Цяхістэ запрасілі. Што тут такога? Мастак павінен ездзіць, бачыць новых людзей, новыя мясціны, чэрпаць новыя ўражанні і новыя матывы.

— А чаму ж ты не зачэрпнула іх у Рыйтна-Аоверэ? Ты ж туды дзеля гэтага і паехала.

— Не, туды я паехала, каб схавацца пасля аварыі ў Війрапалу. Баялася непатрэбных непрыемнасцей,— выпаліла яна з нейкаю жорсткаю шчырасцю, каб прычыніць мне боль.— Ага, іменна з-за гэтага паехала ад цывілізаваных людзей да варвараў.

— Ты мне ўжо на балоце сказала, што я варвар. Ды ўсё ж мы болей падобныя адно з адным, чым ты думаеш. Раасалу жыве зусім у іншым свеце, які табе недаступны. Не ганіся за агеньчыкамі, што блукаюць! Не строй з сябе сапраўднага мастака! Што ты на самай справе можаш і на што здольная, пра гэта я на балоце атрымаў яснае ўяўленне.

— Ах, атрымаў?..— З нервоваю злосцю яна раптам ператрэсла ўсе свае эскізы і кінула перада мною нейкі ліст вялікага фармату.— Ну?

Я адскочыў. Гэта была тая сцэна ў Мудаку, калі Стары рассек нагу. І ў малюнку папраўдзе адчувалася дажджлівае надвор'е, маркотнае балота, страх, раскаянне і адчай. У малюнку адчувалася мастакова рука.

— І пра гэта будзе твая дыпломная работа?

— Пра гэта.

Усё раптам стала пустым і нікчэмным. Я зразумеў, што мне болей няма чаго рабіць у доме Рыйвесаў. Вясною ўсім на агледзіны выставяць маю ганьбу. І гэта адзінае з мае работы ў Рыйтна-Аоверэ аказалася вартым пэндзля мастака?

Я паклаў на стол ключ ад кватэры, гэты сімвал дамашняй утульнасці і даверу. Склаў сякія-такія рэчы ў партфель.

Сур'ёзнымі вачыма сачыла Элен за маімі дзеяннямі. Яна разумела, што гэта значыць, але ні словам, ні жэстам не паспрабавала мяне стрымаць. Знадворныя дзверы за мною зачыніліся з прыглушаным грукам, як века ў труне.

Гула завіруха. Вецер круціў снег, намятаў яго каля бардзюраў, каля дамоў.

На мяне навалілася непамерная стома і абыякавасць. Паволі дапляўся да вугла, спыніўся, прыхінуўся да высокага плота. Галава была пустая. У маім гадамі трэніраваным мозгу не ўзнікала ніводнае думкі.

Шаргатлівы снег, начная цемра, цені, якія нібыта скакалі — яны размывалі выразныя контуры прадметаў, усё як быццам ажывала. І ў мяне паявілася такое адчуванне, быццам я стаю на льдзіне, якая плыве і разломваецца. Льдзіна ў нас пад нагамі раскалолася напалам, хвалі і вецер адносяць Элен убок, і вось ужо паміж намі сінее разводдзе.

Да ног намяло снегу, яны сталі мерзнуць. І адчуванне холаду — зноў адчуванне холаду! — прымусіла мяне ісці.

Шчымлівая пустэча навокал, шчымлівая пустэча ўсярэдзіне. Чаму ў мяне нікога няма, да каго пайсці, каму расказаць пра ўсё і хто б зразумеў мяне? Мама!.. У мяне яе ўжо няма.

Але ўКівімаа ёсць, у яго ёсць маці. Дый сам Тоомас — наўрад ці пакіне ён мяне на дварэ. А заўтра...

Навошта думаць пра заўтра? Заўтра — гэта заўтра.

Я хадзіў па начных вуліцах. Прайшоўся два-тры разы міма домаКівімаа. Потым увайшоў у калідор і пастукаў у знаёмыя дзверы.

## VI

Так кватэраКівімаа стала і маім домам. Раніцаю мы ішлі з Тоомасам на працу і вечарам вярталіся сюды. Спаў я на канапе ў Тоомасавым пакоі. Пра што мы тут толькі не гаварылі! Але ні разу ён не папытаўся пра дом Рыйвесаў, пра Элен, пра катастрофу, што адбылася,— і я быў яму ўдзячны за гэта.

Увогуле, як відаць, паміж мацераю і сынам была нейкая маўклівая дамоўленасць не закранаць terra

incognita[1] маёй душы, якая пе пераставала крывавіцца. Яны быццам разумелі, што заўчасныя суцяшэнні толькі раз'ятрадь свежыя раны.

Нягледзячы на тое, што гэты выбух наспяваў паступова, як абуджэнне вулкана, ён усё-такі выбіў мяне з каляіны. Адразу ж абарваўся колішні рытм жыцця. І калі Тоомас тым разам сказаў Вахеру, што забыцца — не значыць дараваць, дык я меў магчымасць пераканацца, што і дараваць — не значыць забыць.

Дараваць тут, папраўдзе, не было чаго, бо я не мог нават сказаць, хто ж галоўны віноўнік катастрофы. Недзе я чытаў, што ашаламляльныя і вялікія падзеі звіты з невялікіх валокнаў. Гэтыя падзеі, як карабельныя канаты, можна расплесці і пра кожную асобную ніць сказаць: «Дробязь!» А ўсе разам...

Гэта быў час, калі я шукаў адказаў на пытанні, якія мучылі мяне. Спрабаваў знайсці іх у літаратуры, але, можа, яшчэ болей у Тоомасавых разважаннях і ў расказах яго маці. Спрабаваў унікаць у мацерын і сынаў лёс, дапаўняць яго сваёю фантазіяй, шукаючы там тое, што праліло б святло і на маё жыццё. Але пра гэта трэба пісаць інакш.

* * *

Рэкс паспеў толькі разоў два гаўкнуць у двары, як Лена ўжо расплюшчыла вочы. Шурпатая далонь яе легла на вузлаватую ядлоўцавую палку, ногі ціха слізганулі ў тапкі. І вось ужо Лена стаіць каля акна, мажная, выпрастаная, нягледзячы на свае шэсцьдзесят гадоў. Рукі тужэй сціскаюць пояс у старэнькім халаце, а вочы азіраюць заліты месячным святлом сад.

Усё ціха. На шырокіх капусных лістах серабрыста паблісквающь кропелькі расы. Голле яблынь не зварухнецца. Месячнае святло рэзка акрэслівае контуры суседніх дамоў, вастрыі штыкецін. Гарадская ўскраіна спіць.

Ды нешта чужое было ў гэтай цішыні жнівеньскае ночы, нешта невытлумачальнае і трывожнае. Ці не ідзе нехта на двары? І праўда. Але не крадучыся, паходка не зладзейская, а цвёрдая, грузная хада.

Тут, на пасыпанай пяском сцежцы ў садзе, яна ўбачыла Рэкса. Сабака неадрыўна глядзеў у бок вуліцы,

[1] Неспазнаная вобласць *(лац.)*.

але трымаўся ён неяк нерашуча, апусціўшы хвост. Ён кідаўся то ўперад, то назад. Гырканне перайшло ў скавытанне. І раптам сярод ночы пачуўся шалёны брэх.

Дзве рукі схапіліся за канцы штыкецін, імгненне — і над плотам вынікла цёмная постаць мужчыны ў кепцы і з рукзаком за плячыма. З глухім стукам чалавек скокнуў уніз, на мяккую зямлю. Рэкс, як ашалелы, скакаў навокал, і Лену раптоўна пранізала ашаламляльная здагадка: гэта Тоомас, сын, яе сын!

Цела раптам абмякла, але яна авалодала сабою, ЛенаКівімаа, ліцейшчыкава ўдава. І спешна, энергічна падалася да дзвярэй.

Яны моўчкі глядзелі адно на адно. За чатыры гады на Тоомавым твары паявілася нешта незнаёмае. Адчувальны рот і цвёрды падбародак гаварылі пра рашучасць, амаль пра жорсткасць. І хоць шырокі лоб і карыя ўдумлівыя вочы згладжвалі гэтае ўражанне, нешта незнаёмае ўсё ж асталося. Плячысты і моцны стаяў ён перад мацерpermission. Усё яго цела дыхала сілаю. Але гэта не было магутнасцю раўлівага вадаспада ці навальнічнае буры, якія ўражваюць сваёю знішчальнаю сілаю. Гэта была сціснутая стальная спружына, нацягнутая да звону, цеціва, якія прымушаюць да асцярожнасці сваёю нібыта нерухомасцю і слабасцю.

Сын пасталеў, узмужнеў. Ад куточкаў вачэй веерам разбегліся тоненькія маршчынкі. А над правым брывом у яго маленькі шрам, які відзён толькі мацярынскаму воку. Ён Лене своеасаблівая памятка пра той далёкі час, калі яны з мужам будавалі гэты самы дом. Чатырохгадовы мужчынка ўпаў, рассек сабе брыво і з крыкам кінуўся да мацеры шукаць абароны, так і не выпусціўшы з рук пацурбалак... Няўжо з таго часу прайшло ўжо болей за трыццаць гадоў?..

— Добрага здароўя, мама.

Па сынавым твары слізгануў цень усмешкі. І раптам адразу прапалі ўсе незнаёмыя рысы. Яна бачыла толькі ледзь прыкметны шрам, куточкі губ, якія паторгваліся ад усмешкі, бачыла таго сына, якога яна ведала і любіла, які належаў толькі ёй...

— Супакойся, мама. Супакойся. Усё ж добра.

Ды Лена адчувала, што ўсё не зусім добра, што сын проста супакойвае яе. Думкамі сваімі ён быў ужо ў тым чужым свеце, куды Лена ніколі не магла пранікнуць. І толькі яна падумала пра гэта, як стаў знікаць той маленькі мужчынка, які некалі шукаў паратунку

ў яе на руках. Перад Ленаю зноў стаяў мажны, моцны мужчына, кроў ад крыві яе, сын — і ўсё-такі чужы.

Зязюля ў старым гадзінніку пракукавала два разы. Лена зноў стала тою рухаваю і клапатліваю мамаю, якою яшчэ з дзяцінства прывык яе бачыць Тоомас. Рукзак быў павешаны на вешалку, у таз наліта вада. На засланым цыратаю стале паявіліся сподачкі, шклянкі, масленіца, талерка з хлебам... Зашумеў прымус. Па кухні паплыў лёгкі пах дэнатурату...

Лена сядзела за сталом напроці сына, частавала яго, адказвала на пытанні, расказвала пра сваё жыццё, пра сваякоў... але не магла адкараскацца ад адчування, што сын пытаецца пра ўсё гэта проста з ветлівасці. Час ад часу Тоомас усміхаўся, але толькі куточкамі рота. Вочы, як і дагэтуль, былі сур'ёзныя, думкі, здавалася, луналі недзе далёка. І як бы сама па сабе пралегла паміж імі тая нябачная трэшчына, якая стала намячацца, калі Тоомас яшчэ вучыўся ў школе.

Ужо тады Лена перастала разумець сына, асабліва яго невытлумачальнае імкненне ўцячы з дому. Дзе можа быць лепей, чым дома! Ярка ўспомнілася ёй тое неадчэпнае адчуванне бяздомнасці, якое дапякала яе ў маладосці. Парабкоўская халупа адна за адною, бясконцыя пераезды з мызы на мызу. Скрозь і ўсюды пад чужою страхою. Гэта быў, напэўна, самы шчаслівы дзень у яе жыцці, калі яны нарэшце пасяліліся тут, у сваім дамку на ўскраіне горада. Наперадзе чакалі цяжкія гады. З раніцы да вечара даводзілася гнуць спіну ў садзе, каб расплаціцца з даўгамі за будаўніцтва хаты. Але ўсё гэта было лягчэй, чым адчуванне бяздомнасці. Дзіва што, яна дамаглася свае мэты — хай сабе і маленькае! — а ўсё ж мэты: нечага матэрыяльнага, да чаго імкнуліся ўсе з яе асяроддзя. І толькі падобныя дасягненні давалі чалавеку вагу і становішча.

А сына яе і яго нешматлікіх сяброў хвалявала зусім іншае. Хто стане чэмпіёнам па футболе? Які фільм лепшы — «Трывога на Дзікім Захадзе» ці «Віва Вілья»? Потым былі студыя танцаў, школьныя вечары, тэатр. У хлапечых спрэчках мільгалі імёны: Дастаеўскі, Ралан, Эйнштэйн, Кюры, Амундсен, Жуль Верн, Джэк Лондан. Моладзь была прываблена ўсім гэтым; яе вострыя, гарачыя спрэчкі здаваліся важнымі, але якая ад іх можа быць карысць, Лена не разумела.

І калі зімою ад гэтых недаступных ёй і недарэчных рэчаў паявілася толькі адчуванне, што сын усё

болей аддаляецца ад яе, дык летам ад іх веяла ўжо нечым грозным. Толькі яны маглі штурхаць яго на гэтыя бяздумныя забавы, якія зводзілі Тоома то ў шматдзённы турпаход, то рабілі з яго каморніка або рабочага на торфараспрацоўках. Уяўляючы, якая небяспека падпільноўвае яго па-за домам, Лена спрабавала знайсці саюзніка ў мужу і з яго дапамогаю ўтрымаць сына. Але РэйнКівімаа меркаваў, што хто яго ведае, як яшчэ жыццё павернецца ў хлопца. Дык няхай пазнае яго раней, каб не страціць свайго аблічча ў віры жыцця і не аказацца проста кавалкам мяккае гліны ў руках абставін і рэчаіснасці. Уга, Тоому, безумоўна, знайшоўся б занятак на канікулах і ў садзе, але як ён хоча разам з усімі на тарфяное балота... На тым размова і кончылася. І аднае раніцы Тоомас, закінуўшы рукзак за плечы, выйшаў з дому з галавою, якая гула ад мацерыных наказаў і перасцярог.

— Ды ты не дасі яму рады цяпер,— абараняўся муж ад Лeніных нападкаў. Маці верыла, што, калі б сказаў бацька своечасова сваё важкае мужчынскае слова, Тоомас астаўся б дома. Муж, як звычайна, узяўся яе суцяшаць: нічога, паглядзіш, з хлопцам не здарыцца.

І не здарылася. Ён не пераламаў рук-ног, не ўтапіўся і не трапіў пад машыну. Не пачаў ён ні піць, ні курыць, проста вярнуўся загарэлы дачарна і крышку пахудзелы.

Універсітэт, медыцына, лабараторыі і экзамены без астатку ўцягнулі Тоома ў той незнаёмы Лене свет. Дом яму стаў нечым накшталт гасцінічнага нумара, куды прыходзяць толькі начаваць. Лена любіла свайго сына, ганарылася ім, але сэрца тачыла пакутлівае адчуванне адчужэння. Аднак толькі смерць РэйнаКівімаа агаліла між імі бездань.

Сэрца старога рабочага стала здаваць ужо ў час акупацыі, але цвёрдая вера, што сын яго вернецца, што прыйдзе перамога, нібыта надавала яму сілы. Кожны дзень ён прытульваўся вухам да грубага палатна радыё і слухаў Маскву. І кожны раз, калі паведамлялі пра паспяховае наступленне, ён падсвядома чакаў, што, магчыма, іменна сёння дыктар што-небудзь скажа пра яго сына. Магутнае наступленне прывяло лейтэнантаКівімаа ў родны край, дакапала захопнікаў, і збылося біблейскае выслоўе, у якое так верыла Лена: «Хто ўзяў меч, той ад мяча і загіне». І якраз гэтым

летам, калі прыйшла перамога, калі яшчэ нязвыклым здавалася, што болей не трэба зацямняць вокнаў, якраз гэтым летам сэрца старога рабочага адказала...

Быў тады пагодлівы дзень. Раніцаю над горадам прайшла невялікая навальніца, прыбіла пыл, асвяжыла паветра. Калі Лена адыходзіла на рынак, муж чытаў падарожныя нататкі Нансена «Сярод ночы і льдоў». Так яго Лена і знайшла: унураната тварам у стол, у разгорнутую кнігу...

Дом, гэты клопат усяго Ленінага жыцця, страціў свайго юрыдычнага гаспадара. Яна хацела перапісаць яго на сына, але Тоомас адмовіўся. З усёй непахіснасцю сваіх дваццаці трох гадоў ён заявіў, што не мае намеру марнаваць час на дом. Ведама, няблага, што ён ёсць — недзе ж павінен чалавек жыць! — але траціць на яго сваё жыццё ўсё ж ён не будзе. Пазней Тоомас змякчыў свае словы, адгаварыўся тым, што сам ён нічога не зрабіў для дома, што дом законна належыць адной Лене, але ўдар быў нанесены... Сын ставіўся да клопату яе жыцця як да нечага пабочнага, як да непатрэбнага замілоўча. Гэта не ўкладвалася ў яе ў галаве. Дзеля каго ж яна старалася? Каму зберагла гэты дом насуперак вайне і руйнаванню?

Яны сядзелі за тым самым сталом, і Лена раптам злавіла сябе на думцы: чаго ж хоча ад жыцця яе сын? У што ж ён верыць? Яна папыталася пра гэта ў Тоома і атрымала адказ, які быў ёй гэтакі ж незразумелы, як і ўвесь свет, што акружаў яе сына: «У здольнасці! У чалавека! У самаздзяйсненне!»

З таго вечара Лена ўжо не задавала такіх пытанняў, дый сын старанна пазбягаў іх. Але пытанні асталіся і, мабыць, і Тоома бралі за сэрца, бо час ад часу ён спрабаваў адным махам загладзіць няўважлівасць, якая цягнулася не адзін тыдзень: прыходзіў раней дахаты, прыносіў піражныя, які-небудзь гасцінец, зачынаў гаворку пра бацьку, пра сваякоў... Але ў гэтых выпадках вочы яго рэдка загараліся і яшчэ радзей голас яго набываў тую выразнасць, якая была такая звычайная, калі да яго прыходзіў хто-небудзь з калегаў. І таму вечары гэтыя ператвараліся нібыта ў святочныя спектаклі, прасякнутыя духам афіцыйнай дзелавітасці. Яны быццам падкрэслівалі, што масты спалены, дарогі назад няма і бяда таму, хто адстаў...

— Ты б хоць напісаў, што прыедзеш...

— Нібыта я ведаў, што амністыя так нечакана ўбавіць мне тэрмін.

Лена нічога не сказала, толькі глядзела на сына, чакала... Але той сядзеў і маўчаў, утаропіўшыся на кухонны стол. І журба, што ішла ад яго, здаецца, напаўняла кухню, кватэру, увесь дом. У гэтай журбе ён зноў бачыўся Лене маленькім хлопчыкам.

— Не бядуй, сынок. Ты стаміўся, табе трэба адпачыць. Усё ж добра. Ты зноў дома, табе даравалі...

Тоомас здрыгануўся, устаў, закурыў цыгарэту — але рука, што трымала запалку, дрыжала.

Адразу не стала таго ўтульнага настрою, які паявіўся ад успамінаў, ад адчування, што ты зноў дома, ад старога насценнага гадзінніка і шумлівага прымуса.

Лена перапалохана глядзела на сына. Але Тоомас, здавалася, не заўважаў. Машынальна прайшоў ён у свой пакой і зачыніў дзверы.

У пакоі пахла яблыкамі. Лямпа, што звісала са столі, заліла мяккім святлом пісьмовы стол, паліцы з кнігамі, ложак і канапу. Тоомас стаяў на паласатым палавіку і, усё яшчэ трымаючы руку на выключальніку, аглядаў свой пакой. За гэтыя чатыры гады тут нічога не змянілася.

Гэта было проста дзіва! Колькі пераацэнена каштоўнасцей, страчана ілюзій, перажыта ўнутранай барацьбы, колькі перамен адбылося за гэты час у ім самім. Ён стаў жорсткі ў выпрабаваннях, дый увесь навакольны свет цяпер здаваўся яму суровым і бязлітасным. І раптам гэты пакой...

Тут зберагалася памяць пра яго юнацтва, пра гады вучобы, пра пошукі. Зберагліся хлуслівыя кнігі, якім ён верыў. Рукапісы дробязных работ. Усё, што гаварыла пра слабенькія пацугі мінулага жыцця і што цяпер выклікала ледзь не пагарду да самога сябе, было тут прэпаравана і ляжала перад ім, як у нейкім музеі, не, як у толькі што адмураваным склепе. Вунь і гэты лісток паперы каля тэлефона, на якім нязграбным мацерыным почыркам выведзена: «Пазвані 12-47».

Нават ён збярогся! Запіска, напісаная ў т о й д з е н ь. Няўжо яму ніколі не збавіцца ад праклёну таго няшчаснага дня?

Ён узяў лісток з нумарам тэлефона Салме і схаваў яго ў шуфляду ў стале. Ах, каб можна было зрабіць гэтак з пакутлівымі ўспамінамі!.. Але яны жылі ў ім і загараліся перад вачыма з яркасцю бліскавіцы.

...У зале стаяў глухі шум, але раптам ён абарваўся. Усе ўсталі. Увайшоў суд. Зачыталі абвінаваўчае заключэнне.

«Уночы на 16 мая 195... года ўрач гарадское бальніцы Тоомас РэйнавічКівімаа зрабіў пераліванне крыві грамадзянцы Асце Яанаўне Тооме, пасля гэтага апошняя раптоўна памерла. Як выяўлена следствам, смерць наступіла ад пералівання крыві неадпаведнай групы...»

Засядацель, сівы мужчына сярэдніх гадоў, не спяшаючыся чытаў абвінаваўчы акт. У вокны судовае залы касымі шырокімі палосамі падалі промні асенняга сонца. Цень ад засядацеля наўскасяк клаўся на засланы чырвоным сукном стол, на падлогу, цягнуўся да лавы падсудных...

15 мая... Слаўны вясновы дзень, цёплы, ласкавы ветрык. Дзеці гулялі ў пясочніцы... Ён ішоў праз парк у расхрыстаным паліце, з голаю галавою. І каля самага аўтобуснага прыпынку сустрэў Эндэля Вахера і тут успомніў, што ў Вахера сёння дзень нараджэння.

— Дзякуй, Тоомас,— адказаў Эндэль на яго віншаванне і дадаў: — Прыходзь вечарам, калі зможаш... Не, не, нічога асаблівага не будзе. Двое-трое сяброў, вып'ем па кроплі, павесялімся...

— З радасцю зайшоў бы, але ў мяне начное дзяжурства.

— А нельга яго як-небудзь адмяніць.

— Наўрад.

— Ну, ведаеш,— сказаў Эндэль, крыху падумаўшы,— дзень нараджэння бывае толькі раз на год. У цябе яшчэ ёсць час. Зойдзем хоць сюды ў зялёны рэстаран...

Яму не трэба было ісці. Ён жа ведаў сваю слабасць да алкаголю, спадчыны ваенных гадоў. Ён жа ведаў, што яму заступаць на начное дзяжурства. Але гэтак у чалавека — разважаць можа разумна, а рабіць па-дурному.

Аўтобусам ён даехаў да бальніцы, ні на хвіліну не спазніўся. Ён быў вялы і стомлены. Адчуваў, што трэба нешта зрабіць, а не дык сон адолее. І ён пачаў парадкаваць прабіркі, якія павінны былі даць яму матэрыял на кандыдацкую дысертацыю.

Ці доўга цягнулася гэтак — ён не ведаў. Дзяжурная сястра вывела яго з задумлівасці. Ахвяра цяжкага

дарожнага здарэння... толькі што прывезена ў бальніцу...

Тут нельга марудзіць, гэта было зразумела з першага пагляду. Перш-наперш ін'екцыі для падтрымання сардэчнай дзейнасці, потым пераліванне крыві...

Дзяўчына была непрытомная, твар бледны. Чырвоная ў чорную крапінку сукенка дзе запэцканая, дзе парваная. Над ледзь прыкметнымі выпукласцямі грудзей пабліскваў у святле лямпы абітурыенцкі значок. Можа, яна ішла з тэатра, расчуленая музыкаю Вердзі і трагічным лёсам Віялеты? Можа, са школьнага вечара, пацешаная ўвагаю якога-небудзь юнака? Можа...

Да Тоомаса раптам вярнулася бадзёрасць. Стомленасць прайшла, галава праяснілася. Ён паклаў на стол прадметнае шкло, надпісаў О, А, В, капнуў пад кожны значок сываратку. Вось тут памяць падвяла, бо туды, дзе павінна была быць група В, ён даў сываратку А...

Далей усё ўжо пайшло аўтаматычна. Іголка Франка... лёгкі шчаўчок... на кончыку пальца выступіла кропля крыві... змяшанне крыві з сывараткаю на прадметным шкле... Ёсць!

Усё яшчэ можна было паправіць. Біялагічная проба адразу паказала б, што група крыві вызначана няправільна, і ўсё абышлося б у Toома проста перапалохам. Але гэтая страшэнная разбітасць ва ўсім целе зноў нагадала пра сябе, захацелася хутчэй усё кончыць. Так, не робячы пробы, ён і пачаў пераліваць кроў...

Яму даводзілася бачыць смерць на полі бою, у лазарэтах, у гэтай самай бальніцы. Яна заўсёды паяўлялася нечаканаю госцяю, і да яе нельга было прывыкнуць. Але тут яна была такая неспадзяваная, што Тоомас анямеў ад жаху. І раптам ён усё зразумеў...

Перад вачыма стала цёмна-цёмна, як у глухую асеннюю ноч. У адно імгненне рассыпаўся ўвесь той падмурак, на якім ён збіраўся збудаваць чароўны замак галоўнай справы свайго жыцця. Нешта з бразгатам упала на падлогу, і гэты гук, здавалася, распаленым жалезам упіўся яму ў мозг...

У зале суда ўжо гарэла святло, калі суд вярнуўся з дарадчага пакоя. Хвалявацца не было прычын, бо віна яго была відавочная. Ён сам прызнаў яе, адмовіўся ад абароны і ад апошняга слова. І ўсё ж яго ахапіла трывога, змешаная з прагнаю цікаўнасцю, увага абвастрылася. І сёння бачыцца, як заматляўся ражок чырвонага сукна, што зачапіў ідучы засядацель. У зале

нехта кашлянуў, незвычайна моцна, як здалося Тоому. Аднекуль пацягнула далікатнымі духамі...

А пасля кончылася ўсё тое, што ён цяпер называў «мінулым жыццём».

«Ты зноў дома, табе даравалі...» У гэтым маміна праўда, і ўсё ж — як гэта наіўна! Тоомас адчуваў, што ніколі ўжо не зможа зноў пачаць з таго месца, дзе ўсё так нечакана абарвалася. Што варта дараванне другіх, калі ты сам сабе не можаш дараваць! Калі яшчэ выпадзе такая магчымасць, каб ураўнаважыць тадышняе?.. Ці даволі будзе здзяйсненне той вар'яцкай ідэі, што так спакушала яго да напярэдадні 15 мая?

У гэтым успаміне ўсё ж было нешта такое, што заварожвала, дык ён нават высунуў шуфляду са стала і траха не перапалохаўся, убачыўшы цёмную пляшачку з налітаю да палавіны нейкаю вадкасцю. І яна цэлая! Яго сываратка, якая павінна была ратаваць хворага нават у апошняй стадыі слупняку. Ён быў так перакананы ў гэтым, што хацеў нават, заразіўшы сябе слупняком, выпрабаваць яе дзеянне на сабе.

Цяпер гэта здавалася блазенствам. Рызыка, ведама, была. Слупняк — хвароба небяспечная. Здараецца, звычайнае лячэнне не дае вынікаў нават на пачатковай стадыі. Усё залежыць ад арганізма, ад таго, якая частка цела заражана, ад дзесяткаў і соцень дробязяў, пра якія нашы веды яшчэ надта павярхоўныя. Эксперымент на самім сабе — у той час гэта здавалася яму нечуваным дабром усяму чалавецтву! — на выпадак поспеху даказаў бы толькі тое, што пры яго арганізме сываратка была вельмі эфектыўная.

Ход думкі парушыла карціна, што ўсплыла ў памяці: непрытомная абітурыентка ў чырвонай з чорнымі крапінкамі сукенцы...

Тоомас рэзка матнуў галавою, быццам хацеў скінуць з сябе нешта непрыемнае.

Калі б не гэтае гнятлівае адчуванне віны і адзіноты!

«Пазвані 12-47». Але калі пазваніць, дык яму адказала б ужо не Салме Хійе, а Салме Раўдсеп. А што ёй заставалася? Разумець гэта разумееш...

Што рабіць? За што ўзяцца? Гэтыя безадказныя пытанні пяклі душу.

Каб жывы быў бацька. Ён як ніхто другі мог бы даць сыну параду.

Тоомас узяў са стала рэліквію ў жоўтай вокладцы — «Сярод ночы і льдоў» Нансена. Чытаючы гэтыя падарожныя нататкі, бацька пайшоў туды, адкуль не варочаюцца.

Тоомас падумаў, што ўсе гады ў юнацтве яго апекавала пераважна маці. Нават у абліччы яго мала было ад бацькі: толькі вочы і цёмныя валасы. А ў душы?

Бацька неяк заўсёды заставаўся ў цяні. Раніцаю ішоў на працу і вечарам вяртаўся стомлены. Слухаў радыё, чытаў газету ці кнігі. Дом і сад мала цікавілі яго. У жончыны і сынавы справы ён не вельмі ўмешваўся. Пра што ён думаў, у што верыў?..

Тоому ўспомнілася далёкае дзяцінства. Той нядзельны поўдзень у канцы лета, калі яны ўдвух з бацькам хадзілі па саломінкі на жытняе поле за горадам. Вечарам па хаце лcraталі вясёлкавыя мыльныя бурбалкі, на бліскучай паверхні якіх адбіваліся смешна пераккрыўленыя рэчы. Тоом лавіў мыльныя бурбалкі і пішчаў ад захаплення. А бацька стаяў каля таза і, нібыта чараўнік, выдзімаў з саломінкі ўсё новыя і новыя дрыгатлівыя шарыкі...

Тоому тады было каля чатырох. Наступныя гады не змаглі выціснуць з памяці гэтых дзіцячых уражанняў... Яму раптам успомніўся народны універсітэт.

Фізічная аўдыторыя амфітэатрам. Лектар гаворыць па-эстонску з невялікім акцэнтам. Вось ён акунае нанізаныя на нітку журавіны ў вадкі кісларод, кідае іх на стол, і яны бразгаюць, як гарох... Выключаюць святло. Праз прызму прапускаюць промень святла, на белай сцяне атрымліваецца спектр... А ён сядзіць побач з бацькам, расхваляваны камечыць у руках форменную шапку вучня пачатковай школы.

Хіба не спальвалі і таго чалавека, чыя кроў цячэ ў яго жылах, мары пра нешта вышэйшае за дом або сад? І няхай сабе стаў ён толькі ліцэйшчыкам... дык хіба не таму, што быў сын і што хацелася вывучыць яго, даводзілася клапаціцца пра кавалак хлеба? Ці многае з таго, пра што марыў бацька, змог здзейсніць сын?..

Тоомас раптам адчуў журботную радасць, што бацьку не суджана было ўбачыць, як усё ў адзін міг рухнула. І ўсё ж Тоом злавіў сябе на думцы: «Што на маім месцы рабіў бы цяпер бацька?»

І не ведаў, што на гэта адказаць. Нецярпліва хруснуў пальцамі, сюды-туды захадзіў па пакоі, потым рассеяна спыніўся каля кніжнае паліцы.

Нібыта самі па сабе пальцы прабеглі па карашках. З чуйнасцю піяніста, які правярае, ці наладжаны інструмент. І вось ужо адна кніга ў яго ў руках.

«Звычка — другая натура»,— усміхнуўся ён сам сабе, калі ўсвядоміў гэта. Хацеў быў сунуць кнігу назад і застыў ад здзіўлення: убачыў свежы медыцынскі часопіс!

З цікаўнасцю агледзеў паліцу, стаў перабіраць часопісы. Тут былі камплекты за ўсе чатыры апошнія гады. Ён задумаўся, потым кінуўся да ложка, адкінуў коўдру. Ад беласнежных прасцін, ад павалачак, ад старанна складзенай піжамы пахла свежаю прасаванаю бялізнаю.

Яго чакалі, чакалі ўсе гэтыя гады...

За акном развіднівалася. На пальчыках выйшаў Тоомас у прахадны пакой, нахіліўся над мацерыным ложкам, і з горла ў яго вырваўся ўсхліп: «Мамачка!»

## VII

Сёння я зноў перачытаў старонкі пра тое, як Тоомас вярнуўся дахаты, і злавіў сябе на думцы: калі б Тоом апісаў свае ўражанні пра маё прабыванне ў іх, якія б яны былі? Нават пры самым вялікім жаданні цяжка быць бесстаронннім і справядлівым да сябе. Чалавек заўсёды вельмі верыць другім, калі яго хваляць, і вельмі — сабе, калі яго ганяць. Тут, знайшоўшы толькі правільную прапорцыю, можна атрымаць праўдзівую карціну...

Хопіць тэорыі. Ніхто другі гэтай гісторыі не апіша. Значыць — прадоўжым!

Ад першых дзён асталася ў памяці толькі гнятлівая неразбярыха ў душы. Крыўда, злосць, жаль да сябе — галоўнае ў той гаме пачуццяў, што бурлілі ў маёй душы, як кіпячая смала.

«Раасалу зойме маё месца... Усё-такі мадам Рыйвес перамагла... Элен напіша дыпломную работу пра тое, як Стары рассек нагу...» Гэтыя думкі адольвалі мяне болей за ўсё. І ўсё-такі, вяртаючыся на другі дзень з працы, я заглядзеўся на чэшскія туфлі ў вітрыне.

«Трэба сказаць Элен, хай прыедзе, паглядзіць»,— дабрадушна падумаў я і ўжо гатовы быў пацікавіцца, ці ёсць у продажы трыццаць сёмы памер. Ды тут суровая рэальнасць напомніла пра сябе, і я нават здры-

ганууся і апасліва пакасіўся на Ківімаа — ці не заўважыў ён чаго-небудзь?

Я добра разумеў, што гульня прайграная. І што не астаецца нічога другога, як забыцца. Але недзе ў глыбіні душы цеплілася надзея, што гэта часовае, пройдзе яно, што ўсё кончыцца добра. Толькі гэтым можна растлумачыць, чаму, насуперак слушнаму жаданню — пра ўсё забыцца, у мяне так ярка паўставаў перад вачыма вобраз Элен. Ён урываўся ў мае сны, і раніцаю прачынаўся я разбіты.

Становішча акрэслілася на другім тыдні, калі, прыйшоўшы вечарам да Ківімаа, я ўбачыў там свае рэчы. Гарнітур, макінтош, бялізна, кнігі... Цешыцца не было чым. Усе яны неслі ў сабе нешта ад мінулага, і, гледзячы на іх, я ўсё ж павінен быў адчуць сорам за сябе.

Перабраў свае беласнежныя рубашкі. Яны былі папрасаваныя, усе гузікі акуратна ўшытыя. Тут быў і новы світэр, і накрухмаленая сарочка, якую надзяваў я толькі раз. Былі нават дзве мае любімыя кнігі з бібліятэчкі Элен: «Сям'я Цібо» і «Цытадэль» Кроніна. Я пільна перагартаў іх — раптам між старонак пакладзена запіска? Але не было, не было ні слоўца!..

Я напісаў тады Элен, што не бачу другога выйсця, як толькі ўцякаць ад мінулага. Думаў тады, што гэтае мінулае пагражае нам абаім і што мы ўцячом разам. Але цяпер Элен пакінула мяне сам-насам з н а ш ы м м і н у л ы м.

Колькі ні спрабаваў я ўзважыць розныя магчымасці, адчуваў толькі, што на мяне навальваецца атупенне і стомленасць. Страх перад паражэннем заглушаў усе думкі пра далейшую барацьбу. Але бачыць Элен, бачыць свайго ўдачлівага саперніка... Не! Лепей з'ехаць, знікнуць з горада. На якую-небудзь машынна-трактарную станцыю, у маленькі раённы цэнтр або ўсё роўна куды. Каб толькі збегчы адсюль!

Пачаў намацваць мясціну. І на пачатку лютага, здаецца, ішло да таго, што атрымаю прызначэнне на Каруметсаўскую меліярацыйную станцыю. Гэта была даволі сціплая ўстанова, калі браць пад увагу яе размяшчэнне і вынікі працы. Адным словам — тое, што трэба!

Справа была, можна сказаць, на пачатковай стадыі, калі мяне аднойчы пасля паўдня, пад канец рабочага дня, запрасілі ў кабінет дырэктара.

«Ужо дачуліся?» — было першаю маёю думкаю.

Стараючыся заглушыць хваляванне, я адчыніў дзверы.

Сустрэлі мяне ўсмешкамі. Мяндмаа падаў руку.

— Усё ў парадку,— сказаў ён мне,— летам балотны абшар Рыйтна-Аоверэ цалкам пойдзе на асушэнне. Так што бярыцеся за праект у поўным аб'ёме.

На нейкі момант апанавала радасць. Значыць, усё-такі ўсё балота! Недарэмна дубянелі, раскопвалі даўнейшыя дрэны... Але тут жа мой настрой упаў да нуля. Выходзіць, балота зноў гіраю павісне на нагах...

Як я вясною ў гэтым самым пакоі стараўся атрымаць Рыйтна-Аоверэ! Цяпер мне яго прапануюць, а я... Нечакана адчуў, што іменна балота адабрала ў мяне Элен. Яшчэ некалькі месяцаў карпець над праектам, дзе за кожным штрышком будзе бачыцца лета, ад якога я так многа чакаў,— гэта ж пакута! Але потым падумаў, што Мяндмаа, напэўна, не так лёгка было дамагчыся гэтага, ведама ж, нялёгка, каб цяпер ён мог сказаць мне: «Усё ў парадку» — і я толькі кіўнуў галавою.

Прыйшоўшы даКівімаа, застаў у яго Вахера. Не хацелася замінаць ім, і я астаўся ў прахадным пакоі, надумаўся пачытаць што-небудзь, але Тоомас паклікаў мяне.

— Чаго дырэктар выклікаў цябе? Мне, шкада, давялося пайсці раней...

— Ды так,— паціснуўшы плячыма, адказаў я.— Павінны будзем Рыйтна-Аоверэ цалкам зрабіць. Летам пачнуцца меліярацыйныя работы на ўсім балотным абшары.

— Вось бачыш, Эндэль,— нібыта нават з палёгкаю сказаў Тоомас Вахеру.

— Не разумею, чаму іменна ты павінен гэтым займацца? — адказаў той.— Яшчэ раз паўтараю, у мяне ў аддзяленні ёсць цяпер вакантнае месца лабаранта. Ты там доўга не заседзішся. Кончыш сваю работу па слупняку, атрымаеш вучоную ступень, і ўсе дарогі зноў адслоненыя. Не псуй жа з-за аднае прыкрае памылкі ўсяго жыцця!

— Не сапсую.— І па Тоомасавым твары слізганула такая самая ўсмешка, як і тады, калі я гаварыў пра дзве прафесіі будучыні: пра меліярацыю і атамную фізіку.

Я раптам спалохаўся: што, калі Тоомас згодзіцца? Па спецыяльнасці ён як-ніяк доктар. Пойдзе да Вахера, паявяцца новыя інтарэсы, і я астануся адзін-аднюсенькі.

— Не, не сапсую,— паўтарыўКівімаа і дадаў: — Дзякуй, Эндэль, што ўспомніў пра мяне, але я ўсё-такі не пайду, не магу пайсці!

— Большага я зрабіць не магу,— сярдзіта сказаў Вахер і падняўся.

— Ніхто ў цябе нічога і не патрабуе,— заўважыў Тоомас.

— Зразумей мяне правільна,— памякчэў Вахер,— але я напраўдзе не разумею... Ведаю, што ў цябе атрымалася з тою сывараткаю. Тваё жыццё і твае веды не толькі твая асабістая справа. Грамадства дало магчымасць табе вучыцца, працаваць па спецыяльнасці, грамадства мае права і патрабаваць, каб ты не закопваў у зямлю, як скнара, свайго скарбу, дзе ад яго нікому не будзе ніякай карысці. А ты...

— Не трывожся,— сказаў Тоомас.— У даўгу перад грамадствам я не астануся, хоць і не пайду да цябе ў лабараторыю... Яшчэ раз — дзякуй, што ўспомніў пра мяне. Не маю права далей цябе трымаць. Аўтобусам ты цяпер яшчэ паспееш на нараду.

— Усяго добрага, Тоомас. Усё ж падумай. Месца свабоднае.

Я эгаістычна абрадаваўся, калі Вахер пайшоў. Тоомас астанецца, Тоомас быў ужо ў Рыйтпа-Аоверэ. Ён ведае гэтае балота і зможа памагчы новаму праекціроўшчыку, калі я ўсё-такі паеду на меліярацыйную станцыю ў Каруметса.

Калі Тоомас вярнуўся ў пакой, я расказаў яму пра ўсё.

— Значыць — дэзерціруеш,— задумаўшыся, сказаў ён.

Я стаў шалёна абараняцца. Ды хіба ў Каруметсе не працуюць? Ці там не патрэбен інжынер?

— Чалавек павінен быць там, дзе ён болей патрэбны,— адказаў Тоомас.— У цябе цяпер гэта Рыйтпа-Аоверэ.

— Чаму ж ты сам адмовіўся ад Вахеравай прапановы? — зларадна парыраваў я.— Хіба і табе Рыйтпа-Аоверэ тое месца, дзе карысці ад цябе найболей?

— Ведама,— шчыра сказаў Тоомас.

Я здзіўлена ўгледзеўся на яго.

— Бедалагу Вахера сумленне заела. Гэта ж ён тады запрасіў мяне адзначыць дзень нараджэння. Дзівак чалавек! — Тоомас ледзь заўважна ўсміхнуўся.— Думае, гэтыя чатыры гады я праспаў. Трэба толькі разбудзіць чалавека, і ён пачне работу з таго самага месца, дзе яна перарвалася... Вахер жа неблагі мужчына. Добры доктар — і разам з тым гэтакі абмежаваны, што верыць у прароцкія сны. У студэнцкія гады мы былі блізкімі сябрамі, і таму мне здаецца, што гэта не Вахер, а я сам, той, які быў чатыры гады назад. І таму часам проста страшна робіцца, я нават пытаюся ў сябе: няўжо я гэтак вузка глядзеў на сваю працу, на абавязкі? Няўжо я мог з такім фанатычным запалам карпець на ўзбочыне жыцця?.. Тэтанус. Слупняк! Ведама, гэта небяспечная хвароба. Але ж ведаюць, як з ёю змагацца. Не трэба толькі запускаць хваробу. Сучасная медыцына ўмее адольваць інфекцыйныя хваробы. Медыцыне пара ўжо ісці на штурм крыніц хваробы! Атручанае выхлапнымі газамі і заводскім дымам паветра, несціханы вулічны шум і гэтак далей — яны пашкоджваюць нервовую сістэму гараджан і ўкарочваюць жыццё. А вяскоўцам дапякаюць балоты. Калі я вечарамі бачыў, як над Рыйтна-Аоверэ падымаецца туман і паўзе да вёсачкі, ён здаваўся мне ледзяным дыханнем смерці.

Мне ўспомніўся мой бацька, як ён кашляў крывёю, і на душы зрабілася цяжка.

— Я гляджу на балота вачыма доктара. Заняцца слупняком... і гэта тады, калі ў нас на тысячу хворых туберкулёзам прыпадае адзін выпадак тэтанусу — не, гэта было б дэзерцірствам з майго боку!

Я раптам зразумеў, што ў душыКівімаа яшчэ не адмовіўся ад свае мары вярнуцца да медыцыны. Толькі працаваць у ёй па-новаму, у другім кірунку, другімі сродкамі. Значыць, ён таксама пойдзе — і на сэрцы ў мяне стала яшчэ цяжэй.

— Мала асушыць Рыйтна-Аоверэ — заўважыў я,— добрая трэць сушы ў нашай рэспубліцы забалочаная.

— Ніякага кардынальнага пералому гэта, безумоўна, не выкліча, трэба думаць, навучымся разумней штурмаваць балоты. Доктар, як і гідрамеліяратар,— прафесіі мінучыя. Сваёю працаю і зжывём іх. Знікнуць балоты, знікнуць і хваробы... Разумееш?.. І калі-небудзь да гэтага ж прыйдуць!.. Вахер помніць мяне такога, які я быў чатыры гады назад. Праўда, тады сываратка была мне ўсім. Калі б не здарылася тае наканаванае па-

мылкі, я і цяпер яшчэ таптаўся б на тым далёкім сектары слушняку. Быў бы накшталт таго садоўніка, што абразае вяршкі пустазелля замест таго, каб вырваць яго з коранем... Але гэта, ведама, мая асабістая думка. Ты сам павінен лепей бачыць — пацягнеш ты гэтае Рыйтна-Аоверэ ці не?

Але пасля Тоомасавых слоў шалі ўраўнаважыліся, і я адчуў сябе Бурыданавым аслом паміж двух ахапкаў сена.

На другі дзень у абед я пайшоў у маленькую сталоўку і заняў месца каля самага акна. За мой столік селі дзве студэнткі. Іх шчэбет пра семінары і курсавыя работы зліваўся з шумам, што поўніў сталоўку. У гэты час тут заўсёды процьма людзей.

— Зірні, якая прыгожая шапка!

Гэтыя словы праніклі ў маю свядомасць, прымусілі павярнуць галаву.

Я адразу пазнаў іх. На Элен была цёмна-карычневая футравая шапка, якая рабіла яе падобнаю на зухаватую казачку. На каўняры ў паліце іскрыліся сняжынкі. Каракулевыя шапка і каўнер у Раасалу былі простыя і элегантныя.

Яны стаялі перад вітрынаю ювелірнага магазіна. Відаць, Раасалу сказаў нешта смешнае, бо на шчоках у Элен заскакалі такія знаёмыя ямачкі. А потым яны пайшлі далей. Паволі сыпаўся снег....

І я раптам зразумеў, што трэба рабіць: вазьму адпачынак, з'езджу ў Каруметса, а там будзе відаць.

* * *

Ужо калі я сядзеў у аўтобусе на мяккім скураным сядзенні, на мяне найшоў бязмежны невытлумачальны спакой. Горад, праект, Элен — усё, здавалася, адышло недзе далёка-далёка. І недзе далёка-далёка, здавалася, знаходзіцца і Каруметса. І я адчуў сябе адзінокім метэорам у бязмежным сусвеце.

Падумаў пра лыжы на даху ў аўтобусе, пра «Гаспадара Кырбоя» і пра «Героя нашага часу» пад сподам у чамадане. Выявіў нечакана, што ў мяне ёсць час на самога сябе і што няма куды спяшацца.

Якая розніца, дзе быць — у горадзе, у Каруметсе ці дзе-небудзь яшчэ? Усюды роўна — і дома і без дому. Хачу толькі спакою і баюся новых катастроф. Таму, напэўна, і ўзяў з сабою даўно прачытаныя кнігі.

Бег за акном зімовы краявід. Аднастайнае бязмежнае белае снежнае пакрывала ажыўлялі разлапістыя елкі; віліся над камінамі дымкі; сям-там стаялі стагі саломы; скрозь высіліся бязлістыя магутныя дрэвы; крываноснымі сасудамі да артэрыі збягаліся да язджалае шашы, пераплятаючыся і перакрыжоўваючыся, дарожкі і сцежкі.

Гэта даўнейшы гасцінец. Па ім, цокаючы капытамі, ішла цяжкая конніца крыжакоў. Беглі сані ганзейскіх купцоў, ехалі паштовыя карэты. Хадзіў па ім і эстонскі селянін, то ледзь валочачы ногі, калі закаванага ў кайданы «нядобранадзейнага бунтаўшчыка» вялі ў горад, то смела і цвёрда, калі ён з дубінаю ў руках ішоў патрабаваць у паноў справядлівасці. Цяпер пра тыя часы напамінаюць будынкі паштовых станцый з забітымі вокнамі, панскія двары, ператвораныя ў Народныя дамы і канторы калгасаў, цёмна-чырвоныя руіны цагляных замкаў...

Аўтобус пераязджаў масты, спускаўся ў лагчыны, узбіраўся на грабяні ўзгоркаў. У дарозе думкі мае заўсёды пераносіліся на балоты, якія часам падступалі да самае дарогі. Тым разам яны не мелі ўлады нада мною.

З лёгкім шкадаваннем, што кончылася прыемная бесклапотнасць, я сышоў каля развілкі, дзе стаяў слуп з дошчачкаю: «Меліярацыйная станцыя Каруметса 0,3 км».

Я шыбаваў у прысадах, абапал высіліся векавыя дрэвы. Воддаль віднеўся двухпавярховы панскі дом. У двары ў снягу стаялі розныя машыны. Тут было ўсё што хочаш, ды толькі не ціхі прыстанак спакутаванай душы, тут трэба было брацца за працу закасаўшы рукавы.

Паставіў лыжы пры сцяне і ўвайшоў у дом. Дырэктара не было, затое быў бухгалтар, худы, з нервовым тварам мужчына. Ён сустрэў мяне як назойлівага наведвальніка. Потым крышку памякчэў, пачуўшы, чаго я прыехаў.

— Праўда, нечуваны рэзрух,— згадзіўся бухгалтар, калі я заікнуўся пра тое, што бачыў на двары.— Тут трэба цвёрдая рука, цвёрдая рука і любоў да працы. Дасюль нашы галоўныя інжынеры глядзелі на Каруметса як на высылку. Прыедзе з горада, а адно вока ўсё назад глядзіць, і як выпадзе магчымасць...

— Даруйце, але ў мяне ўсё якраз наадварот.

— Дык я і не пра вас,— заўважыў ён,— я так... уво-

гуле... Пачакайце, калі ласка, калі сам дырэктар надыдзе. Тады ўсё і ўладзіце.

Я выкурыў цыгарэту, перачытаў прышпіленую кнопкамі да сцяны процілажарную інструкцыю. Чаканне пачало ўжо гнясці, калі з пярэдняй данёсся тупат: нехта абіваў снег з ботаў.

Увайшоў экскаватаршчык. Ад яго і даведаліся, што дырэктар паехаў у гарадок Оруветэ.

— Не ведаю, што вам і параіць,— сказаў бухгалтар.— Пераначуйце тут. У тры гадзіны, праўда, ідзе аўтобус у Оруветэ, але ж дырэктара вы і не ведаеце...

— Добра. Я тут крыху агледжуся.

Я выйшаў у двор. Снег на сонцы гэтак іскрыўся, ажно ў вочы калола. Увесь парк быў спаласаваны лыжнымі слядамі. І тут да мяне зноў вярнуўся той настрой, што валодаў мною ў аўтобусе па дарозе сюды.

Чаму я павінен узвальваць на сябе клопаты тутэйшай меліярацыйнай станцыі? І чаму я павінен чакаць іменна тут? У мяне адпачынак, і ніхто не мае права нічога ад мяне патрабаваць.

Узяў у канторы чамадан, ускінуў на плячо лыжы і выйшаў на шашу. Часу ў мяне хапае. Паспеецца...

Праз гадзіну я быў ужо ў Оруветэ, у гарадку, які іменна зімою жыве паўнакроўным жыццём. Тут узгорыстыя краявіды, і сюды з'язджаюцца лыжнікі, спартсмены, турысты. Тады вуліцы гарадка стракацяць яркімі світэрамі, тады да ночы ў вялікай зале ў рэстаране іграе джаз. Такім мне запомніўся гарадок пяць гадоў назад, калі мы абаранялі тут спартыўны гонар меліяратараў.

Такім важным усё гэта тады здавалася! Так азартна мы падтрымлівалі сваю каманду! І былі такія засмучаныя, калі аграномы нас апярэдзілі... Ці помніць яшчэ хто-небудзь у Оруветэ тыя спаборніцтвы? Наўрад.

Мне пашанцавала. Атрымаў у гасцініцы пакой, з якога відзён быў трамплін. За гэтыя гады ён быў надбудаваны. А новага універмага, белага будынка школы — іх увогуле тады не было.

Але ўзгоркі і лыжы асталіся тыя самыя, я пасля паўдня змог пераканацца. Вось тут, на крутым схіле, і давялося мне, як ні горка, саступіць лыжню таму агроному. А цяпер нават імя яго ўспомніць не магу...

Добрая выйшла прагулянка. Спрыяла рыйтна-аавераўская загартоўка — ішоў я на лыжах лёгка. Якраз развярнуўся і ўжо наважыўся быў з'ехаць з горкі, як

раптам заўважыў хлапчука, які ўпарта бег за мною следам.

Я прыбавіў скорасці. Адлегласць паміж намі стала павялічвацца. І тут сцяміў, што, сам таго не чакаючы, апынуўся ў становішчы саперніка, якога трэба дагнаць і перагнаць, каб пераканацца ў сваёй сіле.

Я ледзь стрымаў смех. Збавіў тэмп. І на тым самым наканаваным адхоне мне ўсё ж удалося прапусціць наперад гэтага запыханага хлапчука.

На змярканні з добрым настроем я вярнуўся ў гасцініцу.

Спусціўся ў вялікую залу. Яна была напалавіну пустая. Нават не ўсе лямпы гарэлі. Абслугоўвалі з паважнаю няспешнасцю, як і павінна быць у вялікім атэлі. Але час для мяне страціў значэнне.

Адна за адною запальваліся лямпы. Усе столікі былі ўжо занятыя. Аркестранты падняліся на подый. Уваходзячы, людзі прыпыняліся ў дзвярах і, шукаючы вачыма некага, азіралі залу...

— Прабачце, вы каго-небудзь чакаеце?

— Не. Калі ласка.

Яны селі: дзве жанчыны і мужчына, яшчэ расчырванелыя з марозу. Прыкладна маіх гадоў. Тая, што была ў спадніцы ў зборкі з цяжкага шоўку і ў белай блузцы, здалася чамусьці знаёмаю. Гэтыя вочы, падобныя на міндаль, гэты мякка абрысаваны падбародак, і разам з тым такі звычайны твар, які немінуча забываецца. Зразумеў па іх размове, што гэта настаўнікі мясцовае школы. Ды вось загучала мелодыя вальса, кружыліся першыя пары. Афіцыянты перасталі снаваць цераз сярэдзіну залы і балансавалі цяпер з падносамі між столікамі.

У нейкі момант паявілася гэтулькі цікавага, што вочы разбягаліся.

— Андрэс?

Я здзіўлена павярнуў галаву. Мы былі за столікам удваіх. На мяне глядзелі падобныя на міндаль вочы і ўсміхаліся. Заўважыўшы збянтэжанасць, яны пасур'ёзнелі.

— Не пазнаеш? Забыў ужо Ійгэ Кангур?

Безумоўна, гэта была яна, тая сціплая студэнтачка, партнёрам у якой быў я на адным курсавым вечары ў прыродазнаўцаў гадоў шэсць-сем назад.

Ійгэ прачытала адказ па маім твары, і ў вачах у яе засвяцілася тая затуманеная тужліваю дымкаю журба,

якая заўсёды бывае, калі ажываюць даўнія і добрыя ўспаміны.

— Помніш, Андрэс, як мы стаялі каля сажалкі, у якую глядзеліся вербы? Толькі што ўзышло сонца, і адусюль несліся галасы птушак.

У мяне было такое адчуванне, быццам я занава перачытваю нейкую іншамоўную кнігу, якую зусім забыўся, у якой усё незнаёмае. І патрэбен час, каб нешта з яе ўспомніць.

Той даўні курсавы вечар... Як і многія другія, быў я тады запрошаны «для камплекту». У іх на курсе было мала хлопцаў. Папраўдзе, які ж гэта вечар, калі не ў кожнай дзяўчыны ёсць партнёр у танцы?.. Я выцягнуў запіску з імем Дантэ і знайшоў Беатрычэ ў асобе Ійгэ Кангур. За сталом увогуле перайшлі на «ты». Ведама ж, я быў вельмі ўважлівы і ласкавы з Ійгэ, бо госцем быў і ведаў, чаго пакліканы.

Было прыемна і дзіўна, што ў некага проста сумленна выкананы табою абавязак, пра які ты даўно ўжо забыўся, мог пакінуць такую яркую памяць.

— Мне добра запомнілася, як ты праводзіў мяне дамоў на ўсходзе сонца і як я ўсё вагалася: ісці ці не ісці цераз ліпавыя прысады. Там часта сноўдаліся п'яніцы. І цяпер у мяне ў вушах гучыць твой голас, як ты ўпэўнена гаворыш, што ўрэшце мы не адказваем за ліхую долю прыліплівых гулякаў...

Цераз ліпавыя прысады...

— Чаго ты раптам зажурыўся? — папыталася Ійгэ.

— Афіцыянт глядзіць на нас як на нікчэмных чалавечкаў, якія толькі займаюць стол. Чаго вып'ем?

— Глядзі сам. Я адвыкла ад манер вялікага горада.

— Рэстараны, што тут, што там, аднолькавыя.

— Можа, але, мушу прызнацца, хай мне будзе сорамна, я тут усяго другі раз... Другі раз за тыя тры гады, як вучу дзяцей, вяду класную работу, правяраю сшыткі. Калі б сёння калегі выпадкова не зацягнулі сюды...

Наша гамонка перарвалася. За столік вярнуліся калегі Ійгэ. Паціснулі рукі, прабубнілі імёны, заўважылі, што свет сапраўды цесны. Было, мусіць, гадзін адзінаццаць, калі яны пайшлі. Мы асталіся з Ійгэ ўдваіх. Мяне пужала пустата адзіноты. І гэтак, што я ўпрасіў Ійгэ астацца, паабяцаўшы яе калегам, што сам асабіста правяду дамоў настаўніцу прыродазнаўства Оруветаўскай сярэдняй школы.

— Нам жа ёсць пра што пагаварыць, што ўспомніць,— сказаў я Ійгэ.— Праз гэтулькі гадоў сустрэліся знаёмыя.

Але як толькі мы асталіся ўдваіх, я адчуў, што нам з ёю па сутнасці няма пра што гаварыць. Зноў налілі ў чаркі, хоць Ійгэ і ўпіралася.

— Я і так сённяшнім вечарам дала пажыву оруветаўскім пляткаркам,— сказала яна.— Не хапала яшчэ напіцца. Кажу ж, я адвыкла ад манер вялікага горада... Ды раскажы ж што-небудзь... Як ты жыў? Што рабіў? Як сюды трапіў?

Я паціснуў плячыма.

— Ды так... ад суму...

— Ад суму?..— недаверліва перапытала яна.— Ты ж жывеш у такім цікавым асяроддзі. У вашым доме напэўна бываюць мастакі, вучоныя, пісьменнікі. І вы, безумоўна, ходзіце ўсюды. Ад суму ніхто не ўцякае ў Орувет э.

Я нават крыху збянтэжыўся: думаеш, што з'ехаў за блізкі свет, дзе цябе і ведаць ніхто не павінен, а ўсё-такі...

— А ты як жыла? — папытаўся я ў Ійгэ.

Цяпер яе чарга паціскаць плячыма. І сапраўды ў нешматслоўным яе расказе не было нічога незвычайнага. Кончыла, як і павінна быць, універсітэт, прыехала сюды паводле размеркавання, і ўсё. Гаварыла яна пра самыя будзённыя рэчы, але тон выдаваў тугу жанчыны, што асталася адзінокая, па цікавым таварыстве, па блізкім чалавеку. І хоць я адчуваў, што ў яе ніколі не хопіць сілы вырвацца з Орувет э, пакутлівую гэтую тугу я разумеў вельмі добра. А хіба і сам я цяпер не пакалашмачаны штормам карабель, які шукае ціхае завадзі? Але знайсці ў гэтай бухце цэлы карабель... міжволі пазайздросціш. І мне нават у галаву не прыходзіла, што гэты карабель мог бы мне пазайздросціць, пазайздросціць якраз таму, што мяне калашмаціў шторм, што я бачыў далёкія краіны, рызыкаваў і пакутаваў. У той момант я зразумеў толькі, што абое мы адзінокія ахвяры караблекрушэння — а перажыванні збліжаюць і суцяшаюць.

— Я прыехаў паглядзець, што за месца прапануюць мне на Каруметсаўскай меліярацыйнай станцыі.

— Чаму іменна ў гэтую глухамань?

— Тлумачыць доўга, дый навошта... Я не жыву болей у доме Рыйвесаў.

На твары ў Ійгэ адбілася здзіўленне.

— А Элен? — папыталася яна пасля.

— Куды ж ёй з роднага кутка ісці,— адказаў я.— Такая вось гісторыя.

— Ах, вось чаму...— вымавіла яна азадачана.— А я балбачу, як дурніца, пра далёкае мінулае... Калі б я толькі ведала...

— І што б тады?.. Я, напэўна, не меў бы некалькіх прыемных гадзін.

Яна машынальна паднесла чарку да губ і выпіла. Але настрою, які гарнуў да шчырасці, ужо не было. Ійгэ стала задумлівая, у яе незаўважна выступілі спрадвечныя жаночыя рысы — суцяшальнае спачуванне. Яно не знікла ні калі праводзіў яе па заснежаных вуліцах дахаты, ні калі пажадаў ёй добрай ночы перад невялікім жоўтым домам.

Раніцаю прачнуўся з думкаю, што сёння з'езджу ў Каруметса. Але за акном мяла пазёмка, а ў гасцінічным нумары было гэтак цёпла і ўтульна, што думка так і асталася думкаю. Я доўга вывучаў жыццёвы шлях Пячорына, потым заказаў размову з Каруметса і паведаміў, дзе буду на гэтым тыдні. Калі будуць у Орувета, хай знойдуць мяне.

Пасля паўдня вецер аціх. Я стаў на лыжы і падаўся да трампліна.

Учора скрозь і ўсюды былі сляды лыжаў, а сёння рассцілаўся некрануты белы кілім. Не, адна лыжня ўсё ж была.

Я падналёг. І каля трампліна ўбачыў яе, Ійгэ! З вязаным каўпачком на галаве, у чырвоным світэры. Не паспеў ёй і «прывітанне» крыкнуць, як яна адштурхнулася палкамі і знікла за грэбенем узгорка.

Нагнаў яе ўнізе.

— О, вітаю, Андрэс! Таксама надумаўся стаць на лыжы!

Яе шчокі гарэлі ад ветру. Сярод снягоў, акаймаваных цёмна-зялёнымі ельнікамі і блакітным небам, яна куды болей была падобная на тую Беатрычэ, у якой я калісьці быў за Дантэ, чым напярэдадні вечарам у рэстаране ў гасцініцы.

Ійгэ кепска ездзіла на лыжах, так што мне часова давялося стаць настаўнікам.

Ездзілі з ёю на лыжах і на другі дзень. Гэтыя прагулянкі задавалі рытм жыццю, увайшлі ў звычку.

Перадапошнім днём майго адпачынку ў Орувета прыехаў дырэктар Каруметсаўскай меліярацыйнай станцыі. Ён злавіў мяне ў гасцініцы ў тую хвіліну, калі я намерыўся пайсці па лыжы. Бегчы папярэджваць Ійгэ і тры чвэрці гадзіны, а то і цэлую гадзіну прымушаць гэтага нізкарослага бойкага чалавека чакаць — было неяк няёмка... Лепей паслухаць яго, наўрад ці размова будзе доўгая.

Але тут я паспяшаўся, вырашыўшы ўсё і за сябе і за яго. Дырэктар заказаў у нумар пляшку каньяку, каб зручней было грунтоўна абмеркаваць справу. Яго пункт погляду быў просты і зразумелы: я падыходжу ім і магу хоць заўтра займаць пасаду галоўнага інжынера. Але я ўжо і напалову не быў пераканапы, што мне патрэбна гэта, як дзесяць дзён назад у Каруметсе. У мяне быў час падумаць, і Рыйтна-Аоверэ зноў здавалася заманлівым.

У дырэктара ані не было песімізму, як у бухгалтара. Недахопы і цяжкасці, зразумела, ёсць, але агулам усё адолеем. Вы малады, энергічны чалавек, справу ведаеце... Ах, вялікія задачы?.. Ведама, ёсць і яны. Давядзём да ладу тэхніку і пакажам усёй рэспубліцы, на што здольная Каруметсаўская меліярацыйная станцыя... Ах, бухгалтар казаў другое? Ну, не варта звяртаць увагі. Гэтаму чалавеку вечна нешта здаецца... А заробак добры, і кватэра добрая. Кожную суботу можна ездзіць у Орувета. Увогуле, па руках — і ўсё ў парадку!

І ўсё ж змовін не адбылося, я папрасіў даць мне часу падумаць. Аднак пасля гэтага дырэктар пачаў мацней настойваць, а я занерваваўся яшчэ болей. Час ішоў. Падумаў, што ўсё-такі трэба было папярэдзіць Ійгэ. Яна чакае цяпер, мерзне... Увесь адпачынак кончыўся брынклівым дысанансам.

Нарэшце дырэктар спахапіўся, што яму пара на вячэрні аўтобус. Я паабяцаў паведаміць праз некалькі дзён пра сваё рашэнне.

Калі я астаўся адзін, у галаве ў мяне кружылася адна думка: як выблытацца з гэтага становішча? Каруметса пачакае, Каруметса нікуды не дзенецца. А Ійгэ? Што яна цяпер пра мяне думае? Трэба па крайняй меры папрасіць прабачэння...

Праз гадзіну я стаяў перад маленькім жоўтым домам.

5*

Пастукаў у дзверы. Адчыніла сама Ійгэ. Я прамармытаў прабачэнне і растлумачыў, што мне перашкодзіла прыйсці.

— Заходзь! Усяк бывае...— усміхнулася яна.

З абабітай светла-жоўтай фанерао пярэдняй, дзе пахла фарбаю, дзверы вялі проста ў пакой Ійгэ. Стол, ложак, кніжная паліца, тры крэслы — усё простае і звычайнае. Настольная лямпа з зялёным шкляным каўпаком — як у якой-небудзь установе. І ўсё гэта заліта яркім святлом ад электрычнае лямпачкі, прыкрытай эмаліраваным абажурам. Тут не было ценяў і адценняў, якія надаюць усім прадметам большую рэльефнасць.

Ійгэ нібыта прачытала мае думкі.

— Я толькі што прасавала,— апраўдалася яна,— а ў пакоі ўсяго адна разетка.

Адразу, як толькі выключылі верхняе святло і запалілі настольную лямпу, стала ўтульней. Блузка на спінцы крэсла зіхацела белізною, як і тады ў зале ў рэстаране, і мне ў гэты момант падумалася: а ці не збіралася Ійгэ сама мяне вечарам знайсці?

Галава гула ад выпітага каньяку. І ўсё ж я выняў з кішэні з паліта пляшку віна, каб загладзіць тое, што я прымусіў яе дарэмна чакаць. І хоць Ійгэ некалькі разоў клялася, што яна ўсё забыла і даравала, думкі мае і гаворка з неаслабнаю ўпартасцю ўсё кружыліся вакол гэтае гісторыі. Віно выпілі. Я стаў упрошваць Ійгэ пайсці са мною ў рэстаран пры гасцініцы. Прабавілі там першы вечар, прабавім і апошні.

Яна не захацела, і добра зрабіла. Паказацца ў такім месцы з п'яным мужчынам?.. Гэта значыла б не проста ліць ваду, а цэлы вадаспад пусціць на млын тутэйшых пляткарак.

Гэтага яна мне, ведама, не сказала. Я проста меркаваў, што яна так думае.

Я падняўся з крэсла, узяў яе руку — і змоўк. Зірнуў ёй у вочы. Раптам чырвань заліла яе твар, і яна рэзка вырвала руку, адступіўшыся назад на некалькі крокаў.

— Не, не!.. Пакінь мяне! — прашаптала яна і зрабіла рукамі жэст, нібыта адпіхала мяне.

Я абняў яе, але так нерашуча, так слаба, што паміж намі мог свабодна гуляць вецер. Раптам Ійгэ адвяла назад руку, шчоўкнуў выключальнік. Пакой агарнула цемра. І маю шыю абвілі дзве гарачыя рукі...

Прачнуўся. У галаве туман і цяжар. Ійгэ ўвіхалася каля стала, з якога зніклі ўсе кнігі і сшыткі. У акно зазірала чырванаватае зімовае сонца, адбіваючыся на серабрыстым пукатым баку кафейніка, на белых кубках.

— Усё-такі прачнуўся раней, чым я ўсё згатавала,— сказала Ійгэ.

Яна глядзела на мяне, і я заўважыў, якая яна прыгожая. Хоць на ёй была тая самая белая блузка, тая самая шаўковая спадніца ў зборкі. Тыя самыя вочы-міндаліны і той самы мяккі падбародак. Але ўсё ажыўляла нейкая невытлумачальная цеплыня, і ад гэтага звычайнае станавілася незвычайным, ад гэтага Ійгэ станавілася прыгожая, і краса яе запаміналася.

Я ўспомніў яе гарачыя губы, якія ў цемені ночы шапталі дакоры ўперамежку з ласкавымі, пяшчотнымі словамі: «Чаму ты не заўважаў мяне ў студэнцкія гады?.. Чаму яшчэ тады не паслалі цябе на Каруметсаўскую станцыю?.. Чаму?.. Чаму?..»

Мне стала журботна. Чуў, што мяне любяць, ды не мог адказаць тым самым. Затое меў я ўсе падставы ненавідзець Элен — і тым не менш...

Мне прапануюць цяпер ціхую гавань. Працуй штодзень, прынось дубчыкі на сваё гняздо, жыві без натугі і ўзрушэнняў, жыві ціхамірна з невялікімі сваімі нягодамі і радасцямі. Будзь тою падпораю, апіраючыся на якую можа падняцца ўвышыню кволая лаза дзікага вінаграду. Хіба гэта не шчасце... Ійгэ, безумоўна, шчасце. Так перапалохана яна шаптала: «Я не пушчу цябе туды назад!» І гэтае «туды» ў яе ўяўленні, здаецца, увасабляла і балота Рыйтна-Аоверэ, і дом Рыйвесаў, і ўвесь той нядобры свет, які змушаў мяне змагацца і пакутаваць.

А мяне палохала іменна зацішша.Ператварыцца з часам у разлютаванага сузіральніка, які з зайздрасцю і злараднасцю глядзіць на ўсё навакольнае, які ўсімі дзесяццю пальцамі чапляецца за свой мізэрны дабрабыт і якога на сконе дня, магчыма, праніжа вострае, адчайнае жаданне: ах, калі б можна было пачаць усё спачатку...

— Бяры яшчэ аладак! І варэння намаж! — прымушала Ійгэ. У гэтым было нешта такое дамашняе, знаёмае з дзяцінства, калі, бывала, тэмпература ці лёгкае недамаганне клалі мяне ў пасцель. Тады хвораму заўсёды давалі і рабілі ўсё, што найлепей, моцна выдыгалі.

Я зірнуў на гадзіннік.

— Аўтобус пойдзе праз паўтары гадзіны,— заўважыла Іійгэ.— Паспееш... Калі я цябе зноў убачу? Праз некалькі тыдняў пачнуцца канікулы...

Мы стаялі пасярод пакоя. Я ўжо быў у паліце.

— Калі?..— вымавіў я і шчыра сказаў: — Не ведаю... У «Меліяпраекце» трэба яшчэ сёе-тое кончыць... Не журыся! Ты вярнула мне веру ў самога сябе.

Пацалаваў яе моцна, моцна...

І ў аўтобусе ў думках маіх быў такі гармідар, што кандуктарцы двойчы давялося пытацца ў мяне, дакуль я еду.

## VIII

ДаКівімаа дабраўся я пад вечар. Тоомас яшчэ не прыйшоў з работы. Не звяртаючы ўвагі на мае адгаворкі, Лена запаліла прымус, выставіла на стол хлеб, масленіцу, бляшанку кілек...

— Я прывыкла да нечаканых прыходаў,— сказала яна.

Я зразумеў, чые нечаканыя прыходы дахаты мела Лена на ўвазе. За час, што жыву я тут, яна паспела расказаць мне шмат з таго, што было ў іх жыцці да напярэдадні 15 мая. Я быў рады, што яна не вымагала маіх прызнанняў. І гэта стварыла паміж намі атмасферу даверу, так што я без просьбы расказаў ёй пра сваю маладосць, пра вучобу, пра бацькоў. Толькі дома Рыйвесаў не чапаў.

Глядзеў, як Лена завіхаецца каля стала, і ўпершыню аднекуль з глыбіні душы паднялося разуменне, якое даўно ўжо трывожна нараджалася ў ёй: не магу ж я навечна астацца ў Ківімаа! Навошта гэтай старой жанчыне няньчыцца яшчэ і са мною! Хіба мала ёй з Тоомам клопатаў!

Іійгэ прапаноўвала ж мне дамашнюю ўтульнасць. А я адмовіўся. Няўжо не прайшла ў мяне без следу раскоша дома Рыйвесаў?.. Можа, і гэтак. Болей жа я не хацеў бы варочацца ў свой даўнейшы студэнцкі катушок, абсталяванне ў якім — стол, крэслы і ложкі. Я ўжо не змог бы пражыць на студэнцкую стыпендыю.

І ўсё-такі ці не адхіліў я прапанову Іійгэ па той самай прычыне, па якой і Тоомас рэзкім «не» адмовіўся ад гэтага дома? Ці не таму на мяне веяла холадам ад дома Рыйвесаў, што ўсё тут мне было чужое? Ён быў мне ўсё роўна што раскошны гасцінічны нумар, у якім

непазбежна адчуваеш сябе часовым пасяленцам. Сённяшняе аблічча яму далі бацькі Элен. І тут нічога змяніць немагчыма.

Я раптам зразумеў, што павінен сам стварыць сваю дамашнюю ўтульнасць. Перш-наперш гэта — а там будзе відаць...

Рабілася нядобра пры думцы, што ўКівімаа мяне і сапраўды маглі палічыць нязваным госцем. Але імення гэтае адчуванне страху было пацвярджэннем таму, што я пераадолеў пачатковы спад настрою. Дасюль мне было ўсё роўна, што прынясе заўтрашні дзень. І калі б дзверы ўКівімаавай кватэры зачыніліся перад маім носам, у гасцініцы ці ў пакоі адпачынку на працы знайшоўся б куток, дзе можна было б прыткнуцца. А цяпер...

Закіпеў чайнік. Я ўскочыў, падышоў да прымуса.

— Што ты, Андрэс... Я сама...

— Не, не. Сядзіце. Сёння слугую я.

Я ўспомніў пра вэнджаных вугроў, што прывёз з Оруветэ Кардэну. Пасля хвіліннага вагання вырашыў, што Кардэн абыдзецца на сваім вечары брыджа і без іх.

— Зусім як некалі, калі Тоомас быў яшчэ не гэтакі,— сказала Лена, і вочы яе праслязіліся.

Калі я наліў у шклянкі чаю, наша гаворка і перакінулася на Тоомаса. Гэтым разам Лена не аддалася ўспамінам. Гэтым разам выліўся ў словах яе вялікі душэўны боль за сына. Лена не магла змірыцца з тым, што яе адукаваны сын замест белага доктарскага халата носіць робу меліяратара.

— Тоомас цябе паважае, Андрэс. Пагавары з ім пры нагодзе, каб ён зноў у дактары пайшоў. Бач, Вахер прыходзіў, а нічога...

Просьба яе здалася мне, праўда, наіўнаю, ды разам з тым такою святою, такім прыкладам самаахвярных мацярынскіх клопатаў, што я ні слова не сказаў супраць. Ды ці варта казаць мацеры, што сын яе перажывае крызіс, які ён павінен сам пераадолець. Сказаў толькі, што Тоомас вечарамі чытае медыцынскія кнігі.

— Кажаш, чытае! — нечакана засвяцілася Лена.— Дзякуй богу, усё-такі чытае...

Так мала часам трэба, каб чалавеку зрабіць радасць! У мяне быццам камень з душы зваліўся, і я зразумеў, па крайняй меры Лена не чакае, каб я ад іх пайшоў.

А вечарам, лежачы на канапе, я зноў і зноў абдумваў планы стварэння свайго жытла.

Дык вось, трэба брацца за працу закасаўшы рукавы, каб дасягнуць мэты. У Каруметсе я набліжаўся б да яе паволі, але пэўна. А тут болей магчымасцей выявіць сябе ў працы. Рыйтна-Аоверэ не выведзе мяне нават у кіраўнікі групы. Аднак і яно толькі першы важкі крок. Потым меліярацыйныя работы будуць правадзіцца ўсё шырэй, установа разрасцецца, штаты павялічацца. І непазбежна павялічыцца колькасць месцаў галоўных інжынераў, бо пашырэнню работ спадарожнічае дыферэнцыяцыя...

Я павінен стаць такім самым патрэбным і каштоўным работнікам, якім у свой час быў Мяндмаа, калі ён яшчэ працаваў непасрэдна на балотах!

Новая мэта была пастаўлена, але мяне, як ні дзіўна, зусім не хвалявала, дасягну я яе ці не. І тым не менш я спаліў за сабою масты, паслаў у Каруметса адказ.

Гэта была нейкая духоўная лянота. Недзе ў глыбіні падсвядомасці, напэўна, засела думка, што новая мэта не вартая старой. Якія толькі надзеі ні ўскладаў я на свой праект летась!..

А цяпер дакаціўся да таго, што прыкідваюся сам перад сабою, ахвотна хапаюся за ўсякія дробныя і пабочныя справы. Яны нібыта даюць мне права адкладаць праект з дня на дзень.

Папсавала рабочы настрой і гісторыя з прэміямі за палявыя работы. Мяне ніколі не цікавіла сістэма размеркавання прэмій. А тут так і карцела дакапацца, чым кіраваліся пры іх налічванні. Варта толькі ўявіць, як мы дубянелі, моклі, мясілі гразь на рыйтна-аоверафскім балоце, толькі падумаць, што мая прэмія была адною з самых маленькіх... Так увесь і закіпеў ад крыўды! Але намаганнем волі заглушаў здрадніцкі стук сэрца, заганяў крыўду на самае дно душы, дзе яна тлела жывым вугальком...

Усё гэта дало свой плён... Але калі ўспамінаю цяпер той перыяд, дык становіцца вельмі зразумела, у чым галоўная прычына маёй тадышняй інертнасці. Ійгэ! Іменна яна!

Папраўдзе, калі б не яна, мой адпачынак у Оруветэ прайшоў бы ў гнятлівай журбе. Безумоўна, я сказаў ёй: «Ты вярнула мне веру ў самога сябе!» — і ў той момант гэта было праўда. Але ўсё-такі...

Чаму яна не змагалася за сваё каханне, калі я быў яшчэ студэнтам? Чаму не абзывалася, калі я заляцаўся

да Элен? Жыве ў сваім Орувэтэ, сочыць за маім жыццём і чакае, чакае зручнага моманту...

Нічога не скажаш, першая частка яе разлікаў апраўдалася. Момант быў зручны, чаму б ім і не пакарыстацца? Я быў адзін, п'яны, быў абыякавы да ўсяго свету з яго клопатамі і справамі...

Я быў несправядлівы да Іўгэ. Я стаў ледзь не пагарджаць ёю, калі падумаў, што Элен ніколі б не апусцілася да такога самапрыніжэння.

Я не пісаў Іўгэ. Не паслаў ёй нават таго вызначальніка адлегласці, які абяцаў адразу паслаць. І ўсё-такі яна не выходзіла ў мяне з галавы. Запалі ў памяць яе вочы-міндаліны, чырвоная лыжная шапачка, адухоўленая ўсмешка. Іўгэ змагалася ў маіх думках з Элен — і замінала мне працаваць.

Тоомас таксама заўважыў гэта, і аднойчы вечарам, калі сядзелі ў яго пакоі, ён сказаў:

— Цябе, здаецца, не вельмі цікавіць меліярацыя.

Па радыё якраз перадавалі журботна-лірычны дуэт Юты і Юла з «Вікерцаў», у якім гучала просьба закаханых, каб шчасце ніколі не пакінула іх.

Я, напэўна, нават пачырванеў. Стаў залішне апраўдвацца.

— Час адбіраюць толькі ў таго, хто дазваляе яго адабраць,— спакойна сказаў Тоомас.— Калі ты сам не абароніш свайго праекта, хто ж за цябе гэта зробіць? Патрэбны вера і энтузіязм...

— Бач ты,— трохі з'едліва сказаў я.— Мне патрэбны вера і энтузіязм... А хто ж там, у Рыйтна-Аоверэ, іранічна ўсміхаўся, калі я казаў, што на свеце ёсць толькі дзве прафесіі будучыні: атамная фізіка і меліярацыя? Забыўся ўжо?

— Помню. Але што ты можаш мяне вось так зразумець, да гэтага я і напраўду не дадумаўся.

— А як жа яшчэ цябе разумець?

— Усмешка можа мець сотні значэнняў. Можа, усмешку ў мяне выклікала якая-небудзь прачытаная кніга, ці ўбачаная п'еса, ці... мая маладосць.

Я не даў рады, што адказаць. Задумаўся над Тоомасавым пытаннем, але ўсё болей мяне зачароўваў стрыманы, як у паўночнікаў, запал дуэта. Думкамі я перанёсся ў Орувэтэ. Лыжныя прагулянкі, сцежкі заечых слядоў на чыстым снежным пакрывале, цёмна-зялёныя елкі, з лапак якіх з шоргатам асыпаліся пласты снегу, пах сена з гумнаў, што нагадваў пра далёкае лета, і

сярод усяго гэтага чырвоны світэр, чырвоны — як кроў у сэрцах закаханых...

Тоомас сядзеў, барабаніў пальцамі па стале. Пагляд рассеяны. Усё яго цела дыхала нервоваю ўзбуджанасцю. Раптам ён загарнуў кнігу ў сінім пераплёце, што ляжала перад ім, у святле лямпы бліснула буйная, ціснёная серабром назва — «Туберкулез».

— Пытаешся, чаго я тады ўсміхаўся?

— Ды што ты...— паспрабаваў аднекваццa я і пашкадаваў, што стаў варушыць мінулае.

— Двума словамі не растлумачыш. Нізашто! — сказаў ён, не заўважаючы маіх пратэстаў.— Як бы табе сказаць?.. Ну, дзесяць — розніца ў нас з табою ў гадах. У звычайных умовах гэта нішто. Ва ўсякім разе ў гэтым няма нічога такога, што перашкаджала б разумець аднаму аднаго. Ды іншая справа ў нас з табою, паміж намі стаіць вайна! Я ваяваў, а ты не... Гавару не дзеля таго, каб пахваліцца, і не папракаю цябе — проста канстатую факт. Гэта быў вялікі горан, праз які давялося прайсці ўсім старым поглядам і пераканапням. І ад іх мала чаго асталося. Што здавалася важным, стала мізэрным, і наадварот. Нібыта шкарлупіна спала, агаліўшы ядро, пра якое мы нават не здагадваліся. Колькі чаго мы навучыліся бачыць, разумець і цаніць зусім іначай!.. Што значыць, напрыклад, кавалак дошкі ў звычайным мірным жыцці? А вось калі стаіш на пасту ў траскучы мароз і пад ногі знойдзецца дошчачка... Ці белыя прасціны, чыстая сарочка, тысячы будзённых дробязяў...

Я заўважыў, што ўсё гэта ён гаворыць хутчэй сабе, чым мне. Гэта была не размова і абмен думкамі — гэта былі проста думкі ўголас. Ён успамінаў асобныя эпізоды, выпадкі, дэталі. Шчыра прызнацца, мне было нядобра.

Раптам ён змоўк, як бы хочучы сказаць: і навошта я ўсё гэта табе гавару. Але ён ужо сказаў шмат, і дадумаць астатняе было няцяжка.

Чым было мне паступленне ва універсітэт? Проста прадаўжэннем вучобы, бо я хацеў быць інжынерам. Натуральна, марыў вучыцца, некім стаць, і, натуральна, ніколі мяне не надганяла думка, што я некаму і нечым абавязаны за магчымасць вучыцца. Тоомас напэўна адчуваў нешта падобнае, калі ўспамінаў пра баявых таварышаў, якія так і не вярнуліся... Раны вайны чакаюць лекарскіх рук! Безупынна цябе точыць думка,

што твой абавязак вучыцца і працаваць і за тых, хто...
З якою ж утрапёнасцю павінен быў ён вучыцца, калі на мяне і то дзейнічаюць успаміны пра бацьку.

Калі я гаварыў тады пра прафесіі будучыні, ці не напамінала гэта Тоому іменна той перыяд яго жыцця? Ці не давялося яму прызнацца самому сабе, што ён не апраўдаў надзей, якія ўскладалі на яго час і грамадства? Ці не было ў яго адчування, што сябры дарэмна аддалі за яго жыццё, што ў ім ужо згас юнацкі запал? Усё гэта там, у Рыйтне, не магло не пранесціся ў яго ў галаве і, безумоўна, выклікала ўсмешку, горкую ўсмешку з самога сябе.

Мяне мучыла сумленне за страчаны час.

Доўга ў той вечар перачытваў я некалі даўно вывучаныя мудрасці і дзівіўся са здольнасці чалавечага мозгу забывацца. На другі дзень таксама шчыраваў, як мурашка. Але паступова ўзбуджанасць, што ахапіла мяне ў той вечар, стала спадаць.

Мёртвыя ёсць мёртвыя. Мой брат таксама адзін з іх. Але ўсё-такі я толькі розумам магу дайсці да іх бессмяротнага подзвігу. Мы не ляжалі побач у ямах ад снарадаў, нас не звязвалі агульная небяспека, агульнае гора і радасць, няма ў нас і агульных успамінаў. Мой брат пайшоў на вайну якраз гэтак, як кожнае раніцы хадзіў на працу. Толькі заплечны мяшок і замаркочаны мацерын твар былі не такія, як звычайна... І, нарэшце, гэта было іх абавязкам. Гэтаксама пайшоў бы цяпер і я, калі б спатрэбілася. А дома асталіся б такія самыя, як я тады, хлапчукі...

Думкі мае зноў сталі кружыцца вакол Орувета. І калі Тоомас у суботу пад абед падышоў да мяне на рабоце і сказаў, што ў пакоі адпачынку мяне чакае госця, я адразу зразумеў — гэта Ійгэ.

На ёй была шэрая мутонавая футра, светласць якой яшчэ больш адцянялі бардовыя шаль і пальчаткі. Убачыўшы мяне, Ійгэ крышку зачырванелася і паспешліва стала тлумачыць, што яна тут у камандзіроўцы, прыехала па вучэбныя дапаможнікі. Твар яе зноў дыхаў красою і тою адухоўленаю цеплынёю, якая запала мне ў памяць тады, у дзень ад'езду з Орувета.

Адчуў, што не змагу схлусіць, нібыта вечар у мяне заняты. Ійгэ прыязджае сюды, а я абыходжуся з ёю як варвар. Варвар?! Гэта ж сказала Элен...

Ды... вось зручная магчымасць паказаць Элен, што яна не адзіная жанчына на свеце! Трэба куды-небудзь

пайсці з Ійгэ, каб нас бачылі і каб гэта дайшло да вушэй Элен. Адразу ж прыйшла ў галаву «Еўропа». Гэтая задума спакусіла мяне, і я адчуў, што павінен, хоць кроў з носа, здзейсніць яе.

Ійгэ прыняла маё хваляванне за шчырую праўду, доўга ўголас разважала, ці вольны будзе ў яе вечар ці не. Нарэшце паабяцала чакаць мяне ў гасцініцы.

Тоомас пачаў пасміхацца ўжо тады, калі я пытаўся па тэлефоне, ці ёсць яшчэ білеты на вячэрні спектакль. Калі ж я дома напрасоўваў штаны, глянцаваў чаравікі і брыўся, у ім зусім прачнуўся чорт. Ён паглядаў на мае зборы паблажліва і напяваў любоўныя матыўчыкі, што ні матыўчык — усё большая смаката.

Я агледзеў сябе ў люстры. Твар асунуўся. Летні загар сышоў. У чорным гарнітуры, з цёмным чубам, я здаўся сабе нават крышачку бледным.

І ўсё ж ад свайго адлюстравання ў мяне цяпер было большае задавальненне, чым тады пры першай сустрэчы з Раасалу. Вялікі мастак Час лёгенька прайшоўся па маім партрэце пэндзлем, пакінуўшы яшчэ некалькі тонкіх штрыхоў.

— А цяпер што: «Хай не міне вас шчасце»? — з усмешкаю папытаўся Тоомас, калі я апранаў паліто.

— Не! Цяпер справа такая, што «пры выпадку і чорта самога пасыплем цукрам!» — адказаў я на гэта словамі Палонія.

Радасць ад удалае фразы не праходзіла нават па дарозе да гасцініцы. Адбіць Тоомаў выпад яго ж зброяй!.. Няхай падумае, седзячы дома.

Пад вечар вецер перамяніўся. Ён дзьмуў цяпер з паўдня, сыры і роўны, паказваючы на адлігу, скорае абуджэнне прыроды ад зімовага сну.

Ійгэ ўжо чакала мяне ў вестыбюлі. Першаю маёю думкаю было, што Элен гэтага не зрабіла б. А Ійгэ зрабіла і так проста і натуральна, што мне стала крыху няёмка. Ійгэ ідзе са мною ў тэатр, ідзе перажываць за трагічны лёс Маргарыты, а я карыстаюся гэтым, каб пацвяліць Элен. Але іменна таму я быў асабліва ўважлівы да Ійгэ, стараючыся такім чынам заглушыць дакоры сумлення. І ўсё ж мяне ахапіла пераможнае пачуццё, калі сустрэў у фае дзвюх аднакурсніц Элен і павітаўся з імі, міла ўсміхаючыся.

Глядзельная зала з бліскучаю люстраю, з цёмна-сінім аксамітам крэслаў і парэнчаў балконаў, з мернаю какафоніяй пры наладцы інструментаў, з вячэрнімі

ўборамі і лёгкім пахам духоў нараджала тую ўрачыстую і святочную атмасферу, якая так уласцівая тэатру. Святло патухла. На столі паявіўся водбліск прамавугольніка аркестра. Снапы святла выхапілі з цемры заслону. Уверцюра завалодала пачуццямі публікі, адцясняючы радасці і гаркоту будзённых спраў, уводзіла людзей у чароўны свет опернае дзеі, што павінна была адбыцца.

Мне ўспомнілася, што я ў гэтым сезоне ўпершыню ў тэатры. Упершыню, хоць мінулае зімы хадзіў сюды вельмі часта. Нават гэтую оперу слухалі з Элен...

Заслона паднялася. Промень святла рассек напалам змрок сцэны, лёг на стомлены ад марных пошукаў твар лядашчага старца, крыху высвеціў кніжныя паліцы з фаліянтамі ў скураных пераплётах, колбы, чалавечы чэрап на рагу стала, змрочныя скляпенні і вузкія закратаваныя вокны ў цесным памяшканні. Усё было гэтаксама, як і год назад, але... Год назад Фаўст, які прагнуў маладосці і кахання, з кубкам яду ў руках бачыўся мне толькі оперным героем, які павінен зрабіць так, як ён робіць, выключна дзеля таго, каб увогуле было пра што пісаць оперу. А цяпер яго адчай і прага кахання ані не здаваліся так далёкімі ад жыцця... Ды вось ужо Фаўст змацаваў дагавор крывёю і, займеўшы маладосць, у суправаджэнні Мефістофеля паспяшаўся акунуцца ў людское жыццё... Нітка маіх роздумаў абарвалася.

Наступная карціна з салдатамі, гараджанамі і студэнтамі, якія банкетуюць на плошчы, не захапіла мяне. Я раптам убачыў, што Валянцін кепска загрыміраваны, што дэкарацыі сумныя, а касцюмы паношаныя. Хацеў быў шапнуць пра гэта Іійгэ, але заўважыў, як яна, крыху падаўшыся наперад, прагна слухае. Такое поўнае падпарадкаванне музыцы здзівіла мяне. Я адхіліўся. І тое, што хацеў сказаць, болей не здавалася надта важным.

Я раптам зразумеў, што гляджу на сцэну вачыма Элен. Яна ж тады скіравала маю ўвагу на недахопы афармлення.

Зноў зірнуў на сцэну, нібыта наважыўся выявіць, што там зачаравала Іійгэ. Падзеі, што разгортваліся цяпер, сталі зваблівадь і мяне.

«Гэта ж усемагутны гімн кахання»,— прамільгнула ў галаве, калі Мефістофель сілаю чараўніцтва прымусіў зазіхацець зоры ў начным небе і пахнуць ружы ў садзе.

І мне прыемна было глядзець на гэтую паэтычную сцэну, слухаць лірычную музыку Гуно. А год назад я наракаў, што кампазітар не перадаў філасофскай сутнасці галоўнага твора Гётэ...

Як вузка я гэта тады разумеў! А цяпер кожная сцэна падкрэслівала, што няма другога такога шырокага, агульначалавечага і ўсеабдымнага пачуцця, як каханне. Чым вымераць велізарны эгаізм кахання і яшчэ большы яго альтруізм! Да якіх толькі злачынстваў і пакутаў не даводзіла гэтае пачуццё Маргарыту і Фаўста, і ўсё ж у пройгрышы астаўся Мефістофель. Толькі з пункту погляду суровага рэалізму ўсё гэта было даволі звычайнаю і трафарэтнаю гісторыяй пра спакушаную дзяўчыну, якая пасля ўсяго перажытага ў парыве замарачэння стала злачынкаю. Ды ў тым і ёсць чароўная сіла мастацтва, што яно змагло ў імя кахання апраўдаць Маргарыту не толькі перад богам, але і перад людзьмі.

Іменна гэты жыццесцвярджальны заключны акорд астаўся гучаць ува мне, калі апусцілася заслона. Паглядзеў на Ійгэ, якая спяшалася крадком змахнуць слязінкі, што блішчалі на шчоках.

І ў гэтым было нешта такое ад спрадвечна жаночага самаахвяравання, што я расчуліўся.

Мы моўчкі ішлі па тратуары, уздоўж якога стаялі голыя таполі. Думкі ўсё яшчэ былі ў палоне толькі што бачанага і чутага. І бязмежнае Маргарыціна каханне сцяною стаяла між намі, так што Ійгэ нават здрыганулася, калі я ўзяў яе пад руку.

Мы прыпыніліся перад гасцініцаю ў цяні раскідзістага клёна. Я паклаў руку на плячо Ійгэ. Яна паглядзела мне проста ў вочы і сказала фразу з Мефістофелевай насмешлівай серэнады, якую спяваў ён пад акном у Грэтхен: «Пакуль пярсцёнак не на пальцы, мужчынам ты не вер...»

Мая рука апусцілася. І раптам Ійгэ сама мяне пацалавала. Гэта быў такі стрыманы і чысты пацалунак, што без астатку растварыў маю пажадлівасць. Ійгэ адразу пабегла да гасцініцы. Я выйшаў з ценю дрэва. Ійгэ на імгненне прыпынілася на ганку, памахала мне. Я зразумеў, што гэта развітанне, што мы не скора ўбачымся з ёю. І толькі па дарозе дамоў прыйшло ў галаву, што Ійгэ баялася не так мяне, як сябе.

І зноў ува мне загучаў заключны акорд оперы, на душы прасвятлела. Душа поўнілася добрым настроем.

Гэта не ўтаілася і ад Тоомаса, калі я, напяваючы вальс з «Фаўста», увайшоў у пакой.

— Ну што, цукрам пасыпалі чорта? — папытаўся ён.

— Не, на гэты раз шчасце было з намі.

— Яно і відаць,— насмешліва падчапіў ён.

— На чым гэта?

— Ну, выгляд у цябе такі... як у закаханага маладзёна!

У гэтым, напэўна, была доля праўды, бо я адчуў, як у мяне загарэліся шчокі.

— Калі ўвесь вечар глядзіш і слухаеш, якое гэта ўсемагутнае пачуццё — каханне, дык хоць крыху, але прыстане,— адказаў я.

— «Хоць крыху, але прыстане»,— паўтарыў ён мае апошнія словы.— Не, мужчына не можа жыць каханнем. Ён павінен жыць працаю.

Іменна тое, што ён намякаў на маю запушчаную работу, выклікала ў маёй душы пратэст.

Знік той добры настрой, з якім я прыйшоў з тэатра, з сырой, павернутай на адлігу зімовай ночы, пасля пацалунка пад клёнам.

— А калі каханне памагае лепей працаваць? — усхвалявана папытаўся я.

Тоомас не адказаў. Я паўтарыў сваё пытанне, бо мне стала цікава, захацелася зразумець, што стаіць за яго словамі і што ім кіруе.

Але Тоомас адчуў гэта і болей мяне не чапаў.

Скора ён лёг. А я да дзвюх гадзін ночы чытаў строфы несмяротнага твора Гётэ. Калі вокам кідаў на соннага Тоомаса, мне здавалася, што сёння вечарам ён супярэчыў сам сабе.

Настрой зноў быў добры. І хоць ніводзін з нас ніколі больш не варочаўся да таго вечара, я ўсё ж адчуваў, што тым разам мой быў верх.

У панядзелак на службе я ўзяўся за праект. І што дзіўна! Работа, якую пачаў я, дый рабіў часткова дзеля Элен, гэтая работа незаўважна завабіла мяне. Мне ўжо не блюзнілася за кожным планам Элен. І ўсё выразней перад маім мысленным паглядам паўставала тое балота, якому патрэбны былі мае інжынерскія веды, рабочыя рукі і меліярацыйная тэхніка.

Чытаючы вечарамі спецыяльную літаратуру, я ўсё болей разумеў, што многае забыў. Практычная работа вымагала толькі сякіх-такіх вывучаных спосабаў, заег-

джаных формул. Без іх, ведама, не абысціся, але толькі з імі таксама далёка не заедзеш. Іншы раз мяне проста ашаламляла, што так многа навінак у меліярацыі паявілася за гэты час у братніх рэспубліках. Я нічога пра іх не ведаў. А я ж кончыў універсітэт на выдатна ўсяго некалькі гадоў назад!..

Гэта было адным сакавіцкім вечарам у Тоомасавым пакоі, калі я раптам з незвычайнаю яснасцю адчуў, што меліярацыя — гэта не толькі формула вылічэння адваротнай засечкі, паводле метаду Папова, не толькі формула раўнамернага сцёку Шэзі, адным словам — не адны нумары, градусы, вуглы. Сапраўдны меліяратар павінен быць батанікам, геолагам, аграномам, глебазнаўцам, тапографам, інжынерам — усё ў адной асобе! Такая шырокая спецыяльнасць! Яна як мора! Яна і дзейнічаць павінна, як марская вада, якая не спатольвае, а толькі распальвае смагу.

Так многа гаворыць пра глебу расліннасць на балоце! Так многа гавораць дасведчанаму чалавеку кавалачкі торфу з лыжкавага бура.

— Слухай, Тоомас, табе ніколі не прыходзіла ў галаву, што ў нашай установе няма нават прыстойнага гербарыя?

Тоомас падняў вочы ад кнігі і запытальна паглядзеў на мяне.

— Як тут увогуле навучыцца разбірацца ў балотных раслінах? — сказаў я і, узбударажаны нечаканаю думкаю, прадаўжаў: — Калі б толькі гэта! Чытаю свежую літаратуру і здаюся сам сабе ўсё дурнейшым. Усюды, ва ўсіх галінах справа пайшла наперад. Ва ўстанове нас павінны неадкладна пра гэта інфармаваць, а не так, як цяпер. Варта было арганізаваць серыю лекцый. Добра прадуманую, каб пра кожны раздзел меліярацыі іх чыталі спецыялісты.

Па Тоомавым твары прабегла тая самая ўсмешка, ад якое летам я ўскіпеў у душы. А цяпер стала прыкра, што я зноў незнарок разверадзіў даўнейшую, зарубцаваную рану ў Тоомасавай душы.

— Твая праўда — справа ўсюды пайшла наперад,— заўважыў ён.— Я адчуваў тое самае, калі зразумеў, колькі новага за гэты час паявілася ў слупняку. У нашы дні спыніцца — значыць немінуча адстаць.

Я з ім адразу згадзіўся. І тым не менш ужо наступны дзень кінуў у мой жыццёвы струмень, што зноў

ажывіўся, вялікі камень, абысці які ў мяне не хапала сілы. На крайняй меры на першым часе...

У той дзень пасля паўдня я забегся ў кнігарню — прасіла Ійгэ купіць ёй чарговы том «Флоры Эстоніі».

У кнігарні была процьма народу. Пахла вільготным верхнім адзеннем і кнігамі. Мой пагляд прыкавалі паліцы, на якіх адна каля аднае бялелі таблічкі: «Сельская гаспадарка», «Прыродазнаўства». Ага, вось і ён, патрэбны мне том.

Праціснуўся між людзей да прылаўка, шнарачы вачыма па сценах, застаўленых стэлажамі з рознакаляровымі кніжнымі вокладкамі. Раптам мой позірк спыніўся на кнізе, што ляжала проста перада мною на прылаўку.

Яна была разгорнута на ксілаграфіі з выявяю адзінокае птушкі, якая ляціць у штармавой ночы. У разрывы хмараў лілося месячнае святло, унізе чарнеў лес. У верхнім правым ражку лаканічны надпіс тлумачыў, што гэта японскае мастацтва.

Гравюра была выключна простая. Выразна прамалявана толькі птушка на шаравата-жоўтым фоне неба, закіданага белымі лахманамі воблакаў. І ўсё-такі карціна вельмі моцна ўражала.

Патаемнае святло, што выпраменьвала яна, поўнае незразумелае небяспекі і трывожных заманлівых даляў. Напружанне ў целе птушкі, якое гаварыла не пра згасанне сілы, а пра ўпартае імкненне да мэты.

Усё гэта я адчуваў, прагна ўглядаючыся ва ўсходнюю карціну. І толькі калі пачуў яшчэ і пах ландышаў, любімых духоў Элен, я заўважыў, што гэта ж я н ы!

Гэта ж выпешчаныя рукі Раасалу трымалі кнігу. Гэта ж вялікія карыя вочы Элен, пагляд якіх там, на гравюры, сустракаўся з маім.

На імгненне я проста аслупянеў. Потым крута павярнуўся і пайшоў адсюль. У дзвярах заўважыў яшчэ, што Элен таксама азірнулася і, быццам шукаючы нешта, паглядзела па баках.

У той вечар я не мог заснуць. Цемра агарнула ўсё. Асталіся толькі думкі, якія цяклі бурлівым ручаём і, здавалася, запаўнялі ўвесь пакой.

Мне ўспомнілася, з якім уздымам працаваў я ў тую незвычайную вясну. Дый цяпер трэба было паявіцца Ійгэ, каб змяніўся рытм жыцця, каб я змог сканцэнтравацца на працы. Няўжо заўсёды хто-небудзь павінен верыць у мяне? Тоомас моцны і адзін...

Я ўтаропіўся расплюшчанымі вачыма ў цемру. Успомніўся загаловак аднае наіўнае кніжкі — «Сэрцу патрэбна каханне». Гэты бульварны раман буржуазнага часу выразкамі з газет, дзе ён друкаваўся, хадзіў у Каарнаярве па руках і нямала пасмяшыў нас, калі Кардэн вечарамі прыносіў выбраныя кавалкі з яго. Наўрад ці хапіла ў каго-небудзь дбайнасці прачытаць той раман цалкам. Сам жа загаловак стаў недарэчным хадульным выслоўем, а таму і ўжываўся дзе трэба і дзе не трэба.

Але цяпер мне здавалася, што ў тым загалоўку тоіцца ўсё-такі нейкае зерне ісціны. Нельга жыць адным розумам, сэрцу патрэбна каханне...

Няўжо я такі маладушны, што давялі было толькі ўбачыць Элен, і зноў Рыйтна-Аоверэ вылецела з галавы, адышло недзе далёка, далёка?.. Ійгэ?! Яна разумее маю работу. Яна ўраўнаважаная, мілая. У ёй няма сябелюбнасці Элен, недахопаў Элен... А можа, недахопы Элен якраз і завабілі мяне! А што, калі ўсё абумоўлена збегам абставін? Жыццё сапраўды любіць паўтараць даўнейшыя сцэны з новымі дзейнымі асобамі. Я закахаўся ў Элен, калі ў яе была магчымасць параўноўваць мяне з Раасалу. А цяпер я параўноўваю Ійгэ... Няўжо і ў Элен увесь час аставалася часцінка сузіральніка, які цвяроза і разважліва мысліць?

Я павінен быў бы зненавідзець Элен ці па крайняй меры забыць яе. Але, відаць, у сферы пачуццяў дзейнічаюць другія законы.

Гадзіннік ужо выбіў тры, калі стома адолела мяне. Думкі станавіліся ўсё болей абрывачныя. У памяці праплывалі паасобныя бязладныя карціны.

Раніцаю ўстаў я нявыспаны. І ў той дзень работнік з мяне быў нікуды не варты. Дый вечарам дарэмна я мучыўся, намагаючыся ўнікнуць у вынікі дрэнажнага асушэння ў Літоўскай ССР.

Употайкі я зайздросціў Тоомасу, які, седзячы за сталом, вывучаў нейкі медыцынскі часопіс. Наколькі ж ён вышэйшы за ўсе тыя думкі, якімі цяпер я мучу сябе! Ціха, каб Тоомас не заўважыў, узяў я з паліцы «Лорда Джыма» Конрада, сунуў яго ў часопіс па меліярацыі і акунуўся ў чытанне.

Брынчанне тэлефона здалося такім пранізлівым у гэтай цішыні, што я здрыгануўся, як школьнік, якога злавілі на спісванні. Тоомас падняў трубку.

— А, гэта ты, Вахер... Добры вечар!.. Выпадак слуп-

цяку? Дзіва! Напрадвесні не такая вялікая магчымасць заражэння... Не, не! Навошта. Што зменіцца, калі я пагляджу? Я ўжо не той, што чатыры гады назад. Медыцынская навука з таго часу пайшла далёка наперад... І калі дзіця ўжо ў бальніцы...

Тоомас паклаў трубку і буркнуў:

— Прыйдзе ж у галаву такое глупства!

І, аднак, глупства глыбока запала яму ў галаву, адабраўшы ўсю ўтульнасць гэтага вечара.

Я не мог ужо ні паглыбіцца ў красу некранутых лясоў, ні перажыць трагізму становішча маладога флоцкага афіцэра, які пакутаваў ад усведамлення, што заплямiў свой гонар, і ўсё шукаў выпадку, каб змыць з сябе гэтую пляму. Дзіўнасць Тоомасавых паводзін сапсавала настрой, сапсавала нягледзячы на тое, што ён ні слова не вымавіў, а толькі сядзеў і думаў сваю думу.

Я пазіраў на Тоомаса, і нечакана нашы пагляды сустрэліся, востра ўпіліся адзін у аднаго. У тую ж секунду я зразумеў сваю нетактоўнасць і зноў унурыўся ў кнігу.

— Няма ніякага сэнсу,— сказаў ён раптам і ўстаў.— Ад мяне там не будзе ніякай карысці. У мяне няма лякарства...

Мне раптам успомніўся стары лекар-араб з аднаго даўным-даўно чытанага гістарычнага рамана, які сцвярджаў, што для вылечвання хвароб алах даў тры сродкі — слова, зёлкі і нож, з якіх першае самае галоўнае.

Тоомас не пераставаў апраўдвацца, спрабаваў растлумачыць мне, што яго прыход нічога не дасць, нібыта я быў нейкім суровым пракурорам. Ён гаварыў, гаварыў — і раптам я зразумеў: ён хоча пайсці ў бальніцу, але баіцца. Баіцца мінулага... А можа, гэта і ёсць той выпадак, які лорд Джым шукаў усё жыццё?

Я адклаў кнігу і нерашуча сказаў:

— Мог бы раз і схадзіць. Што табе значыць? Пойдзем удвух, калі ты, ведама, не супраць.

— Паклічце, калі ласка, доктара Вахера,— папрасіў я дзяжурную сястру ў прыёмным пакоі ў бальніцы.

Крокі медсястры затухлі ў бязмежнасці калідора. Тоомас разглядаў памяшканне з выглядам чалавека, які намагаецца знайсці ў знаёмых прадметах, пахах і гуках нешта далёкае і ўжо даўно мінулае. Не ведаю, ці здалася яму чырвоная ў чорную крапінку сукенка, ці прыпомніўся хто-небудзь з хворых, каго ён вырваў

з кашчавых рук смерці і зноў вярнуў да жыцця. Але калі зноў пачуліся крокі, Тоомас зрабіў такі рух, быццам намерыўся ўцякаць.

— Я ж сказаў, што няма ніякага сэнсу,— вымавіў ён і ўзяўся за клямку.

— ДоктарКівімаа! — гукнуў нечы здзіўлены голас.

Тоомас прыпыніўся, азірнуўся.

— ДоктарКівімаа! Вы зрабілі вялікую ласку, што прыйшлі. Хіба вы не помніце студэнта Маці Туулінга?! Як-ніяк — вы былі адным з першых, хто ўвёў мяне ў Асклепіеў храм.

Па твары ў Тоомаса прабегла ўсмешка. Мне ўспомнілася, як аднойчы вечарам ён расказваў пацешныя гісторыі пра прафесара, які ў канцы лекцыі заўсёды ўваходзіў у азарт і пачынаў выказвацца «высокім штылем», накшталт: Гіпакратава клятва, Асклепіеў храм і падобныя выразы.

Тоомас глядзеў на маладога доктара прыкладна маіх гадоў, стомлены твар якога ажывіў нечаканы пробліск надзеі. Ад яго на нейкае імгненне запаліліся Туулінгавы вочы за шкельцамі акуляраў. І белы яго халат стаў нібыта яшчэ бялейшы. А на Тоомасаў твар набегла лёгкая журба, якая нібыта казала, што тут усё асталося, як і некалі, а ён, ТоомасКівімаа, ужо не той, што чатыры гады назад.

Гэта адчуў і Туулінг. Ён стаяў нерашучы, не ведаючы, што рабіць; апанавала наструненая, гнятлівая цішыня.

Паявіўся Вахер — і напружанне спала. Ён уварваўся парывам свежага ветру.

— Я ведаў, што ты прыйдзеш, Тоомас! Гаворка потым. Пайшлі!

Я астаўся адзін у прыёмным пакоі і забаўляў сябе тым, што лічыў белыя і карычневыя пліткі ў падлозе, падобнай на шахматную дошку. Аднекуль з прыцемку з калідора данёсся гулкі бой гадзінніка...

Я ўбачыў тую жанчыну адразу, як яна ўвайшла. Праводзіў яе мужчына гадоў трыццаці пяці. На шэрым футравым каўняры яе карычневага паліта паблісквалі кропелькі дажджу. Ад вячэрняе прахалоды шчокі ў яе паружавелі, але гэта не магло схаваць здрадлівай чырвані павекаў.

— Яны цяпер у яго ў палаце. Павінны прыйсці з мінуты на мінуту,— адказала дзяжурная сястра на жанчыніна пытанне.

— Супакойся, Салме,— гаварыў мужчына, нібыта адчуваючы няёмкасць за жонку.— Хлопчык жа ў руках у найлепшых дактароў.

Яны селі на лаўку насупраць мяне. Мужчына тузаў палі велюравага капелюша. Жанчына глядзела долу, так што мне былі відаць толькі крылы яе носа, якія ўвесь час уздрыгвалі. У паводзінах гэтых людзей, ва ўсім іх абліччы было нешта знаёмае, і я зразумеў — гэта гора... Успомніўся мой аднакурснік з універсітэта Саарсен, які захварэў на мінінгіт. Успомніліся яго бацькі, простыя калгаснікі, якія вось гэтак сядзелі, калі я і яшчэ двое аднакурснікаў прыйшлі праведаць Саарсена. Вясковая жанчына ў шарсцяной хустцы і дама ў модным капялюшыку. Якія яны розныя! І ўсё ж гэтая розніца цяпер ужо не здавалася такою кідкаю, у абедзвюх было нешта агульнае, што іх радніла,— гора, бяда...

Недзе грукнулі дзверы. Зноў крокі.

Жанчына падняла галаву і паглядзела нібыта скрозь мяне.

Я раптам успомніў народныя паданні пра крокі смерці, якія набліжаюцца.

— Дзякуй, Тоомас, што прыйшоў,— пачуўся Вахераў голас.

Тоомас прыпыніўся ў дзвярах. Твар у яго быў сур'ёзны, але ранейшая трывога знікла. Раптам зрэнкі ў яго расшырыліся, ён адступіўся на крок.

Дый жанчына, якая падалася была наперад, спынілася, гледзячы растрывожана і збянтэжана.

— Тоомас! — У гэтым шэпце быў водгалас далёкага мінулага. А раней той мужчына назваў яе Салме. Дык жа гэта — яна!

З-за спіныКівімаа паявіўся Вахер. Думкамі ўсіх зноў завалодалі цяперашнія клопаты.

— Як?..— папыталася жанчына ў Вахера.

— Становішча сур'ёзнае, але не безнадзейнае. Мы зрабілі ўсё што маглі.

Жанчына паглядзела Тоомасу ў вочы, нешта як быццам надламалася ў ёй, пагляд затуманіўся, з губ зляцеў ледзь чутны шэпт:

— Вялікае дзякуй! — і хоць сказала яна гэта Вахеру, словы яе адрасаваліся Тоому.

— Супакойся, Салме, супакойся,— сказаў мужчына і абняў жанчыну за плечы.— Дзякуем вам, таварыш доктар.

Ківімаа глядзеў ім услед, пакуль дубовыя дзверы не зачыніліся за імі з цяжкім уздыхам. Ён неяк адразу звяў. Вахер ціха адышоўся і знік у даўжэзным калідоры.

Нейкі час мы моўчкі ішлі вячэрнімі вуліцамі.

— Усё ж як час ляціць,— раптам загаварыў Тоомас.— Помню Туулінга, як ён маладзенькім студэнтам прыходзіў у бальніцу. А цяпер... Смешна падумаць, што слупняком цяпер займаецца аспірант Туулінг... Займаецца...— Ён засмяяўся.— Займацца займаецца, але многія мае тадышнія назіранні чакаюць, каб іх нанава адкрылі... Каб нанава адкрылі, хоць справа ўвогуле пайшла наперад.

Ён абрынуў на мяне вадаспад медыцынскіх тэрмінаў. Я ўпершыню бачыў яго такога ўзбуджанага і ўсё ж не вельмі ўважліва сачыў за ходам яго думкі. Я не мог забыцца, што некалькі хвілін назад я быў сведкам сустрэчы дваіх чалавек, якія былі некалі такія блізкія адно аднаму. А цяпер?.. Намагаўся ўспомніць іх твары ў час гэтай сустрэчы, але яны бачыліся мне невыразна, як праз заінелую шыбу.

«Чаму ён так многа гаворыць?» Пра гэта падумаў я найперш. І толькі потым да мяне стала даходзіць, што гэтым ён спрабаваў заглушыць у сабе думкі пра нядаўнюю сустрэчу ў бальніцы. Я зайздросціў Тоомасу, што ён не астаўся ў палоне мінулага. Але як ён павінен быў зайздросціць мне тады, калі я прыйшоў з тэатра. А што ж, у гэтым, відаць, і тоіцца прычына яго паводзін у той вечар. Недзе ў глыбіні душы ён павінен быў прызнаць справядлівым адчайны Фаўстаў выкрык: «Праклінаю... ўсе навукі свету». Недзе ў глыбіні душы ён павінен быў тужыць па каханні, якое прымусіла б выгукнуць: «Імгненне, прыпыніся, поўнае красы!» Калі ж я ўвайшоў у пакой, насвістваючы, як бесклапотная птушка...

Мне стала шкада Тоомаса. У той вечар мае пачуцці былі незвычайна абвостраныя, разважлівасць адышла недзе на задні план, і мне здавалася, што я добра разумею той унутраны механізм, які прымушае Тоомаса дзейнічаць іменна гэтак. Наведанне бальніцы — нібыта паломніцтва на магілы юнацкіх мараў. А палкая, гнеўная і траха не зларадная прамова па дарозе дахаты?.. Выходзіць, усё-такі ён сэрцам прыкіпеў да свае справы, калі не мог спакойна паставіцца да таго, што нехта другі прадаўжае яго работу... Ці, ці гэтае дасле-

даванне яму такая самая зброя, як мне праект Рыйтна-Аоверэ? А калі ўбачыў сёння Салме...

Ува мне раптам прачнулася цікавасць: як Элен цяпер жыве? Што робіць?

Ды папытацца не было ў каго. Вячэрні візіт у бальніцу гэтак выматаў мяне, што я адразу лёг і надзіва хутка заснуў. Тоомас не вылазіў з-за стала, і вялікі яго цень накрываў амаль усяго мяне.

Я прачнуўся. У пакоі нікога не было. Як і дагэтуль, гарэла лямпа на стале, заваленым усялякімі паперамі. Тут былі маленькія запіскі, блакнотныя староначкі, спісаныя Тоомавым почыркам, машынапісныя лісты...

Спрасонку я нічога толкам не разабраўся. Было толькі холадна. Укруціўся ў коўдру. І толькі я гэта зрабіў, як увайшоў Тоомас.

— Святло, ці што, у вочы біла? — папытаўся ён, азадачаны тым, што я прачнуўся.

— Чаго там святло. Сон дурны прысніўся.

— Дык дзякуй лёсу, што гэта быў толькі сон,— сказаў ён і дабавіў: — Я ачысціў шуфляды ад хламу. Чаго яму тут валяцца! Хоць распалка будзе.

Гаворачы гэта, ён згроб са стала паперы і кінуў у печку. Запаліў запалку. Полымя пачало лізаць ражок паперы, якая карабацілася і чарнела.

Я спакойна глядзеў на ўсё гэта. І толькі калі папера занялася агнём і ў печцы пачало кідацца полымя, я злавіў сябе на думцы, якая ашаламіла мяне: ці не Тоомава даследаванне ператвараецца тут у попел? Я ледзь быў не ўскочыў з канапы.

Але паперы паспелі ўжо рассыпацца ў прах. А разам з імі згарэла і многае ад мае павагі да Тоомаса. Ён жа сказаў, што многія з яго назіранняў чакаюць, каб іх нанава адкрылі. Але ён усё ж не змог перамагчы сябе і перадаць свае назіранні другім.

Аднак пад раніцу вострыня ўспрымання прытупілася. Колькі мы штодзень спальваем тых нябачных мастоў, якія звязваюць нас з навакольнымі людзьмі! Урэшце, а ці не важнейшыя яны за яго спісаныя паперы, за той мост, што звязваў Тоомаса з магіламі яго юнацкіх мараў? А можа, гэта і не было Тоомавым даследаваннем?

Мне зноў не давала спакою думка: як жыве Элен?

Дазнацца пра гэта было мне няцяжка. Калі я выйшаў пакурыць у калідор «Меліяпраекта», даволі было двух-трох намёкаў, што страціў цікавасць да ўсёй гісто-

рыі, як тут жа то аднаму, то другому стала ўспамінацца, што ён бачыў Элен у «Еўропе», танцавала з нейкім высокім маладым чалавекам, сядзела вечарам у кавярні, на нейкай вечарынцы... Хай забаўляецца, а мне што!

Тым не менш гэта сапсавала мне настрой на ўвесь дзень. Значыць, Элен давольная жыццём. Танцуе, бывае ў вытанчанай кампаніі... У мяне было такое адчуванне, быццам мяне моцна ашукалі ці зняважылі.

— Што з табою, сынок? — папыталася ў мяне Лена за вячэраю.— Хіба яда нясмачная?

Я роблена ўсміхнуўся, але пытанне не ўспудзіла мяне. Упершыню ў нашых з ёю гаворках я зачапіў дом Рыйвесаў. Расказаў Лене, што пачуў пра Элен. І нягледзячы на сваё рашэнне астацца справядлівым, усё-такі быў неаб'ектыўны.

Калі б я таксама хадзіў танцаваць і ўсе вечары бегаў з ёю, наўрад ці здарылася б, што... А я хацеў працаваць. І прафесія ў мяне такая, што ў горадзе не патырчыш... Так яно і пайшло...

У маім расказе горыч перамешвалася з жалем да сябе. Лена з такім спачуваннем глядзела на мяне, што я пашкадаваў пра сваю мінутную слабасць: навошта я ёй пра гэта расказаў? Ну але, вось яна ўжо і пачынае...

— Ты кажаш, яна шчаслівая...— Лена паківала галавою.— Не, я не веру. Праўдзівае шчасце не выносяць на людзі. Праўдзівае шчасце берагуць ад чужога вока, трымаюць дома ў чатырох сценах. Калі яны гэтулькі ўсюды бываюць, дзе можна патанцаваць, у кампаніі і ўвогуле... Не, тады няма там шчасця.

Лена доўга яшчэ развівала гэтую тэму. Я слухаў яе краем вуха, бо раптам на мяне напала прожар, і я падмёў усё, што было на стале.

Назаўтра ўсё проста гарэла ў маіх руках. Успомніўся страчаны час. І каб ачысціць сумленне, я астаўся рабіць праект і пасля шасці, калі кончыўся рабочы дзень.

Гэта ўвайшло ў мяне ў прывычку, а ў красавіку стала ўжо патрэбаю. Было зразумела, што, толькі эканомячы кожную хвіліну, я змагу кончыць праект да пачатку палявога сезона.

Ужо некалькі тыдняў суткі мае не ведалі падзелу на катэгорыі рабочага і вольнага часу, яны складаліся толькі з работы і некалькіх гадзін сну. Мяне ахапіла шалёная рабочая злосць. Лішняе пацвярджэнне спрадвечнае ісціны, што няма горшага пагапятага, чым свой бізун.

І як назло, добрыя ідэі сталі прыходзіць у галаву іменна цяпер, калі на здзяйсненне іх аставалася вельмі мала часу. Адным я даў дарогу, другія запісаў у блакнот. Можа, яшчэ паспею пусціць іх у жыццё, калі буду пераносіць праект на натуру...

Курыў я механічна і дужа многа. Як ні клапацілася, як ні выдыгала Тоомасава маці, гэта нічога не давала, калі верыць вазе ў лазні, дзе я бываў кожнае суботы. А вось у спаборніцтве з вясною ішоў я амаль нага ў нагу.

У той красавіцкі вечар я пачуваў сябе такім стомленым, такім змучаным, што мусіў прыняць большую, чым звычайна, дозу вітаміну С і намаганнем волі прымусіць сябе працаваць. Мабыць, вінаватыя апошнія бяссонныя ночы. Дый гэта быў першы папраўдзе вясновы дзень, з цёплым паўднёвым ветрам і яркім сонцам, якое так і радавалася: «Наша ўзяло! Наша ўзяло!» А я не прызнаваў сябе пераможаным, але разуменне, што ўсё-такі ўпусціў час... Гэта, ведама, не падбадзёрвала. Усё разам дало сябе адчуць, так што я не адразу ўцягнуўся ў работу.

І вось тады дзверы адчыніліся і я пачуў голас Вардзья:

— Заходзь, заходзь.

Я злосна падняў галаву. Мала яму дня было, што яшчэ і вечарам сюды прыпёрся? Дый валачэ з сабою некага... Мне захацелася запусціць у яго цяжкаю металічнаю лінейкаю.

Святло ад лямпы на нейкае імгненне асляпіла мяне. Асвойтаўшыся, я не паверыў сваім вачам: у дзвярах стаяў Стары.

Я не бачыў яго з таго самага дажджлівага дня, калі з ім здарылася бяда. Трэба было, ведама, яго праведаць. Па крайняй меры паказаць хоць ветлівасць. Добра, што хоць Тоомас выбраўся да яго. Я таксама збіраўся схадзіць, але нешта ўсё замінала...

І калі, паздароўкаўшыся, я папрасіў абодвух зірнуць на праект, у душы асталася нейкая насцярожанасць.

Што яго прывяло? Чаго ён хоча? Непрыемнае адчуванне невядомасці стала проста невыносным.

Стары разагнуўся, расслабіў пальцы, і цыркуль упаў на праект.

— Як глядзіш, Андрэс, калі б і я гэтым летам прыехаў у Рыйтна-Аоверэ? — папытаўся ён.

Тое, што сказаў Стары, не адразу да мяне дайшло.

— І ты... прыехаў бы?!

— А як жа.

Упершыню я паглядзеў Старому проста ў вочы. У іх свяцілася ўсмешка, усмешка чалавека бывалага, і я зразумеў, што ўсё добра. Я стаяў, як кіжлай, нечага перасела ў горле. Збянтэжаны і разам з тым вельмі расчулены, я падаў Старому руку.

Не сказалі ні слова. Ды лепей за ўсякія словы гаварылі нашы вочы і сяброўскі мужчынскі поціск рук.

— А мяне ты таксама з сабою возьмеш? — папытаўся Вардзья і крыху сарамліва дабавіў: — Я тут падумаў, можа, увосень у школу рабочай моладзі пайду. Але перш хацелася б адно вялікае балота да канца асушыць. Можа, яшчэ якім хітрасцям навучуся ў цябе, каб лепей гэтую справу рабіць.

Яны ўжо пайшлі, а я ўсё ніяк не мог апамятацца. Сэрца перапаўняла нейкая незвычайная ўзнёсласць, нейкая сентыментальна-дурнаватая радасць.

Значыць, усё старое забыта. Значыць, я не адзін, каго цікавіць Рыйтна-Аоверэ. Усё гэта быццам дало мне новую сілу. Цяпер не страшна, калі трохі спазнюся з праектам. З такою спрактыкаванаю брыгадаю я на балоце наганю страчаны час.

Я зноў сеў за стол, аднак у той вечар мне так і не ўдалося засяродзіцца на праекце. Мне бачылася рыйтна-аовераўскае балота, дзе я здзяйсняю і тыя ідэі, што цяпер спачываюць на лістках у блакноце. Думкі былі магутнаю аркаю моста паміж рэчаіснасцю і марамі.

Я адчуў — спраўлюся, і вырашыў, што заслужыў невялікую перадышку. Уключыў радыё. Магутная і цяжкавата ўрачыстая «Пастараль» з «Арлезіянкі» Бізэ гучала цяпер асабліва велічна і моцна. Хто б помніў цяпер загаловак гэтай п'есы Дадэ, калі б Бізэ не напісаў да яе музыкі?.. І з балотам Рыйтна-Аоверэ павінна быць гэтаксама. Мне трэба асушыць яго так, каб яно стала ўзорам, каб назву яго ведалі ўсе.

І ўсё ж у той вечар я нічога не зрабіў дзеля здзяйснення свае мары. Наадварот, «Арлезіянка» напомніла, што, апрача работы, ёсць яшчэ цэлы свет музыкі, мастацтва, літаратуры. Мяне ахапіла жаданне сесці ў Тоомаса ў пакоі на канапу, узяць з паліцы якую-небудзь кнігу, якая б не мела ніякіх адносін да меліярацыі, і чытаць, чытаць...

Вячэрняе неба адлівала меддзю. Нагрэтае за дзень,

яшчэ не астыла паветра. У адзетку, у галаўных уборах, у абутку людзей былі адлюстраваны ўсе поры года.

Я паспяшаўся ў магазін праз вуліцу купіць мандарынаў. Лена і Тоомас павінны падзяліць са мною радасць. І за вітрынаю, якая зіхацела ў вячэрнім святле, я сутыкнуўся тварам у твар з Элен.

Напэўна, яна хадзіла нешта маляваць, бо пад пахаю ў яе быў такі знаёмы бледна-жоўты эцюднік, які цьмяна пабліскваў заклёпкамі.

Я траха не выгукнуў: «Лэпатрыйну!» Але раптам падумалася, што ў эцюдніку ў яе напэўна матэрыялы дыпломнай работы, якія адлюстроўваюць няшчасны выпадак са Старым.

Я прыпадняў капялюш, яна адказала ўсмешкаю, на момант прыпынілася, але не сказала ні слова. Прайшла міма. Я не змог стрымацца і зірнуў ёй услед. Якраз у тую хвіліну, калі аглянулася і Элен. Нашы вочы сустрэліся. Мабыць, абое мы пачырванелі і разышліся, кожны пайшоў сваёю дарогаю.

Упершыню я заўважыў, што магу спакойна думаць пра Элен. Значыць, усё кончана. Але не было ні гаркоты, ні радасці, толькі лёгкае шкадаванне, якое паяўляецца, калі адкладаеш, прачытаўшы, добрую кнігу ці бачыш, як апускаецца заслона пасля спектакля, які разварадзіў тваю душу. Элен ужо не мае ўлады над маімі думкамі і работаю.

І толькі тут я спахапіўся — мандарыны! Зрабіў невялікі круг па дарозе дахаты, заскочыў у дзяжурны магазін — і ўсё было ўладжана.

На пачатку мая я падаў Сілаотсу гатовы праект.

— Малайчына,— сказаў галоўны інжынер.— Спадзяюся, усё ў парадку. Удакладняць будзем на месцы.

Праз два дні мы ўсёю брыгадаю выехалі ў Рыйтна-Аоверэ.

## IX

Як толькі грузавік павярнуў на пясчаную лясную дарогу, што праз мост на Аоверэ вяла да цэнтральнае сядзібы калгаса «Койт», я ўстаў са скрынкі, у якой ляжаў кіпрэгель, і, згараючы ад нецярпення, стаў глядзець наперад. Зараз, вось зараз мы выедзем на шырокі прастор і ўбачым балота Рыйтна-Аоверэ.

Машыну падкідала на ямках і гурбанах, і кожны штуршок інструменты значылі моцным бразгатам. Ве-

цер свістаў у вушах. Мокрыя хваёвыя галіны хвоснулі па кабіне, прымусілі нагнуцца.

І тут я заўважыў, што і астатнія стаяць і таксама глядзяць наперад, быццам чакаюць убачыць нешта незвычайнае. А гэта ж усім нам добра знаёмае балота. Але іменна таму, што нас звязвалі з ім праца і ўспаміны, нам не сядзелася спакойна.

Замільгалі прасветы між зялёных галін і карычневых хваёвых ствалоў. Веерам расступаўся перад намі прастор: клін светлае зелені справа, другі такі самы — злева, а між імі буравата-жоўтая стужка дарогі. Мы зноў сталі на ўвесь рост, і раптам нашым вачам адкрылася неабсяжнае пяшчотна-блакітнае неба, якое ўдалечыні зլівалася з зямлёю.

— Зірні! — тузануў мяне за рукаў Вардзья і паказаў налева. Там, за мостам цераз Аоверэ, з-за высокіх, у жоўтых коціках вербаў віднелася пачарнелая, акораная тычка, нямы сведка нашай леташняй працы. Яна першая вітала нас, моўчкі і толькі нам зразумела. Мне стала нават крыху журботна, калі ўбачыў гэтага нерухомага вартаўніка, які ўсю зіму прастаяў на сваім пасту ў гэтым змаганні з балотам.

Ад людзей ішла нейкая невытлумачальная энергія і сіла, і гэта падымала дух. Усе былі прасякнуты аптымізмам, жыццярадаснасцю і адчуваннем важнасці справы, якая чакала нас наперадзе.

Такі настрой быў і ў Сілаотса, які паехаў з намі, каб праверыць леташнюю работу брыгады, заднім днём прыняць аб'ект і параіцца з кіраўніцтвам калгасаў наконт ажыццяўлення праекта. Бухнуўшы раз праваю нагою ў канаву, ажно гумовы бот прагна хлёбнуў ледзяное вады, ён на нейкі момант скінуў з сябе начальніцкую паважнасць і, выліваючы ваду з бота, сказаў Вардзья:

— Скажы мне што-небудзь добрае, суцяшальнае!

Ды неўзабаве зноў стаў галоўным інжынерам, строга правяраў, каб нашы паказчыкі і замеры вышыняў не выходзілі за межы дапушчальных адхіленняў. Сямтам загадваў ставіць мензулу, сам станавіўся да кіпрэгеля.

Мяне не пакідала адчуванне, што балота за зіму неяк сціснулася. Усе адлегласці паміж рэперамі, вусцямі канаваў і дрэнаў і іншымі зыходнымі пунктамі здаваліся вельмі кароткімі: варта было толькі загарэцца і падумаць, што трэба прыбавіць хады, як ужо і на

месцы. І такое ж прыгожае было гэтае балота! Алешыны ў чорных шышачках і доўгіх, поўных пылку завушніцах; жаўцее па берагах канаваў падбел; чырванавата-белыя сцябліны палявога хвашчу. Крутымі зігзагамі лятае какетлівы матылёк, танцуе ў паветры нібыта знарок дзеля таго, каб у кожнай плямцы яго крылцаў, на пасачку цельца і на вусіках адбівалася сонца. У бурклівае чмялёва гудзенне ўплятаецца звонкі жаваранкаў спеў, і хочаш не хочаш задзіраеш галаву...

Помню, як у Мудаку Стары падзюбаў сякераю па адным пікеце і вымавіў:

— От ёлкі зялёныя!

Помню, як Сілаотс загадаў «зрабіць залом» у выгіне Рыйтна, які я выпрастаў і выцягнуў, як струну. Мне было брыдкавата перад другімі, я баяўся вечара, калі ўляжамся на раскладушкі і пачнецца абмеркаванне сённяшніх падзей. Але вечарам Вардзья хіхікнуў і ўдзячна сказаў:

— Гэта ты, Андрэс, правільна прыдумаў. Калі хочаш здзейсніць сваю ідэю, дык ніколі не шкодзіць крыху перабаршчыць.

Помню, як у цэнтральнай сядзібе «Койта» сабраліся старшыні калгасаў, аграномы, члены праўленняў, зацікаўленыя калгаснікі. Запалілі лямпу, ссунулі сталы, і Сілаотс расклаў на іх мой праект асушэння балотнага абшару, над якім нахіліліся абветраныя, прасмаленыя сонцам твары. Я чуў пах палыну ад святочнага адзетку, чуў парыпванне ботаў, бачыў агрубелыя ўказальныя пальцы, нацэленыя на праект,— і хваляваўся, моцна хваляваўся. Угамаваў сябе толькі тады, калі да вушэй дакрануўся ціхі шэпт: «Саасерваўскага Пеэтэра сын!»

Праектам асталіся задаволеныя. Сілаотс ухваліў нашу леташнюю работу, але не паспеў прыняць увесь аб'ект. Тэрміноваю тэлеграмаю, якую прынеслі проста на сход, яго выклікалі ў горад.

Помню, як пасля сходу ён стаяў каля стала і гаварыў мне:

— Да тае часткі, што я правяраў, прэтэнзій няма. Асталося яшчэ Аоверэ... Але ж вы пачняце з рэчкі Мудаку. А там пойдзе ручай Рыйтна. Аоверэ пакінем напаследак.

Сілаотс паехаў. Пакой для заезджых вызваліўся. Але ў мяне ані не было жадання перасяляцца туды

з «кубрыка». Перанеслі ў яго інструменты, якія нам пакуль былі непатрэбны, і я замкнуў дзверы.

На другі дзень пачалі пераносіць праект на натуру. А там за намі па пятах паволі пайшлі і экскаватары Арусаараўскай меліярацыйнай станцыі.

Коўш экскаватара адкусваў вялікія кавалкі ад берага рэчкі, рэчышча Мудаку, быццам пад ударамі кавалявелікана, выпроствалася. Відовішча гэтае было незвычайнае. У першы дзень работы экскаватараў мы ўсёю брыгадаю прыйшлі да рэчкі і глядзелі, глядзелі... Сэрца перапаўняў па-святочнаму ўзнёслы настрой, быццам стаіш у нейкім чароўным парку, ад красы якога займае дух.

А тут жа было проста шэрае, хмурнае неба над галавою, маркотны балотны ландшафт навокал ды самы звычайны экскаватар, што вычэрпваў на зялёную траву берагоў чорную, з вадою, гразь.

Калі б мой бацька бачыў гэта, ён бы радаваўся за мяне. Мама ў душы змірылася б з тым, што я ўсё-такі пайшоў вучыцца на меліяратара. Дый прафесар Рыйвес кіўнуў бы мне пахвальна.

Такім чынам, яны былі б задаволеныя мною. А што яшчэ важней — дык мною, можа, асталіся б задаволеныя і жывыя... Калі б можна было на якой-небудзь цуда-вазе паважыць кандыдацкую Раасалу і тое, што я раблю тут, у Рыйтна-Аоверэ...

У хмарах зрабіўся прасвет. Яркі сонечны промень імкліва прабег па балоце, і ўсё навокал радасна заззяла. Мы ўзяліся за работу.

Усё ішло нармальна. Нам удавалася трымаць адпаведную дыстанцыю паміж брыгадаю і экскаватарамі. У пятніцу кончылі падрыхтоўку да разбіўкі трасы вялікага магістральнага канала, які будзе ўпадаць у Мудаку. У нядзелю нам на падмогу прыйшлі калгаснікі.

Напэўна, упершыню на балота выйшла гэтулькі людзей, і глеба ў іх пад нагамі ажно дрыжала. Прырэчча раптам напоўнілася гулам галасоў і мітуснёю. То мільгане чырвоная касынка, то стракатая спадніца, то карычневы пінжак ці сіні спартыўны касцюм.

А потым шум пакрысе стаў сціхаць. Астаўся толькі стук сякер, шамаценне алешніку, што сцягвалі ў кучы, дзелавыя воклічы і патрэскванне вогнішчаў... Кусты праразала шырокая, простая, як страла, просека, якая выцягнулася на некалькі сотняў метраў.

Я глядзеў, як сонца хіліцца да гарызонта, пазалоч-

ваючы краі воблакаў. Такі выдатны фон для суботніка! І раптам прыйшла мне ў галаву думка: вось што варта было б адлюстраваць у дыпломнай рабоце. У такой карціне была б і дынаміка, і каларыт, і манументальнасць... Апошняе слова нагадала мне артыкул Раасалу, дык я яшчэ мацней сціснуў тапарышча і ўзяўся бязлітасна высякаць алешнік. Якая мне справа да дыпломнай работы Элен?

* * *

На палях зацвіла чырвоная канюшына. Цёплымі начамі гулі жукі над прасёлкам. У канавах на балоце кіпела жыццё. Па вадзе бегалі серабрыста-чорныя вадамеры. На падводных раслінах віселі балацянікі. Важным старым панам гроб лапкамі пад вадою жаўтабокі жук-плывунец. Над асакою палявалі цёмна-сінія німфы і стракозы, якія лунялі на празрыстых крылцах. Незаўважна наступіла лета.

Сілаотс болей не завітваў да нас. Ланг казаў, што на вірапалускім аб'екце шмат дадатковых работ і галоўны інжынер цяпер там. Экскаватары ж упарта, следам адзін за адным ішлі наперад уздоўж Рыйтна і Аоверэ ўверх па цячэнні.

Была дзівосная летняя раніца, калі мы прыйшлі да моста на Аоверэ, каб пачаць прывязку праекта да мясцовасці. На цэнтральнай сядзібе цвілі ліпы, пчолы мільгацелі каля белых пялёсткаў. У небе нерухома віселі пёрыстыя воблакі.

Шчыра кажучы, я быў рады, што Сілаотс не прыехаў прымаць аовераўскі кавалак. Я цяпер магу асушаць роднае наваколле так, як мне хочацца.

Мы ўзяліся за працу, і ўсё ішло як па масле. Нічога новага ці асаблівага ў гэтым не было. Разумелі адзін аднаго з паўслова, кожны ведаў, што яму рабіць. З усяго было відаць, што людзі ў брыгадзе добра спрацаваліся.

Аднак каля першага папярочніка ўзнікла нечаканая замінка. Па плане тут павінен быў быць пакаты схіл, які раўнамерна паніжаецца да ручая. Але і простым вокам было відаць, што паміж берагам рэчкі і размечаным воддаль узгоркам ляжыць забалочаная лагчына. Калі канаву гэтак пракладваць і далей, як прадугледжана праектам, тады... тады мы атрымаем арашальны канал, а не асушальную канаву.

Адразу я нічога не зразумеў. Падумаў нават: а ці не наблытаў я што-небудзь? Не мог жа ландшафт за нейкія два дзесяткі гадоў гэтак змяніцца!

Аб'явіў доўгі перакур і пайшоў аглядаць мясцовасць. Ручай нібыта і ёсць Аоверэ, але зусім не той, што на плане.

Я пачаў нервавацца. Што за ўтрапенне? Ці гэта міраж, ці зроку падман? Але ж гідрамеліяратарава вока павінна і без інструмента ўмець сёе-тое бачыць.

Вярнуўся да брыгады. Паставіў нівелір у выгіне ручая і стаў правяраць план.

Рабочыя пасур'ёзнелі. Ні слова не кажучы, Стары ўзяў мерную рэйку, таксама моўчкі Тоомас і Вардзья нацягнулі стальную стужку.

Да паўдня ўсё праяснілася.

— Гэта не план, а ўсяго толькі размаляваная паперка,— сказаў я. Сказаў як найспакайней. Але ўсё роўна, калі закурваў, у мяне дрыжалі рукі.

На ўсім кавалку давядзецца нанава рабіць здымку, неадкладна праектаваць канавы і пракладваць іх трасы, каб экскаватары не асталіся без работы. Але горш за ўсё была думка, што гэты план дастаўся нам ад майго бацькі. З якім хваляваннем летась увосень я ўзяў яго ў рукі! Ён мне здаваўся поціскам бацькавай рукі. А цяпер?..

Адчай перайшоў у шаленства, якое кіпела ў душы. Такую безадказную мазню называюць планам! Я давяраю яму, пераношу пантографам, праседжваю над ім вечары навылёт... Ды няўжо і мой бацька?..

Мне раптам успомніўся той шэпт на сходзе: «Саасерваўскага Пеэтэра сын!» У гэтых словах была вера ў мяне. Не трэба баяцца, што зробіць цяп-ляп. Зямляк жа, саасерваўскага Пеэтэра сын...

З жалобным настроем мы ў той жа дзень пранівеліравалі Аоверэ, каб раніцаю прыйсці сюды з мензулаю і кіпрэгелем. Дасюль мы зрэдку паглядвалі ў бок экскаватара, цяпер жа сюд-туд мералі позіркам адлегласць да машыны. І нам здавалася, што яна скарачаецца незвычайна хутка.

— Проста хоць споівай экскаватаршчыка,— заўважыў Вардзья са злосным гумарам шыбеніка, але нам было не да смеху.

Помню толькі, што я вымотваўся дарэшты. Вечарам прыплятаешся па цэнтральную сядзібу, зноў бярэшся за план, за палявыя журналы, зноў праектуеш,

вылічваеш, чэрціш... Але болей за ўсё я пакутаваў ад думкі, што гэты план быў зроблены на заказ майго бацькі.

На наступным тыдні прыехаў кіраўнік групы Ланг, і я пачуваўся вельмі няёмка, адказваючы на яго пытанне, што мы робім.

— Вось дык гісторыя,— сказаў ён сур'ёзна, калі я кончыў.— Пакажыце мне той план.

Я выняў з шуфляды шаматлівы рулон. Ланг раскруціў паперу, і на твары ў яго паявілася ўсмешка. Яна здалася да таго недарэчнаю, да таго крыўднаю, што ў мяне чырванню загарэўся твар.

— Ну што ты скажаш,— пачухаў за вухам Ланг.— Шэльма старая, Кікерпіль!

Я ведаў, што гэта прозвішча таго, хто складаў план. Яно каліграфічна, з такім шыкам выведзена ўнізе, у куточку. Але мне яно нічога не гаварыла.

Ланг заўважыў маю збянтэжанасць і нявесела засмяяўся.

— Колькі я яму гаварыў: уліпнеш калі-небудзь у гісторыю з гэтым махлярствам. А, бач, цяпер сам уліп. Чаму ж было зімою мне да гэтага плана лепей не прыгледзецца!.. Меліярацыйнае таварыства заказвала. Тут, зразумела, Кікерпіль не маргаў. Дорага ён не браў, а план з усімі сваімі рознакаляровымі лініямі хораша і аўтарытэтна глядзіцца. Дакладна разлічыў: што, маўляў, мужычко цяміць у гэтым тонкім каморніцкім рамястве? А меліярацыйнае таварыства?.. Ну, так бы тут не адзін год прайшоў, перш чым яны ўзяліся б гэты план здзяйсняць. Калі ўвогуле калі-небудзь узяліся б.

Ланг абураўся, а ў мяне адлегла ад сэрца. Дык значыць, Кікерпіль! Шэльма старая! Ну, гэта не самае страшнае. І ў думках маіх бацька зноў быў сумленны і моцны, зноў заняў сваё месца сярод змагароў з балотам.

Кіраўнік групы, праўда, па-свойму зразумеў рэзкую перамену ў маім настроі, але ўсё-такі засмяяўся.

— Каб яго чорт узяў! Калі ўспамінаю, як Кікерпіль еў бутэрброд з кілбасою... Адзін скрылёк кілбасы на лусце хлеба. Кожны раз, кусаючы, Кікерпіль адсоўваў скрылёк усё далей, і толькі з апошнім кусочкам хлеба той знікаў у яго ў роце. Так ён паставіў свой «палац». Нябось, і цяпер яшчэ ўспамінаюць пра яго дзе-небудзь на лесапавале ў Швецыі.

Ланг памагаў нам два дні. Потым яму давялося паехаць. Але і гэта дало нам магчымасць не падпусціць экскаватар бліжэй. Экскаватаршчык што ні дзень дык усё больш фанабэрыўся.

Гэты цыбаты рабацяністы хлопец здагадваўся, што ў нас нешта не ладзіцца. Дасюль мы проста перакідваліся з ім жартамі. Кожнае раніцы Вардзья здзіўлена ахаў: падумаць толькі, тарахцелка ўсё яшчэ паўзе, а экскаватаршчык грозна крычаў яму: «Стары, хавай пяткі!» А цяпер экскаватар усё бліжэй падступаецца да нас, і на экскаватаршчыкавы падкалупванні мы ўжо не маглі адказваць тым самым. Так што зусім зразумела, чаму мы аж заходзіліся ад смеху, калі аднойчы пад вечар раптам змоўкла бурчанне экскаватара, і Вардзья не трэба было скаліць зубоў, што жывучая гэтая тарахцелка.

Вясёлы настрой не пакідаў нас і па дарозе дахаты. Пасур'ёзнеў я толькі тады, калі старшыня папярэдзіў у двары, што наверсе мяне чакае нейкае высокае начальства. Ён даў яму другі ключ ад пакоя.

Напэўна Сілаотс. І я быў такі ўпэўнены ў гэтым, што нават прыхапіў з сабою план аовераўскага кавалка.

На мой стук дзверы адразу адчыніліся. І я аслупянеў на месцы. На парозе стаяла Элен!..

Яна як быццам стала яшчэ зграбнейшая. Твар асунуўся і ад гэтага набыў яшчэ большую выразнасць. Карыя вочы здаваліся вялізнымі. Снежна-белая шаўковая блузка і шэрая спадніца вельмі ёй пасавалі.

— Прывітанне, Андрэс! Мы гэтак даўно не бачыліся. Не зойдзеш?

Я машынальна ступіў раз, другі раз, паціснуў пададзеную руку. Яна была гарачая і крышку дрыжала. Але ад гэтага дотыку ўвесь пакой раптам напоўніўся ўспамінамі.

Мінулае лета... Накіды на дыпломную работу... Тая апошняя ноч, калі вецер матляў фіранку...

Я здрыгануўся. Нашы рукі апусціліся. Настала няёмкае маўчанне.

— Як пасоўваецца твая работа? — нарэшце папыталася Элен.

Я паціснуў плячыма. І быў вельмі шчыры, калі сказаў:

— Павер, мне цяжка гаварыць.

— Веру,— сур'ёзна адказала яна,— але мне было яшчэ цяжэй прыехаць сюды.

Я падняў вочы і толькі цяпер уважліва паглядзеў ёй у твар. Яна вытрымала мой пагляд. Заўважыў, што вочы яе павільгатнелі, і адвярнуўся.

Сеў да стала. На ім яшчэ з леташняга года, калі дачэрчвалі планы, асталося некалькі алоўкавых слядоў.

— Куды цябе накіравалі? — папытаўся я. Папытаўся дзеля таго, каб парушыць цішыню, якая давала доступ паводцы ўспамінаў.

— Нікуды. Я не кончыла інстытута. Не падала дыпломнае работы.

Помню, мяне пранізала думка: «Мая ганьба не выстаўлена напаказ!» І толькі потым узнікла пытанне: чаму?

Элен стукала наском туфля па чамадане.

— Проста не атрымалася.

— Дзіўна. У цябе ж быў разумны настаўнік. Не варвар, падобны на мяне, і не сырая гліна, а самы сапраўдны фарфор.

Удар трапіў у цэль. Але, відаць, Элен была гатовая да нечага падобнага. Яна аставалася спакойная. І я адчуў, што мне было б шкада, калі б яна паехала.

— Быў, ведама, а цяпер няма. Таму і няма, што ён быў фарфор. Халодны і бяздушны фарфор.

Мяне нечакана агарнула радасць. Але іменна ўсведамленне, што між намі ўсё кончана, іменна гэта і раззлавала мяне.

Успомнілася, як бачыў іх праз акно са сталоўкі. Успомнілася неспадзяваная сустрэча ў кнігарні. Успомніліся бяссонныя ночы, адчуванне, што ты пакінуты, пакуты рэўнасці... Успомнілася ўсё. І ўсё гэта вылілася ў гаркоту і паток папрокаў.

— Навошта ты мне гэта гаворыш? — заўважыла раптам Элен.— З чаго ты ўзяў, што я прыехала з-за цябе?

Гэта зноў была тая ўпартая і непадступная Элен, за якую змагаўся я тою бяздумнаю вясною. Гэта была тая капрызная і незалежная жанчына, якая аставалася напагатове нават у нястрымным запале.

— Чаго ты прыехала? — здагадаўся я нарэшце папытацца.

— Па матэрыял на дыпломную работу. Незалежна ні ад чога ўвосень хачу кончыць інстытут.

— Калі гэтак, дык... Прабач. Будзеш распараджацца гэтым пакоем.

У «кубрыку» на мяне наляцелі з пытаннямі: хто, што ды як. Сказаў, мастачка — і кропка.

Наступіла паўночная кароткая летняя ноч. Яна пранікла ў пакой праз марлю на вокнах, поўная пахаў і прывідных ценяў. У камарыны звон уплятаўся шастанне крылаў кажаноў.

Была ў гэтай ночы неспакойная мітусня і невыказная чароўнасць. Усё нібыта гаварыла, што сапраўднае лета кароткае і трэба спяшацца жыць. І пах язміну нібыта памацнеў, і мацней шапацела лісце на дрэвах.

Я кепска спаў у тую ноч, некалькі разоў прачынаўся. І ад лопату крылаў нейкай начное птушкі ў змроку мне здавалася тая японская гравюра на дрэве.

Мне здавалася, што гэта не птушка, а сам я лячу скрозь шторм. І карціна ўсё большала, усё шырэла. У адным рагу яе пачало развіднівацца, у промнях сонца блiснула апярэнне птушкі, якая ляцела ў мяне наперадзе. Мяне вабілі далі, і ад гэтага прыйшло адчуванне сілы і лёгкасці. І раптам я з жахам зразумеў — падаю!..

Прачнуўся. Ужо ружавеў край неба. Пачыналі шчабятаць птушкі.

Падумаў пра Ійгэ. Але першы сонечны промень нагадаў мне Элен, якая да самых вачэй нацягвала сінюю шаўковую коўдру. Нягледзячы ні на што, яна адцясніла сабою ўсё некуды на задні план і ператварыла ў нішто мае спробы прагнаць думкі пра яе ўспамінамі пра Ійгэ.

У той дзень мы ні свет ні зара выправіліся на балота. І, помню, мужчыны адчулі сябе няёмка ад разгубленасці, калі на двор выйшла Элен. Вардзья не спяшаўся ўзяць у яе з рук рысавальнае начынне. Тоомас напусціў на сябе задумлівы выгляд, а Стары ўзяўся аглядаць сваю сякеру гэтак уважліва, быццам яна за ноч з жалезнае ператварылася ў сярэбраную. Я зразумеў — чакаюць, як буду трымацца я.

Мне раптам успомнілася, што Элен учора з выклікам кінула, што прыехала сюды зусім не з-за мяне. Хай сабе! Мы чужыя адно аднаму. Але чужы мае права разлічваць на ветлівасць...

Ішлі адно за адным, Элен — перада мною, так што я чуў знаёмы пах ландышаў, бачыў, як мерна матляецца падол сукенкі.

Раз, другі раз яна папыталася пра нашую работу, і адказваць далі магчымасць мне.

— Ты спазнілася,— сказаў я.— Была б някепская тэма — суботнік. Але ён ужо прайшоў.

Парабілі мы ад сілы гадзіну, калі, весела пасвістваючы, падышоў экскаватаршчык. І зноў пачала паволі наступаць на нас стальная махіна.

Нават не ведаю, як Элен здагадалася, што не ўсё ў нас гладка. Ці то па нашай мітуслівай спешцы, ці то па пераможнай экскаватаршчыкавай фізіяноміі, ці то па яшчэ якіх дробязях, якімі мы скрозь і ўсюды выдаём, што творыцца ў нас на душы. Як бы там ні было, а поўднем яна падышла да нас і папыталася, ці не знойдзецца ў нас і ёй работа. Гэта нібыта памагло б ёй ужыцца ў тэму.

Прапанавала яна гэта пры ўсіх. Прычына была болей чым важкая. І падмога нам была б дарэчы.

Ды адна ўжо прысутнасць яе ўвесь час адцягвала мяне. Думкі пра яе вырывалі з патаемных куточкаў душы ўспаміны, ад якіх хацелася сціснуць зубы. Спякотнае сонца ў бязвоблачным небе было як бязлітасны розум, што не церпіць ніякай няпэўнасці і давярае толькі вынікам, правераным на практыцы...

Я не мог ёй адмовіць. Але і не хацеў бачыць яе тут.

— Ідзі дахаты і прачарці тушшу гэтыя гарызанталі,— знайшоў я нарэшце выйсце са становішча.

Элен пайшла, і яе праводзілі ўдзячнымі позіркамі Стары і Вардзья. Я рэзка загадаў ім брацца за справу.

Вечарам знайшоў на стале бездакорна выкананую работу. Яна ляжала каля самае шклянкі з букетам макаў і васількоў. Смелы кантраст сініх і чырвоных кветак быў яркаю плямаю, якая ажывіла ўвесь «кубрык». Ён прынёс у наш халасцяцкі побыт тую красу, міма якой мы абыякава праходзілі кожны дзень.

Я прыкусіў губу. Чаму нам самім гэтая да смеху простая думка не прыходзіла ў галаву?

Не, не хачу, каб заўтра яна ішла з намі! Чаму? Не ведаю! Але не хачу, не хачу...

Знайшоў планы, якія вымагалі клапатлівае рукі чарцёжніка. Тут ёй хопіць работы на цэлы дзень.

Падняўся па лесвіцы. У пакоі для заезджых нікога не было, але дзверы былі прачыненыя.

Тут таксама Элен паспела навесці сякі-такі парадак. Інструменты былі складзены ў адзін куток, папера на стале перавернута чыстым бокам угору, на канапе

жаўтаватая шарсцяная коўдра, з-пад якое відзён быў краёчак белае прасціны... Наша кладоўка ператварылася ў сапраўдны пакой для гасцей.

А я і ёсць госць. Але пах ландышаў бударажыць пачуцці. Ад чамадана нібыта пахне кнігамі і масцікаю. І навошта да сукенкі прышпілена маленькая сярэбраная брошка, мой першы падарунак? Навошта іменна гэты напамінак пра тую незвычайную вясну?

На лесвіцы пачуліся крокі. Я сеў да стала, прыкінуўся, што паглыбіўся ў планы. Уцякаць не было як.

Элен трымала ў руках тры галінкі язміну, цяжкі пах якіх п'яніў, як старое віно. Яна крыху задыхалася, грудзі падымаліся і апускаліся пад шаўковаю блузкаю.

— Ты маёю работаю задаволены?

— Ага, вельмі нават... Калі ты не супраць, я тут прынёс яшчэ пару штучак...

— З радасцю зраблю, Андрэс.

Яна стаяла побач са мною, нагнулася над планам, і цёмныя валасы ледзь не дакрануліся да мае шчакі. Тыя самыя валасы, якія я так добра ведаў, тыя самыя, у якія так часта ўтыкаўся тварам.

Я павінен рассекчы гэтую вядзьмарскую пятлю раней, чым яна зашмаргнецца.

— Чаму ты не адказала на маё пісьмо, Элен?

— Я ніводнага пісьма ад цябе не атрымала.

Яна сказала гэта так шчыра, што я паверыў. Але толькі на момант. Потым словы яе здаліся мне ганебнаю хлуснёю. Успомнілася, як сядзеў адзін-адзінюсенькі ў доме Рыйвесаў і пісаў. Элен тады была ў Ленінградзе... А калі ў яе была забінтаваная рука пасля аўтааварыі, яна гаварыла таксама шчыра. Змагла і Сілаотса тут, у Рыйтна-Аоверэ, абвесці вакол пальца. Хлусня! Хлусня!

Я збег з лесвіцы. Увесь вечар праседзеў над палявымі журналамі і рабочымі чарцяжамі.

Гэтая ноч была блізняцом напярэдняе, мяккае і хвалюючай. Пах язмін, і міжволі ўспаміналася, што гэты пах насыціў і пакой для заезджых. Букет кветак у шклянцы напамінаў мне пра гнуткую руку. А тая брошка?.. Мне варта толькі падняцца па лесвіцы і пастукаць у дзверы...

Але я не скрануўся з месца. У памяці адна адну змянялі карціны, якія перапаўнялі сэрца злараднасцю і крыўдаю... Халодны, як фарфор... Хіба мне не было холадна, калі спаў адзін на канапе пасля п'янкі каля

рыйтна-аовераўскага магазіна? Хіба мне не было холадна, калі паклаў ключ ад хаты на стол і зачыніў за сабою дзверы ў дамку Рыйвесаў? Многае яшчэ ўспомнілася, што варта было б сказаць Элен.

Але, можа, яна і праўда не атрымлівала таго пісьма? Яна ж сказала пра гэта так шчыра. Я не хацеў сабе прызнацца, што баюся новых перажыванняў. Якое б ні было цяпер маё жыццё, але ў ім ёсць свой рытм, сваё прызначэнне. Элен жа, так і глядзі, выб'е з каляіны, а гэта мяне пужае... Пужае, але, нягледзячы на гэта, мне падабаецца Элен. Падабаецца незалежнасцю, чароўнасцю, нават недахопамі. У ёй ёсць нешта ад мае неспакойнае натуры, якая штурхае на пошукі, на рызыку. Лепей загінуць арлом у буру, чым дажыць да ста гадоў соннаю квахтухаю.

Можа, і Элен цяпер варочаецца без сну ў пасцелі? Можа, прыслухоўваецца: ці не пачуецца на лесвіцы хада?

Элен завалодала ўсімі маімі думкамі, так што Ійгэ ў іх ужо не асталося месца. Я пераканаў сябе, што Ійгэ добрая і слаўная. Але гэта было толькі спробаю супакоіць сваё сумленне.

Прачнуўся я змарнелы і стомлены. І гэта цяпер, калі экскаватар амаль наступаў нам на пяткі, калі трэба было паднаціснуць колькі ёсць сілы. Яшчэ дзень, сама болей два — і над намі не будзе навісаць цень гэтай стальное махіны. Пройдзем Саасерва і не будзем праклінаць старога Кікерпіля.

Першая палавіна дня прайшла ў нервовай спешцы. Да паўдня я так выматаўся, што гумовыя боты здаваліся чыгуннымі гірамі. Дапляўся да ценю пад бярозаю, што расла на пажарышчы ў Саасерве, і лёг. Астатнія таксама рассыпаліся хто куды, шукаючы гусцейшага ценю.

Я глядзеў у сіняе летняе неба, дзе плылі рэдкія пёрыстыя воблакі. Травінкі перад вачыма здаваліся ляснымі нетрамі, дзе дрэвы ледзь пагойдваюцца пад ветрам. Але і ў гэтым лесе кіпела жыццё. Побач з адзінокаю мурашкаю чмель здаваўся сланом. Вось цёмнаю трапятліваю плямкаю лёг на траву цень матылька, які махае крылцамі. А там паўзе божая кароўка...

Шоргат каменьчыкаў пад нагамі вывеў мяне з гэтага забыцця. Усё перад вачыма засланіла нейкая неймаверна вялікая божая кароўка, нейкая чырвона-бурая з чорнымі крапінкамі бясконцасць. І толькі крышку

счакаўшы, я зразумеў, што каля мяне стаіць на каленях Элен у той самай сукенцы колеру божае кароўкі.

— Я кончыла работу і прыйшла паглядзець, як у цябе тут.

— Гэтак хутка? — нават не адразу здагадаўся папытацца я.

— Усё тваім метадам. Ад сну ўрываю.

Яна паклала планы мне на грудзі і пабегла.

Я сеў, прыхінуўся спіною да бярозы. Бачыў, як Элен разулася і пайшла да ручая. Звілістая стужка вады іскрылася на сонцы. Быццам тысячы маленькіх люстэрачкаў кідалі трапятлівыя зайчыкі на лыткі і на сукенку Элен.

Вось яна ўжо да костачак у вадзе. Крышку падымае падол. Вада даходзіць да палавіны лытак...

Вось Элен азіраецца. Страсянула валасамі. Задумалася. Ручай цурчыць у яе каля ног, яшчэ крыху і краёчак падола з аднаго боку намочыцца ў ваду. Некалькі скачкоў — і Элен на беразе. Вясёлкамі блішчаць пырскі.

Яна падбегла да мяне, трымаючы ў руках туфлі. Твар ажыўлены. У ім было нешта ад тае адухоўленасці на вясновым балі.

— Ведаеш, стары буркун,— з запалам загаварыла яна,— што я знайшла там, у ручаі?.. Сапраўдную тэму на дыпломную работу. Намалюю хлапчука, які сядзіць вось тут, на ганку ў Саасерве. А вакол яго лунаюць мары пра асушэнне балота, пра яблыні ў цвеце, пра...— Элен раптам змоўкла і потым прамармытала:— Прабач. Я забылася, што ў цябе работа. Усё забываюся пра яе. Вінавата.

Я адчуў, як моцна мы падобныя, і нешта ў маёй душы надламалася.

— Не, гэта я вінаваты, вінаваты, што ніколі не магу забыцца пра сваю работу.

Мы гаварылі мала, бо ў жыцці бываюць хвіліны, калі словы бездапаможныя і лішнія. Мы нават не цалаваліся. Я трымаў яе руку, і мы толькі глядзелі адно на адно. Мне здавалася, што адно вялікае агульнае сэрца гоніць кроў па нашых жылах.

Выраз твару ў Элен сюд-туд мяняўся, яе пальцы незаўважна выдавалі тыя дэталі агульных успамінаў, якіх у закаханых тысячы. Вялікія карыя вочы яе быццам расшырыліся, і зусім нечакана ў куточках іх выступілі слёзы.

— Ну што ты, Лэпатрыйну...— Я прыгарнуў яе да сябе. Яна прытулілася галавою да майго пляча.

— Я ж смяюся,— прашаптала яна.— Я ж радуюся. Хіба ты не чуеш, старая балотная мэма, як я кудлачу табе валасы?

І слёзы пацяклі па яе твары. Кончык носа пачырванеў. Святло падала ёй проста ў твар, і шчокі вільготна блішчалі на сонцы.

Наша прымірэнне было самаю незвычайнаю штукаю на свеце. Увесь час яно ўяўлялася мне нейкім найвялікшым прыніжэннем, нечым немагчымым. А тут хапіла маленькага штуршка, каб паводкаю пачуццяў змыла ўсю горыч, якая сабралася ў душы. Гэта быў сапраўдны крыгаход. І перад нашым мысленным паглядам засінеў, заіскрыўся на сонцы марскі прастор.

— Я ж смяюся,— паўтарыла Элен. І цяпер у вачах у яе зазззялі асколачкі сонца, ад якіх прасвятлеў твар, заружавелі шчокі, наліліся вішнёваю чырваннню губы. І гэта ўжо была Элен з тае незвычайнай вясны, і я хінуў яе твар усё бліжэй і бліжэй...

Узяў у далоні яе галаву. Раптоўны грукат скалануў паветра, і Элен ускочыла на ногі.

— Пракляты экскаватар! — выгукнула яна.

— І праўда, сапсаваў такую шчаслівую хвіліну, быццам жыццё пераехала нас. Але мы яшчэ пажывём!

Я сціскаў руку Элен і адчуваў, што мне хоць бы што ўсе балоты і экскаватары. Тоомава праўда, найперш трэба асушаць балоты ў душах людзей.

— Пачакай мяне, Лэпатрыйну. Я толькі калок заганю на ўзгорку каля тае меткі. Потым вызначым вышыню і тады ўжо возьмемся за кіпрэгель. Няхай хлопцы яшчэ гэтыя пяць мінут адпачнуць.

— А табе што, гэтых пяці мінут не трэба? Не, не, я сама... Дазволь, мілы, мне... Буду заганяць у зямлю гэты калочак і думаць, што з яго пачнецца ў нас новае жыццё.

Я глядзеў, як яна, стройная і гнуткая, бяжыць па лузе, быццам баіцца, што я вазьму і перадумаю.

Спякотнае сонца раптам здалося мне цьмяным. Яно павінна было б свяціць яшчэ ярчэй, павінна было б пранізваць усё паднябессе сваімі залацістымі праменямі. Ззяць гэтак, каб лес на гарызонце здаваўся цёмназялёным аксамітам, а ручай — бліскучаю стужкаю, каб людзі здзіўлена азіраліся па баках і каб ніхто з іх не здагадваўся, што толькі што адбыўся цуд кахання.

Ад гэтага часу ўсё змяніцца. Зноў здабытае шчасце болей ніколі не выслізне з нашых рук.

Элен ужо заганяла калок. «Цюк, цюк!» — далятала да мяне. Часам яна паднімала галаву і па-змоўніцку ўсміхалася мне.

Глухі выкрык прымусіў мяне павярнуцца. Я ўбачыў Тоомаса: ён сядзеў і маргаў заспанымі вачыма, у якіх застыў невыказны жах.

— Гэта сукенка...— зляцела ў яго з губ.

Я не паспеў яшчэ зразумець, што ён хацеў сказаць гэтымі словамі, як немы крык Элен патануў у грукаце выбуху.

Я імгненна павярнуўся і ўбачыў слуп зямлі над узгоркам. Ён хутка асеў, упалі, шлёпнуўшыся, груды, і ўсё зноў стала як і раней.

— Элен! Лэпатрыйну! — Я як апалелы кінуўся да ўзгорка.

Яна ляжала, адкінутая выбухам. Сукенку прысыпала зямлёю. Я прыпадняў яе за плечы. Яна абмякла ў мяне ў руках.

— Элен! Лэпатрыйну!

Не, не можа быць, каб... Патрос яе, пацалаваў у губы. І толькі потым заўважыў, што гадзіннік у яе на руцэ ўсё яшчэ цікае...

А жыццё ўжо пакінула гэтае гнуткае цела. Страшна адчуваць сваю бездапаможнасць, халодны адчай, адчуваць, як у цябе пад рукою дубянеюць мышцы, як знікае апошняя прыкмета жыцця. А пракляты гадзіннік цікае сабе спакойна, быццам нічога не здарылася.

У свядомасць пранік Тоомасаў голас, які данёсся аднекуль з бязмежнай далечыні:

— Міна!

Я падняў галаву і адчуў, што вочы засцілаюць пякучыя слёзы.

## X

Наступныя дні ўспамінаюцца мне як жахлівы сон, у якім сцёрты межы паміж рэальнасцю і фантастыкай. Нават калі адна з аднакурсніц Элен, адзетая ў чорную шаўковую сукенку, пасля надмагільных прамоў кінула на апушчаную ў магілу труну кветкі, нават тады не знікла ілюзія жахлівага сну.

Я глядзеў, як падалі на белае века труны агністачырвоныя ружы, вечныя сімвалы жыцця і кахання. За

імі насыпаліся белыя лясныя гваздзікі і блакітныя незабудкі... Час ад часу з краёў магілы з шоргатам асыпаўся буры пясок.

Дзень ужо хіліўся к вечару, стаў доўгі цень ад дрэваў. Чулася шчабятанне птушак. Навокал цвілі кветкі — яркія плямкі на пяску ў нізкіх бетонных прамавугольніках. Усё тут гаварыла пра жыццё. Як жа раптам... Не, не, гэта проста дурны сон, які зараз кончыцца. У гэтым снапе святла, што прабіваецца сюды скрозь лісце, ёсць, напэўна, і той дураслівы сонечны праменьчык, што калісьці скакаў па шчоках у Элен... Зараз рассеецца гэтае жахлівае насланнё, і Элен сядзе, працерэ заспаныя вочы...

Лэпатрыйну! Мною авалодала дзіўная ўзрушанасць, якую адразу аглушыла першая рыдлёўка зямлі, што гупнула па дамавіне. Усё раптам набыло яснасць, але ў той жа час паявілася шчымлівае адчуванне пустаты, падобнае на тое, якое зазнаеш, калі глядзіш марознаю зімоваю раніцаю на распасцёртую на ўвесь далягляд снежную раўніну. Усё было кончана.

Разам з усімі я пайшоў на памінкі ў дом Рыйвесаў. Агульнае гора зноў звяло мяне з мацераю Элен.

Яна знайшла мяне ўКівімаа ў той самы дзень, калі я прыехаў у горад. Я адказваў на яе пытанні абыякава і вяла. Я адчуваў сябе разбітым, прыгнечаным, хацелася астацца аднаму і ад усяго адключыцца. Ды яна няправільна вытлумачыла маю панурасць...

Пазней я часта думаў: чаму раней мы ніколі так шчыра не гаварылі і не стараліся зразумець адно аднаго? Цяпер я вельмі добра разумеў апаску мадам Рыйвес, што даччыно жыццё са мною стане халоднае і разважнае. Мне ж даводзілася месяцамі быць далёка ад дому, бо ў мяне была такая прафесія. А калі Элен і напраўду выйшла замуж з адчаю?.. Над намі таксама б навіс цень шлюбу Рыйвесаў, адчаю мадам, што не склалася асабістае жыццё. Якія светлыя маглі быць яе мары, звязаныя з маладым мастаком! А калі на гарызонце паявіўся сын таго чалавека...

Я цяпер добра разумеў, чаму Элен згадзілася на тую паездку на машыне, чаму на Кастрычніцкія святы яна была ў Ленінградзе, чаму мадам не перадала Элен знойдзенага на стале пісьма. У ім жа я заклікаў Элен пакінуць гэты дом.

Разумеў цяпер усё, і тым не менш гэта выклікала ў маёй душы толькі тужлівую гаркоту: што ўжо цяпер

гаварыць пра гэты цень мінулага? Што мне дасць цяпер ключык ад патайных дзверцаў у сад, калі сад гэты змяло ўраганам?

У час гэтай размовы мяне разанула па сэрцы толькі тое, як мадам Рыйвес ціпіком дакарала сябе:

— Навошта я сказала ёй: «Едзь, паспрабуй памірыцца!..» Навошта? Навошта?..

Я ўбачыў раптам проста старую жанчыну, маці, якая асталася зусім адна і якой патрэбна падтрымка. Усе даўнейшыя крыўды, усё тое, што некалі гаварылася, здалося дробязным, астаўся толькі вялікі чалавечы жаль, які звязвае і без слоў. І яна зразумела гэта.

Ды ўсё ж, калі яна пазвала мяне назад у дом Рыйвесаў, усё ў маёй душы паднялося супраць пераезду туды. З домам не пагаворыш, не знішчыш успамінаў, якімі прасякнуты сцены, мэбля, рэчы.

— Але ж Элен паехала, каб вярнуць цябе! — сказала яна, і ў голасе яе дрыжаў страх перад адзіноцтвам.

Элен! Няўжо і яна цяпер належыць да мёртвых, хто камандуе намі?

Ад гэтае думкі мне стала нядобра. Хацелася астацца аднаму, хацелася спакою, і я паабяцаў перабрацца, як толькі спакую рэчы. Ды ў мяне не хапіла сілы выканаць абяцанне. Вось і выйшла, што парог дома Рыйвесаў пераступіў я толькі тады, калі прыйшоў на памінкі.

Усё тут асталося як і было. Знаёмы пах масцікі і кніг, недатыкальны кабінет прафесара Рыйвеса, гаматная раскошная мэбля. Душэўныя буры, што бушавалі ў гэтых сценах, прайшлі, не пакінуўшы бачных слядоў.

Вярнуцца сюды? Дом! Мой дом? Ён мне бачыўся нечым светлым, мэбля са светлага ясеню, на сцяне ксілаграфія — праз штармавую ноч ляціць птушка. Гэтую мару тут цяжка было б здзейсніць. Хіба толькі ў кабінеце прафесара Рыйвеса...

Гэты дом усё яшчэ адпужваў мяне. Я адчуваў сябе няўтульна, захацелася пайсці. Дый дзе б я тут памесціўся! Кабінет прафесара Рыйвеса быў выкасаваны з дома ў дзень яго смерці. Ці не напаткаў цяпер той самы лёс і пакой Элен?

Гэта не дом. Гэта з прабоінаю судна, дзе людзі пакінулі затопленыя памяшканні і стоўпіліся, чакаючы гібелі, там, дзе сушэй. Калі я не хачу пайсці на дно, дык...

Зайшоў у наш пакой. І тут усё было як і некалі.

Нішто не напамінала пра падзеі, якія адбыліся за гэты час.

Пахла лёгкім водарам ландышаў. На мэблі ляжалі блікі ад лямпы. Маятнік драбніў час на мінуты.

Усё так, вось калі б я пасля доўгай адлучкі вярнуўся зноў з палявых работ. Але ніхто не чакае мяне, не праціраe сонных вачэй, не хавае твару пад сінюю шаўковую коўдру...

Зразумеў, што не змагу тут ні жыць, ні працаваць.

Адступаючыся назад, выйшаў за дзверы. Узяў сябе ў рукі. Пасядзеўшы за сталом, колькі вымагае звычай, спаслаўся на работу, каб не думалі благога, і пайшоў.

Не ведаю, здагадалася мадам Рыйвес пра мой намер ці не. Але, развітваючыся, яна зноў папыталася, калі прыйду. Яна была такая прыгнечаная...

Прамямліў нешта пра восень і пра канец палявога сезона. Выйшаў на двор і раптам зразумеў, чаму мая маці перабралася з Саасерва ў горад.

* * *

Паехаў у Рыйтна-Аоверэ. Але я быў не работнік. Тэарэтычна самы цяжкі момант павінен быў бы астацца ззаду, аднак мяне падкасіла іменна цяпер.

Камень, кінуты ў ваду, тоне, а кругі ад яго расходзяцца ўсё шырэй і шырэй, натыкаюцца на бераг і адкочваюцца назад. І доўга яшчэ хвалюецца вада нібыта без дай прычыны.

Нешта падобнае рабілася і ў мяне ў душы яшчэ па дарозе ў Рыйтна-Аоверэ. Тут не было нічога, што адцягвала б маю ўвагу, і я астаўся сам-насам са сваімі ўспамінамі.

І зноў дрымотнае святло пад столлю ў вагоне, зноў мяккі змрок летняй ночы ў акне. Зноў паўстанак Рыйтна і рэйкі, якія ніколі не перасякуцца...

Пачаўшы піць яшчэ ў цягніку, я не пакінуў гэтага і ў Рыйтна-Аоверэ. І зноў змог пераканацца, што жыццё любіць паўтараць даўнейшыя сцэны з новымі дзейнымі асобамі.

Тады ў «Еўропе» я не адважыўся спыніцьКівімаа, а цяпер не перашкаджалі і мне. Быў час, я трос Тоомаса за плячо, прымушаў брыгаду нанава праводзіць пікетаж на тых, што ўпадаюць у Мудаку, канавах, цяпер ён неяк раніцаю сцягнуў мяне з раскладушкі і закамандаваў, не злосна, але патрабавальна:

— Уставай!

Ён не звяртаў увагі на мае скаргі, што я стаміўся і хачу спаць. Ён прымусіў мяне адзецца. Прымусіў пайсці з брыгадаю.

Раніца таго дня была напоўнена пакутамі пекла. Галава расколвалася, і ўвесь я быў як збіты. Пакуль даплёўся да шашы, выдыхнуўся і хацеў павярнуць назад.

Мяне не пусцілі. Я ўзлаваўся, але гэта не памагло. Стаў лагодны, можа, нават жаласны. Навошта мяне валакуць на гэтае праклятае балота? Якая ад мяне карысць?

— Гэтак трэба,— адказваў Тоомас.

Пачуў, як цела кінула ў пот, стала цяжка дыхаць. Толькі пад абед яны прывялі мяне назад. Я адразу паваліўся на пасцель і заснуў мёртвым сном.

Прайшоў не адзін дзень, перш чым да мяне стала варочацца сіла, перш чым пачала абуджацца цікавасць да работы. Ды ўсё ж адчувалася ў целе нейкая дзіўная вяласць, якая ніяк не праходзіла.

У тую жнівеньскую нядзелю прачнуўся я больш-менш бадзёры.

Вардзья якраз канчаў брыцца. На бліскучым баку бляшанкі з мыльнаю пенаю адбіваўся ўвесь наш пакой вельмі паменшаны і незвычайна перакрыўлены.

Стары ў гэты час каменціраваў, як Вардзья ў мінулую нядзелю хадзіў на вечарынку, і спрабаваў угадваць вынікі сённяшніх танцаў.

— Што рабіць, калі сэрцу патрэбна каханне,— далучыўся да Старога Тоомас.

— Ці многа сэрцу гэтаму трэба...— двухсэнсава выказаўся Стары.— Назаўтра так і гэтак папросіць: скажы мне што-небудзь добрае, суцяшальнае.

Усё гэта — самыя звычайныя сяброўскія жарты, якія, як казаў Стары, былі «неад'емнаю часткаю» нашага жыцця. Аднак у тую раніцу я зноў на гэтым спыніў сваю ўвагу. Я ведаў недахопы і годнасць кожнага паасобку. Але разам яны ўсё-такі ўтваралі калектыў, чалавечны і разумны, які выцягнуў мяне з бездані адчаю.

Я расчуліўся, і разам з тым мне было сорамна. Амаль два тыдні практычна я не працаваў. За гэты час, ведама, нічога падобнага кікерпілеваму плану не нарадзілася, але брыгадзір усё ж павінен быць брыгадзірам. І калі раніца была ў самым разгары, я пайшоў-такі на балота паглядзець, што там папраўдзе зроблена.

У густой сінечы над галавою плылі пышныя, белыя, як мыльная пена, воблакі. Час ад часу залатым зіхатлівым дыскам вызірала сонца, у промнях якога іскрыліся трава, дрэвы, кусты, пакуль цень ад воблака зноў не зацяняў зямлю. Сонца свяціла, ды амаль не грэла. Паклапаціўся пра гэта даволі моцны паўночны вецер.

Восень. Яна яшчэ не блізка, ёсць яшчэ час. Усё яшчэ раскашуецца ў зелені, але краса гэтая ўсё роўна што ліхаманкавая чырвань на шчоках у хворага.

Чорнымі палоскамі беглі канавы. Тарфяная зямля па берагах была вільготная. Я не мог безагаворачна адобрыць усю работу, хоць брыгада трымалася майго праекта. Калі б я тут быў сам, можа, сякім-такім думкам з блакнота даў бы жыццё.

Грунт у мяне пад нагамі быў рыхлы. Боты ўлазілі ў яго, як у мяккую вату. Але ў ямках слядоў не паблісквала вада, прытаптаныя мох і травінкі зноў выпросталіся.

Вось і зламана твая моц, балота! Ды я не цешу сябе ілюзіяй, што ты ўжо канчаткова зваяванае. Трэба яшчэ ўкачаць верхні пласт, які прыпадняў торф. Нельга пускаць сюды жывёлу, каб не размясіла грунту. Трэба ўмацаваць дзёрнам абочыны канаваў, трэба сачыць, каб не захраслі трубы... Тут клопату яшчэ процьма, сто патоў выльецца, пакуль з усім справімся. Затое потым прымусім цябе гадаваць яблыні, якія будуць патанаць у белым цвеце, ты будзеш служыць нам, як служаць пеністыя бурлівыя рэчкі і ўрадлівыя неабсяжныя стэпы.

Я ішоў паўз ручай Аоверэ. Бераг яго таксама падсох. Вада ўсюды спала.

«Мы гатовыя спальваць сябе датла»,— сказаў мой бацька, вярнуўшыся вечарам дахаты з вялікаю рыдлёўкаю на плячы, а яго адзежа пахла багуном. І ўзнагарода за гэта — ён толькі раз і ўбачыў цвіценне яблынь у Саасерве... Ці не задужа дарагая цана?

Ды хіба не гэтая ўтрапёнасць увайшла ў маю дзіцячую душу вялікаю тугою і вялікаю мараю? Магчыма, тое, што я раблю, калі-небудзь некага (можа, ён яшчэ і не нарадзіўся) заахвоціць да нечага вялікага?

Дайшоў да Саасерва. Па падвор'і бег выпрастаны ручай. Нейкі неспадзяваны імпульс прымусіў мяне паглядзець пад ногі: раптам тут яшчэ асталіся сляды Элен?

Ведама, тут нічога не было. Але мне хацелася чымнебудзь матэрыяльным падмацаваць свае ўспаміны. І я пакіраваўся да старога дзота, на той наканаваны ўзгорак.

Тут яшчэ потым шукалі міны, каб абясшкодзіць іх, але так і не знайшлі. У свой час асталася толькі адна... Адна-адзіная...

Адсюль павінна было пачацца ў нас новае жыццё. Але на імгненне ажыў прывід вайны, уварваўся, сеючы пагібель, у мірнае жыццё. Балота, што загубіла яблыні, не знішчыла затоенай у сабе смерці. Балота было яе хаўруснікам...

«Адолеем вас абаіх!» — нечакана раз'юшыўся я. Рэзка павярнуўся, нібы чакаючы сустрэцца тварам у твар з балотнаю пачвараю, якой я мог бы цяпер адпомсціць.

Навокал не было ні душы. І мне стала сорамна. Я ж сучасны чалавек, і ні з таго ні з сяго гэты прывід забабонаў далёкіх продкаў?.. Я паспяшаўся да шашы — галава поўная гнятлівых думак, у душы жаль, перамяшаны са злосцю.

Стомлены, падышоў я да магазіна. Тая самая зашклёная веранда, дзе мы тады сядзелі. Тыя самыя ліпы, якія ў той спякотны вечар шапацелі пад навальнічным ліўнем. Тая самая доўгая лава ў магазіне, пустыя скрынкі з-пад піўных пляшак. «Інтэр'ер сам па сабе цікавы»,— сказала тады Элен, яна слухала, як Тоомас дэкламуе «Фламандскіх майстроў»...

Успаміны адсеялі ўсё благое, ва ўспамінах усё бачылася прыгожым і паэтычным. Перада мною паўставалі пытанні, на якія я не знаходзіў адказу. Прывідныя «чаму?» абступалі мяне з усіх бакоў. І я зноў стаў піць, каб забыцца...

Помню, ачнуўся, ляскаючы зубамі ад холаду. Проста перада мною серабрыўся луг, абрамлены чорнымі, як вугаль, ценямі. Блішчаў халодны месяц. Скрозь ляжалі малочна-белыя пасмы туману. Дурманілі галаву балотныя травы.

Не адразу ўспомніў я падзеі мінулага вечара. Найкарацейшая дарога цераз балота, неадольная стома, ад якое так і цягнула прываліцца да капы сена...

Так і выйшла...

Сяк-так я падняўся на ногі, калоцячыся ад холаду. Усё мітусілася перад вачыма, галава была цяжкая, быццам чыгунная.

Цераз сілу, спатыкаючыся, пайшоў па вузкай сцежцы. Раптам левая нага правалілася, поўны бот набраўся ледзяное вады. Цела абдала гарачая хваля страху, і я адразу працверазіўся.

Месяц расплывіста віднеўся скрозь кісяю хмараў. Балота нагадвала змрочны міраж. У душы маёй прачнуўся ўмацаваны не адным пакаленнем страх перад цемраю, якая прыдавала прыродзе грозную таямнічасць. Успомніліся «вокны», патаемныя ямы ў торфе. Можа, і мяне тут дзе-небудзь падпільноўвае смерць?

Я стаў на правае калена, узяўся абедзвюма рукамі за левую халяву, пацягнуў... З неспадзяванаю лёгкасцю выслабаніў нагу. Дый месяц заблішчаў, нібыта выйшаў паглядзець, хто гэта там унізе цялёпкаецца ў балоце.

Нічога страшнага не было. Я крыху збіўся са сцежкі і трапіў нагою ў гразкую мулаватую ямку між купінамі.

Выліў ваду з бота і пайшоў далей.

Толькі цяпер стаў напраўдзе выяўляцца перажыты перапуд.

Як ні пераконваў сябе, што сцежка мне знаёмая і няма ніякай небяспекі, я такі не змог канчаткова перадолець страху.

Ці не тырчаць з-за гэтага куста брудныя ўчэпістыя рукі? Ці не сядзіць на тым дрэве агнявокае страшыдла? Белая кісяя туману — ці не вядзьмарская пялёнка, што засланяе вочы і піхае цябе на пагібель? І над усім гэтым прывідным светам пануе месяц, у хімерычным святле якога перад вачыма ў цябе паўстае то чароўны прыгожы пейзаж, то ахінутае жалобным вэлюмам балота.

На цэнтральную сядзібу прыйшоў я спацелы. І калі да гэтага мяне калацілі дрыжыкі, дык цяпер цела маё гарэла. Ад гарачкі цяжка было дыхаць, перасыхала ў роце. Хацеў пайсці ўзяць шклянку са стала. Але нечакана ўвесь пакой пайшоў кругам, перад вачыма загарэліся нейкія чырвоныя кругі, а потым усё зрабілася снежна-белае, быццам абарвалася кінаплёнка і адсланіўся пагляду белы экран...

Ачнуўся. Хацеў устаць. Але галава была быццам свінцом налітая, і гэты свінцовы цяжар паваліў мяне назад. Нешта халоднае легла на лоб. Нечы голас вымавіў:

— Спакойна, Андрэс.

Расплюшчыў вочы. Пакой ужо не гайдаўся. Але што гэта Тоомас гаворыць... Хворы? Гарачка? Тэмпература 39,8?.. Не, не можа быць, каб пра мяне! Мне ж трэба пераносіць праект на натуру...

Гэта была стойкая гарачка, якая вельмі знясільвае. Арганізму ніяк не ўдавалася яе адолець. І на трэці дзень раніцаю я зразумеў па Тоомасавым твары, што брыгада нешта надумалася і гэтае нешта мае дачыненне іменна да мяне.

Калі ў абед прыехаў доктар, я раззлаваўся. Я ж не хворы, якому патрэбна медыцынская дапамога. У мяне проста тэмпература, высокая, праўда, але тэмпература — і толькі. Я сам з ёю спраўлюся. Навошта мяне аглядаць? Навошта Тоомас робіць такую трагедыю з гэтае тэмпературы?

А таму так і ашаламіў мяне дыягназ: выпатны плеўрыт! Магчыма, сухотны...

Я напружана ўглядаўся ў сур'ёзныя Тоомасаў і доктараў твары, намагаўся па іх выразу адгадаць, што мяне чакае.

— Дам накіраванне ў бальніцу,— сказаў доктар, адкручваючы каўпачок у аўтаручцы.— Небяспекі жыццю, праўда, у гэты момант няма, але выпатны плеўрыт... Разумееце?..

Пайсці адсюль цяпер?.. Кінуць работу на палавіне. Гэта ж дэзерцірства. Мяне з гэтым балотам звязвае нешта большае, чым звычайнае пачуццё абавязку. Калі б не Элен, тая смерць, што прытаілася ў Аоверэ, напаткала б мяне. Элен загінула за мяне ў гэтай мірнай працоўнай бітве.

Я раптам зразумеў, што мог адчуваць Тоомас, калі пасля вайны зноў узяўся за вучобу. Ведаць, што тваё жыццё — гэта не толькі тваё жыццё, што яно аплачана жыццямі другіх, хто загінуў у баі...

Таму дрыготкім ад хвалявання голасам я і загаварыў да Тоома.

Ён зразумеў мяне... Але яму яшчэ давялося як медыку доўга пераконваць доктара, перш чым той адклаў сваю аўтаручку.

— Ніякай работы! Ніякага напружання! Строга трымацца рэжыму, бо выпатны плеўрыт хвароба каварная,— зноў паўтарыў доктар, адыходзячы.

— Дзякуй табе, Тоомас,— сказаў я, калі на двары залапатаў доктараў матацыкл.— Адтэрміноўка на пару тыдняў таксама нешта значыць... Ну вось, вывучаў зі-

мою шкодны ўплыў балота, і бачыш, дзе гэта спатрэбілася.

— Вывучаў, ведама, але мне і ў галаву не прыходзіла, што ты будзеш той першы, хто...

Тоомас пайшоў да ўсіх на балота. А я астаўся думаць сваю думу.

Дык вось чаму апошнім часам быў я такі стомлены. Успомнілася, як аглядаў сябе ў люстэрку, збіраючыся ісці ў тэатр, і нават парадаваўся, што пабялеў. І тое, што прапаў апетыт, а я палічыў гэта вясноваю стомленасцю. Успомніліся многія дробязі, якія раптам здаліся надзвычай важнымі.

Ды яшчэ ў той самы вечар усё засланіў адчай: я прайграў гэтую бітву з балотам. Тыдняў праз два давядзецца паехаць адсюль. Работу кончыць нехта другі, шчаслівчык, які напіша на апошняй старонцы гэтай кнігі finis coronat opus [1] і пастравіць свой подпіс.

Неяк адразу здаліся смешнымі ўсе намаганні, недарэчнаю ўся праца. Элен загінула дарэмна. Не змог я здзейсніць бацькавай мары...

Раптам я зразумеў, што мне так хочацца самому кончыць работы на гэтым балотным абшары. У мяне вунь цэлы блакнот ідэй, як палепшыць праект.

Дык вось, з гэтага часу каля мае пасцелі будзе знаходзіцца галоўны штаб. Буду адсюль кіраваць бітваю з балотам.

Цэлыя два дні я ашукваў сябе гэтым. Хлопцы выслухоўвалі мае заўвагі, абяцалі ўсё ўлічыць. Але я пераацаніў свае магчымасці.

Тэмпература не спадала. Я вельмі хутка стамляўся. У маёй галаве нараджаліся гарачкавыя прывіды, якія звальвалі ў адну кучу мары і рэчаіснасць, выдумку і яву. Я трызніў, і мне бачыліся дзесяткі балотаў, але я не знаходзіў сярод іх Рыйтна-Аоверэ.

Зразумеў, што ад мае прысутнасці тут усё меней і меней толку, але ехаць усё-такі не хацелася. Я ўжо не так, як спачатку, баяўся бальніцы, затое пагрозліваю лавінаю насунуўся на мяне страх перад аддаленаю будучыняю. Выйду з бальніцы — і што тады?.. Некалькі гадоў давядзецца сядзець з камеральнымі работамі, перш чым удасца завязаць рукзак і падацца ў поле? Можа, Рыйтна-Аоверэ мой першы і апошні вялікі аб'ект?.. Дык што ж лепей: кончыць тут гэтую работу,

---

[1] Канец— справе вянец *(лац.)*.

што губіць здароўе, ці яшчэ некалькі дзесяткаў гадоў марнець раззлаваным канцылярскім пацуком?

Гэтыя думкі дапякалі мне чароўным вечарам. Праз бакавое акно клаліся на сцяну залатыя сонечныя промні. Я сачыў, як павук пляце свае цянёты ў кутку пад столлю.

Нудны зычны піск чуўся ў пакоі: гэта муха трапіла ў павуковую сетку. Ды вось ужо спяшаецца да свае здабычы павук, каб давяршыць барацьбу. І павісае на серабрыстых нітках чорны камячок, увесь аблытаны павукавінкаю.

Мяне ўзяла злосць. Я сеў і шпурнуў у куток скручаным ручніком. Ён начыста змёў павуціну і, шоргаючы, упаў на падлогу.

Якая недарэчнасць! Ды ўсё ж мне стала лягчэй, як знямогламу ад смагі чалавеку, які каўтнуў глыток сцюдзёнае вады.

Я ўстаў з раскладушкі, адзеўся, уссунуў гумовыя боты. Навошта ўсё гэта я рабіў? Не ведаю. Можа, проста каб увогуле нешта рабіць, каб уратавацца ад гнятлівых думак...

Ва ўсякім разе адчуў, што ў мяне ёсць цела, свінцовае, непаслушнае цела. Паваліўся на крэсла, гэтак і астаўся сядзець каля стала. Неяк неразумна было зноў раздзявацца, класціся ў пасцель.

Раптам пачуў я шпаркую хаду, рытмам зусім не падобную ні на хаду членаў нашай брыгады, ні на хаду старшыні калгаса. І зразумеў — ідуць сюды.

Падняў галаву. На парозе стаяў Сілаотс.

Ён нібыта нават разгубіўся. Але толькі на момант. Потым пануры яго твар зрабіўся зусім хмурны. Шчытна сціснутыя губы здаваліся нітачкаю.

— Зноў адпалілі нейкую штуку, як летась з пікетажам мудакускіх канаваў? Ці, можа, рабочыя ставяць на Рыйтне тычкі пад мензульную здымку? — папытаўся ён без выкрутасаў, стараючыся надаць свайму голасу іранічны тон. Але гэта кепска яму ўдавалася. Унутранае хваляванне выдавала яго зняважанасць і ўпартасць.

Я не сцяміў, чаму ён прыпомніў мне даўнейшае, тую леташнюю п'янку ў магазіне і няшчаснае здарэнне са Старым. І, шчыра кажучы, гэта мяне не вельмі і цікавіла.

Але калі ён сварліва папытаўся, чаму я не на рабоце, і выказаў здагадку, што зноў вінаваты магазін

у Рыйтне, я закіпеў. Чорт ведае што! Калі ён напрошваецца ў громаадводы навальніцы, што наспела ў маёй душы ад лютасці і прыгнечанасці духу, дык няхай наракае сам на сябе!

— Дзе вы былі, калі мы валтузіліся з Аоверэ? Дзе вы былі, калі мы зКівімаа зімою дубянелі на балоце? — задыхаючыся, выкрыкнуў я яму ў твар.— Каля цёплае печкі дзялілі прэміі за палявыя работы. Кактусы гадавалі. Яны вам важнейшыя за людзей!

Яго ашаламіў мой выбух гневу. Ён нават адступіўся, але адразу ўзяў сябе ў рукі.

— І, па-вашаму, гэта дало вам права ігнараваць мае распараджэнні, паводле сваіх меркаванняў без папытання пераносіць на мясцовасць праект рыйтнаўскага выгіну?

Я не зразумеў усяго, што ён сказаў, бо перад вачыма ў мяне зноў паплылі чырвоныя кругі, так што я мусіў схапіцца за край стала.

У пакоі, адкуль ні вазьміся, паявіўся Тоомас. Ён нешта сказаў Сілаотсу. У таго на твары адбіўся перапалох.

— Прабачце, таварыш Ояры,— прамармытаў ён.— Даруйце... Я, напраўду, не ведаў...

Тоомас кіўнуў яму, каб выйшаў з пакоя. Я хацеў крыкнуць, каб ён астаўся, але ў гэты момант заўважыў Мяндмаа і па твары намесніка міністра зразумеў, што ён усё чуў.

Мне стала сорамна. Дазволіў пакласці сябе ў пасцель, як бездапаможнае дзіця, не пярэчачы выслухаў Тоомасаву вымову.

І трэба ж было, каб іменна Мяндмаа стаў сведкам гэтай агіднай сцэны?! Чаму іменна пры ім апынаюся я ў дурным становішчы? То неразумна спрачаюся, то прашу, каб ён паправіў маю памылку... У памяці прамільгнуў сход, на якім Мяндмаа гаварыў пра новыя шляхі, Курэпалу, дзе я стаяў на дварэ нікчэмным просьбітам. Але ўсё гэта нельга было параўнаць з сяганняшнім, і я ціха застагнаў.

Не ведаю, ці то Мяндмаа не зразумеў сапраўднае прычыны гэтага стогну, ці то проста знарок не падаў выгляду.

— Дзе ў вас баліць? — папытаўся ён, падышоўшы да раскладушкі.

Я машынальна дакрануўся рукою да грудзей і толькі тады заўважыў, што паклаў яе на сэрца.

— Гэта небяспечней, чым плеўрыт,— заўважыў Мяндмаа,— але на ліха гэта ці на дабро — пакажа будучыня.

Я сарамліва схаваў руку пад коўдру, падняў вочы, чакаючы сустрэць іранічную ўсмешку. Але ўбачыў толькі сур'ёзныя шэрыя вочы, спакойны задумлівы твар. Мяндмаа таксама загаварыў пра той рыйтнаўскі выгін, але загаварыў з удзячнасцю і з прыхаванаю ўсмешкаю.

Я не разумеў, што ж там такое з гэтым выгінам. Распытваць падрабязна таксама не гадзілася. Брыгадзір — і раптам не ведае, што робіцца на давераным яму аб'екце?.. Дый гаворка далей пайшла ў другім кірунку. Так што ў мяне з галавы вылецелі ўсе на свеце выгіны.

— Шчыра кажучы, прыехаў сюды я з эгаістычнага жадання,— сказаў Мяндмаа.— Мне б хацелася, каб вы ўзялі на сябе кіраўніцтва работамі на другім канцы рэспублікі...

— У Соэварыку? — нецярпліва папытаўся я.

Мяндмаа кіўнуў.

Першаму пачаць бой, самому закладваць гэты рэспубліканскага маштабу торфакамбінат! Ад радасці, што ахапіла мяне, заняло дух, на момант я нават пра ўсё забыўся. Адчуў сябе птушкаю, што ляціць скрозь буру і разумее сваю сілу, якой прыносіць задавальненне барацьба са шквальным ветрам. Якіх намаганняў мне каштавала атрымаць Рыйтна-Аоверэ, а цяпер мне прапануюць Соэварыку!..

І раптам адчуў, што ў мяне няма сілы нават падняць руку. Аслабелае ад хваробы цела падвяло. Мне здалося, што дашчаная столь падае і прыціскае мяне да падлогі.

— Не кончыць мне і Рыйтна-Аоверэ,— выціснуў я, не гледзячы на Мяндмаа.— Што я толькі не марыў зрабіць з гэтым балотам і...

Мне прыпомніліся ідэі, што так і асталіся ў блакноце, траса Аоверэ, што праектавалася на хаду. Як пераносілі пікеты на мудакускіх канавах... Але ўсё гэта засланіў страх, што, магчыма, давядзецца назаўсёды пайсці з пярэдняга краю барацьбы.

— Вы цяпер бачыце ўвесь свет толькі ў чорных фарбах,— заўважыў Мяндмаа.— Пагаворым як мужчына з мужчынам. У нашы дні плеўрыт зусім не смяротная хвароба. Вы ляжаце ў бальніцу, ачуняеце і га-

доў два-тры папрацуеце ў міністэрстве. З новага года ў нас ідзе на пенсію адзін стары работнік.

Зразумеў, што Мяндмаа ва ўсіх адносінах меў рацыю. Але нешта ў маёй душы пратэставала, нешта быццам шаптала: «Дэзерцір!» Міністэрства? Гэта значыць залезці на самы верх піраміды, адкуль відны ўсе балоты рэспублікі. Гэта значыць працаваць дзеля таго, каб усюды маглі цвісці яблыні. І ўсё-такі гэта зусім не тое...

— Дык вы мяркуеце, што...— вымавіў я ціха і нерашуча.

— Я веру ў гэта. Вы ачуняеце і зноў зможаце працаваць у полі. А мары, якія тут не ўдалося здзейсніць да канца... Мары — гэта рэчаіснасць будучыні,— надта пацяплелым тонам сказаў Мяндмаа. Пераканаты, яму ўспомнілася нешта са свайго жыцця.— Што ж да завяршэння Рыйтна-Аоверэ, дык лічыце, што з гэтым вы ўжо справіліся. Праект ёсць, ніякіх ускладненняў, накшталт тых, што былі на ручаі Аоверэ, не павінна быць. Брыгада ў вас працуе на правераным галоўным інжынерам кавалку. Рыфы асталіся ззаду, цяпер ужо любы прывядзе карабель у гавань... Дамовіліся?

Я кіўнуў, пацісну ў яму руку.

— На гэтым этапе з Рыйтна-Аоверэ справіцца любы тэхнік,— разважаў Мяндмаа.— Я пагавару з Сілаотсам, каб ён прыслаў сюды каго-небудзь з інжынераў «Меліяпраекта».

«Любы тэхнік»,— сказаў ён. А чаму б гэтым тэхнікам не быць Вардзья? Чаму маёю брыгадаю прыедзе кіраваць нехта чужы?

— Я не пярэчу,— адказаў Мяндмаа на маю прапанову. І Сілаотс з ім згадзіўся, як толькі Мяндмаа пазваў яго ў пакой і растлумачыў сутнасць справы. І мне і галоўнаму інжынеру было крыху няёмка з-за нядаўняе сутычкі, калі мы, папрасіўшы прабачэння адзін у аднаго, памірыліся. І яны паехалі.

Калі вечарам вярнулася брыгада, па выгляду Вардзья зразумеў я, што ён ужо ведае пра ўскладзеную на яго адказнасць, але не ведае, як я да гэтага стаўлюся. Аднак у мяне было гадзін дзве на тое, каб сабрацца з думкамі і пераадолець сваё горшае «я». Бітву з балотам трэба давесці да канца. Нехта павінен узяць з маіх аслабелых рук баявы сцяг, як некалі прыняў яго я з бацькавых, якія пачалі карчанець. Так што я змог вельмі шчыра і без гаркоты сказаць Вардзья:

— Падыдзі. Я скажу табе нешта добрае, суцяшальнае!

У пакоі нібыта пасвятлела.

Прайшло нямала часу, перш чым мне ўдалося распытацца, што ж здарылася без мяне з тым выгінам на ручаі Рыйтна.

Хлопцы паглядзелі на Вардзья, а ўслед за імі і мой запытальны пагляд спыніўся на маладым брыгадзіру, які замяніць мяне.

— Ну, падумалі, што...— пачаў ён, паціскаючы плячыма.— Ды ты ж таксама гаварыў, што хоць гэта і даражэй каштаваць будзе, затое песенька гэтага балота на дзесяткі гадоў будзе спета... Адным словам, прывязалі праект у гэтым месцы так, як у цябе спачатку было задумана. Простую, як страла, трасу да моста, а там, зразумела, экскаватар зрабіў сваю справу.

Ага, вось чаму Сілаотс быў разгневаны.

Я слухаў Вардзья, і мяне смех разбіраў. У тым, што ён упарта зрабіў па-свойму, было нешта вельмі блізкае мне. Ды, аднак, я злавіў сябе на тым, што напамінаю Вардзья, каб ён далей не адступаўся болей ад папраўленага праекта.

З таго вечара тэмпература ў мяне пачала спадаць. На чацвёрты дзень я ўжо мог прайсціся па пакоі. Неяк дзіўна было быць у гэтым знаёмым памяшканні, сярод гэтых знаёмых людзей пабочным назіральнікам.

Да мяне зноў стала колішняя варочацца сіла. Я ўжо мог выходзіць на двор, апошні раз зірнуць на ўсё вачыма госця.

Схадзіў у яблыневы сад, дзе чырванелі суйслепы і жаўцелі папяроўкі.

Зайшоў да старшыні калгаса. Доўга сядзелі ў пакоі для заезджых, дзе і цяпер яшчэ, здавалася, лунае пах ландышаў...

І толькі на балота я так і не змог схадзіць. Не, туды я не змог пайсці як пабочны назіральнік — яно і цяпер развярэджвала маю душу і выклікала самыя супярэчлівыя пачуцці.

Стаяла халаднаватая верасьнёўская раніца, калі я пайшоў адсюль на станцыю Рыйтна. Хацелася пайсці аднаму, каб пабыць сам-насам са сваімі думкамі. Тоомас як доктар дазволіў мне гэтую пагулянку.

Ноч ужо кончылася, а дзень яшчэ не пачаўся, калі я паціснуў на развітанне хлопцам руку. Не было сказана нічога, апрача самага патрэбнага.

Тоомас пайшоў праводзіць мяне да шашы.

Ішлі пад шапатлівымі ліпамі, якія напаміналі той далёкі вясновы вечар, калі я папрасіў у Элен дазволу прысвяціць праект, які я тады рыхтаваў, свайму першаму сапраўднаму каханню... Ліпы, ліпы... Гэта таксама ліпавыя прысады...

Ранішні змрок ажывіў у памяці ноч, калі вярталіся з Тоомасам з бальніцы па бязлюдных вуліцах...

Спыніліся каля развілкі. Тоомас пацісную мне руку і трохі сарамліва сказаў:

— Ты ў горадзе зойдзеш да нас. Перадай паклон маме. І вазьмі ў правай шуфлядзе ў пісьмовым стале загорнуты ў карычневую паперу і звязаны аборкаю пакет. Занясі яго ў бальніцу Мацi Туулінгу.

— Тоомас! — У гэтым выкрыку была і радасць і сорам. Як я мог тады гэтак нядобра падумаць пра яго, калі ўбачыў, як тыя паперы ў печцы рассыпаліся ў прах?

— Я атрымаў пісьмо, што тое дзіця ўдалося ўсё-такі выратаваць,— сказаў Тоомас, гледзячы ўбок.— Занясі Туулінгу гэты скрутак. Можа, яму што-небудзь спатрэбіцца.

— А ты сам?

— Паспеецца!.. Ну, шчаслівай табе дарогі, папраўляйся!

Ён моцна пацісную мне руку і падаўся прэч, пакінуўшы мяне разважаць пра чалавечую натуру, якая саромеецца рабіць як ліха, так і дабро.

А потым пайшоў сваёю дарогаю і я, засунуўшы рукі ў кішэні ў плашчы. Я крыху згорбіўся, хоць не дзьмуў вецер і не біў у твар дождж, як тым разам, калі я ўпершыню ішоў на рэкагнасцыроўку гэтага балота.

Займалася зара, апаліўшы неба на ўсходзе. Сёння будзе слаўная пагода, пры якой добра працуецца.

Я спыніўся толькі на масціку цераз Рыйтна, паглядзеў на ручай, што бег па простым, як страла, рэчышчы, на чорную тарфяную зямлю па берагах, паглядзеў на балота, дзе слаўся бялёсы ранішні туман. Там удалечыні хата майго дзяцінства. Адсюль яна не відаць, але ў думках я бачу яе заўсёды. І з ёю цяпер навечна з'яднаны вобраз жанчыны з гнуткім станам, у чырвонай у чорную крапінку, як крылцы ў божае кароўкі, сукенцы, жанчыны, якая бяжыць цераз луг, каб загнаць калочак...

Я болей не шкадаваў, што даводзіцца пакідаць гэтыя мясціны да таго, як прагучыць заключны акорд, што радасць перамогі і гонар асушэння гэтага балота дастанецца цяпер у большай меры Вардзья. Я не баяўся за сваё здароўе, адчуваў, што вярнуся ў строй і некалі ажыццяўлю такія ідэі, у параўнанні з якімі Рыйтна-Аоверэ — дзіцячая забава.

Але адчуваў і тое, што ніколі ні ў адзін праект я ўжо не змагу ўкласці гэтулькі маладога запалу, гэтулькі заўзятасці і мараў. Яны ператварыліся на гэтым полі мірнай працоўнай бітвы ў попел, з якога я хачу адрадзіцца, як Фенікс.

І стоячы там, на масціку, я ўпершыню пачаў разумець усю веліч барацьбы, якую вечна вялі людзі з гэтаю суроваю карміцелькаю — матухнаю-зямлёю.

# ПРА ЛЕА МЕТСАРА І ЯГО ТВОРЧАСЦЬ

Прапанаваны чытачу раман «Мары не паміраюць» з'яўляецца першым выдадзеным асобнай кнігай творам Леа Метсара, рукапіс якога быў пададзены на конкурс эстонскіх раманаў у 1959 годзе і адзначаны тут II прэміяй; у 1960 годзе раман быў надрукаваны Эстонскім дзяржаўным выдавецтвам. Яго аўтар, цяпер вядомы празаік і перакладчык мастацкай літаратуры Леа Метсар, нарадзіўся 27 красавіка 1924 года ў Тарту ў сям'і чыгуначніка. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Тартускай гімназіі Х. Трафнера, пасля ў 1942—1948 гадах вучыўся ў Тартускім універсітэце, атрымаў дыплом гісторыка-археолага. У 1944—1945 гадах працаваў лабарантам у Эстонскім вучоным таварыстве, у 1948—1950 гадах — навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Эстонскай ССР. Потым, у 1954—1956 гадах, быў тэхнікам-геадэзістам у «Сельгаспраекце», а ў 1958—1963 гадах — літаратурным супрацоўнікам у рэдакцыі тартускай газеты «Эдазіі». З 1960 года Л. Метсар — член Саюза пісьменнікаў Эстонскай ССР. З 1963 года ён зусім пераключыўся на літаратурную працу.

Пісаць пачаў з 1953 года, у перыёдыцы яго апавяданні сталі друкавацца з 1955 года. Як у першым яго рамане, так і ў другім («Сонечная калясніца», 1964) паказваецца жыццё студэнтаў, маладых вучоных, інжынераў. Галоўнае абодвух твораў — сучасныя маральна-этычныя праблемы, пытанні фарміравання характараў маладых людзей, пры гэтым пісьменнік асабліва ўважліва даследуе суадносіны паміж марамі і рэчаіснасцю, разглядае пытанні паўнацэннасці жыцця і максімальнага раскрыцця і рэалізацыі здольнасцей чалавека. У гэтых раманах пісьменнік паказаў добрае веданне не толькі студэнцкага і вучонага асяроддзя, але і штодзённага побыту і працы інжынераў, геадэзістаў, меліяратараў. Тут вялікая роля яго асабістага жыццёвага вопыту, у прыватнасці, вопыту работы тэхнікам-геадэзістам у праектным інстытуце. У 1971 годзе выйшла псіхалагічная аповесць Л. Метсара «Туш для веек», дзе на першым плане складаныя ўзаемаадносіны аўдавелага лесніка і жанчыны-доктара, славалюбнай і працавітай, якая пакутуе ад унутраных комплексаў і губляе пры гэтым рысы жаноцкасці. І тут паказаны прадстаўнікі розных спецыяльнасцей, закранута шмат надзённых праблем.

У 1968 годзе Л. Метсар паўстаў у новым пісьменніцкім (аднак цесна звязаным з яго асноўнай прафесіяй гісторыка) амплуа, калі надрукаваў гістарычны раман «Імператар Юльян». Аўтар уводзіць чытача ў эпоху позняй антычнасці — у перыяд распаду Рымскай імперыі, калі яе атакавалі полчышчы варвараў. Асноўны змест твора — дзейнасць імператара Юльяна, накіраваная на тое, каб прыпыніць на падуладных Рыму землях пашырэнне хрысціянства шляхам супрацьпастаўлення яму рэлігіі, заснаванай на павазе грэка-рымскіх язычніцкіх багоў і неаплатанічнай філасофіі. Пры вядомай спрэчнасці канцэпцыі гістарычнага развіцця рэлігіі, якую выказвае пісьменнік, раман прыцягвае ўвагу сваім пазнавальна-асветніцкім, а таксама навукова-папулярызатарскім бокам.

Папулярнасць і прызнанне Леа Метсар заваяваў і як перакладчык чэшскай і славацкай літаратур. Ён пераклаў на эстонскую мову К. Чапека, Я. Гашака, М. Пуйманаву, М. Майераву, Й. Томана, М. Кратахвіла, Г. Шмагелаву, Н. Фрыда, Б. Немцаву, Я. Отчанашака і іншых чэшскіх і славацкіх пісьменнікаў, напісаў некалькі артыкулаў і аглядаў пра літаратуру ЧССР. За актыўную папулярызацыю ў Савецкім Саюзе славацкай дзіцячай літаратуры Леа Метсару ў 1981 годзе быў прысуджаны медаль імя Л. Пад'яв选рынскай (ЧССР). З твораў самога Л. Метсара яго раман «Мары не паміраюць» быў перакладзены на латышскую (1962) і літоўскую (1962) мовы.

*Н. Басель*

**Метсар Л.**

М 54 Мары не паміраюць: Раман/Пер. з эст. В. Рабкевіч.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 196 с.

У пер.: 1 р. 10 к.

Героі рамана эстонскага пісьменніка Леа Метсара — маладыя муж і жонка, інжынер-меліяратар і мастачка. Шмат цяжкасцяў пераадолелі Элен і Андрэс на дарозе да шчасця, шмат чаго трэба было ім перарабіць, змяніць у жыцці і ў саміх сабе. Маладосць, настойлівасць, каханне перамагаюць. І якое недарэчнае няшчасце — гібель гераіні...

Але мары не паміраюць. Вечна жывуць і натхняюць чалавека праца і каханне.

М $\frac{4702700200-002}{М 302(05)-83}$ 153—82

ББК 84Эст7

С(Эст)2

*Лео Рейнович Метсар*

*МЕЧТЫ НЕ УМИРАЮТ*

**Роман**

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар Т. А. Зарыцкая*
*Мастак І. М. Лобан*
*Мастацкі рэдактар А. І. Труханава*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар А. Т. Глушчанка*

ІБ № 1545

Здадзена ў набор 04.04.82. Падп. да друку 17.11.82. Фармат $84 \times 100^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 9,75. Ум. фарб.-адб. 9,75. Ул.-выд. арк. 11,06. Тыраж 9000 экз. Зак. 2643. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Выдавецтва
«Мастацкая літаратура»
Мінск 1982

---

**ЧЫТАЙЦЕ ТВОРЫ ПІСЬМЕННІКАЎ
НАРОДАЎ СССР У ПЕРАКЛАДЗЕ
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ**

---

Мікола Алейнік
ЖЫЛЮКІ
*Раман (з украінскай)*

Вітаўтас Бубніс
ПАД ЛЕТНІМ НЕБАМ
*Раман (з літоўскай)*

Данііл Гранін
ГЭТА ДЗІЎНАЕ ЖЫЦЦЁ.
*Аповесці і апавяданні
(з рускай)*

Мікола Шундзік
БЕЛЫ ШАМАН
*Раман (з рускай)*

Выдавецтва
«Мастацкая літаратура»
Мінск 1983

---

**ЧЫТАЙЦЕ ТВОРЫ ПІСЬМЕННІКАЎ НАРОДАЎ СССР У ПЕРАКЛАДЗЕ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ**

---

Мушэг Галшаян
ГОРАН
*Раман (з армянскай)*

Алесь Ганчар
ТВАЯ ЗОРКА
*Раман (з украінскай)*

Тыркіш Джумагельдыеў
СТРАЧАНЫ
*Раман (з туркменскай)*

Ільяс Есенберлін
НЕБЯСПЕЧНАЯ ПЕРАПРАВА
*Раман (з казахскай)*